# Частка першая

## 1

*«…Унукаў панаванне…»*

Вечар, рэдкі сухі сняжок сыплецца і не растае, а беліць вуліцы, тратуары, дрэвы, дахі дамоў — увесь гэты вялікі і, нягледзячы ні на што, прыгожы — самы лепшы ў свеце горад.

Падмарожвае, таму крокі, галасы, шум машын — усё выразнае, пазімоваму звонкае, хоць яшчэ і не зіма зусім, а восень, усяго толькі сярэдзіна кастрычніка 1989 года. І тут, у цэнтры Мінска, каля былога Губернатарскага, а цяпер чамусьці імя Горкага, парку, у будынку дзіўнай планіроўкі і архітэктуры, такім нязграбнааляпаватым звонку і такім утульным усярэдзіне, у зале на другім паверсе, дзе авальны стол і крэслы паўз усе чатыры сцяны, яшчэ толькі пачынаюць збірацца людзі. Чуваць беларускую гаворку, паўсюль маладыя, расчырванелыя пасля вуліцы твары; пакрысе зала запаўняецца, падыходзяць усё новыя і новыя, хто распранаецца ўнізе ў гардэробе, хто проста тут, у зале, дзе каля дзвярэй стаіць пара вешакоў, хто трымае куртку ці паліто ў руках; рассаджваюцца за стол, на крэслы паўз сцены, і хутка ўжо не хапае месцаў, але людзі ўсё йдуць, і вось ужо стараюцца прыляпіцца хоць дзе, хоць на падаконніку.

«Жыве Беларусь! — з’яўляючыся ў дзвярах, гучна аб'явіў рослы дзяцюк у шырокім і доўгім белым кажусе, трымаючы ў руцэ сабачую шапку з апушчанымі вушамі. Ён аббег вачыма залю. — Усе ў зборы? Ну, а цяпер сюды не хапае адной невялікай бомбы. І скончылі б з гэтай няшчаснай Беларуссю за хвіліну!»

Ён здзеў кажух і ўпэўнена пакіраваўся ў канец стала, «на покуць», дзе, відаць, і было пакінута яму месца.

Злева ад дзвярэй у глухім кутку на двух крэслах неяк

месціліся трое: Нэлі Кавальская, Алесь Церашкоў і Алесь Трухан. Хлопцы сядзелі па баках, а дзяўчына, заціснутая, пасярэдзіне. Усе яны былі студэнтамі гістфаку, толькі Трухан з Нэлі вучыліся на другім курсе, а Церашкоў на трэцім. Нэлі гэтая пісала вершы, Церашкоў умеў маляваць і афармляў універсітэцкую сценгазету, абое былі тут не ўпершыню і пачуваліся як дома; што да Трухана, ён прыйшоў сюды (калі яму верыць) проста так, дзеля цікавасці, заманены расказамі Церашкова, з якім жыў у адным інтэрнаце, пра нейкіх маладых напаўзабароненых пісьменнікаў, пра тое, што яны нібыта збіраюцца разам, каб ствараць «новую літаратуру», і ўсе без выключэння размаўляюць пабеларуску. Трухану ніколі ў жыцці яшчэ не даводзілася бачыць больш за трох такіх у адным месцы.

Цяпер ён употайкі разглядваў гэтых людзей, уражаны найперш тым, як іх многа, і якія яны сапраўды ўсе маладыя! І няўжо ўсе пішуць? У яго яшчэ са школьнай парты моцна засеў у мазгах стэрэатып пісьменніка «сапраўднага» — абавязкова мужчыны, высокага, мажнага, лысага або сівога, абавязкова ў касцюме з гальштукам ці ў тоўстым ваўняным світары і ў акулярах...

Таму ён не дужа здзівіўся, калі раптам побач з сабою, праз якіх тры крэслы, такіх і ўбачыў. Адзін — лысы, у касцюме, другі — сівы, у тоўстым, прыгожай вязкі ў рознакаляровыя ромбы світары. Побач з імі сядзеў яшчэ чалавек, з нейкай сумнай, як бы вінаватай усмешкаю на маладжавым, да сіні паголеным твары. Як і Трухан, ён увесь час круціў галавою, да ўсяго прыглядаўся, прыслухоўваўся, нават, здавалася, прынюхваўся і ўсім усміхаўся сваёй сумнай усмешкаю.

«Сівы — гэта... — зашаптаў Церашкоў, заўважыўшы, кім Трухан цікавіцца. Каб быць пачутым, ён нахіліўся да Трухана бліжэй, пры гэтым абапёрся на дзявочае калена. На безыменным пальцы ў яго бліснуў залатой палоскай шлюбны пярсцёнак. — У школе праходзілі... А лысы, у касцюме — гэта сам... Вершы напамяць вучылі!»

«А той, з краю?»

«Ніхто не ведае. Ніводнага паседжання не прапускае, сам не выступае...»

«Нічога: дзе трэба, выступіць», — умяшалася Нэлі, якая ўсё чула.

У канцы стала шляхам розных перасадак стварыўся як бы прэзідыум. Справа сеў бялявы хлопец у чорнай скураной куртцы, злева — чарнявы ў светлым касцюме, пасярэдзіне — дзяцюк, які жартаваў пра бомбу. Яны ўтрох яшчэ аб нечым пашапталіся, і бялявы абʼявіў, што можна пачынаць. Чарнявы назваў прозвішча.

Усе прыціхлі. Сярод цішыні паднялася танюткая дзяўчынка з лістком паперы ў руцэ, двойчы бралася чытаць і, збіўшыся, замаўкала.

«Смялей, Ліда! — падбадзёрыў бялявы. — Уяві, што цяпер дваццатыя, ці трыццаць сёмы год, і па цябе зараз прыедуць».

Падзейнічала. Дзяўчынка справілася з сабою. Чыстым, звонкім галаском, без адзінай запіначкі яна, не гледзячы ў лісток, прадэкламавала доўгі верш на гістарычную тэму, пра князя і князёўну, у якім ці не праз слова траплялiся «дзіды» і «воі», «рамёны» і «цяглiцы», «веі» і «скрыдлы»...

«Ну, хто што скажа?» — спытаў чарнявы ў светлым касцюме, калі дзяўчынка скончыла чытаць і не прысела, а стаяла, чакаючы прысуду, і зноў хвалявалася.

Першы азваўся бялявы.

«Я лічу, — сказаў ён, — такі верш далёка не кожны часопіс надрукуе. Смела, моцна! Амаль Караткевіч».

«Нарэшце мы пачалі выбірацца з лапцей», — заўважыў чарнявы.

«Гэта не паэзія, — рэзюмаваў дзяцюк пасярэдзіне. —

Слабенькі верш... Але ж яна не ў афіцыйныя рэдакцыі прынесла яго, а нам. За што я цябе, Ліда, і люблю. Усё, наступны!»

Дзяўчынка з палёгкаю ўздыхнула, села і, пачырванелая, — відаць, чакала куды большага разгрому, — пачала перашэптвацца з суседзямі.

Такім, як гаворыцца, макарам пайшло і далей. Падымаўся хлопец ці дзяўчына, чыталі верш ці абразок; у вершах, як правіла, былі ўсё тыя ж «воі» — «веі», «скрыдлы» — «дзіды», «Храм» — «хам», у абразках — адзінота, непрыкаянасць, дождж за вакном, цыгарэта ў руцэ і парцалянавы кубачак кавы... Адзываўся першы чарнявы, заўсёды робячы ў сваіх ацэнках націск на тое, што, дзякаваць Богу, мы выбіраемся з лапцей, амаль знікла нарэшце ў творах вясковая тэма, не кажучы пра абрыдлую запечную псіхалогію старых дзядоў і бабуль, якія дзесяцігоддзямі не вылазілі з нашай літаратуры. Бялявы хваліў усіх падрад — на той падставе, што «такія рэчы не прыме ніводная афіцыйная рэдакцыя», а найвышэйшай пахвалой у яго было — «амаль як у Караткевіча». Падагульняў дзяцюк, у якога на ўсё была свая, таксама досыць аднастайная думка:

«Мура, калі шчыра... Лухта паўнейшая! Але ж не камусьці, а да нас на суд прынеслі. Вось за гэта — паважаю!»

І слухачы, і асабліва выступоўцы нене дый пазіралі на старэйшых пісьменнікаў. А тыя пасля кожнага новага верша ці апавядання проста святлелі тварамі, усё гучней перагаворваліся — так, што дзяцюк вымушаны быў зрабіць ім заўвагу:

«Можа, вы хочаце выступіць?»

«З вашага дазволу», — адказаў, устаючы, пісьменнік у світэры.

«Хто гэта?» — цішком папытаўся Трухан пра дзецюка, які найбольш яго цікавіў.

«Ведрыч, — адказаў Церашкоў, — кадр яшчэ той».

Пісьменнік у світэры звыклым рухам чалавека, які прывык і ўмее трымацца на людзях, адкінуў даланёй назад сівыя валасы, загаварыў густым, упэўненым, пастаўленым, бы ў радыё, голасам:

«Думаю, называць сябе няма патрэбы — спадзяюся, усе мяне і так ведаюць. А вось маю новую пасаду наўрад ці. Я нядаўна абраны ў камісію па працы з літаратурнай моладдзю, таму...

«А што, ёсць такая камісія?»

«І з кім яна працуе, калі ўсе маладыя — тут, самі па сабе?» — пачуліся воклічы.

Бялявы з «прэзідыуму» таксама сказаў:

«Выходзіць, калі б мы самі не пачалі збірацца, дык не было б ніякае камісіі? Тады хто пад каго падладжваецца?»

«Пачакайце... Папершае, чаму вы думаеце, што акрамя вас няма больш маладых... Падругое, сапраўды, раз вы ўжо сабраліся, дык трэба ж некаму кіраваць... ну, працаваць з вамі... Адсюль і камісія!»

Адказам яму быў дружны смех. Пісьменнік усё ж вырашыў не здавацца і давесці сваю думку да канца:

«Так, кіраваць! Не пускаць вас на самацёк. І няма ў гэтых словах нічога страшнага ці смешнага...»

«Як жа, няма!» — уставіў бялявы.

«Увогуле, незразумела — чаму вы так, адразу, бачыце ў нас ворагаў? Мы вам не ворагі. Якія б ні былі вы, якія б ні былі мы — усе мы адна беларуская культура. Вы — новае пакаленне, і нам зусім неабыякавы ваш лёс. Што да нас, дык дужа не перажывайце: мы проста фізічна не вечныя, і вам яшчэ ўсяго хопіць — і пугі, і пернікаў... Аб адным толькі, па праве старэйшага, хачу вам нагадаць: вось такія, як цяпер, пераломныя часы сапраўды часта

нараджаюць выбітных асоб, а такія асобы заўсёды нязручныя — для любой улады, для любой сістэмы... І мы, старэйшыя, проста абавязаны папярэдзіць вас! Усё паўтараецца, усё гэта неаднойчы было нават на нашай памяці. Пасля кожнага ўздыму — спад, непазбежна, і тады асобныя гарачыя галовы, якія вытыркаюцца...»

«Вось гэтая вашая вечная асцярожлівасць, — перабіў Ведрыч, які ўвесь час слухаў насмешліва, — і прывяла да таго, што мы маем».

«А што мы маем? — пакрыўдзіўся пісьменнік. Чамусьці чым часцей яго перабівалі, тым больш ён пазбягаў сустракацца з кімсьці вачыма, а пазіраў больш уніз, на свайго таварыша, лысага пісьменніка, нібы шукаючы толькі ў яго спагады. — Што мы маем? Нашая літаратура кепская, вы хочаце сказаць? Ды мы далі сусветныя ўзоры ваеннай прозы! Дзякуючы нам, урэшце, захавалася наша мова — нашая родная мілагучная пяшчотная матчына мова...»

«Вашыя сусветныя ваенныя ўзоры — гэта «па блату, па блату спалілі немцы хату». А зараз, упэўнены, асядлаеце новую тэму: «боль мой — Чарнобыль», і не злезеце з яе да скону.

Лысы пісьменнік ужо цягнуў таварыша за рукаў, уголас казаў: «Кінь, ты ж бачыш, што з імі немагчыма гаварыць!» Але сябра, відаць, узяло за жывое, разварушыла:

«Так! І вайна, і Чарнобыль — наш няўціхны боль, хай, сапраўды, гэта нашыя асноўныя тэмы! А што ў вас тады? Ды мы, калі шчыра, былі столькі наслуханыя! І, калі йшлі сюды, чакалі... ну, не ведаю, нечага такога! Сапраўды, звышлітаратурнага! Вось гадзіну праседзелі — і што? Анічога! Замест «апавяданне» напісаць «аповяд» ці «навела», замест «плечы» — «рамёны» — гэта далёка не літаратура ў яе сапраўдным, высокім значэнні...»

«У агародзе бузіна, а ў Кіеве дзядзька! Вось уся іхняя звышлітаратура», — раптам голасна прамовіў лысы

пісьменнік; атрымалася даволі дасціпна, бо акурат перад тым чыталі верш, у якім згадаўся не да месца Кіеў.

Сівы з падзякаю зірнуў на сябра і казаў далей:

«Вы можаце не верыць, але мы — нашае пакаленне — прайшлі праз усё тое ж самае. Збіраліся, адвяргалі, бралі ў рожкі старэйшых, асмейвалі... Усяго было — праўда, з адной вельмі істотнай розніцай: за гэта нас і блізка да рэдакцыяў не падпускалі, шпынялі, крытыкавалі, «рэзалі» ў выдавецтвах, а вы хочаце...»

«А, вы прайшлі праз гэта — дык абавязкова трэба і нам праходзіць? — спытаў бялявы. — Вы хочаце...»

«Не, гэта вы хочаце!— перабіў на гэты раз пісьменнік. — Хочаце, каб вас на руках насілі! А — зрэшты, няважна... Паўтаруся: у любым выпадку — вы дзеці нашыя, наступнікі, мы не жадаем вам зла, мы будзем лічыцца з вамі, якія б вы ні былі. Проста каб не перарастала гэта ў пустую гаварыльню, давайце памяркуем разам. Напрыклад, чым мы, наша камісія, канкрэтна можам вам памагчы? На першы час — выдаць альманах лепшых вашых твораў. Паверце, гэтага не мала. Мы, праўда, не настолькі знаёмыя з вашай... гм, творчасцю...»

Пісьменнік ужо зусім справіўся з сабою і гаварыў, як і ў пачатку, упэўнена і гладка. Але не такая тут сабралася публіка, каб так проста адпусціць яго.

«Яшчэ б! — пасміхнуўся Ведрыч. — Дзе вам быць настолькі знаёмымі. Вам жа няма часу нават саміх сябе чытаць, не тое што нас, маладзейшых. Вам жа тварыць трэба, пісаць палотны, эпапеі, пенталёгіі...»

Пісьменнік упершыню за вечар не тое што пакрыўдзіўся, а нібыта спалохаўся. Ён пачырванеў, дастаў насоўку і высмаркаўся, а калі ізноў загаварыў, пачаў заікацца:

«Я першы раз... у жыцці такое...»

«Вы ведаеце, што ў нас у кожным горадзе філіі? — дабіваў яго Ведрыч. — Што ўся маладая Беларусь — з намі? Вы ж нічагуткі не чытаеце, ні за чым не сочыце! Вунь, паглядзіце, сядзіць збоку хлопец — вартаўніком працуе, без вышэйшай адукацыі, а такі гістарычны раман напісаў, што вам не снілася! У Міхася вунь, — паказаў пальцам на некага Ведрыч, — даўно на зборнік апавяданняў. У Люды ўжо некалькі гадоў ляжыць кніжка вершаў у выдавецтве — баяцца выпускаць... Ды ў нас у кожнага тут, бадай, на кніжку, а то й на дзве набярэцца. Але ж вам выгадна заплюшчваць вочы. Калі б мы самі не зварухнуліся, не заявілі пра сябе — вы б і пальцам не паварушылі! Пагаманілі б паміж сабою, паўздыхалі б з самалюбаваннем, што літаратура на вас канчаецца — і за новыя палотны! Альманах... Ды выйшлі б нашыя кніжкі заўтра, гэта ж цэлы новы літаратурны пласт адкрыўся б! Але ж тады, чаго добрага, пра вас забудуць. Гэта ж пацясніцца трэба будзе, эпапеі радзей выходзіць стануць... Ды пра што казаць, калі вы нават цяпер баіцеся нас. Цяпер — калі ў нас, павашаму, у агародзе бузіна, а ў Кіеве дзядзька. Чаму ж вы страхуецеся, нават сюды прыходзіце з ім вось... Хто гэты чалавек? — паказаў бесцырымонна пальцам Ведрыч на маўклівага ўсмешлівага госця. — Чаму ён рэгулярна цягаецца сюды? Хто ён — паэт, празаік? Можа, драматург?»

Чалавек маўчаў. Сівы пісьменнік апусціўся ў крэсла, рукі ў яго ўздрыгвалі, а па твары пайшлі белыя плямы. Таварыш штосьці прашаптаў яму на вуха, сівы згодна кіўнуў. Абодва падняліся, пакіраваліся да вешалак, пачалі памагаць адзін аднаму апрануць паліто. Чалавек, сумна ўсміхаючыся, застаўся сядзець, як сядзеў.

У зале ўсталявалася цішыня. На пакрыўджаных пісьменнікаў ніхто стараўся не глядзець. Бялявы ў кутку пакашляў, звярнуўся да Ведрыча:

«Можа, сваё новае пачытаеш?»

Той замест адказу выклаў з кішэні на стол пару прабітых талончыкаў, скамечаны пусты пачак зпад цыгарэт, расклаў перад сабою, паўглядаўся:

«Пакуль сюды ехаў, у трамваі, дык запісваў на чым папала», — прамармытаў ён, ізноў выклікаўшы смех. Агульная няёмкасць адразу неяк спала. Не ўстаючы з месца, Ведрыч пачаў чытаць, і з першага радка замоўклі ўсе; нават старэйшыя пісьменнікі, што стаялі ўжо ў дзвярах апранутыя, спыніліся. А самае дзіўнае, загадкавы чалавек чамусьці перастаў усміхацца і насцярожыўся.

Трухан адчуў, як па спіне ў яго прайшла хваля дрыжыкаў, як бывае пры тэмпературы…

Гэта была не проста дэкламацыя, а відовішча, — як сказалі б цяпер, «тэатр аднаго актора». Вялікія, крыху прыпухлыя, страшнаватыя, бо зусім не міргалі, вочы Ведрыча пранізвалі кожнага, на кім спыняліся, і кожнаму было зразумела, што Ведрыч цяпер не тут, не з імі, а недзе, што ён аддаліўся, увайшоў у словы, сам стаў словам…У яго вершы таксама прамільгнулі «дзіды» і «рамёны», але выйгрыш яго чытання ад іншых быў не столькі нават у словах, колькі ў самім выглядзе, у зацятым бляску гэтых страшнаватых вачэй, у паставе, калі ён раптам рэзка ўстаў, выпрастаўся і паакторску пафасна прыціснуў да сэрца руку…

«Ну, як?» — прашаптаў Церашкоў Трухану.

Ведрыч адсунуў ад сябе талоны і пачак і чытаў ужо іншы верш — па памяці, магчыма нават экспромтам. З кожнай новай страфою яго выразны, з надрывам голас сягаў усё вышэй і вышэй і, здавалася, пры канцы сарвецца зусім, «выдасць пеўня»: так сочыш і міжволі пачынаеш перажываць за саліста, які выцягвае арыю, звыкаешся з ім, недзе сам у сабе пачынаеш «памагаць-падцягваць» яму і баішся, што калі ты — сам у сабе — «сарвешся», дык і ён не вытрымае… І вось, у той крытычны момант, калі б далейшае павышэнне голасу хоць на паўноткі ўсё сапсавала б, Ведрыч нібы спатыкнуўся, замоўк, вытрымаў прафесійную паўзу і тады звычайна, без аніякай інтанацыі закончыў — бы проста даверліва падзяліўся:

— Бо ў гэтай краіне

Не маю я долі.

**2**

Аб’явілі перапынак і ўсё прыйшло ў рух, зноў стала шумна. Многія, тоўпячыся ў дзвярах, пачалі выходзіць у фае. Трухан, які ўсё збіраўся кінуць курыць і не мог, таксама падаўся да дзвярэй. Стаў там, перамінаючыся з нагі на нагу, не ведаючы куды рук падзець, паперадзе ўсіх прапускаючы, — вялікі, нерашучы, цельпукаваты ў заношаным сваім касцюме, з якога даўнымдаўно вырас…

Нэлі ўрэшце села свабадней, дастала з касметычкі люстэрка, падціснула маленькія прыгожыя вусны, паправіла валасы, хоць што там было папраўляць — кароткая хлапечая стрыжка; «як і няма патрэбы, — думаў Церашкоў, краем вока за ёй назіраючы, — лішні раз любавацца сабою», і без таго вядома, што ўсё ў яе на месцы і да месца, што яна дагледжаная, чысценькая, ахайненькая… І бездакорная, як жывая лялька. Прыемна з такою час бавіць, па горадзе, за ручкі ўзяўшыся, паблукаць, у калідоры універсітэцкім пашаптаццапажмакацца, каб іншыя пазайзросцілі… Але ўявіць яе жонкаю!..

Церашкову няцяжка было зрабіць гэта. Ён быў жанаты. Праўда, жонка з маленькім сынам жылі цяпер далёка, дзесь на поўдні Беларусі ў яго бацькоў, і маглі толькі здагадвацца, чым займаецца на волі іхні лёгкі на язык і на пад’ём, з залішне кампанейскім характарам і са знешнасцю маладога Штырліца галава сямейства.

«Самой перакурыць пайсці, ці што», — сказала Нэлі і пстрыкнула замком касметычкі, зачыніўшы яе.

«Схадзі, канечне».

«Ну вось, — уздыхнула яна. — Не каб сказаць, не трэба, дарагая, шануй здароўе — дык ён яшчэ і канечне!»

Такія цяпер былі паміж імі адносіны — у стадыі затухання, ці, дакладней, у тым яе перыядзе, які Церашкоў пра сябе называў «расплата за грахі». Усе гэтыя папрокі, уздыхі, падпусканне шпілек з яе боку і скаванасць, угодлівасць, перабольшаная ветлівасць — з яго... Усё тое, што горш за любыя сваркі, бо з'яўляецца нават не прадвесцем блізкага фіналу, а ўласна ім — канцом яшчэ аднаго хуткацечнага кахання, асуджанага на нешчаслівасць ад пачатку; мо таму смерць яго так адносна лёгка і перажываецца?

Ведаў гэтыя перыяды Церашкоў, тонка ўгадваў іх наступленне, не любіў іх, не хацеў, адцягваў як мог, але вымушаны быў мірыцца з імі, як з непазбежнасцю, як з тым, што дзень абавязкова змяняецца на ноч. Тут трэба было ўсяго толькі перачакаць. Перажыць. Перацярпець. Што ён на дадзены момант паспяхова і рабіў.

«...Дык табе ўсё роўна, куру я ці не?» — дапытвалася Нэлі, і змоўкла, убачыўшы, што да іх ідзе Ведрыч.

Перад сабою, як журналіст дыктафон, ён трымаў пачак цыгарэт. Парукаўся з Церашковым, затрымаў яго далонь у сваёй, здзіўлена, запытальна, нібы першы раз бачыць, разглядаючы залаты пярсцёнак у яго на пальцы.

Церашкоў вырваў руку.

«Што гэта за барсук з вамі?» — спытаў Ведрыч і паказаў пачкам на дзверы, каля якіх нядаўна таптаўся Трухан.

«Ды так, — хутка адказала Нэлі. Як толькі падышоў да іх Ведрыч, яна ўміг зрабілася сама сабою: бесклапотнай, усмешлівай дзяўчынкаю, у якой усё цудоўна і якая ні аб чым не дбае. — З маёй групы адзін...»

Яна наморшчыла лобік, падумала, але больш нічога не змагла сказаць пра Трухана. Ён ніколі не цікавіў яе, бо не мог быць ёй ні патэнцыяльным мужам, ні палюбоўнікам «на час» (як Церашкоў), а іншых крытэрыяў ацэнкі мужчын яна проста не ведала. У

гэтым плане Трухан быў для яе практычна бясполым. Ведала, што ён сірата, што прынялі яго ва універсітэт ледзь не без экзаменаў — па нейкім «мэтавым накіраванні» ад нейкага калгаса ці саўгаса, куды пасля вучобы ён і вернецца. Ім, другакурснікам, было па семнаццацьвасемнаццаць гадоў, яму — за дваццаць, ён і паступаў некалі разам з Церашковым і з ім на адным курсе павінен быў бы вучыцца, але прапусціў зза хваробы цэлы год — браў «акадэмічны». У арміі не служыў. Нездаровы, маўклівы, вось іменна, як Ведрыч заўважыў, барсукаваты, вечна чымсьці прыгнечаны, у сябе ўнураны...

Таму Нэлі сама здзіўленая была — навошта Церашкоў прывёў яго сюды? І думала, што зрабіў ён гэта па адной прычыне — пачалося астыванне між імі, і ўзнікла патрэба, каб заўсёды быў сярод іх нехта трэці.

«Ты ж сам прасіў агітаваць паболей людзей», — сказаў Церашкоў.

«Я і меў на ўвазе людзей. Колькі вам гаворана было — тут не багадзельня. Абыхто сюды сцягваецца!»

«І я?» — какетліва спытала Нэлі.

«Ну, ты. Ты паза канкурэнцыяй, любоў мая, сонейка маё... Дай, — Ведрыч нагнуўся і пацалаваў яе ў шчаку. — Каб яшчэ з гэтым жанатым не блыталася, цаны б табе не было».

Нэлі апусціла вочы.

«А ты, Церашкоў, глядзі! — паківаў тоўстым пальцам Ведрыч.

«Слухай! Пішы свае вершы і сварыся са сваімі старымі пісьменнікамі... Без цябе разбярэмся».

«Я вам усім тут бацька. І адказваю за вас, — сур’ёзна прамовіў Ведрыч. — А, зрэшты, рабіце што хочаце!»

«Можа, да мяне пасля зойдзем? — спытала Нэлі, калі «бацька» пайшоў. — Я адна сёння... Пагаворым».

«Можна», — без асаблівай ахвоты згадзіўся Церашкоў.

**3**

Між тым у фае ўсё гуло. Спрачаліся, курылі, пераходзілі ад аднаго гуртка да другога; чалавек колькі акружылі старэйшых пісьменнікаў, якія пасля выступлення Ведрыча раздумалі пакідаць сходку і засталіся, і даказвалі ім штосьці. Каб выцягвала цыгарэтны дым, прачынілі дзверы на агульны балкон. І туды, не баючыся холаду, таксама павыходзілі людзі, і сярод іх Трухан — стаў збоку, далей ад расчыненых дзвярэй і скразняку. Унізе пад балконам бялеў снегам унутраны дворык, з пустым басейнам пасярэдзіне, з якога недарэчна, сіратліва тырчэлі трубы фантана, з чорнымі пірамідкамі кіпарысаў па перыметры.

Трухан курыў, пазіраў уніз, на дворык і кіпарысы, прыслухоўваўся да сябе і са здзіўленнем адзначаў, што бадай упершыню за апошнія месяцы яго можа цікавіць яшчэ штосьці, акрамя ўласнага здароўя. Ён думаў цяпер пра гэтых людзей, якіх толькі што слухаў і бачыў. Пра тое, як лёгка і добра яму сярод іх, быццам сустрэўся нарэшце з блізкай раднёю пасля доўгай разлукі. Ён адчуваў, што гэта яго свет, яго атмасфера… Адно было прыкра крыху: чаму раней ён нічога пра іх не ведаў? Не шукаў іх, не сыходзіўся з імі… Тады, можа, і лёс яго зусім бы іначай склаўся.

Нехта крануў яго за плячо. Ён павярнуўся і ўбачыў Ведрыча.

«Новыя людзі? — спытаў Ведрыч. Святло з фае падала няроўна, і вялікія ўважлівыя вочы ў яго свяціліся дзіўным, ненатуральным бляскам. — Паэзія, проза?»

Ад неспадзеўкі Трухан і разгубіўся, і ўзрадваўся — які чалавек дае яму ўвагу! — і чамусьці спалохаўся. Рэч у тым, што апошнімі часамі ён якраздакі і пачаў спрабаваць пісаць — канечне, у стол, канечне, нікому

не паказваючы, сам перад сабою саромеючыся… На міг узнікла спакуса — прызнацца вось зараз, аб’явіць не без затоенага гонару: так, пішу, прозу, і тым самым як бы сцвердзіць і сваё права атрымаць дазвол на ўваход у гэты новы, такі заманлівы свет. Але не быў бы ён рахманым сынам свайго народу, не цякла б у яго жылах сярмяжная беларуская кроў, каб зараз жа не забунтавала ўсё ў ім: маўчы, не той гэта занятак, якім трэба хваліцца, гэта ж не мяхі цягаць і не падковы гнуць… Акрамя таго і раней ён сумняваўся: што ж такое ў яго атрымліваецца, ці можна назваць тое, што ў яго, прозай; а цяпер, чужое паслухаўшы і са сваім параўнаўшы, — і падаўна.

Таму ён амаль шчыра адказаў:

«Ні паэзія, ні проза, я звычайны студэнт».

«Праўда? — узрадваўся Ведрыч. — За гэта дай пяць, — і моцна пацiснуў Трухану руку. — А вось сарочку такую пад пінжак насіць не раю — даўно не носяць такіх».

«Ды ў мяне і няма іншай…»

Ведрыч быў такі здзіўлены, што, зацягнуўшыся, забыў выпусціць дым з рота.

«А чаму, — ён закашляўся, — чаму ты так дзіўна гаворыш?»

«Рэдка карыстаюся ў жыцці роднай мовай, — вінавата адказаў Трухан. — Да свайго сораму».

Ведрыч павярнуўся і паклікаў:

«Эй, хадзіце сюды, паглядзіце, які хлопец цікавы! — і зноў да Трухана: — Дык ты праўда такі, ці прыдурваешся?»

«Які?» — усё не разумеў Трухан. Што яго ўжо так зацікавіла, гэтага Ведрыча? Ну, пінжак стары, да кашулі не падыходзіць, ну, маўленне, відаць, дужа правільнае, літаратурнае, як у стараннага замежніка…

Тым часам падышлі бялявы з «прэзідыума», і чарнявы ў касцюме, і дзяўчына, якая чытала верш пра воі і веі.

«Скажы яшчэ штонебудзь, — папрасіў Ведрыч. — Ці ты проста разыгрываеш нас? Прызнайся, што ты празаік, і цяпер проста выдурваешся».

«Не...»

«Лухта, не можа быць! Усе, хто размаўляе пабеларуску, штосьці пішуць. Нацыя пісьменнікаў! У народнай песні дзеўка, жаніхоў перабіраючы, самага першага за тое бракуе, што, ён бачыце, «не піша вершы», — геніяльна!»

«Не слухай яго, — сказаў бялявы. — Я ўжо гадоў дзесяць на мове размаўляю, ні слова не напісаў і не надрукаваў, але дзе б ні быў, з кім бы ні сустрэўся — першае пытанне: «Ты хто, празаік ці паэт?» Ніяк не звыкнуцца, што мову даўнымдаўно пара выводзіць зпад даху гэтага вось будынка!»

«Ну, скажы штонебудзь, — не адчапляўся ад Трухана Ведрыч. — Дзеля мяне — я даўно ўжо не смяяўся».

«Мне вельмі.... даспадобы вашае выступленне, — праўдзіва сказаў Трухан. — Ніколі не чуў такога».

«Оо, цяпер бачу, што ты не такі дурны, як здаешся... Толькі не хвалі мяне многа, бо я люблю страшэнна і яшчэ заплачу, чаго добрага. Не крыўдуеш за дурны? Ну, тады пахвалі мяне яшчэ».

«Магутнае... ды што там, проста цудоўнае выступленне», — падбіраючы словы, паўтарыў Трухан.

Усе, акрамя Ведрыча, засмяяліся.

«Смейцеся, — сказаў ім Ведрыч. — Вось гэта, можа, адзіная сапраўдная беларуская жывая душа сярод нас. Калі не іграе, вядома. Ні злосці, як у вас, ні зайздрасці, сарамлівы, тактоўны... Усё ў яго цудоўна, усё магутна... Як цябе завуць?»

«Алесь. Трухан прозвішча».

«Асофіл… Жартую — Анатоль. Ведрыч прозвішча. Дык а колькі табе гадкоў, кажаш?»

«Дваццаць адзін».

«А мне — дваццаць дзевяць. То чаму ж ты, дзядзька, выкаешся?»

Трухан паціснуў плячыма, даючы зразумець, што не асмельваецца на ты, але калі трэба, дык палічыў бы за гонар.

«Не звяртай увагі, — сказала дзяўчына. — Да яго яшчэ прывыкнуць трэба. А ты адчапіся ад хлопца!»

«Не, хай яшчэ мяне пахваліць. Бо ад вас дачакаешся. Ну?»

«Даспадобы яшчэ, як смела вы… ты размаўляў з вядомымі пісьменнікамі…»

«А, з гэтымі? — Ведрыч спахмурнеў, зрабіў выгляд, што задумаўся, нават прыкрыў даланёю вочы. Тады, падстройваючыся пад мову Трухана, загаварыў таксама знарок сур'ёзна: — Мусібыць такі праўда ваша. А вы іх ведаеце?»

«Канечне! — усклікнуў Трухан. — На выпускных сачыненне пісаў паводле творчасці...»

«А я вось не ведаю іхняй творчасці. Але не адабраю».

Тут Трухан захваляваўся чамусьці, нават сказаць нешта хацеў… Ды прамаўчаў. І ўсе маўчалі, і не адыходзіў ніхто, застылі, нібы ў чаканні канцоўкі вясёлага анекдота.

«…Бо ведаю, што адгарну любую кнігу і ў соты раз прачытаю, як у Замошшы, што каля Заполля, на ўзлеску Востраверхай пушчы каля Мікіцішынага калодзежа, дзе Дзянісава палянка, Сёмкаў дуб, вячысты, рачысты, разложысты, спракавечны, караністы і гэдэ і да

бясконцага тэпэ, раскінуўся гожа і высока, і шырока, і далёка, і Іванка помніць яшчэ тыя часы, калі быў малы і бацька саджаў яго на бухматы воз сена, які плыў пад дубам, і каржакаватыя яго галіны чаплялі сена і збівалі з малога шапку... Пародыя, — патлумачыў Трухану Ведрыч. — А ты, мабыць, падумаў, што гэта пачатак якогась эпічнага іхняга палатна?»

Нічога Трухан не падумаў — наадварот, у яго было адчуванне, што Ведрыч агучвае і ягоныя думкі... Вось толькі тое, што яму, Трухану, самнасам здавалася смелым, крамольным адкрыццём было, аказваецца, гэтымі людзьмі даўнымдаўно адкрыта, разабрана, асмеяна і спарадыравана.

«Гэта іхняя проза, — не сунімаўся Ведрыч. — А вось паэзія: «Я дзякую Леніну, што мову мне даў». Дык што, Ленін вынайшаў беларускую мову? Атрымоўваецца, ён быў першы беларускі нацыяналіст? Так? У цябе пытаю».

«Не ведаю...»

«Затое я ведаю. Ніводнага твора ў стол, ніводнага сапраўднага дэсідэнта не далі некалькі пакаленняў! Нонсенс!»

«Ну, ты ўжо таксама, — сказаў бялявы. — Мала нам у дваццатыятрыццатыя было ахвяраў? Ты што, прапаноўваеш...»

«Так. Менавіта гэта і прапаноўваю. Каб хтось свядома напісаў такі твор, за які як мінімум яму свяціла б турма. А як максімум — расстрэл».

Бялявы не знайшоўся, што адказаць.

Гул у фае сціхаў. Чарнявы высунуў руку з гадзіннікам на святло: — «Ого, час!» — і хутка пайшоў з балкона, а за ім і астатнія.

Другая пасля перапынку частка была нядоўгая і менш цікавая. Старэйшыя пісьменнікі даседзелі да самага канца. Яны ўжо не пераміргваліся і не перашэптваліся. Выступалі яшчэ людзі, чыталі вершы і прозу, але цяпер, пасля Ведрыча, усё гэта было нейкім прэсным, недасоленым.

Скончылі, абгаварылі час наступнага збору (тут маўклівы сумны чалавек дастаў з кішэні нататнік і штосьці хутка чыркнуў у ім), чалавек колькі яшчэ засталося ў зале, а большасць пасыпала ўніз, займаць чаргу ў гардэроб.

«Дык я вас чакаю, — не папытаў, а сцвердзіў Ведрыч, падыходзячы ў сваім кажусе да Нэлі, Церашкова і Трухана, якія стаялі апошнімі. — Куды вы потым?»

«Да мяне, — адказала Нэлі. — Тут недалёка. Хадзем і ты, калі хочаш. Праўда, я адна сёння, мае паехалі, лядоўня пустая, частаваць няма чым...»

«Во, а я сам хацеў напрасіцца! Толькі, Нэлі, адна ўмова: вершыкаў сваіх не чытаць, добра? Слабенькія ў цябе вершыкі, — і адразу ж, дзелавіта: — Трухана бярэм таксама, ён смешны».

«Як захоча», — сказала Нэлі. А Трухан прамаўчаў, адно з удзячнасцю зірнуў на Ведрыча.

Падышла чарга. Атрымалі: Нэлі сваё кароценькае, да каленяў, бэзавага колеру паліто, з-пад якога яе харошыя ножкі былі відаць гэтак сама, як з-пад сукенкі, Трухан з Церашковым — курткі. Адышліся, апранаючыся на хаду, да вялікіх, ва ўсю сцяну люстраў.

Яны ўсе ўчатырох адначасова падышлі да гэтых люстраў, і так неяк сталі, і ў адзін і той жа момант зірнулі на свае адбіткі, што, гледзячы збоку, можна было падумаць, яны размясціліся для здымка на групавую фотакартку.

І раптам Трухан збялеў і застыў з уздзетай адной рукою ў рукаво.

У яго ўжо даўно — ад самага перапынку, калі ён курыў на балконе, звінела ў вушах і плыла галава, і, як часта бывае ў чужым шумным месцы, сярод мноства незнаёмых твараў, пачыналі адбывацца гэтыя імгненныя зацямненні свядомасці, правалы памяці, знаёмыя кожнаму — «усё было ўжо некалі са мною, ці снілася мне», з тою розніцай, што для яго гэтая ў прынцыпе бяскрыўдная мешаніна часу з’яўлялася сігналам трывогі, сур’ёзным напамінам, што забывацца нельга: вось яна я, пошасць твая, нікуды не дзелася, заўсёды побач...

Але ж як не ў час гэта!

Ні з таго ні з сяго пачаў аддаляцца, рабіцца ватным ў вушах гоман людзей за спіною, тады зусім сціхла ўсё, і Трухан аглух. Людзі, якіх відаць было ў люстры, расплыліся, расталі, акрамя іх чатырох, і сцены, і столь, і бачная частка гардэробных вешакоў таксама расталі — знікла ўсё, а ў люстры перад імі чатырма з'явілася толькі нейкага бруднаматавага колеру палатно, як экран, як фон на чорнабелых фотаздымках; але і фон гэты не быў аднародны, а змяняўся на вачах — на ім праступалі і рабіліся ўсё больш выразнымі як бы дэкарацыі нейкага вясковага двара, непрыбранага, як нежылога, скрозь парослага счаўрэлай восеньскай травою... Патрэсканая, пабітая смалянымі сучкамі і паточаная шашалем сцяна хаты з вялікімі вокнамі, са складзенымі ў штабель бярвеннямі пад сцяною... Далей — саламяны дах пуні, каля якой стаіць запрэжаны ў калёсы конь, а Ведрыч корміць яго з рук пуком сена... Аброслы доўгімі валасамі, з бародкаю, у злінянай бруднай гімнасцёрцы і ў галіфэ з нашытымі накаленнікамі і латкамі на задніцы, Церашкоў нагнуўся і, прытрымліваючы адной рукой кабуру, што вісіць на баку, другой папраўляе на нагах абмоткі... Каля хаты на краі тоўстага бервяна прымасцілася Нэлі, абвязаная па вочы белай хусткаю, падобная на сястру міласэрнасці, у шэрым андараку, у лапціках; на руках у яе немаўля, спавітае ў латунне... Побач сядзіць ён сам, Трухан, і пстрыкае над немаўлём пальцамі — забаўляе, нібы гэта яго дзіця...

Трухан скалануўся. Усё гэта было імгненным кадрам з нямога чорнабелага кінафільма, ці фрагментам аднаго з тых дзіўных сноў, што апошнім часам пачалі сніцца яму так часта, а вось ужо і на яве пайшлі…

«Ты што?» — Ведрыч стаяў перад ім, ва ўпор на яго пазіраючы.

Вярнуўся гул, вярнуліся знаёмыя адбіткі сцен, столі і вешакоў у люстры… Такі ж самы, знаёмы быў Ведрыч, у сваім новым кажусе, у джынсах і тупаносых чаравіках. На выступ пад люстрамі прысела Нэлі, папраўляючы блішчастыя спражкі на боціках. Бокам да люстраў стаяў Церашкоў, павярнуўшы, бы певень, галаву. Ніхто, акрамя Ведрыча, не звяртаў на Трухана ўвагі.

«Нічога, гэта бывае, — выціраючы з ілба паскудны пот, адчуваючы, што пот гэты праступіў па ўсім целе, вінавата прамовіў Трухан. — Бывае са мною, — дадаў, прыходзячы ў сябе. — Падалося проста».

«І часта?»

«Так, не вельмі… Бывае».

«Тады пайшлі», — загадкава неяк сказаў Ведрыч; прагучала як — пайшлі разбірацца.

На вуліцы — пабялелай і, здавалася, пачысцелай, прыгожай і светлай ад ліхтароў, усе як па камандзе сышліся і разам глыбока ўдыхнулі марозны водар першага ў гэтым годзе снегу.

Ведрыч нацягнуў на галаву сваю рабую шапку з адпушчанымі вушамі, прытупнуў снег падэшвамі моцных чаравікаў. Усё пасавала яму, было да твару: і гэты доўгі кажух, хоць ніхто яшчэ ў кажухах не хадзіў, і зімовая шапка, хоць ніхто яшчэ зімовых не надзяваў, і гэтыя чаравікі, якія моцна, як злітыя, і, відаць, зручна сядзелі на яго нагах і не баяліся ні марозу, ні снегу, ні гразюкі.

«Чым ехаць?» — спытаў Ведрыч, прытупваючы. Прытупваў ён не ад марозіку, а ад таго нецярпення, з

якім перабірае нагамі малады застаялы конь у прадчуванні новай, нязведанай дарогі.

«Якое ехаць, тут прайсці крыху, — адказала Нэлі.— За «падкову», на Берасцянскую».

«Што ж, будзе яшчэ адна свая хата ў цэнтры».

Пайшлі — уперадзе Церашкоў з Нэлі, якая ўзяла яго пад руку, Ведрыч з Труханам ззаду.

«Ну што, акрыяў? Дык што з табою было? Чаго спалатнеў?»

«Так… Падалося», — неахвотна адказаў Трухан, адчуваючы, што з такім, як Ведрыч, змяніць тэму будзе няпроста. Да таго ж ён быў абавязаны Ведрычу — з сабою ж узяў, таму вымушаны быў адказваць.

«Ты хворы? — Трухан кіўнуў, але Ведрычу хацелася пачуць: — Я не бачу. Хворы?»

«Ну».

«Лячыцца трэба».

«Усё жыццё толькі тое і раблю…»

Са смехам, гоманам іх абагнала купка моладзі.

«Во дажыўся, — сказаў, гледзячы ўслед, Ведрыч. — Быў час, калі па пальцах мог пералічыць усіх, хто ў Беларусі пабеларуску гаворыць, а цяпер дажыўся — нікога не ведаю! Добра. Што баліць?»

«Лягчэй сказаць, што не баліць…»

«І галава?»

«І галава».

«Як у таго цыркача?» — спытаў Ведрыч.

«Не зразумеў…»

«Ну, цыркач зарабляў грошы тым, што цагліны аб галаву разбіваў; за кожную цагліну плацілі рубель. Яму раяць: «Ты ж мог бы больш разбіваць цаглінаў, тады б і грошай было болей!» — «Мог бы, — адказвае, — толькі галава моцна баліць». Так і ў цябе. Не пакрыўдзіўся?»

«Не, ніколькі», — шчыра адказаў Трухан. І праўда, гэты Ведрычаў цынізм не цынізм, хамства не хамства, а — рэзкасць, ці што, ці нават жорсткасць, чамусьці не толькі не крыўдзілі — наадварот, неяк да месца падаваліся, апраўданымі былі, як бывае апраўданай жорсткасць дактароў ці міліцыянераў. Гэта розныя охі ды ахі, ды саладжавыя спачуванні, якіх наслухаўся Трухан за сваё жыццё і ведаў ім цану, былі б цынічнымі і абразлівымі тут.

«Дык а бацька з маткаю ведаюць, што ў іх сын такі? Што кажуць?»

«Нічога. Іх няма ў мяне», — неабачліва прызнаўся Трухан. І ў той жа момант пашкадаваў аб гэтым.

«Так я і ведаў! — усклікнуў Ведрыч. — Так і знаў, што не ўсё! Ды што ж мне так шэнціць на гэтых убогіх, абдзеленых, сіратаў — на табе, Ведрыч, што Богу нягожа! Калі я ўжо нармальнага чалавека знайду?!»

«Я не напрашваўся, магу пайсці».

«Ды стой, чакай ты… Ну, прабач. Больш не буду… Яшчэ і гонар паказуе. Дай жа мне абвыкнуцца хоць трохі. Ты ж мяне кожнай навіною як паленам глушыш… Добра. Бацькоў няма — а хто ёсць?»

«Дзядзька з цёткаю, дзед з бабаю…»

«Дык ты як калабок? Усё, маўчу, маўчу. Вось я ўжо і прывык. Сірата, хворы, касцюмчык стары, сарочка каляровая… Ну, нічога. Вылечым. Бацькоў заменім, касцюм новы купім, — Ведрыч раптам спыніўся і палез у кішэню. — На табе грошай!»

«Ды перастань ты… Людзі азіраюцца».

«Не хочаш — не трэба. Ну, нічога... Галоўнае, што не пішаш (Трухан пахаладзеў). Бо каб у дадатак да ўсяго яшчэ і паперу крэмзаў!.. А, чакай — ты ж курыш?»

«Мала».

«Усё адно — навучыўся неяк. А гарэлку п’еш?»

«Якая гарэлка...»

«Навучышся, — паабяцаў Ведрыч, як звычайна ці то жартуючы, ці то ўсур’ёз. — І вылечым, і ўсяму навучым».

## 5

Мінулі «Кнігарню», кінатэатр «Мір», перайшлі трамвайныя рэйкі і пакіраваліся некуды ў двары.

Нэлі жыла ў старым «сталінскім» доме. Дзверы пад’езда былі зачынены на замок з кодам. Па шырокай цёмнай лесвіцы падняліся на чацвёрты паверх, і калі ўвайшлі ў пярэднюю, Ведрыч ахнуў — не ад раскошы, а ад памераў.

«Ну, Нэлі! Гэта ж у футбол гуляць можна. Слухай, можа мне ажаніцца з табою? Такая хата! Харошая хата».

Вялізны калідор, высокая столь, люстры паўз усю сцяну кшталту тых, у доме па Фрунзе, 5; на ўсю падлогу — дыван, панад люстрамі — ліхтарыкі з імітацыяй пад свечкі...

«Харошая хата, — усё паўтараў, распранаючыся, Ведрыч. — Па блату, па блату, спалілі немцы хату...»

Ён не дагаварыў, бо раптам прачыніліся бакавыя дзверы і з цёмнага пакою выйшаў прыземісты белы бультэр’ер. Утаропіўся ў гасцей круглымі сваімі свінячымі вочкамі, натапырыўся ў байцовай стойцы і зарычэў. Замест морды ў яго быў, як і належыць гэтай

пародзе, адзін доўгі гарбаты нос.

«Фу! — крыкнула Нэлі, падышла і пагладзіла сабаку. — Гэта яна, не бойцеся, яна не кусаецца, проста шчанюк у яе цяпер».

І праўда, следам з пакою выграблася і, чапляючыся лапкамі за варсісты дыван, падпаўзла да бультэр’ера такая ж беленькая, толькі нашмат меншая пачварка, з такім жа доўгім гарбатым носам. Маці асцярожна, беражліва ўзяла сваё дзіця зубамі за шкірку і панесла назад.

Ведрыч, не бачачы нідзе вешалкі, круціўся з кажухам у руцэ.

«Дай сюды...»

Дзверцы гардэроба былі, аказваецца, проста ў сцяне і расчыняліся, як у электрычцы — у бакі. Церашкоў рассунуў іх, павесіў Ведрычаў кажух і сваю і Труханаву курткі акуратна на «плечыкі»; сам скінуў чаравікі і ўсунуў ногі ў пантофлі.

«Ты, я гляджу, някепска тут арыентуешся», — заўважыў Ведрыч.

«А ты дастаў ужо сваімі немцамі, — агрызнуўся Церашкоў. — Колькі можна? А ты чаго стаіш, — напусціўся раптам на Трухана. — Разувайся, праходзь! Бо ўжо не смешна нават, — ізноў Ведрычу. — У нас... не ў нас, праўда, у суседняй вёсцы, немцы ў вайну некалькі хат спалілі: што ў гэтым смешнага?»

«Праўда? То чаму ж ты раней маўчаў? Дзівак! Такая падзея, а ён маўчыць. Тады канечне — прызнаю сваю памылку...»

«Доўга вы там таптацца будзеце? — Нэлі выглянула з кухні. — Правядзі іх, пакажы. Толькі да Соні лепш не падыходзьце».

«Да каго? — здзівіўся Ведрыч. — Ну вы ўжо зусім — балдзееце, як толькі можна. Сучку чалавечым іменем

назвалі…»

«Вось прыбіральня, — паказваў на дзверы Церашкоў. — Там ванна…»

У прыбіральні была нават палічка з кнігамі. Ведрыч выцягнуў адну, з голай бабай на бліскучай супервокладцы, пагартаў, назад паставіў. Зазірнулі ў ванны пакой — і тут рукі ў Ведрыча не гулялі: адкрыў адзін флакон дэзадаранту, панюхаў, другі, трэці; толькі пах чацвёртага яму спадабаўся і ён папшыкаў сабе пад пахі.

«Карыстайся», — працягнуў флакон Трухану.

«Ды перастань ты!..»

«Дарэчы, пра прыбіральню показка. Ведаеш, як немцы савецкіх разведчыкаў лавілі? Рускі першай справаю, адтуль выходзячы, правярае, ці крэсла зашпіленае».

Пайшлі на кухню, такую ж вялікую, пpасторную, як і калідор, як і ўсе іншыя пакоі. Нягледзячы на тое, што мэблі было тут можа нават і залішне. Канапа, часопісны столік з крэсламі, у другім кутку яшчэ канапа — скураная. Лядоўня, маразілка, на лядоўні маленькі тэлевізар, на паліцы, прымацаванай да столі ланцугамі, — тэлевізар вялікі…

Цэнтр кухні займаў круглы стол. На ім нічагуткі яшчэ не стаяла, хаця Нэлі каторы ўжо час завіхалася ля яго, як тая Ганна ля печы.

Ведрыч агледзеў пусты стол і без дазволу, з Церашкова беручы прыклад, пасунуўся да лядоўні. Расчыніў.

«Тааак, а тут што мы сёння маем? Што даў нам наш народ…»

«Ды пуста там!»

«Пуста» аказалася кавалкам сыру, бруском сала, бляшанкай шпротаў, дзесяткам яек у завязаным цэлафанавым пакеціку. Усё гэта Ведрыч выклаў на стол,

акрамя таго выцягнуў напаследак каструлю, ухапіўшы адной рукой за вуха.

«А ў рондалі што? — зняў накрыўку, панюхаў. — Суп?»

«Быў некалі… Курыным, з лапшою…»

«Локшынамі», — паправіў Ведрыч.

«Ой, локшынамі. Дай, я выллю, пракіс даўно».

«Я табе выллю. Церашкоў, на пліту яго!»

Церашкоў уключыў газ.

«Ну, Нэлі! — сказаў Ведрыч. — Гэта называецца няма чым častаваць? Называецца пустая лядоўня? Біць вас, маладых, няма каму… Так, дзе ў нас патэльня?»

Нэлі задумліва паглядзела ў столь. Потым успомніла:

«У духоўцы, здаецца», — і выцягнула з духоўкі патэльню.

«Большую. Каб увесь дзесятак улез».

«Ты сам будзеш смажыць?» — здзівілася Нэлі.

«Донечка мая, я спец на ўсе рукі. Калі пажэнімся, сама ўбачыш».

Крышачы на патэльню сала, цыбулю, Ведрыч працягваў усчуваць цяперашніх маладых:

«Сала, яйкі, суп для іх ужо не ежа… А ікры не хацелі?»

«Ікры якраз і няма», — вінавата сказала наіўная Нэлі.

«Кабачковай, дзяўчынка, кабачковай! Якой з дня ў дзень душышся… Вунь, Трухан ведае, праўда? Намажаш пальцам скібку…»

«Гатова», — сказаў Церашкоў, здымаючы з пліты каструлю. Сабраўся выключыць газ, але Ведрыч прыкрыкнуў:

«Куды? А смажыць на чым? І што вас усяму вучыць трэба, адкуль у вас толькі рукі растуць! Нэлі, давай талеркі, разлівай суп».

«Я не буду яго есці!»

«Я тым больш, — сказаў Церашкоў. — Атруціцца яшчэ не хапала».

«А мы будзем, праўда, Трухан? Нам хоць смажаныя цвікі».

Мабыць, таму, што Трухан не адказваў, адно пасміхаўся сарамліва, Ведрыч ужо канчаткова залічыў яго ў саюзнікі. Шыпела і цвірчэла на пліце патэльня.

«Колькі тут памяшчаецца? — спытаў Ведрыч, ставячы драўляную падстаўку на стол і прыкідваючы, каб усім льга было дацягнуцца. — За гэтым сталом? Чалавек дзесяць?»

«Роўна трынаццаць, — адказала Нэлі. — Чортаў тузін… Пачакай, ты што, з патэльні сабраўся есці?»

«А як яшчэ яечню ядуць? Канечне».

«Гэта ж тэфлон!»

«Там ён ведае, што гэта такое», — сказаў Церашкоў.

«Павыдумляеце, — прамармытаў Ведрыч, хаваючы разгубленасць; сапраўды, відаць было, ён наўрад ці ведаў, што нельга, каб тэфлон судакранаўся з металам. — Я як лепш хацеў… Каб табе потым менш мыць давялося, ручкі такія далікатныя не псаваць, — дадаў ён, падхалімскім кампліментам загладжваючы промах. — Папрывыкалі вы да гэтых спадачкаў, талерачак… Нам бы з Труханам прасцей, павясковаму, па-беларускі… Праўда, Алесь?»

Нэлі разліла суп па талерках, паставіла перад ім і Труханам, Ведрыч аблізаў лыжку і прынюхаўся да пару. Скрывіўся:

«Не, сапраўды — аддае нечым... Пайшлі, Трухан, выллем!»

«Гэта кажа чалавек, які можа есці смажаныя цвікі?»

Нарэшце ўсё гатова было. Нарэзаныя сыр і сала, адчынена бляшанка шпротаў, падсмажылася яечня. Ведрычу з Труханам, як гасцям, дасталося па тры яйкі, Нэлі з Церашковым — па два. Ведрыч пачысціў цыбуліну, паклаў лустачку сала на хлеб, і ўсё чакаў чагосьці. Нэлі выйшла, неўзабаве вярнулася з чатырохграннай пляшкай у адной руцэ і з чаркамі ў другой.

«Ну, Нэлі! — зусім расчуліўся, расплыўся ва ўсмешцы Ведрыч. — Бацька не будзе сварыцца? Стоп: а гэта што?»

У бутэльцы, у сіняватай вадкасці вертыкальна плавала яшчарка. Самая сапраўдная, з хвастом, з кіпцюрыкамі на лапках.

«Ды звычайны спірт! — засмяялася Нэлі. — Тата з Кітаю прывёз».

«А яшчарка навошта? Для закускі?» — сур’ёзна дапытваўся Ведрыч; пасля канфузу з тэфлонавай патэльняю, мабыць, калі б Нэлі пацвердзіла, дык паверыў бы, што закуска.

«Для прыгажосці. Пі смела, не суп, не атруцішся».

«Мне не трэба», — прыкрыў сваю чарку рукою, калі Ведрыч пацягнуўся да яго з пляшкаю, Церашкоў.

«Мне таксама», — сказаў Трухан.

«А мне крышачку... Каб не думаў, што атрута».

Наліваючы ёй, Ведрыч спытаў:

«Кім твой бацька працуе, я ўсё забываюся? Доктарам?»

«У Бараўлянах, загадчыкам аддзялення».

«Дык хай бы нашага Трухана палячыў… Жартую! Бо ён ужо цямнее, як хмара. Крыўдлівыя ўсе, блін, як не ведаю што!.. Адна Нэлі тут чалавек!»

«Скажы тост, — папрасіла Нэлі. — Не кожны вечар у мяне такія паэты бываюць».

«Нэлі. Я цябе вельмі люблю і паважаю. Гэта ўжо сур’ёзна. Мала таго, што ты такая прыгожанькая, добрая, панашаму гаворыш — дык у цябе яшчэ і талент! І вершы твае проста цуд».

Нэлі пачырванела, Церашкоў гмыкнуў, а Трухану ўспомнілася: «толькі вершыкі свае, Нэлі, не чытай, нікудышныя ў цябе вершыкі»...

«А вы менш мяне слухайце, — параіў Ведрыч, угадаўшы яго думкі. — Не — слухаць, канечне, слухайце, але рабіце пасвойму. Словы ўвогуле мала што значаць у гэтым жыцці… Ну, бывай, розум!»

Уліў у сябе спірт, заперхаўся, скалануўся, заняло дыханне… Але выдужыў. Руку Нэлі, якая падавала запіць шклянку з вадою, адвёў рашуча. Захрумстаў цыбулінай. Трухан спадцішка назіраў за ім. Закусіўшы цыбулінай, Ведрыч узяўся за яечню: толькі жаўток падчапіў, а бялок абрэзаў старанна відэльцам і ссунуў на край талеркі.

«Не люблю, — патлумачыў, заўважыўшы здзіўлены позірк Церашкова. — Асабліва сырыя».

Церашкоў і не піў, і еў мала — сядзеў задумлівы, на сябе не падобны, ці то такім чынам настройваючыся на хуткую і наўрад ці прыемную размову з Нэлі, ці ад таго, што рэўнасць у ім варушылася, бо не яму, а Ведрычу ўвага, а можа таму, што вось так, на вачах, збліжаюцца Ведрыч з Труханам, першы раз адзін аднаго ў жыцці бачачы, а гэта ж ён, Церашкоў, іх звёў…

«Дык што, словы нічога не значыць? — раптам вярнуўся ён да Ведрычавага тоста. — А твае вершы? Тады і твае вершы таксама?»

«Церашкоў, што ты з мяне дурня робіш. Ты выдатна ведаеш, што я маю на ўвазе. Ідзе каласальная дэвальвацыя слоў, прычым знакавых, самых дарагіх… Якія ад частага і тупога паўтарэння выціраюцца да анучы, а мы ўсё эксплуатуем іх, усё выціраем аб іх ногі, а ў выніку губляем нават тых нямногіх чытачоў, што яшчэ засталіся».

«Аа, дык ты ў літаратурным плане?»

«Я ва ўсіх планах. Калі табе сапраўды балюча, не станеш жа ты гарлапаніць на ўвесь свет: ах, які боль я адчуваю, як мне моцна баліць! — а ў нас так і робіцца. Можна казаць — па блату спалілі немцы хату, і разам з тым начамі не спаць, бо сэрца крывёю абліваецца за тую хату няшчасную, а можна трубадурыць на ўсю Іванаўскую — людзі, беражыце мір ва ўсім свеце, малю вас, заклінаю! Чорта з два зберагуць, павер. Слова трэба любіць, ашчаджаць — як ваду ў пустэльні, не крыўдзіць, бо крыўды яно не даруе…»

«Скажы гэта нашым беларусам», — іранічна прамовіў Церашкоў.

«Вось якраз беларусы тут мала пры чым. Калі хочаш ведаць, мову губіць зусім не народ, які нібыта не хоча на ёй размаўляць, нават не чыноўнікі, а гэтыя ўсіх масцей трубадуры з пісьменніцкімі кніжачкамі ў кішэнях, для якіх мастацтва хутчэй арыфметыка, падлік — чым часцей паўтараць, як шаман заклінанне, «Беларусь», «беларусы» і гэдэ — тым лепш, тым верш, паіхняму, больш патрыятычны, чым часцей «хам — храм — Бог» — тым больш ён «хрысціянскі», чым больш у творах усёй гэтай шчымліваняўцешнанесціханабалючай пахучасці, тым больш ён, паіхняму, «лірычны!..»

Упершыню за вечар Трухан бачыў сур ёзнага Ведрыча.

**6**

Яшчарка ўжо не плавала ў пляшцы, а ляжала пад

вуглом, хвастом дастаючы дна, а галавой вытыркаючыся на паверхню. Нэлі раз за разам паглядвала на гадзіннік. Ведрыч падняўся.

«Ну што, — сказаў, пазяхаючы. — У Францыі ёсць харошы звычай: пасядзець крыху, спірту выпіць, яечняй з цыбулінай закусіць — і па дамах».

Нічога Нэлі не адказала на гэта. Значыць, і праўда час быў развітвацца. Нацягваючы кажух у пярэдняй, Ведрыч бурчэў нібыта сам сабе пад нос, але так, каб чуў Церашкоў, які стаяў побач і сам не апранаўся, канечне.

«Шэнціць некаторым... І жонкі, і дзеці, і палюбоўніцы... Усё аднаму! А нам куды з Труханам? Упрочкі, на мароз, на вецер...»

Церашкоў рабіў выгляд, што не чуе. Але, як толькі зачыніліся за імі дзверы, з якой зайздрасцю ён паглядзеў ім услед! З якой радасцю ён пайшоў, пабег бы зараз разам з імі!

Ды нельга было. Трэба дацягваць ролю да канца. А як ты хацеў? — нічога за так, за дарам не даецца, за ўсё трэба плаціць... Захацелася свежай незнаёмай дзяўчынкі? — калі ласка, вунь яна чакае, ідзі... І малі Бога, каб і з ёю ўсё скончылася так, як з іншымі — без вялікіх наступстваў, бо малыя будуць абавязкова, хочаш таго, ці не. Шэнціла яму дасюль, трэба прызнаць, захінаў сваім выратавальным крылом анёлахоўнік, без асаблівых скандалаў, без шантажу, тым больш — цьфу-цьфуцьфу — без рук на сябе накладання абыходзілася; мо таму, што і ён, Церашкоў, асцярожна і правільна паводзіў сябе, заўсёды быў — прынамсі, стараўся быць — шчырым перад чарговай пасіяй, да таннай хлусні не апускаўся, адразу папярэджваў, што жанаты і разводзіцца не збіраецца...

Ён заўсёды выконваў толькі пасіўную ролю — не ён шукаў, а яго знаходзілі, яму на шыю чапляліся з юру скручаныя ўчарашнія школьніцы, і самі ініцыіравалі паэтапна ўсе неабходныя прыступкі — аж да самай верхняй, «пасцельнай», і пры гэтым яшчэ самі

перконвалі, што ніякіх прэтэнзій да яго няма і быць не можа, нічога нас потым не звяжа…

Цікава, што ведаеш, што нельга гэтага рабіць, а робіш, а пападаешся, а кожны новы раз думаеш — вось яна, не такая, з гэтаю ўжо іменна будзе інакш, лягчэй, прасцей… Нічога падобнага! Тыя ж разборкі ў фінале, тыя ж слёзы, ды папрокі, ды нязменнае «сама вінавата»… Нібы перадаюць яны адна адной адзін і той жа зачытаны сцэнарый, дзе не толькі рэплікі аднолькавыя, а і набраныя курсівам і заключаныя ў дужкі аўтарскія тлумачэннірэмаркі — як трэба у тым ці іншым выпадку паводзіцца.

Церашкоў паплёўся на кухню. Нэлі сядзела згорбіўшыся, склаўшы рукі на каленях… Усё гэта было Церашкову знаёма.

«Во падружыліся", — весела пачаў ён, з прытворным перабольшаным здзіўленнем: можна падумаць, нечаканае збліжэнне Ведрыча з Труханам больш чым што зараз цікавіць яго, найважнейшая яму тэма.

«А табе зайздросна? Раўнуеш?»

«Не выдумляй. Калі Трухана, дык проста шкадую…»

«Вось як? А мяне ты не шкадуеш?»

«У сэнсе? Хіба штонебудзь здарылася? — асцярожна спытаў ён, выдатна ведаючы, што можа здарыцца, і выдатна ведаючы, што гэтага не здарылася, проста ідзе банальная, звычайная ў такіх выпадках праверка — так бы мовіць, разведка боем.

«Здарылася! — перадражніла яна. — Гэтага толькі не хапала. Можа, мне да жонкі тваёй з'ездзіць? Ды расказаць ёй усё?»

Яна помсліва прыжмурылася, а яму ад гэтага смешнага наіву… Вось жа бывае! — гэтая да містыкі невытлумачальная асацыятыўнасць слова і вобраза! Пасадзі чалавека ў камеруадзіночку, прапануй — пад страхам смяротнага пакарання або абяцанку казачнай

узнагароды — прыгадаць якісь далёкі ў часе эпізод, напрыклад, зімовы вечар 17 студзеня эннага года, калі чалавек вучыўся ў сёмым класе, і нават раскладзі перад ім тагачасныя ягоныя рэчы: дзённік з раскладам урокаў, падручнік па геаграфіі, сшытак з дыктантамі… Не ведаю, вельмі і вельмі сумняваюся, што з гэтага нешта атрымаецца. А бывае — гэты ні адкуль, ні з чаго ўзніклы збег «абставін, часу і месца дзеяння»: едзеш ты летнім душным днём у тралейбусе, думаеш абы пра што, лена ловіш абрыўкі чужых размоваў… І вось яно! Самыя бязвінныя, самыя нейтральныя словы твайго суседа злева — «тады я яму званю…» — раптам успыхваюць у табе магніем, выбухаюць эмоцыямі, асляпляюць феерверкам успамінаў, і хоць за вакном гарадское лета, а на табе тэніска і шорты, у цябе прабягаюць па спіне мурашкі марозу, як і тады, у няпаленай хаце, калі ўвечары, парабіўшы ўрокі, чакаў матку з працы, глядзеў «Саламяны капялюш» па тэлевізары, аб нагу цёрся жоўты кот (якіх столькі змеміцца з таго часу!), на падлозе жаўцела лушпайка гарбузовай семкі, на спінцы крэсла, хітра распраўленыя, віселі штанцы з разадранай на нядаўнім хакеі калашынаю; і не толькі вечар, а ўвесь семікласны дзень — да самых дробных дэталёвых драбніц, да ўсіх пераменаўперападаў тадышняга настрою пранясецца перад табою за долі секунды!..

Штось такое адбылося з Церашковым і цяпер, пасля Нэлінай пагрозы да жонкі з’ездзіць. Зусім не сцэна разборак палюбоўніцы з жонкаю ўзнікла раптам перад яго вачыма, а — восеньскае позняе сонца, гарбатае, парэзанае бясконцымі разорамі, з цыбукамі картапляніку ў іх бульбяное поле; здалося, адчуў ён непрыемную сухасць брудных пальцаў, ныццё спіны, цяжар поўных кашоў; пачуў, як грукоча высыпаемая ў пусты пакуль яшчэ кузаў трактарца бульба… А галоўнае — згорбленая над разораю дзяўчынка ў белазялёным, як сімвал прамінулага лета, спартыўным касцюме. Мімалётная сустрэча вачыма, абмен усмешкамі, перакідка парай слоў, выпадковы дотык рук — усе гэтыя знешне нібыта пустыя, няважныя, звычайныя дэталі, а на справе — складаная, са шматслойным падтэкстам

прэлюдыя флірту, цэлая навука, захапляючая да хмелю ў галаве, да адрэналіну ў крыві — для тых, хто разумее і разбіраецца ў гэтым, канечне, а Церашкоў якраз і разумеў, і разбіраўся. Нічога ў такой навуцы не бывае лішняга, кожная мікраскапічная драбяза нясе сваю важную ролю, кожная дэталь мае свой важкі сэнс і ў выніку ўсё працуе на канчатковую мэту — на збліжэнне. Тут і сумеснасць занятку, і суцішаная навакольная прырода вернутага сярод восені «бабскага» лета, і адсутнасць кантролю — у Нэліным выпадку бацькоўскага, у яго — жончынага, тут і (медалямі на грудзях дэмабілізаванага салдата) той факт, што Церашкоў пасля арміі, жанаты, мае маленькае дзіця; усё гэта ахутвала іхнія з Нэлі адносіны лёгкай смугою крамолы, нават таямнічасцю, неабходнай для збліжэння... Гэта пазней, праз не такі і вялікі час, ужо ў зімнім Мінску, паблякне, забудзецца пекната таго вясковага ціхага верасня, выцвітуць у памяці яго пастэльныя фарбы, пакуль не ператворыца ўсё ў звычайны студэнцкабульбяны раман, «раманчык», якіх кожную восень дзесяткі, сотні; якія для адных — гісторыі кахання, а для іншых — гісторыі хваробы...

Але тады, калі дні з’яўляліся толькі прадвеснікамі вечароў, калі вераснёўскія пахі былі такія вострыя, зоры на небе такія буйныя, цені ад белага месяца такія чорныя і доўгія; калі яны сядзелі, прытуліўшыся адно да аднаго, на лаўцы і ўчарашняя школьніца, непрывычныя да працы, запушчаныя ручкі якой ён трымаў у сваіх, даверліва шаптала, што «мяне ж бацька лёгка мог бы адмазаць ад гэтай бульбы, але я ведала, прадчувала, што нешта павінна здарыцца, што мы сустрэнемся!..»

Церашкоў уздыхнуў. Ну, так. Добра было тады. І зусім не думалася, што настане дзень, ці, як цяпер вось, вечар, калі няведацьмеш, як ад гэтых ручак пазбавіцца.

«Дык з’ездзіць да тваёй жонкі?»

«Нэлі», — сказаў ён і ўзяў яе далонь у сваю. Яна ўспыхнула ад радасці, з падзякаю на яго зірнула, але ў гэты момант пальцы яе намацалі пярсцёнак і яна, бы апёкшыся, хутчэй прыбрала руку.

«Што ты хацеў сказаць?»

«Я? А — успомніў першы курс. Калі з неграм жыў у адным пакоі — памятаеш яго? Нігусі звалі, злосны такі мурын, вечна пануры, я яшчэ пабойваўся яго. Неяк чытаю «ЛіМ», ён падыходзіць ціха ззаду і праз маё плячо таксама ўглядаецца... Пасля яго перасялілі. А аднойчы на калідоры сустракаемся, я кажу — машынальна пабеларуску: «Як жыццё, Нігусі?» Ён варочае бялкамі, як наш Ведрыч, і таксама на чысцюткай беларускай мове, без усялякага акцэнту адказвае: «Гэта мне знаёма!» Уяўляеш? Аказваецца, ён, як папугай, завучваў напамяць назвы лімаўскіх загалоўкаў».

«Гэта ўсё?» — спытала Нэлі.

«Усё. Уяўляеш, злосны беларускамоўны негр!»

Яна доўгім, уважлівым позіркам на яго паглядзела.

«Не, на цябе сапраўды нельга крыўдаваць», — сказала яна з уздыхам.

## 7

Калі Ведрыч з Труханам выйшлі на вуліцу, тут зіма гаспадарыла ўжо ваўсю. Снег, мароз, вецер… Пуста, адзінока… Толькі жоўтае святло чужых вокнаў, ды сіняе — ліхтароў. Ведрыч адвярнуўся ад ветру, каб прыкурыць.

«Куды ты зараз?» — спытаў Трухан, шыю ў каўнер ўцягваючы, а рукі хаваючы ў рукавы.

«Што значыць куды? Да цябе, канечне. Ты што, думаў, я цябе так лёгка адпушчу? Такое знаёмства трэба і скончыць як след, як заведзена, палюдску. Ці ты супраць?»

«Наадварот! Калі ласка — паехалі. Вось толькі…» — ён

замяўся.

«Вахцёрка? — памог Ведрыч. — За гэта не перажывай. Я з імі ўмею гаварыць».

«Не вахцёрка, проста... А спаць на чым? Табе, я маю на ўвазе».

«А хто сказаў спаць? Спаць мы не будзем».

«Дык я ж не адзін у пакоі! А ён, ну, сусед, таксама можа быць не адзін...»

«З дзеўкаю?»

«Ну».

«Тым больш, — сказаў Ведрыч. — Не будзем перашкаджаць людзям. Знойдзем куток, хоць набазарымся ўволю, душу адвядзем».

Ён зусім не выглядаў на п'янага. Яшчэ б, — з зайздрасцю адзначыў Трухан, — пры такім здароўі што яму нейкія тры чаркі? — як слану шраціна.

«І яшчэ — у мяне ж не так, як у Нэлі. Частаваць няма чым...»

«Слухай, чаму ты ўсё адгаворак шукаеш? Ад чаго ты страхуешся? Можа, можа. Можа, аварыя ў мятры будзе».

Трухан уздыхнуў. Адступаць не было куды. На «мятры», як выказаўся Ведрыч, праехалі два прыпынкі. За ўвесь час Ведрыч не прамовіў ні слова. І толькі калі падыходзілі да інтэрната, на ганку ўжо, спытаў: «Дык пусцяць?» — і выцягнуў з кішэні нейкую прыгожую чырвоную кніжачку. Аднак дакумент не спатрэбіўся. Вахцёрка, што звычайна трымала абарону паміж двух сталоўбарыкад, цяпер спакойна глядзела тэлевізар, седзячы ў кутку на канапе, і на позніх гасцей нават не зірнула.

«Еўропа! — сказаў здзіўлены Ведрыч. — Першы раз

такое бачу. Ідзі, хто хоча, бяры, што хоча...»

Дзверы ў пакой былі зачыненыя. Трухан адамкнуў іх ключом і зрабіў Ведрычу знак, каб цішэй вёў сябе. Зайшлі ў пакой. Трухан уключыў святло — не агульнае, а маленькі начнічок над сваім ложкам. Ведрыч агледзеўся. Пакой нагадваў штосьці сярэдняе паміж салдацкай казармай і турэмнай камерай. Быў ён разлічаны на дваіх. Два ложкі і стаялі паўз сцены. Дзве тумбачкі. Прысунуты да падаконніка стол, два стулы[1]. Убудаваная ў сцяну шафка на дзве створкі. Ведрыч сеў на ложак, які прагнуўся пад ім ледзь не да падлогі і зарыпеў.

«Але ж і халадрыга, — ён апусціў руку. — Як ты тут спіш?»

«Цсс! Так і сплю... Пад дзвюма коўдрамі. Ды зверху яно нічога, толькі знізу, праз матрас, прадзімае».

У гэты момант паварушыўся нехта на суседнім ложку. Ведрыч прыгледзеўся. Галава на падушцы была адна, а ног зпад коўдры тырчэла... чатыры. Адна нага пачухала другую. Трухан знакамі папрасіў Ведрыча падняцца, асцярожна сцягнуў з ложка капу і, склаўшы ўдвая яе, прыкрыў усе чатыры нагі. «Хадзем на кухню, — прашаптаў, — там усё ёсць!»

Кухня аказалася дзверы ў дзверы з пакоем. Але калі ў пакоі скразняк гуляў сабачы, дык тут было цёпла, аж душна.

«Пліту выключыць забылі», — Ведрыч пастрыкаў пераключальнікам.

«Не старайся — сапсаваная. Цэлымі суткамі пячэ».

«Згарыце вы так калінебудзь!»

Праз шчыліну трэснутай шыбіны намяло снегу на падаконнік. Трухан змёў яго далоняю на падлогу. Ведрыч засяроджана аглядваўся, як бы параўноўваў нядаўнюю Нэліну кухню з гэтай. Не на карысць Трухана было параўнанне. Акрамя сапсаванай пліты стаялі яшчэ

два сталы, абабітыя цынкавай бляхаю, пры сцяне — тры мыйкіракавіны, з якіх дзве не працавалі — каленытрубы знізу адкручаныя і лужына на падлозе пад імі… У кутку была тумбачка з перакошанымі дзверцамі. Ведрыч прысеў перад ёю, адчыніў, ледзь паспеўшы прытрымаць у апошні момант дзверцы, каб не адваліліся.

«Слухай, а тут во, гарбата, і цукар, і шклянка, — здзівіўся ён. —Віном смярдзіць… Чыё гэта?»

«Нічыё. Агульнае».

«Зайздрошчу я вам, — сказаў, падымаючыся са шклянкаю ў руцэ, Ведрыч. — І скразняку, і нагам дзявочым пад коўдраю, і камунізму вашаму куханнаму… Залатыя гэта гады, Трухан! — і адразу ж гэты рэзкі (да якога, праўда, Трухан пачаў прывыкаць ужо) пераход ад лірыкі да прозы: — Не, так не пойдзе! Чаем галавы не абдурыш».

«Дык няма больш нічога…»

«Што значыць няма? Нэлі знайшла — і ты знайдзі».

«Дзе?»

«Адкуль я ведаю? Купі, украдзь, адбяры ў кагонебудзь. У цябе госць! Чалавек першы раз твой парог пераступіў. Ды я, калі да мяне…»

«Пачакай, — Трухан наморшчыў лоб. — Можа…»

«Восьвось! — памагаў Ведрыч. — Думай! На тое і галава чалавеку, каб думаць, дзе выпіўкі раздабыць».

«Нічога не абяцаю, паспрабую толькі».

Ён пайшоў. Не было яго даволі доўга. Ведрыч заварыў гарбаты, не ў імбрычку, а проста ў шклянку наліў кіпеню і насыпаў шчопаць заваркі. Стоячы насупраць вакна, гучна сёрбаў, курыў, смаркаўся… На падаконнік зноў намяло снегу. Ведрыч задумліва назіраў за карагодам сняжынак, тыя круціліся роем, мяло іх, ветрам кідала ва ўсе бакі; а «недзе хворы хлопчык лёд

на шыбе ліжа, і да шчакі прымерзла сіняя сляза»…

Вярнуўся Трухан. З пустымі рукамі, але ўзбуджаны, нават радасны.

«У чатырыста пятнаццатым, параілі! Калі там не спяць яшчэ. Ды калі ёсць там…»

«Ты зноў за сваё? Можа, ды калі, ды каб… Табе страхавым агентам працаваць трэба».

Пайшлі ўдвух. Па лесвіцы Ведрыч падымаўся хутка, а Трухан марудна, ніводнай прыступкі не прамінаючы, — пакуль падняўся, Ведрыч ужо барабаніў у дзверы з лічбамі 415. І раз, і другі раз — мацней. А на трэці так, што тынк каля вушака пасыпаўся. За дзвярыма пачуліся крокі.

«Вы што, зусім ужо здурэлі? — спытаў сонны дзявочы голас. — Вы ведаеце, каторы час?»

«Выламаю дзверы», — ціха, спакойна паабяцаў Ведрыч.

У адказ маўчанне. Ні гуку. Трухан нават рады быў гэтаму.

«Вось бачыш? Пайшлі!»

«Стой».

Недзе праз хвіліну на чуць, на малюсенькую шчылінку дзверы расчыніліся і дзявочая рука прасунула Ведрычу пляшку. Той унурыўся ў этыкетку:

«Чарніла? І па колькі?»

Голас, памарудзіўшы, назваў суму.

«Ого! Выгадней гарэлку ў таксістых браць. Добра, на грошы. І прынясі яшчэ адну».

Зноў пачакалі з хвілінку, зноў усё паўтарылася, толькі на гэты раз голас у дзяўчыны палагоднеў:

«Гэта апошняя. Праўда».

А дзверы не зачыняліся, мабыць, усё ж карцела ёй хоць адным вокам падзівіцца, што гэта за тып такі аб’явіўся ў інтэрнаце?

«Хочаш — хадзем з намі», — як старую знаёмую паклікаў яе Ведрыч.

Доўгая паўза. Нарэшце пачуўся зза дзвярэй зусім ужо лагодны, і разам з тым няўпэўнены, нібы вагалася яна, голас:

«Не магу. Залік заўтра, трэба выспацца… Вы лепш заўтра прыходзьце. Абавязкова. Добра?»

**8**

«Чым жа закусіць табе?» — спытаў Трухан, калі вярнуліся назад на кухню.

«Папершае, не табе, а нам, падругое, чарніла ніхто не закусвае. А патрэцяе, што ў цябе можа быць за закуска? Яечня, як у Нэлі? — Ведрыч моцнымі белымі зубамі адкаркаваў адну пляшку, другую. — На, — працягнуў Трухану, — каўтай».

«Ды ты што?! Дзякую, канечне! І не хачу, а, галоўнае, не магу!»

«Хочаш. Можаш. Бо зараз пакрыўджуся і пайду».

«Ды нельга, кажу ж — кепска будзе!»

«А не павінна быць кепска. У нас не бальніца, не багадзельня, хворыя нам не трэба. На нас ніхто не павінен тыцкаць пальцамі — маўляў, сабраліся, хто Богу нягожы. Кепска яму… А мне, патвойму, добра? У мяне не баліць галава потым? Яшчэ і як баліць! Ты згодны, што і мне нялёгка?»

«Ну, згодны…»

«Аднак я ж п’ю! І ты пі».

Трухан хацеў яшчэ рыпнуцца, сказаць, што дактары найстрога забаранілі... Але раптам падумаў — з адчайнай смеласцю чалавека, якога зімою голага прымушаюць ныраць у пельку: «А, колькі таго жыцця!» — і прыклаўся да пляшкі. І адразу ж зразумеў, што лепш бы верыў дактарам, чым Ведрычу. Захісталася пад нагамі падлога, столь паехала ў адзін бок, галава — у другі, і зноў пот, і зноў малаткі ў скронях, і зноў пачаў расплывацца ў вачах і Ведрыч, і сцены кухні...

Усё ж гэта быў не зусім той брыдотны стан, як некалькі гадзін назад, у фае будынка на Фрунзе, 5, — калі сэрца абрываецца, і слабасць, і мрояцца чорт ведама якія галюцынацыі. Цяпер крышку іншае было, больш лёгкае. Трухан ужо ведаў, што галоўнае тут не паддацца, сціснуць зубы і выстаяць... Сціснуў. Выстаяў. І не толькі не даў прыступу паўтарыцца, а ад злосці на сябе, на тое, што ён такі нягеглы, яшчэ добра каўтнуў, і яшчэ.

«Хопіць, — забраў у яго пляшку клапатлівы Ведрыч. — Жывы? Ці хуткую выклікаць?»

«Дай лепш цыгарэту».

У Ведрыча хапіла розуму не даць; сам ён закурыў.

«А цяпер, калі мы адныя, — сказаў строга, важна, як следчы на допыце, — праўду, Трухан, і толькі праўду! Я хачу ведаць, хто ты. Што з табою такое. Чаму ты ўвесь час прыдурваешся? Я ж цябе наскрозь бачу. Ты зусім не той, за каго сябе выдаеш».

«Так», — пацвердзіў Трухан. Ноздрамі ён прагна лавіў чужы дым.

«Вось бачыш. Я гэта адразу зразумеў. Дык слухаю. Хто ты на самой справе?»

І Трухан, п’яны ад віна, ад непрывычнага субяседніка, а больш ад гонару, што вось выпіў — і нічога не здарылася з ім, упершыню ў жыцці прызнаўся чужому чалавеку, што піша.

«У цябе гэта на ілбе адпячатана, — анічуць не

здзівіўшыся, сказаў Ведрыч. — Прозу, канечне?»

«Канечне… калі можна назваць… прынамсі, не рыфмамі».

«Забіваў бы гэтых празаікаў! — сказаў Ведрыч, плюнуў на падлогу і расцёр чаравікам. — Вернш ім, раскрываешся — а яны, аказваецца, чарговую ролю рэпеціруюць. У вобраз ужываюцца! Выцягваюць чалавека на шчырасць, каб скарыстаць гэта потым у сваіх хрэновенькіх творах!»

«Ды я яшчэ там, на балконе, хацеў прызнацца… Проста — у чым было прызнавацца? Я сам не ведаю, што пішу. Ці гэта фантазіі, ці гэта сны, ці рэалізм… Абышто, карацей!»

Відаць, шчыра ў яго атрымалася, бо Ведрыч змякчыўся.

«Веру. Так і павінна быць. Кожны пісьменнік, калі ён людскі пісьменнік, павінен ламаць, ці хоць бы старацца ламаць жанравыя ўмоўнасці… Сны? Ну, хай сабе сны. Усё нашае жыццё адзін доўгі сон, а тым больш творчасць, гэта — падвойны сон, сон у сне… Але, — спахапіўся ён, — цябе ж яшчэ праэкзаменаваць трэба. Калі ты такі разумны, як сам сябе выстаўляеш…»

«Ды з чаго ты ўзяў?!»

«…Калі ты такі афігенны празаік, дык ахарактарызуй нашу сёняшнюю кампанію. Нэлі, мяне, Церашкова… Ці хоць бы мяне аднога — як літаратурны тып. Што я такое ў чужых вачах? Толькі адразу, не думаючы, з чыстага ліста».

«Цябе?»

Трухан задумаўся на міг. Віно — чарнільца ўзбуджала яго з кожнай хвілінай, яно, роднае, надыктоўвала яму зараз хуткія да шалёнасці думкі і падганяла да дзеяння. Ён злавіў сябе на тым, што сапраўды пачынае разумець усё навокал: і Ведрыча, і Нэлі з Церашковым, і гэтую кухню, і пляшку ў сваёй руцэ; не толькі разумець, але бачыць паміж усім гэтым нейкую трывалую сувязь.

«Памойму, — сказаў ён, абыходзячы вакол Ведрыча, як вакол статуі, і абглядваючы яго, — памойму, ты сваяк, ці прамы нашчадак усім гэтым Пёцефі, Каліноўскім, д’Арк, Касцюшкам, памойму — ты з тых шалапутных, непаседлівых, вечна няўрымслівых галоў, якія ёсць у кожным народзе, якія, калі ўгадаюць нарадзіцца ў патрэбны час, гэта значыць, калі бываюць запатрабаваныя сваім народам — тады робяцца нацыянальнымі героямі: вызваляюць Радзіму ад захопнікаў, кідаюцца грудзьмі на амбразуры, узрываюць сябе разам з ворагам гранатамі, ідуць у партызаны, заводзяць ворагаў у балоты…»

«Дарэчы, — перабіў Ведрыч, які слухаў з задавальненнем, нават жмурыўся, як наеты кот, — ведаеш оперу «Іван Сусанін»? Куды ты завёў нас, пракляты падманшчык? — Ідзіце вы на…, я сам заблудзіўся!»

«…Пра якіх потым складаюць песні, легенды і балады. Калі ж не пашчасціла з эпохай, не падгадалі з нараджэннем і час ім выпадае застойназадушны, як у нас цяпер — так уся гэтая звышэнергія расходуецца на абышто, у лепшым выпадку на словы, як ты сёння на іншай кухні абсалютна правільна заўважыў. Тады такія, як ты, не ведаюць, куды сябе прыткнуць. Яны незапатрабаваныя, нязручныя, з кагорты ўсіх гэтых — ПячорыныхАнегіныхАбдзіраловічаў… пры адной вельмі істотнай розніцы! У тых, класічналішніх, было хоць нешта, за што яны чапляліся: жанчына, каханне да яе; у вас — такіх, як ты — няма нават гэтага, вы далей пайшлі, вас і каханне не ратуе, ужо і яно здаецца чымсьці банальным, састарэлым, дужа малой драбязою, не вартай таго, каб траціць на яе энергію і душу; як таму асілку замест шматпудовай штангі падымаць саломінку…»

«Гэта праўда, — пацвердзіў Ведрыч. — У мяне гэтых сяброў так званых як сабак нярэзаных. Любяць мяне, прынамсі, кажуць, што любяць, а давядзіся, не дай Бог, паміраць — думаеш, пашкадуе хтонебудзь? Помню, захварэў неяк, з ложка не мог падняцца — хоць бы адна

пэ за тыдзень парог пераступіла!»

Пачуўшы слова «хварэў», Трухан сцяўся і як бы змізарнеў. Вочы ў яго ўраз патухлі.

«Усё», — сказаў ён вяла.

«Як усё?! А я толькі падрыхтаваўся слухаць. Хаця ты такую ахінею нясеш, што вушы вянуць… Ну, так і быць. Пераканаў. Згодзен пачытаць цябе».

«Ты што… падумаў — я для гэтага?! Я зусім не напрошваўся, і не збіраўся нікому паказваць…»

«Дык збярыся. Ну, давай. Я ж ведаю, ты мяккі, я ж цябе некалькі разоў уламваў ужо сёння».

«Добра, — і сапраўды вельмі неяк хутка здаўся Трухан. — Але ўмова: пры мне ты чытаеш толькі першы абзац».

Ён знік. Ведрыч не паспеў прыкурыць цыгарэту, як ён ужо вярнуўся, з шэрай картоннай папкаю ў руцэ.

«Во, — пахваліў Ведрыч, — каб так па чарніла другі раз бегаў». Акуратным дзявочым почыркам зверху на папцы было напісана — Ведрыч прачытаў уголас: — «Пачата 10.10. 1989; скончана…»

«А назва?»

«Не ведаю, для мяне назва справа нават не дзесятая, а сотая… Можа, проста — «Рэвізія»?

«Гэта пра магазін, ці што? Ці пра таварную базу? — Ведрыч разгарнуў папку. — Ого, намахаў. І як вы, празаікі, не лянуецеся? Ды мяне б пад наганам ніхто не прымусіў не тое што выдумаць столькі, а нават перапісаць механічна. Эпіграф нейкі… «Імем Яго Імператарскай Вялікасці аб’яўляю рэвізію гэтаму вар’яцкаму дому», — Ведрыч адарваўся ад рукапісу. Пабоўтаў бутэлькаю з астаткамі віна. Дапіў. — Прэтэнзіі ў цябе, аднак! Каму гэта ты аб’яўляеш рэвізію? Ці чаму?»

«Чытай!»

«Ціха, ціха, не лезь. Нічога, мне падабаецца. Пісьменнік павінен быць з прэтэнзіямі… Так… «Сёння, у сваю апошнюю ноч у гэтай палаце і ў гэтым шпіталі, Труханові́чу не спалася…» Чакай, а што за Трухановіч? Ну ты даеш! Калі галоўны герой ты — дык так і пішы — Я. Калі не — выдумай якоясь прозвішча, каб лёгка запаміналася…»

«Хопіць!» —Трухан вырваў у яго з рук папку. Ён глядзеў на Ведрыча са страхам.

«Што здарылася?»

«Як ты чытаеш?!»

«А як ты хацеў?»

«Без інтанацыі! Забубенна! Ніякіх лагічных націскаў! Ніякіх ідыёцкіх паўзаў!»

«Добра, добра… Дай папку. Ты, я бачу, дужа сур’ёзна ўспрымаеш, гэта трэба чытаць у іншай абстаноўцы. З сабой забяру, — а калі Трухан памкнуўся запярэчыць, схаваў руку з папкай за спіну. — Ды не бойся, я нікому не скажу, што ты прозу пішаш!»

«Бяры».

Трухану і праўда стала ўжо ўсё роўна. Адна пустата была на душы, ды яшчэ вельмі хацелася спаць.

«Правядзі хоць да вахты, — сказаў Ведрыч, і далей, пакуль спускаліся па цёмнай, з устойлівый пахам прусаковай атруты, лесвіцы ўсё бубнеў: — Расчараваў ты мяне, Трухан… Пакрыўдзіў, можна сказаць. Я здуру клюнуў, узрадваўся, паверыў, што нарэшце чалавека знайшоў — сапраўднага, ціхмянарахманага, сціплага… А ты такі ж, як я, калі не хітрэйшы. Ды яшчэ і хворы, ды яшчэ і сірата, ды яшчэ і прозу навучыўся пісаць… Жах!»

## Частка другая

*«...Імем Яго Імператарскай Вялікасці...*
*аб'яўляю рэвізію гэтаму вар'яцкаму дому!»*

### 1

У ноч перад выпіскай Трухановічу не спалася.

Ён ляжаў на ложку, скінуўшы на падлогу коўдру, — усё адно ёю больш не накрывацца, і глядзеў у столь.

У палаце было цёмна. І цёпла, аж душна ад напаленай да чаду грубкі. І нязвыкла ціха. Не чутно нават цягнікоў ад блізкай станцыі. На суседніх ложках пасля ўпрыскавання брому мёртвым сном спалі яшчэ два такія ж, як ён, няшчаснікі, толькі ў адрозненне ад яго, «лёгкага», які адбарабаніў тут свае два з паловаю месяцы і сёння камісуецца, ім яшчэ ляжаць ды ляжаць, мучыцца ды мучыцца. Ад аднаго гэтага, ад усведамлення сваёй перавагі над імі — меншага калекі над горшымі — была цяпер на душы ў Трухановіча ціхая прыемнасць. Яны не могуць падняцца з ложкаў — а ён можа. Ім немавед яшчэ колькі парыцца тут і, хутчэй за ўсё, тут жа, у гэтым Богам забытым шпіталі пакутна паміраць — а яму жыць. Усяго гадзін праз колькі ён убачыць бялёсае вераснёўскае неба, зялёны лес, сінюю рачулку, шэрыя хаты і новых людзей (хаця якраз апошніх хацелася бачыць менш за ўсё).

Не спалася. І не ляжалася.

Ён устаў ціха, падняў з долу коўдру. Добра арыентуючыся ў цемры, даволі хутка і спрытна, як для «адной левай» — нежывая правая рука мёртва вісела на перавязі, ён так і спаў, не разгінаючы яе, — заслаў ложак. Нырнуў ў халодную гімнасцёрку і пасунуўся да вакна, бялеючы ў цемры споднікамі.

Удзень, калі светла, адсюль нават праз дрэвы ў

прышпітальным садзіку добра праглядалася чыгуначная станцыя. І калі праязджалі цягнікі, шыбіны пачыналі дробна і часта трымцець, нібы падпяваючы чыгунным колам, падлога таксама дрыжэла, а разам з ёю і ложак, і тады было адчуванне — калі легчы і заплюшчыць вочы, што ты сам цяпер у вагоне, едзеш кудысьці далёка, а ў расчыненае вакно студзіць цябе прапахлы паравозным гарам ветрык...

Зрэшты, чагочага, а гару, і зусім не рамантычнага, хапала ў палаце. Дарма што вакно стараліся адчыняць як радзей; гэты ўстойлівы вугальнапаравозны смурод перабіваў нават пахі бальнічныя: лекаў, ёду, гною, нямытых чалавечых целаў і ніяк нельга было пазбавіцца ад яго ці выветрыць чым — не памагалі ні скразняк, ні хлёрка. На тумбачках, на стале, на сценах, калі доўга не прыбіралі ў палаце, можна было пісаць пальцам.

Цяпер праз вакно ў знадворнай цемры мутна свяцілі агні станцыі. Данёсся ледзь чутны, падвойнымі рамамі прыглушаны, свіст паравозіка. Трухановіч прылёг жыватом на шырокі падаконнік. Прытуліўся ілбом да шыбіны. Жорсткая барада, што адрасла за лета, шоргнула аб шкло. Варта было б пагаліцца, ці хоць бы твар вадою спаласнуць, усё ж падзея — выпіска са шпіталю, выхад на волю...

Пагаліцца! Калі ўжо ён прывыкне, дзе ён, і ў якім часе знаходзіцца! Так гэта проста: утыркнуў электрабрытву ў разетку ды пагаліўся. Ці пайшоў ванну прыняў, з экстрактам хвоі і марскіх соляў!

І справа нават не ў гэтым. Можна, канечне, абы захацеў, папрасіць у нянечкі кіпятню, і мыла знайшлося б, і свечкі агарак... Справа ў тым, што Трухановіч за гэтыя два з паловаю месяцы апусціўся да непрыстойнасці. Прычым свядома. Ён даўно адзінай сваёй рукою махнуў на такія штукі, як абавязковае галенне, ці штодзённая чыстка зубоў, ці рэгулярнае абрэзванне пачарнелых і цвёрдых, як капыты, дужак пазногцяў; займаўся гэтым тады толькі, калі прыпякала, калі доктар Партной даваў заўвагу ці калі самому рабіць не было чаго. Уся гэтая абавязковая

«гігіена», «санітарыя» здавалася яму лішняй нават у тым — колішнім будучым часе, дзе ўсе ўмовы былі для гэтага; і там людзі насіліся са сваім здароўем, як з пісанай торбай, лічачы свае целы самай найкаштоўнай рэччу ў свеце.

Цяпер жа, у гэтым часе, ды яшчэ ў яго, Трухановічавым, становішчы гэтая «гігіенічная»[2] мітусня лішняй здавалася і падаўна, асабліва ў параўнанні з галоўным. Не да барады з пазногцямі, калі галава злятае і рукі не гілдуюць... Бо ні з якага не са шпіталю, калі на тое пайшло, ён цяпер не выпісваецца! Няма чаго паддурваць сябе. І параўнанне ў яго выпадку можа быць хіба што адно: з выпіскаю з раддому, дзе ён пару месяцаў назад з'явіўся на свет, паспеў за гэтыя месяцыператварыцца ў дваццацігадовага дзецюка Трухановіча, паваяваць на вайне, атрымаць кантузію, скалечыць руку, страціць пальцы на назе, перанесці некалькі аперацыяў па выдаленні асколкаў, абрасці барадою... І вось, калі ласка! Выпіска! Таксоўкі толькі не хапае, ды маткі, маладзейшай за сваё, пару месяцаў назад народжанае «немаўля», ды шчаслівага бацькі, які з букетам у руцэ і з адвіслай скківіцай талопіцца на свайго барадатага, неахайнага нашчадка, вышэйшага за сябе ростам!

Ён яшчэ доўга стаяў перад вакном, знарок не расчыняючы форткі, тым больш вакна. Баяўся, каб скразняком ці шумам ад станцыі не пабудзіла суседзяў. Стаяў да таго часу, пакуль на дварэ не пачало крыху віднець.

І калі ён азірнуўся, абрысы невясёлага яго апошняга прытулку выступілі перад ім з нядаўняй цемры. Палата, доўгая і вузкая, як конская морда, з нізкай столлю, з чатырма сценамі, з трыма салдацкімі ложкамі... Трухановіч вярнуўся і прысеў на ложак. Таксама: кожны прэнт быў тут тысячу разоў абгледжаны і абмацаны, вядомая была кожная трэшчынка, вышчарбінка, выпукласць, кожная кропелька засохлай фарбы на біле.

Асцярожна, стараючыся, каб не скрыпнуў пад ім ложак,

ён павярнуўся і лёг на бок. Аднак асцярога было дарэмнай. За ім даўно ўжо, аказваецца, назіралі.

— Не спіцца? — сіпла спытаў Антонаў. Ён падцягнуўся за біла і сеў зручней, амаль задніцай на падушку. — Дахаты сёння? Чуеш, ты? — інакш, як ты, у вочы ён Трухановіча не зваў, а за вочы — малахольным, кантужаным, бяспомным альбо псіхам. — Ты? Чуеш?

— Добрай раніцы, — сказаў Трухановіч.

І раптам зноў яму так радасна зрабілася. Ад таго, што чуе і бачыць усё гэта ў апошні раз. Хоць бы і гэтага вось «таварыша па няшчасці», які ўжо дастаў яго за цэлае амаль лета сваёй тупасцю, хамствам, няўменнем цярпець, які проста задзяўбаў то жаласлівым канючаннем, то на ўсю палату стогнамі, то істэрычным рогатам, то труслівым плачам (ён вельмі баяўся смерці), а найбольш лаянкай, складанай, брыдкай, з наваротамі, з нязменнымі згадкамі і Бога, і Духа Святога і ўсіх дванаццаці апосталаў…

— Дурным рай, — уздыхаючы, казаў цяпер Антонаў, — а ты, Васілёк (сябе маючы на ўвазе), ляжы, мучайся, гній… (мацьмацьмаць!)

Была нейкая вышняя суровая справядлівасць у тым, што і кара гэтага тупога багахульніка спасцігла адпаведная: гангрэна абедзьвюх ног — антонаў агонь, які ніяк не маглі патушыць. Пачалося з нявінных плямаў на ступаках, а цяпер ног у яго не было вышэй каленяў, хірургі адрэзвалі іх па частках, як бервяно на паленцы, і ўсё марна, агонь забіраўся, поўз усё вышэй і вышэй… «Прысуд адсекчы хвост па самую галаву», — міжволі прыходзіла на розум Трухановічу, калі пасля чарговай аперацыі гэтае няшчаснае непрытомнае цела, якое з кожным разам рабілася ўсё карацейшым, прыносілі на насілках і згружвалі на ложак.

Сёння Антонаў быў у настроі.

— Паслухай, ты, — што скажу!

І акрамя радасці, што не ўбачыць яго больш, Трухановічу стала і шкада гэтага чалавека, які не адной, а двума сваімі ўкарочанымі нагамі ўгрузаў у магілу, і захацелася нават штосьці прыемнае зрабіць яму. Ён дастаў з тумбачкі тры апошнія сухары, цвёрдыя, як камень, паднёс і моўчкі паклаў перад Антонавым на коўдру.

— Што гэта? Ты чаго? — занепакоіўся Антонаў, баючыся якой каверзы; сваякоў у яго не было, ніхто да яго не прызджаў і нічога не прывозіў, таму гасцінцы былі яму ў навіну. — А, разумею! Ты ж і дома пад'ясі! Ну, давай, пакрышу зубы…

— Дзякую, — сказаў за яго Трухановіч, і за сябе: — Калі ласка.

Словамі ветлівасці, рознымі «добрымі раніцамі», ды «калі ласкамі», ды «дзякуямі» Антонаў пагарджаў, лічачы іх непатрэбнымі, яны поўнасцю адсутнічалі ў яго небагатым лексічным запасе. Ён зараз жа ўзяўся грызці сухар, са страшным трэскам на ўсю палату, нібы і праўда разам з перасушаным хлебам ламаліся ў яго зубы.

— Ты… вось… што…

У падзяку за пачастунак, у паўзах паміж храбустам і чаўканнем ён вырашыў падвучыць крыху Трухановіча жыццёвай мудрасці.

— … Кніжачка ў цябе ёсць, так? Грамаце не забыўся, раз усё пішаш нешта, усё крамзоліш? Добра. Ты слухаеш? Запамінай, запамінай… тваю маць!

Трухановіч маўчаў. Тут яго нібыта «кантузія» служыла яму добрую службу. Прынамсі, можна было прыкінуцца дурнем, каб у сапраўды дурныя размовы не ўступаць і на дурныя пытанні не адказваць.

— Сачы за думкаю! У цябе ж мазгі адбітыя, розум кантужаны, ты ж ні храна не помніш, так? Вось, скажам, ты ажэнішся. Яна цябе не пакорміць, а скажа

— ты еў, толькі забыў. Тады так: насі кніжачку, алавік і ўсё чыста запісвай. А потым рэвізію наладзь. А кніжачку хавай, добра хавай, — усё вучыў Антонаў і адначасова грыз сухар, храбусцеў, чвякаў, перыядычна выпускаў газы, суправаджаючы гэта рознымі жартамі: «Агонь па батарэях — плі! Рванула!»

— Сочыш за думкаю? Запамінай — згадзіцца. Далей. Пойдзе яна, дапусцім, на б…кі, так? Нагуляе дзіця, а скажа — тваё! Я ж з табою спала! А ты хрэн помніш. Рай, а не жытка ёй за табою будзе!

І замаркоціўся Антонаў, уздыхнуў, зайздросцячы той будучай Трухановічавай жонцы, ды і ўвогуле будучай яго райскай жытусе.

— Чуеш? Ты?

Замест адказу Трухановіч прысеў перад тумбачкай, расчыніў яе, і Антонаў заціх, сочачы за ім, спадзеючыся, відаць, яшчэ на гасцінец. Але з тумбачкі дастаўся і лёг на ложак невялікі пакуначак. Асцярожнымі, беражлівымі рухамі, нібы меў справу з чымсьці крохкім, Трухановіч разгарнуў брудную марлю. У ёй аказалася некалькі груба сшытых па краях стосікаў шэрай паперы — кожны стосік з кішэнны блакнот памерам, а таксама два цэлыя алоўкі і адзін агрызак. Палюбаваўшыся на сваё багацце, Трухановіч прыхапіў агрызак алоўка і адзін з «блакнотаў» і зноў пацёгся да вакна. Пры хадзе ён прыкульгваў. Ля вакна было ўжо зусім светла, можна было свабодна чытаць і пісаць. Шырокі зручны падаконік служыў яму сталом. Трухановіч нагнуўся над сваім рукапісам. Вочы яго ў соты, у тысячны мо ўжо раз упіліся ў такія знаёмыя — да кожнай рысачкі, да кожнага выпадковага следу алоўка — літары.

— Што ты там робіш? — непакоіўся за яго спінаю Антонаў. — Ты, чуеш?

Трухановіч, узброены агрызкам алоўка, чытаў самога сябе, — і як у той казцы, як па якім шчупаковым загадзе пакрысе пераставаў адчуваць палату.

Аддаляўся, глушэў, аж покуль нарэшце зусім не прапаў Антонава голас… Зазвінела ў вушах рознагалоссе вялікага вячэрняга горада… Па спіне прабег ветраны восеньскі холад… І нават ноздры Трухановіча, падалося, замест смуроду палаты ўхапілі пах маладога свежага снегу, «які сыплецца і не растае»…

**2**

Дачытаўшы да канца — да слоў «яшчэ і прозу навучыўся пісаць. Жах.», Трухановіч чыркнуў над апошняй кропкай рысачку, ад чаго атрымаўся клічнік, затым акуратна, бы карты ў калоду, сабраў свае лісткі, схаваў іх назад у тумбачку і выйшаў на калідор.

У параўнанні са светлым пакоем тут яшчэ панавала сапраўдная ноч. Хіба што толькі ў самым канцы, каля «агляднага» пакоя, таго самага, дзе будзе вырашацца сёння Трухановічаў лёс, свяцілася грубка, там жа кашлялі, бразгалі чапялою, грукалі дрывамі.

Мацаючы рукой сцяну, Трухановіч мінуў гэты доўгі калідор; паварот, прыступкі, адны дзверы, другія. Ён піхнуў іх і апынуўся на ганку, на двары. Побач, пад самай сцяной іхняга шпіталябараку бялела цэлая гара гіпсавых ног і рук, скарыстаных бінтоў, марлі, ваты… Адвярнуўшыся, стрымліваючы дыханне, нібы яму смярдзела адтуль, Трухановіч хутка пайшоў на вуліцу. Выйшаў з варотцаў і стаў каля плота. Ранак — вераснёвы, свежы — толькі займаўся. Пасля цёмных палаты з калідорам вачам аж балела ад святла, ад прастору. Вуліца была роўная, шырокая і доўгая, са звычайнымі вясковымі драўлянымі хатамі; ніколі не сказаў бы, што ты ў самым цэнтры, на галоўным «праспэкце» аднаго з буйнейшых у Беларусі чыгуначных вузлоў, у мястэчку Каленкавічы.

Згорблены чалавек з мехам на плячах прайшоў вуліцай, азірнуўшыся на Трухановіча. Падвода праехала, рыпаючы коламі, у бок базарнай плошчы. Сабака

прабег, за ім, праз якую хвіліну, яшчэ адзін. Пачынаўся новы дзень, пачыналася новае жыццё. І пакуль, думалася Труханові́чу, ён сябе да гэтага жыцця рыхтуе, яно ў сваю чаргу спяшаецца прыняць яго. У вобразе падводы, што павінна ўжо недзе пад’язджаць да мястэчка… У вобразе чужога дзядзькі, які чамусьці лічыць яго сваім сынам. Падняўся сягодня гэты дзядзька рана, куды раней за яго, Труханові́ча. Жонку пабудзіў. Ноч, цямень за вакном… Каня пакарміў, сам паеў. Сабраўся ў дарогу, сена ў воз паклаў, не забыў з сабою торбу «на перакус», ды доктару Партному хабар, ды каню аўса… І вось — замест таго, каб займацца такой важнай увосень сялянскай працай, едзе некуды кіламетраў за дваццаць! І не толькі ж сёння… А да гэтага колькі разоў прыязджаў! Ды не пусты, тыя ж сухары, сала, нават каўбасы прывозіў… Яму — чужому чалавеку, «сыну», як ён лічыць, «якому, беднаму, на вайне бонбаю мазгі адбіла — так што ні бацькі, ні маткі, ні сябе не помніць!»…

Што праўда, тое праўда. Наслухаецца сёння Труханові́ч пра гэтую сваю «адбітую памяць». На хуткай і, дзякаваць Богу, нарэшце апошняй камісіі. Дзе ў соты раз яго, канечне, распрануць, абмацаюць, абстукаюць… Шматзначныя пераглядванні, перашэптванні, лацінскія тэрміны, сярод якіх самы часты — «амнезія»… Поўная страта памяці, рэдкі выпадак, феномен! І абвязкова знойдзецца хтосьці, хто кіне рэзка, гучна, каб і ён чуў: «Сімуляцыя!», і тады збянтэжыцца доктар Партной, і затараторыць, апраўдваючыся сам і апраўдваючы свайго «фенаменальнага» хворага: «Унікальны выпадак… Памяць у яго якраз прысутнічае, але вывернутая… Пасля кантузіі яму здаецца, што ён не мінулае помніць, а… будучыню! Вось, у мяне запісана… Такія рэчы расказваў, што ахнуць…» — «Э, перастаньце. Чаго яны толькі не навыдумляюць, абы да бабы пад спадніцу…»

І, пляваць ім, вядома, на яго «феномен» і на яго «кантузію»; але як вы мёртвую руку патлумачыце, таварышы? А пальцы на назе што, карова языком злізала?

Халаднавата было ўсё ж на вуліцы. Ды і варта паспяшацца заняць чаргу, раз ужо падняўся так рана і пакуль яшчэ няма нікога перад кабінетам. Ды чым хутчэй скончыць гэтую валынку, зваліць усё нарэшце з плячэй — каб хоць якая перамена, няважна, да лепшага ці да горшага.

Трухановіч вярнуўся ў калідор.

Шпіталь за гэты час ажыў сваімі абвыклымі і абрыдлымі, асабліва пасля свежасці вулічнага паветра, бальнічнымі пахамі і гукамі. Бегалі ўзадуперад як заўсёды ўвішныя і як заўсёды бесталковыя нянечкі. Там кагосьці гучна паклікалі, тут нехта ціха і безнадзейна застагнаў…

Трухановіч прысланіўся да грубкі, заклаў далонь пад спіну — каб не так пякло і каб не выпэцкацца, і цярпліва стаў чакаць. Бліжэй да васьмі гадзін падыйшлі яшчэ двое, лёгкапараненыя, слабасільныя і затурканыя салдацікі, але нават яны ў шпітальнай іерархіі былі вышэй за яго, «бяспомнага» Трухановіча, таму з ім нават не павітаўся ніводзін, толькі зіркнулі з насмешкай і пачуццём переваґі… А вось нарэшце і світа, у складзе трох чалавек, бухаючы ў падлогу ботамі, прайшла ў кабінет. Першы — Партной, у белым брудным халаце, з ключом у руцэ, якім адамкнуў дзверы, за ім двое незнаёмых, адзін малады, другі стары, абодва ў тужурках, перапаясаных рамянямі да таго туга, што ззаду сваімі таліямі і адтатурчанымі задніцамі падобныя былі на жанчын.

Не паспелі зачыніцца дзверы за апошнім, як зноў расчыніліся, і голас Партнога паклікаў:

— Заходзьце! — забыўшы, ці не лічачы патрэбным нават удакладніць, хто менавіта ім трэба.

Трухановіч ўжо ўзяўся за ручку дзвярэй. Але нейкая інтуіцыя прымусіла яго азірнуцца. Ён павярнуўся і ўбачыў, што па калідоры спяшаецца сюды і робіць яму знакі пачакаць ягоны «бацька», а з ім, ззаду, яшчэ нейкая рослая дзяўчына ці то маладзіца. Давялося

памарудзіць, каб хоць павітацца з імі. Калі яны наблізіліся, ён паспеў адно паціснуць «бацьку» руку, пра сябе адзначыўшы, як прыкметна тырчыць у таго зза халявы пуга: пазнакай заможнасці (тое самае, што цяпер пакручваць на пальцы ключы ад аўтамабіля), і кіўнуць маладзіцы. Вочы іх сустрэліся… Але тут зноў, ужо нецярпліва паклікаў яго Партной, і Трухановіч заспяшаўся ў кабінет, несучы з сабой нейкае трывожна-радаснае, саромнапажадлівае, невядомае і нязведанае дасюль адчуванне якойсьці надзеі, ці, лепш сказаць — падзеі, якая ці то ўжо адбылася ў яго з гэтай маладзіцай, ці толькі будзе яшчэ наперадзе…

Кабінет мала чым розніўся ад сучасных. Хіба што гэты, ваеннашпітальны, абліты мутным святлом слабенькай электрычнай лямпачкі зпад столі, больш шэранька выглядаў і было ў ім, канечне, не так светла ў параўнанні з цяперашнімі. Аднак усе неабходныя медыцынскабальнічныя атрыбуты былі ў наяўнасці: і табліца літар для праверкі зроку, і мыйнік у кутку, і бліскучыя біксы для кіпячэння інструментаў, і розныя слоікі за шклом шафы, і зігзагападобная фіранка, за якой распранаюцца, — шпіталь быў не толькі для ваенных, за хабар тут прымалі і звычайных местачкоўцаў, і вакольных сялян.

За сталом сядзелі трое. На яго «дзяньдобры» ніхто не падняў галавы. Унураныя, заклапочаныя, шастаюць паперамі, перагаворваюцца ціха… І слова «амнезія», і слова «феномен» данеслася да Трухановіча… Вось малады прамовіў штосьці, не падымаючы галавы. Трухановіч не адразу і зразумеў, што гэта ўжо да яго звяртаюцца.

— Прозвішча, імя, — гучней паўтарыў малады, крыху картавячы. — Званне.

— Трухан…овіч, Алесь. Чырвонаармеец.

— Сядайце.

Ён сеў на табурэт, у якім пасярэдзіне была авальная дзірка.

— Год нараджэння, — нявінна спытаў малады, а сам аж настуруніўся ў чаканні, і тыя пападымалі галовы, упёрлі ў Трухановіча вочы.

Нарэшце! Можа, паддацца? — мільганула ў ім блазнаватае. — Пацвяліць іх трохі? Магчыма, так і зрабіў бы, каб не цяпер, а хвілін дзесяць назад пачаўся гэты допыткансіліум, магчыма, тады і даставіў бы ім, апраўдаўшы спадзяванні Партнога, некаторую радасць. Але цяпер, калі ўсё ўспрымалася ім нібыта праз шкло таго дзявочага, штосьці абяцальнага позірку, яму хацелася толькі хутчэй гэты цырк закончыць.

— Тысяча... васемсот... — сказаў ён, знарок расцягваючы словы, каб аблегчыць запісванне, бо малады ўжо нацэліўся алоўкам на паперу, — дзевяноста восьмага года нараджэння.

— Як...так? — у голасе Партнога былі і разгубленасць, і рачараванне.

А як ты хацеў? Ты ж сам мне ўбіваў два месяцы ў галаву, хто я, што я, «з якога хлопец году, з якога параходу»...Навучыў на сваю галаву? Нябось, не чакаў, што я акажуся такім здольным вучнем? Разладжваецца, рассыпаецца спектакльпрадстаўленне «феномену», у самы ардынарны, выедзенага яйка не варты, выпадак ператвараецца?

Двое ў тужурках глядзелі на доктара з насмешкаю. Партной дрыготкімі пальцамі выцягнуў з нагруднай кішэні халата і начапіў на нос пенсне.

— Пачакайце, — замармытаў ён, нізка схіляючыся над паперамі; пенсне звальвалася і ён прыціскаў яго пальцам да пераносіцы. — Але я ўсё запісваў...

—Да вашых запісаў яшчэ дабярэмся, — малады паклаў далонь на паперыну. Звярнуўся да Трухановіча: — Раскажыце коратка сваю біяграфію і чым займаліся да ранення, — пры яго картавасці атрымалася даволі дасціпная інверсія — ганення замест ранення.

Крыху нагадвала ўсё гэта экзамен, дзе Трухановіч з’яўляўся студэнтам, а чэкісты з Партным — выкладчыкамі; вось толькі памылка на такім іспыце задужа дарага магла каштаваць. Аднак, успомніўшы някепскую сваю падрыхтоўку, Трухановіч кароткімі сказамі, дабразычлівым, мяккім, у меру пафасным голасам, націскаючы на канкрэтыку дат і лічбаў, да якіх, на шчасце, меў добрую памяць, пачаў «адказваць на білет», інакш — нясці самую розную, механічна зазубраную лухту. Тым больш пакуль што патрабавалі ад яго ўсяго толькі сухіх анкетных дадзеных. Месца нараджэння? — вёска Каменка Мазырскага павета Мінскай губерні; сацыяльнае становішча? — з сялян-сераднякоў; склад сям’і? — бацька, маці, старэйшы брат; апошні жанаты, актывісткамбедчык…

— Далей!

—… З 1914 працаваў на чыгунцы, з 1916 ваяваў на франтах з немцам… Быў атручаны газам, — дадаў Трухановіч, успамінаючы прачытаныя пра першую сусветную кніжкі, у якіх ніводнага героя не было, хто б тым газам не труціўся. — Пасля лячэння вярнуўся ў родную вёску, у 1918 у якасці байца Каменскага партызанскага атрада зноў змагаўся з тымі ж немцамі…

— Так, — малады звяраў яго хлусню з запісамі на паперы. Пажылы, заплюшчыўчы вочы, масіраваў сабе скроні. Партной, наадварот, не спускаў з Трухановіча вачэй, у якіх чамусьці чытаўся страх.

— У складзе 215га Мазырскага стралковага палка ў чэрвені 1920 года падчас вызвалення Мазыршчыны ад белапалякаў пры фарсіраванні ракі Прыпяць быў цяжка паранены, кантужаны і патрапіў у Каленкавіцкі шпіталь…

Пажылы раптам расплюшчыў вочы, якія аказаліся мутнымі, і хутка спытаў нейкім булькаючым басам:

— Які цяпер год?

— Тысяча дзевяцьсот дваццаты.

— Дзень, месяц?

—Дваццаць першага верасня.

— Што значыць не ў свае сані не садзіся?

Бог ты мой! Цяжка было здзівіць чымсьці Трухановіча, але цяпер ён ледзь не зваліўся з табурэта. Ды гэта ж… і да ягонага часу ў ваенкаматах неўрапатолагі такім жа чынам правяраюць прызыўнікоў! На тых жа «санях» ловяць, прычым некаторыя ўмудраюцца нават пагарэць на гэтым… Няўжо вунь яшчэ адкуль цягнецца гэты хвост?!

Пажылы палічыў яго замінку за абдумванне.

— Адказваць хутка!

— Гэта значыць, — з ветлівай усмешкай, ямчэй папраўіўшы руку на пярэвязі, адказаў Трухановіч, — ведаць сваё месца, не саваць носа ў чужое проса. З аднаго сінанімічнага раду — кожная свіння сваё карыта хваліць, кожны кулік — сваё…

— Штошто?!

Во ўскінуліся. Во натапырыўся малады, а Партной як ажыў адразу! Трэба ўсё ж быць больш асцярожным, палкі не перагінаць, менш пацыкаць іх.

— Што за сінанімічны рад? Якая ў вас адукацыя?

— Цэпэша. Але потым — курсы чырвонага байца, — важна дадаў Трухановіч. — Савецкая ўлада ўмее вучыць…

— Дык вы помніце, дзе вучыліся? Імёны настаўнікаў! Выкладчыкаў на курсах!

— Гэтага не помню, — Трухановіч дакрануўся здаровай рукою да галавы.

Пайшло — перашэптванні, папераў шастанне… А затым ізноў пасыпалася — адно пытанне картавым голасам,

другое — булькаючым, як бы пахмельным: «Нумар часці? Як вас параніла? Дзе?»

— Не памятаю…

— Імя камандзіра палка? Ці хоць адно імя ці прозвішча, хоць кагосьці з аднапалчанаў?

— Не памятаю.

Які кашмар, толькі цяпер дайшло да яго: ды гэта ж яны мне шпіёнства шыюць. І вельмі проста[3]. Калі асноўныя вехі біяграфіі, з датамі ды лічбамі, яшчэ можна было па-папугайску, з чужой падачы завучыць, дык на драбязе, на дэталях — такіх, як прозвішча школьнага настаўніка, ці якога колеру валасы на галаве ў штабнога пісара, яго злавіць — раз плюнуць. І цалкам заканамерныя іхнія падазрэнні. Разважае пра сінанімічны рад, але не помніць не тое што ніводнага прозвішча аднапалчаніна, але нават імені роднай маткі!

Выйсце тут адно: раз не можа ён ім нічога растлумачыць — дык не трэба і старацца. «Кантужаны» — дык і спекулюй на кантузіі! І на ўсе пытанні, што тычацца дэталяў, даваць адзіны і, дарэчы, сумленны адказ: «Не памятаю».

— Не памятаю, — паўтарыў ён. І далей, з вінаватай усмешкаю, пранікнёным голасам, пафасным тонам: — Таварышы, я паранены чалавек. Кроў праліў і здароўе страціў за родную савецкую ўладу. І не віна, а бяда мая, што некаторыя моманты я помню, а іншыя — не… Хай я не магу назваць, ці пазнаць аднакласнікаў, настаўнікаў, аднапалчанаў, аднавяскоўцаў сваіх — але ж яны мяне могуць! Вось хоць бы ў бацькі майго папытайце. Ён якраз цяпер тут, на калідоры чакае… Няўжо б ён ездзіў да мяне за блізкі свет, да мяне, чужога яму шпіёна?! Пазваць бацьку? — і з табурэта прыўзняўся, паказваючы гатоўнасць бегчы.

— Сядзіце, — астудзілі яго.

Ага, падзейнічала. Нават пажылы памякчэў.

— Добра. Усё гэта добра. Але як вы растлумачыце… дзе яно? — малады пачаў шукаць у папцы, — вось яно, — знайшоў некалькі аркушыкаў паперы, спісаных доктара Партнога почыркам, паказаў Трухановічу, яшчэ і далікатна, пазногцем маленькага пальца падкрэсліваючы радкі. — Гэта праўда тое, што тут запісана? Вы гаварылі доктару Партному ўсё гэта, усю гэтую шкодную контррэвалюцыйную ерась? Напрыклад, што сусветная рэвалюцыя не толькі не адбудзецца, але і ў адной асобна ўзятай краіне, у Савецкай Расіі, немагчыма будзе пабудаваць камунізм? Вы гаварылі, што праз семдзесят гадоў увогуле камуністычныя ідэалы будуць пастаўлены пад сумненне, падвергнуцца пераацэнцы, пасля чаго і сама Савецкая ўлада перастане існаваць?

Пажылы гучна гмыкнуў.

— Тыповая контррэвалюцыя, — сказаў ён. — Але добра, хоць семдзесят дае!

— Вы сапраўды прарочылі, хай сабе і ў беспамяцтве, што чырвоны тэрор расцягнецца на дзесяцігоддзі і ахвярамі яго стануць дзесяткі мільёнаў? Што будзе другая вайна з немцамі? Што амерыканцы прыдумаюць нейкую звышбомбу і скінуць яе з аэраплана на Японію? Вы сцвярджалі, што электрычнасць будзе паступаць не з гідраплацін, а выпрацоўвацца з атамаў, для чаго будуць пабудаваны спецыяльныя станцыі і адна з якіх выбухне?

Малады пытаў рытарычна, з усмешкаю, усяляк паказваючы, што і сам не прыдае падобнай лухце значэння і другім не раіць.

Трухановіч паварушыўся на табурэце.

— Я…

— Гаварылі ці не? — перабіў пажылы.

— Я, таварышы, не спрачаюся. Пасля аперацыі пад морфіем, без памяці, канечне, мог нагаварыць абычага!

Вось толькі чаму вас не цікавіць, навошта доктару Партному спатрэбілася запісваць усё гэта? Можна задаць яму пытанне?

Малады кіўнуў.

— Вы матэрыяліст, доктар Партной?

І няхай паспрабуе сказаць, што не.

— Я? — разгубіўся ад нечаканасці доктар, які, задумваючы гэты бяскрыўдны, як яму здавалася, спектакль, наўрад ці ўяўляў, што ўсё можа вельмі проста абрынуцца на ўласную галаву. — Я… матэрыяліст!

— Тады чаму вы надаяце нейкую асаблівую ўвагу звычайнаму трызненню? Ці вы ўсё ж ідэаліст? Працягваеце верыць у перасяленне душ, ды ў рай, ды ў пекла, ды ў Бога?

Партной выціраў з ілба пот. На яго без шкадавання цяжка было пазіраць. Чэкісты слухалі Трухановіча з цікавасцю і не перабівалі. Таго яшчэ больш натхніла гэтая маўклівая падтрымка.

— Мы, людзі новага часу, якія скінулі ярмо царызму, ачысціліся ад дурману рэлігій і розных там забабонаў — мы хіба можам верыць розным варажбітам, аракулам, розным ілжэпрарокам, — у час спахапіўся, — акрамя, канечне, таварышаў Леніна з Троцкім… Мы — разняволеныя людзі новай краіны і мы будзем тварыць жыццё паводле бальшавіцкіх запаветаў, а не верыць у розную містыку і прадказанні!

Недзе зусім блізка праехаў цягнік, і табурэт пад Трухановічам нейкі час прыемна дрыжэў; святкуючы перамогу, тонка адзвінелі на стале і ў шафе слоікі-шкляначкі.

Пераканаў хоць крыху? Здаецца, так. Вось калі спатрэбілася, вось пры якіх умовах выручыла яго «пяцёрка», атрыманая па гісторыі КПСС! А яшчэ сямяліся з гэтага прадмету, так скептычна ставіліся да

яго — не разумеючы практычнай каштоўнасці яго…

— Добра, — ухвальна, з куды пабольшанай павагай у голасе сказаў малады. — Усё гэта так. Мы верым вам. Хаця, калі папраўдзе, не падобна, каб нешта было ў вас з галавою… Аднак забудзем. Хоць і запісаны вашы шкодныя трызненні на паперу, а гэта афіцыйны дакумент — забудзем, зробім выгляд, што іх не было. Вось, наце, можаце забраць іх сабе на светлую памяць, пакажаце якомунебудзь пісьменніку, раптам выкарыстае… Калі ж сур’ёзна, вы, наколькі я зразумеў, прыхільна ставіцеся да савецкай улады, да партыі бальшавікоў?

— А можна хіба інакш?

— Уступіць не жадаеце?

— Ніколі… маю на ўвазе ніколі не думаў, што варты такога гонару…

— Чаму? Вы пісьменны чалавек. У вас цалкам цвярозыя разважанні, даволі прыстойная — як для селянскага сына, канечне, эрудыцыя. Вы стаіце на цалкам правільных марксісцкіх пазіцыях.

Яшчэ б! — у душы пасміхнуўся Труханові́ч. — Проста ідэальны для вас бальшавічок! Мазгі чыстыя, настальгіяй па царызму не загружаныя…

— Калі хіба знойдуцца людзі, якія дадуць рэкамендацыю, — сказаў ён няўпэўнена ўголас, а пра сябе пацяшаючыся з гэтых клоўнаў, з гэтых блазнаў, над якімі адчуваў поўную сваю ўладу, бо праз тоўшчу дзесяцігоддзяў яму добра высвечвалася іхняя крывавая, трагічная і бясслаўная перспектыва.

— Падумайце, — раіў між тым малады. — А пакуль што — вось вашы дакументы, — ён працягнуў руку, і Партной адразу выхапіў з папкі і падаў яму некалькі паперак. Усё было загадзя падрыхтавана, аказваецца, проста час цягнулі камісійшчыкі, невядома на што спадзеючыся.

— І ў любы час будзьце гатовы, што вас выклічуць.

— Дык... А рука? — спалохана спытаў Трухановіч. — А нага?

Тады пажылы раптам падняўся і без слоў паказаў Трухановічу пустое рукаво.

— І без рук занятак знойдзецца ў савецкіх органах.

— Усё. Можаце ісці. Не сумняваюся, што мы хутка ўбачымся, — сказаў на развітанне малады. — І клікніце там наступнага.

— Я на хвілінку, — доктар, зашпільваючы гузікі халата, таксама выйшаў следам за Трухановічам на калідор.

— Наступны, — кінуў ён чырвонаармейцам, якіх ужо з дзесятак сабралася перад кабінетам. Шум, гам, смех сціхлі адразу. — Што ж вы так, — дакорліва, нават жаласліва ўпікнуў ён Трухановіча.

— А вы што? — груба адказаў Трухановіч.

## 3

Партной яшчэ пытаў штосьці. Але Трухановіч не звяртаў на яго ўвагі, вочы яго шукалі... І знайшлі. Яна стаяла ў кутку каля грубкі, у акружэнні шэрых гімнасцёрак. Чырвонармейцы, відаць, чапляліся да яе і жартавалі з ёю. Яна таксама ўбачыла Трухановіча і аж памкнулася яму насустрач, нібы прасіла ад яго абароны. Чырвонармейцы прыціхлі, расступіліся, даючы яму дарогу. Нехта прысвіснуў толькі — маўляў, дурным шанцуе.

— Свёкар там, на двары, з канём, — яна стаяла перад ім, ростам амаль роўная з ім, і глядзела яму проста ў вочы. Голас ў яе быў прыемны, толькі нейкі няроўны, нібы зараз бегла яна і задыхалася.

Раптоўная радасць ахапіла яго. Нарэшце Бог злітасцівіўся над ім, паслаўшы яму гэтую родную душу з невядома якога свету…

— Хадзем? — прапанавала яна і рушыла па калідоры, азіраючыся.

— Пачакай. Я спытаць толькі хачу, — Труханавіч паглядзеў на Партнога, які таптаўся побач. Той зразумеў адразу:

— Дык я на двор…

Нарэшце яны засталіся адныя. У Труханавіча была ўсяго якая хвілька часу. Ён баяўся, каб дзяўчына не спалохалася гэтай самасці, усё ж ён «ненармальны», «кантужаны», і не пайшла, таму гаварыў хутка:

— Скажы толькі, цябе не Нэлі… я хацеў спытаць, як цябе завуць?

— Ты і праўда не помніш? — Дарэмна ён баяўся, у яе голасе не спалох быў, а толькі нейкая дзіцячая цікаўнасць. — Нічоганічагусенькі?

— Так, трохі, — схлусіў ён.

— І як мы з табою гулялі — таксама? Я ж — Наста! Ну? Успомніў?

— Наста, — паўтарыў ён. — Таксама на эн… Дык мы гулялі з табою? Пастой! — яму прыгадаўся нядаўні кансіліумэкзамен. — Ты — тая самая жонка майго нібыта старэйшага брата? Які ў камбедзе?

— Ну, — вось тут яна ўжо спахмурнела, нібы якую непрыемнасць пачуўшы. — Трэба йсці. Хадзем! Чакаюць там, свёкар чакае…

Свёкар на двары каля воза размаўляў з доктарам. Доктару было холадна, ён і нагамі перабіраў, і плячыма пацепваў, і каўнерык халата на шыі сцягваў, а, адказваючы дзядзьку, не на яго пазіраў, а на клункі на возе. Дзядзька ўсё дапытваўся — «дык а ці палепшала

сыну хоць трохі?»; не даходзіла да яго: як жа так, вучоныя дактары, ваенны шпіталь, і лекі, і інструменты, і дагляд — а не змаглі чалавека да ладу давесці.

— Хіба ён адзін тут такі? Людзей многа ж ляжыць, уга колькі…

— Вось і яно, што адзін, — адказваў Партной, цярплівасцю заслугоўваючы хабар. — Не, кантужаных, канечне, многа. Але з вашым сынам надзвычай рэдкі выпадак... Яму здаецца, што ён жыў не раней, а пазней… Прынамсі, мне ён так расказваў…

У каторы раз слухаючы гэта, дзядзька тым не менш нічога не разумеў. Толькі ўздыхаў цяжка і гаварыў — заўсёды адно й тое ж, з пакорлівай інтанацыяй: «Вось пакараў Бог за нешта...»

І цяпер зноў сказаў:

— За што караеш…Усё было як у людзей, здаецца…

— Але праходзіць! Намнога лепш ужо.

— А нас не ўспомніў? — спытаўся дзядзька з надзеяй .

— Не.

Тады дзядзька азірнуўся, як бы саромеючыся чаго ці баючыся, што іх могуць падслухаць. Спытаў напаўголаса:

— А ён не… Не зробіць над сабой чаго? Сярод людзей жа будзе жыць… Не страшна з ім?

— Ну што вы! Ён зусім адэкватны… Спакойны, — паправіўся Партной, — ціхі. Прыдумляе сабе нешта, фантазіруе, дык гэта зусім не страшна. Я б сказаў, нават цікава… Месцамі вельмі цікава!

У гэты момант выйшла з барака Наста, за ёю Трухановіч.Спусціліся з ганка, падыйшлі да воза.

— Вы пакрыўдзіліся? — сказаў Партной да Трухановіча.

— Я не мог не запрасіць іх, паверце.

— Таму што ў вас дзеці?

— Не зразумеў…

— Ну, гэта гаворыцца так. Не мог паступіць інакш, бо ў мяне сям’я, дзеці… А што, праваліў вам спектакль? — спытаў Труханович. У ім жыла яшчэ горыч, прыкрасць ад таго, што некалі, слабы, змучаны пасля аперацый, напаўзвар’яцелы ад сваёй метамарфозы, ён паверыў гэтаму чалавеку, адкрыўся яму. — А вы, нябось, на поўным сур’ёзе чакалі, што я пачну байкі баяць вашым гэбэшнікам? Пра другую сусветную вайну, ды пра тое, што вы Гарэцкага неўзабаве расстраляеце, а за кампанію і яшчэ сотні чатыры пісьменнікаў… А можа, пра мінскае метро? Ці пра тое, як вы ўвапрэце свайго Леніна, як мумію, як чучала, як паганскага ідала — у маўзалей? Ці пра Сталіна з Хрушчовым?

— Цішэй, цішэй, навошта прозвішчы…

— Каб вашыя асістэнты давялі мяне пасля да бліжэйшага падвала і там мне кішкі на локаць пачалі матаць?

— Цішэй, што вы!

Партной аж пасінеў, бедны, і ад холаду і ад страху. Рукі паціраў, параю дыхаў, але ў шпіталь ісці і не збіраўся. Што да дзядзькі, дык той выслухаў маналог кантужанага сына спакойна, уважліва, з разуменнем; хворы на галаву чалавек і павінен гаварыць абышто, як жа іначай.

— Ну, паехалі памалу… Ідзіце на вуліцу, — загадаў ён Трухановічу з нявесткаю. Вароты былі вузкія, акурат падводзе праехаць, і ён баяўся зачапіцца за шула колам, таму і не хацеў, каб сядалі на воз тут.

Ён ужо і за лейцы ўзяўся. А Партной усё чакаў.

— Вось жа галава дзіравая…

Прыгнечаны сынавай кантузіяй, толькі цяпер успомніў «бацька», што звычайна ж адзячваюць людзей у такіх выпадках, тым больш такога харошага доктара, які вунь як яшчэ прыгадзіцца можа... Клунак з воза зняў. Партной інстынктыўна пацягнуўся рукою, каб забраць. Але дзядзька не адразу аддаў, а з прадмоваю:

— Не крыўдуйце, калі мо што не так... Што людзі даюць, тое і мы. Грыбы, уюны, сала трохі, яек...

— Усё добра, дзякую, дзякую! — казаў Партной, чырванеючы і разам з тым ледзь не вырываючы клуначак.

На вуліцы «бацька» памог Трухановічу ўзабрацца на воз, сесці на папярочную дошчачку. Сам сеў побач, Наста размясцілася ззаду на ахапцы сена.

— З Богам! Вось і добра, — упаўголаса сказаў «бацька», калі паехалі; не так да нявесткі з «сынам» звяртаўся, як, мабыць, суцяшаў сам сябе. — Нічога, добра з’ездзілі... І цябе забралі, і з Партным разлічыліся... Усё палюдску...

Распагодзілася. Пахкае вераснёвае паветра, з якім мяшаўся дым з комінаў, п’яніла. Сіняе чыстае неба — хоць і без сонца яшчэ, доўгая вуліца, трухканне коніка, шастанне сена ззаду, калі варушылася, ямчэй уладкоўвалася Наста...Усё было як сон, ці, лепш сказаць, як кіно, як нейкі віртуальны стэрэафільм, у якім Трухановіч з’яўляўся і гледачом, і ўдзельнікам адначасова. Моўчкі, прагна ён углядаўся ў хаты, двары, у людзей, якія хто пехам, хто як яны — канём, то абганялі іх, то цягнуліся насустрач. Якое чужое ўсё! Без аўтобусаў, машын, без вітрын магазінаў, без шматпавярховак, без асфальтавай шашы горад быў не проста чужы — Трухановіч не пазнаваў тут анічога абсалютна, і калі б апынуўся зараз адзін, дык, мусіць, давялося б распытваць дарогу. Ён не адразу пазнаў нават высокі жоўты будынак царквы, а толькі тады, калі бацька на хаду перахрысціўся на яе. Ды яшчэ на самым выездзе з мястэчка сёетое пачало ўсплываць у памяці. Рэчка і мосцік праз яе. Вось гэтую рэчку з крыху

нечаканай, балгарскай назвай — Пліска, і ўспомніў Трухановіч, ды яшчэ — дубовы лес, ужо за мястэчкам, па шляху на Мозыр.

Тут «бацька» спыніўся, з крэктам злез долу і за аброць павёў каня з дарогі, пад дубы. Размясціліся на пагорку. Было суха, пахла прэлым лісцем. Трухановіч заўважыў, як пасля бальніцы абвастрыўся ў ім найперш нюх, наколькі вастрэй пачаў разлічаць ён пахі — проста галава плыла.

— Ну, давайце, каб усё палюдску, — распарадзіўся «бацька». Нельга было не звярнуць увагі, што трошкі больш, чым трэба, казырае чалавек гэтай «людскасцю», нават злоўжывае, як бы ва ўсім яму хочацца быць падобным на іншых — у любой, відаць, драбязе ён найперш правяраўся тым, а як бы на яго месцы паважаныя ім людзі рабілі?

Наста тым часам развязала клунак, падобны на той, які аддалі Партному. На чыстую белую палатняную анучку пачала выкладваць сала, хлеб, цыбулю, яйкі — асобна сырыя і вараныя, соль, бурачковага колеру хрэн у слоіку... Так жыва нагадала ўсё гэта Трухановічу Паску ці Радаўніцу! Восень і вясна ўвогуле часта бываюць падобныя на нейкіх этапах і пахамі сваімі, і пагодаю, і прыродаю, а тут яшчэ і гэты бураком зафарбаваны хрэн, нязменны на Паску ці на Радаўніцу, і гэтыя яечныя шкарлупкі, і булькание самагонкі па чарачках... Дзядзька напоўніў іх так: сабе і «сыну», як мужчынам, больш, а нявестцы менш за трацінку.

— Ну, каб людзі нічога благога не думалі! — урачыста сказаў дзядзька. Аднак і ён, і Наста ўсё ж марудзілі, нібы чакаючы, ці не захоча яшчэ дадаць чаго Трухановіч.

Варта было б зрабіць гэта, сказаць хоць бы штосьці накшталт «дзякую, што вы, чужыя людзі, падабралі мяне; пастараюся не сядзець у вас сіднем на шыі» і таму падобнае. Але Трухановіч, з уздыхам апусціўшы вочы на скалечаную руку, сказаў інакш:

— Не ведаю, куды вы зараз сабраліся мяне вязці, як і не ведаю, які з мяне будзе вам памагаты. З гэтым трэба альбо змірыцца, альбо…

— Ды хто ж цябе гоніць? — здзівіўся, нават пакрыўдзіўся «бацька». — Не жабракі, дзякаваць Богу, не старцы якія. Не аб’ясі. Ты ж не самахоць скалечыўся, за нас кроў праліў…

Ды не праліваў я ніякай крыві! — хацелася крыкнуць Трухановічу. Але ён толькі заплюшчыўся і пакорліва і адначасова пакутліва выпіў усё да дна.

**4**

«Ну што? Прачытаў?»

Трухан з Ведрычам сядзелі па абодва бакі стала. Пасярэдзіне ляжаў рукапіс. Трухану відаць было толькі першую старонку, усю скрэсленую, у заўвагах, пазнаках, надпісах паверх радкоў, з мноствам разлапістых рымскіх «пяцёрак»галачак на палях. І страшна было на яе пазіраць, і разам з тым Трухан не мог адараваць ад яе вачэй.

А Ведрыч, выпрабоўваючы чужое цярпенне, спакойна курыў, марудна зацягваўся, паволі выпускаў дым.

«Нашто ты гэта пішаш?» — прамовіў ён нарэшце.

«Ды ўжо ж не дзеля ідэі, не дзеля пошукаў станоўчага героя, — заспяшаўся, нібы толькі такога пытання і чакаў, Трухан. — Калі шчыра, мне проста трэба пазбавіцца ад гэтага наслання — ад другога свайго жыцця, скінуць з сябе гэты дурман, разгрузіцца хоць такім чынам — проста запісаўшы яго на паперы!»

«І дзе ты сабраўся гэта дзяваць? Нясці ў друк? Ці ўсё ж у стол?»

«Якая розніца?»

«Вялікая. Калі пішацца для сябе, для сяброў, ці, скажам, для ўласных будучых сямейнікаў, што збяруцца доўгім зімовым вечарам каля агменю, павыключаюць тэлевізары, кампутары, запаляць свечкі… Сівы, з захутанымі пледам нагамі, паважаны бацька сямейства — Алесь Трухан —сядзіць у крэслекачалцы, калываецца, як манекен, самы меншы ўнук разгортвае зашмальцаваны аблуплены агульны сшытак і, пракашляўшы горла, звонка заводзіць: «У сваю апошню ноч у гэтым шпіталі і ў гэтай палацe»…

«А ты ўмееш распісваць! Сам не спрабаваў прозу?»

«Я яе цярпець не магу, вашую прозу. Гэта — зямля, у той час як паэзія — неба! Азарэнне, бліск маланкі, міг салодкага трансу… А проза! Штосьці неверагоднае для нармальнага чалавека — з дня ў дзень, з году ў год адно й тое…»

«Нуну, — астудзіў яго Трухан, і разам з тым прыемна яму было, што і яго Ведрыч адносіць да празаічнага цэху. — Бліжэй да тэмы, калі ласка».

«Бліжэй да тэмы, — паўтарыў, каб не губляць думку, Ведрыч. — Помніш, тады, на балконе, я казаў, што чакаю твора, за які аўтар гатовы быў бы пайсці ў турму, нават на смерць? Згодзен — гэта мо і залішне. Але для цяперашняй прозы, увогуле для цяперашняй літаратуры крытэрыі павінны быць зменены, планка павінна быць паднятая на максімум: пісаць, ці хоць бы старацца пісаць так, каб не прыняла ніводная афіцыйная рэдакцыя. Бо гэта не твор, калі яму аўтаматычнае зялёнае святло нават не на скрыжаваннях, а на роўнай вуліцы. Сапраўдны твор павінен парасткам падняць над сабою глыбу бетону, прабіцца, узмужаць… У цябе такі твор? У ім дастаткова жыццёвай сілы?»

«Ну і пытанне… Наўрад ці, канечне…»

«Вось бачыш! Вось усе вашыя прэтэнзіі, усе вашыя вяршыні. Навошта ордэн? — пагаджуся на медаль. Значыць, свядома пішацца прахадны твор? З разлікам

на рэдакцыі?»

«Ды якія рэдакцыі?! З мяне цябе аднаго пакуль вось так хапае. Хаця... Ведаеш, ты мне зараз адкрыў вочы на адну рэч цікавую... Што самае цяжкае ў літаратуры — гэта, аказваецца, не застольнае забіванне часу, не пошукі патрэбнага слова, не абкатка стылю, не біццё над гармоніяй формы, не іншыя, у прынцыпе абавязковыя і пасвойму салодкія «пакуты», а момант развітання з рукапісам, калі трэба аддаваць яго ў чужыя рукі і на чужыя вочы; дарагое, любімае дзіця, якое выпесціў, выгадаваў, родная крывінка, сябе частка — і раптам чамусьці трэба вясці яго «ў людзі»! Цягнуць у нейкія рэдакцыі, дзе ніхто і ўяўлення не мае, нават і ведаць не захоча, як гэтае дзіця расло, як хварэла, колькі давялося разам з ім перажыць, — а будуць толькі распранаць яго, ды абмацваць, ды разглядваць, як на медыцынскай камісіі...»

«У сэнсе, галачкі на палях ставіць?» — спытаў Ведрыч.

«... А яно — аглушанае, спалоханае, будзе толькі азірацца ды хныкаць, просячы дапамогі...»

«А ты паэт, аказваецца!»

«А ты — празаік, — не астаўся ў даўгу Трухан. — Дык што, можа, пярэйдзем уласна да...»

«Ужо перайшлі. Дарэчы, як ты ставішся да падобных збегаў?»

«Аніяк. Дзядзька, што пераехаў на кані брод, не стане ж клапаціцца пра збегі зычных і галосных, а крыкне на другі бераг: «Ужо пераехаў!», і павер — і жонка, і кум, і сват і брат выдатна яго зразумеюць і заўваг яму рабіць не будуць...»

«Два плюсы паставіць магу, — сказаў раптам Ведрыч і Трухан не адразу зразумеў, што гэта ўжо пераехалі да ягонага тэксту. — Першы — што шукаеш новых формаў, другі — што выбраў ракурс, які выключае гэтую гадкую стылізацыю, ведаеш, усе гэтыя штукі, калі «Рагвалод

насупіўся, а Рагнеда папраўіла на лебядзінай шыі каралі, а Міндоўг падпёр у задуменні галаву»… Тое, што ты выправіў у свабоднае плаванне па эпохах менавіта сучаснага героя, і яго вачыма збіраешся…»

«Мінусы, мінусы!» — перабіў, пачырванеўшы, Трухан, якога рэдка калі ў жыцці хвалілі.

«І мінусаў два. Праўда, доўгіх, як злітыя пункціры. Па-першае, што за манера не ўказваць аўтарства пад эпіграфамі?»

«Таму што кожны адукаваны чалавек ведае іх са школьнай праграмы, павінен ведаць, прынамсі; а той, хто не ведае — дык навошта такі чытач?»

«Другое — як ты справішся з факталогіяй? Як будзеш апісваць побыт, характары… маўчы! Ведаю, што скажаш, што табе сніцца ўся гэтая лухта, а ты толькі механічна яе занатоўваеш... Дык вось, можаш не старацца, у мяне такія нумары не праходзяць. Адно табе напаследак параю — не збіся на творы іншых пісьменнікаў на гэткія ж тэмы, бо, сам таго не хочучы, пачнеш паразітаваць на іх, у лепшым выпадку парадыраваць... І яшчэ пытанне: пад каго ты ўвогуле пішаш?»

«Як гэта?»

«Я да якога пісьменніка цябе ні прымяраю, усё ты вылузваешся, наравішся, не ўкладваешся…»

«Аа, дык у цябе такія крытэрыі? Самыя прымітыўныя — параўнанні? Каб абавязкова было пад кагосьці? А ты не дапускаеш, што я — новы? Я — прыйшоў!» — гарачыўся Трухан.

«Чужое... Так з цябе гэтыя цытаты і пруць, так і сыплюцца… Ты ж начытаны, праўда?»

«Паляжаў бы ты з маё па бальніцах, яшчэ б не так начытаўся…»

«…Трухан, устаньце! Трэці раз да вас звяртаюся! Чым

вы там займаецеся?!»

Трухан устаў зза парты, лыпаючы шырока расплюшчанымі і адсутнымі, як у лунатыка, вачыма. Ніякага Ведрыча не было ў паміне. А была аўдыторыя — вялікі, напалавіну запоўнены студэнтамі і студэнткамі дзвюх груп клас, з будкай кафедры каля дзвярэй, з шэрай школьнай дошкаю на сцяне. З першага раду, павярнуўшыся, глядзела сюды, на «камчатку», Нэлі — пазірала на Трухана акурат такімі ж вачыма, як і яго гераіня Наста на свайго кантужанага дзевера.

А перад Труханам — па іроніі ці па заканамернасці лёсу стаяла выкладчыца беларускай літаратуры, таго самага прадмета, якім ён усю амаль лекцыю сам з сабою забаўляўся і які на іспытах ледзь выцягваў на дохлую «троечку»; зрэшты, выдатнікам яго цяжка было назваць і па ўсіх іншых дысцыплінах.

Вольга Сяргееўна ведала гэта. Яна стаяла цяпер перад Труханам і паляпвала па далоні ўказваю, спецыяльнай такой шарыкавай ручкай, што выцягваецца на манер антэны.

«Дазвольце пацікавіцца: што ў вас ў сшытку? Што вы так старанна запісвалі? Вы ж галавы не адрывалі ад яго цэлую лекцыю!»

Трухан загарнуў сшытак. Потым на вачах выкладчыцы паклаў яго ў сумку. І ўсё гэта моўчкі. А і праўда, — падумаў ён, — чым я тут займаюся, на што час марную, калі мне, можа, жыць два панядзелкі засталося…

Ні слова не кажучы, ён устаў. Узяў сумку, выбраўся на праход і як ні ў чым не бывала, як так і трэба, пайшоў сабе да дзвярэй.

«Трухан, вы што? — пачулася ззаду разгубленае. — вярніцеся! Я…»

Стукнулі дзверы і ўсё сціхла.

А які быў снег на вуліцы! Якое сонца! Якое марознае паветра! І як не хацелася ісці па гэтым чыстым

скрыпучым белым сняжку да шэрага, змрочнага, скразнякамі прадзьмутага інтэрнатаінкубатара, у камеруклетку, да вечнай адзіноты...

Карацей, Ведрыч — не ўяўны, не ў сшытку прыдуманы, а сапраўдны, аб’явіўся толькі дні праз тры, вечарам. Дастаў з кішэні кажуха хурміну, з другой — другую, моўчкі паклаў на стол; такія вялікія, цёмнааранжавыя, з пражылкамі спеласці заморскія плады сярод зімы. Трухан, чамусьці падумаўшы, што зараз пачнецца між імі дыялог кшталту таго, змадэляванага ім на лекцыі, спытаў:

«Ну як? Многа заўваг?»

«Пра што ты? — здзівіўся Ведрыч. — Аа, пра сваю пісаніну? Ведаеш, я не чытаў. Нават папкі разгарнуць не паспеў. Зараз раскажу. Вяртаюся тады ўночы ад цябе, тут шах — у прахадным двары трое, засланяюць дарогу. Адзін за сумку, помніш, у мяне была такая афіцэрская («ахвіцэрская», вымаўляў Ведрыч). Ах, ты, думаю! Размахнуўся, яаак умазаў гэтай сумкай па галаве! Ён з капытоў, сумка адарвалася, тыя ўцякаць, я за імі!.. Не здагнаў. Вяртаюся — ні таго, ні сумкі. А там грошы, дакументы, вершы... Папка твая. Асабліва літфондаўскага білета шкада. Прыгожы такі».

«А вершаў?» — смеючыся, спытаў Трухан.

«Вершаў таксама, я ж іх не запамінаю».

Шкада было, канечне, і Трухану папкі. Але ў адрозненне ад Ведрыча ён помніў кожнае сваё слова напамяць, нават у якім месцы ў рукапісе яно стаяла. Ды і навошта яму тэкст? Нікому больш ён яго паказваць не збіраўся. Толькі падумаў, што вось яшчэ і такая — практычная — карысць можа быць ад роднай літаратуры: гэта ж яго папка і Ведрычавы вершы фізічна, у прамым сэнсе памаглі адбіцца ад нейкіх прыдуркаў!

**5**

*«…З усіх законаў Прыроды, магчыма, самы найлепшы — выжыванне слабага»*

Яшчэ дні праз тры — субота якраз была, Трухан ляжаў на засланым ложку, абапіраючыся на локаць, перад разгорнутай на семнаццатай старонцы кнігаю «Ідыёт», што служыла яму не так пастаўшчыком ежы духоўнай, колькі ў якасці медыцынскага дапаможніка — ён адсочваў паводзіны хворых герояў і са сваімі іх параўноўваў.

Ды нешта не йшло чытанне. На філасофію цягнула. Лезла розная дрэнь у галаву. Нейкая містыка, нейкія сімвалы бачыліся яму і ў назве кнігі, і ў лічбе старонкі — з сінім бібліятэчным штэмпелем знізу («семнаццаць год — вясна, каханне…»), на якой яго так безнадзейна тармазнула, а найбольш — у самой цяперашняй сітуацыі. Ігарава дзяўчына — можа, тая самая, якой ён ногі закрываў капаю, калі прыводзіў сюды Ведрыча, можа, другая — сноўдалася, ляпаючы дзвярыма, то ў пакой, то на кухню, гатавала вячэру, пакуль сам Ігар у кіно, ці ў кавярні, ці проста па горадзе з яшчэ адной дзеўкаю гуляе. Вернецца Ігар, вясёлы, аб’явіць, што галодны, вячэраць сядуць, Трухана пазавуць за кампанію… Ну, не дзіва?!

І рэч не ў тым, што ў Ігара дзве іх, ці некалькі, гэтых дзевак, а ў мяне ніводнай, — думаў Трухан, ямчэй у ложку ўкладваючыся, — і не ў тым, што Ігар мае такое шчасце, як ведаць, што яго заўсёды чакаюць і вячэру яму гатуюць...

Якраз зайздрасці да Ігара ён і не адчуваў. Тут хутчэй наадварот, «мела месца» нейкае мазахісцкае задавальненне — ад нармальнасці рэчаў, ад правільнага іх падзелу, як у тым анекдоце: чорным чорны хлеб, белым — белы… Калі б, інакш кажучы, Ігару ўздумалася раптам падзяліцца з ім сваім гарэмам, і самі наложніцы не пярэчылі б — дык ён, Трухан, быў бы супраць і такога

дарунка не прыняў бы.

Кожны хай ведае сваё месца і займае толькі яго — згодна з прададзеным Лёсамкасірам плацкартным білетам. Бо інакш што ж атрымаецца? Хаос, бардак, неразбярыха! А так усё правільна. Прырода сама сябе аберагае. Натуральны адбор, выжыванне мацнейшых, калі не паляпшэнне пароды, дык хоць бы захаванне яе, — філасофстваваў, лежачы ў прагнутым студэнцкім ложкуначоўках, Трухан. Да таго за сваё адносна невялікае жыццё быў ён выматаны сіроцтвам, адзінотаю, хваробамі, няўдачамі, настолькі ўжо звыкся з гэтым сваім пастаянным — аж да непрыстойнасці — няшчасцем, што пачаў прымаць яго за належнае, як субстанцыю, пачаў нават насіцца з ім, цаніць яго — так, як іншыя носяцца і цэняць у сабе ўдачлівасць, талент, здароўе…

Ды і што значыць: шчаслівы — нешчаслівы? Ці не такі ж гэта натуральны падзел, як і на людзей высокіх і нізкіх, на мужчын і жанчын, на дзень і ноч… Не будзеш жа так ставіць пытанне: хто лепш — мужчына ці жанчына? Яны роўнавартыя, каштоўныя кожны ў сваёй «вагавай катэгорыі»… Дык ці не азначае гэта, што і ён, г.зв. «няшчасны» Трухан, зусім не горшы за г.зв. «шчаслівых» Ігара з Царашковым — проста яны з іншага «класіфікацыйнага разраду», розныя ў іх плюсы і мінусы…

Яшчэ зручней улёгся Трухан у сваіх ночвах — ногі на біла, збітую ў камячок цвёрдую падушку — пад бок, і пачаў праганяць нядаўнія думкі па другім крузе, каб у памяці аформіць іх у кароткія, граматычнаправільныя сказы.

Не проста аказалася гэта пасля стылю аўтара «Ідыёта». Дарэчы — вось хоць бы і гэты Ідыёт, гэтае вечнае жаданне паказаць і даказаць, што толькі юродзіваму, дзіваку, хвораму можа быць справа да такіх абстракцый, як дабро, гуманізм, чалавекалюбства… Яшчэ б! Цяжка ўявіць вясёлага сангвініка, які займаўся б тым, чым цяпер Трухан займаецца. Які валяўся б днямі ў ложку, чытаючы кнігі, або марнаваў час, бяздумна сузіраючы

прыроду, або забіваў сабе галаву разборам паводзінаў «бліжніх сваіх», альбо — яшчэ горш: схіліўшыся над аркушыкамі паперы, з дня ў дзень выдумляў несапраўднае жыццё, калі вунь за вакном — сапраўднае, якім жыць трэба, усюды паспець, як мага больш ад яго ўхапіць…

А з іншага боку (ад мулкай падушкі ў Трухана балеў бок) — гэтыя гонкі па жыцці, вечная закручанасць, немагчымасць спыніцца, апамятацца — куды я бягу, чаго? — ці не абядняе яно? Хіба той жа Ігар, ці Церашкоў, умеюць так востра, як ён, Трухан, заўважаць і, галоўнае, з такой паўнатою цаніць розныя маленькія чароўныя дэталі — такія, як пах яблыка белага наліву ці бледнафіялетавых кветачак бэзу, як хрумстанне лядком зацягнутай сакавіцкай калюжыны пад нагамі, як сіні налёт туману на шапцы позняга восеньскага грыба?… Хіба могуць яны заплакаць над кнігаю, над эпізодам фільма? Хіба так як ён, Трухан, радуюцца яны кожнаму новаму дню, і вечару, і ночы — асабліва ночы! — калі падрыхтаваны кубак гарбаты і пачак цыгарэт, і кліча да сябе, і так просіць першага дотыку ручкі непачаты стос паперы, што «белай плямай лёг на стол»?…

Хіба гэта ў Ігара ў каштоўных запасніках памяці ўспамін пра дзяўчыну, што сядзела аднойчы ў паліклініцы каля працэдурнага кабінета, насупраць Трухана, і вачэй з яго не зводзіла, а ён не заўважаў яе, і тады яна паднялася, сама падыйшла да яго і сказала — з дакорам у голасе: «А я, між іншым, пра вас думаю!»; хіба не пераважыць гэты эпізод, калі пакласці яго на шалі значнасці, усіх разам узятых Ігаравых дзевак?..

Канечне! — затое Ігар не ведае і ценевых бакоў. Безбацькоўшчыны, па чужых людзях туляння, у дзяцінстве цукерак ды капеек на кіно адсутнасці… Не ведае ні бальніц, ні кропельніц, ні рэнтгэнаў, ні наркозаў… Ні таго, што — калі ты падрос ужо — дзяўчына танцаваць не йдзе з табою, бо ў цябе няма джынсаў і што ты ў арміі не служыў… І адной сотай не ведае гэтага Ігар, бо ён жа для іншага ў свет прысланы — для паляпшэння пароды. Таму і ашчаджае, і беражэ

лёс такіх, як ён. Ды і куды Ігару выпрабаванні! Зломіцца ад драбязы, на якую прывыклы, трэніраваны, закалёны Трухан увагі не звярнуў бы, сап'ецца, звар'яцее, самагубствам, чаго добрага, скончыць…

Гэта нам грузі пабольш— вязі падальш, гэта нас таўкуць, а мы мужнеем! — з горкім гонарам думаў пра сябе Трухан, пакуль не апамятаўся: пры чым тут Ігар?! Пачалося ж з таго, што зайздрасці да яго ён ніякай не адчувае… І вось кола, даўшы круг, з другога боку пад'ехала.

Так. Трэба не дурыць сабе галавы, а прызнаць шчыра: ні ў гэтай сітуацыі, ні ў гэтым жыцці сам чорт нічога не разбярэ. Настолькі яно ірэальнае, незразумелае, нелагічнае, што міжволі пацягне схавацца ад яго — хоць у больніцы ці ў шпіталі, хоць пад коўдрай з галавою, хоць між старонак гэтага «Ідыёта»… А сама лепш — «у снах», у творчасці, дзе ўсё табе падуладна, усё зразумела, дзе адным чароўным дотыкам пяра можна атрымаць усё, што пажадаеш, усё, чаго пазбаўлены тут, у гэтак званым жыцці «рэальным»...

Дадумаць яму не далі нечыя чужыя галасы, а потым цяжкія крокі і стук у дзверы.

Трухан павярнуў галаву і ўбачыў у дзвярах міліцыянера. Міліцыянер быў рыхтык такі ж, як яны і бываюць — класічнакіношны, у кажусе, падперазаны рамянём, з папкаю ў руцэ. Нават прозвішча, калі міліцыянер, пераклаўшы папку з левай рукі ў правую, казырнуў і назваўся, аказалася ў яго з канчаткам на ка — Піліпенка, ці што, Трухан не запомніў, запомніў толькі, што гэта ўчастковы.

Ён падняўся з ложка. Участковы пратупаў, пакідаючы мокрыя сляды, да стала і прысеў на табурэтку, тварам да дзвярэй, папку сваю разгарнуў і паклаў на калена. Дзяўчына ў дзвярах пазірала на яго з разяўленым ротам, выціраючы слёзы з вачэй; у адной руцэ ў яе быў нож, у другой — недалупленая цыбуліна.

«Распішыцеся ў атрыманні павесткі, — стомлена сказаў

участковы. — У панядзелак з'явіцца ў пракуратуру. — І дадаў, апярэджваючы Трухана: — Чаму — не ведаю».

Участковы ўручыў яму позвачку і пайшоў. Іншым разам Трухан толькі палюбаваўся б на яго, адклаў бы ў памяць, што вось такім і павінен быць міліцыянер — ветлівым, не назолам... Каб не шэрая паперчына ў руцэ. Каб не гэтыя «граждананину», ды «вы обязаны», ды «в случае неявки...»

**6**

Чаму пракуратура? Чаму павестка ў суботу, а з’явіцца ў аўторак? І толькі потым, і толькі на трэцім месцы — «за што»?

І вось жа ж натура чалавечая! Здавалася б — што яму, такому хвораму, перад такой страшнай, хуткай аперацыяй, яму, які столькі часу тое і робіць, што рыхтуе сябе да заўчаснай смерці — што яму да гэтага шэрага аркушыка паперы?! Ды парві і выкінь, зрабі тое, што на нядаўняй лекцыі зрабіў, калі, нікому нічога не тлумачачы, проста падняўся ды пайшоў! Будзь свабодным, плюнь на ўсё, думай, як і да гэтага думаў, як бы і не адбылося нічога, пра важнае, пра галоўнае...

Ды вось не атрымоўваецца нешта.

Ці гэта яшчэ адна загадка псіхікі — такім чынам ратавацца, драбязою перабіваць галоўнае? Як той прыгавораны да гільяціны жартаўнік, што адмовіўся ад прызначаных перад пакараннем цыгарэты і келіха віна — на падставе, што алкаголь і нікацін шкодзяць здароўю.

Круціш у руках гэтую шэранькую дрэнь, перачытваеш, спакою яна не дае табе, трывожыць цябе, думаеш пра яе, ловіш сябе на тым, што баішся яе, і раздражняешся, і злуешся, што можаш надаваць ёй такое значэнне, і разумееш урэшце, што пануе ўжо яна над табою, над тваімі думкамі і пачуццямі, і няма зладу з ёю...

А то грахі і грашкі свае перабіраць пачынаеш. І сярод іх — на поўным сур’ёзе, як цалкам дапушчальны — і той, што выклікаюць яго ў пракуратуру, бо дэманстратыўна з лекцыі сышоў.

Ноч амаль бяссонная… Увесь выхадны па горадзе блуканне, як бы апошні раз яго бачыш… Катаванне сябе markdownрознымі здагадкамі, ды гіпотэзамі, ды домысламі…

І толькі ў панядзелак пад вечар Трухан супакоіўся. Да таго часу ён ужо разумеў сёетое. Напрыклад, чаму спатрэбілася такая паўза паміж суботаю і аўторкам — паміж уручэннем павесткі і яўкаю: а каб пахадзіў, падумаў, паперажаваў… Як і тое, чаму не трэба аб’яўляць загадзя, навошта яго выклікаюць: а сам здагадайся. Сам прыдумай штонебудзь! Гэткі псіхалагічны момант, закладзены ў будучае пакаранне — як кошт пасцелі і шклянка гарбаты аўтаматычна закладваецца ў кошт чыгуначнага білета.

У тую ноч ён добра выспаўся. І калі ўстаў, галава была светлая. Сам ранак, які быў за акном, супакойваў. Такімі ранкамі, калі марозік, сонца і адначасова ідзе сухі рэдкі снег, нічога кепскага не павінна здарацца з людзьмі. І ён напярод ужо ведаў, што і з ім нічога не здарыцца. Сваю «кару» ён ужо адбыў за гэтыя двое сутак. Ды і ўвогуле — пачало здавацца яму, што няйначай закралася ва ўсю гэтую гісторыю памылка. Недарэчная, прыкрая, яна каштавала яму, канечне, крыху нерваў, але нічога страшнага. Ні на кога ён не ў крыўдзе, а нават удзячны лёсу ў асобе пракуратуры за гэты штучны ўсплеск эмоцый, які, будзем шчырыя, прымусіў яго ўспомніць і такое, аб чым успамінаць не заўсёды прыемна.

Дарогу ён добра вывучыў яшчэ за выхадны, калі бадзяўся па горадзе. Вуліца Інтэрнацыянальная. Кінатэатр «Перамога». Драўляныя высокія цяжкія дзверы. Каб адчыніць іх, трэба было прыкласці сілу. Трухан прыклаў яе і апынуўся ў вестыбюлі ўстановы — з яе казённай гулкасцю, з яе паветрам, насычаным трывогаю і чамусьці пахам сургучу (як на вясковай пошце), са шкляной будкай дзяжурнага і круцёлкай-

турнікетам побач.

Трухан падаў дзяжурнаму павестку. Дзяжурны папрасіў не паказаць, а «прад’явіць» яшчэ і дакумент. Потым доўга звяраў квадрацік фотакарткі двухгадовай даўнасці ў студэнцкім білеце з жывым Труханам, які зняў з галавы шапку і, успомніўшы фільм «Афоня», жаласліва рассунуў губы ва ўсмешку. А самога ў сэрца кальнула — няўжо так моцна за гэтыя няпоўныя два гады ён змяніўся?..

«Праходзьце», — сказаў дзяжурны. Афіцыйнасць яго голасу здымала ўсе сумненні — ніякай памылкі няма, ён, Трухан, а не хтосьці іншы, тут патрэбен.

Ён падняўся на другі паверх. Доўгі калідор быў пусты. Уздоўж сцяны стаялі крэслы. Так пацягнула апусціцца ў адно з іх, нібы не два пралёты лесвіцы адолеў, а немавед якую дарогу. Да таго ж па звычцы, як да ўрача на прыём, ён з’явіўся роўна за пятнаццаць хвілін да патрэбнага часу і цяпер меў запас.

Аднак той жа бальнічны вопыт падказваў яму, што ніколі не варта адцягваць, і, «пакуль няма чаргі», карыстацца момантам. Чым хутчэй наважышся, тым лягчэй потым. Ён пастукаў у дзверы і без запрашэння ўсунуўся ў кабінет.

У кабінеце сталоў было тры, але толькі за адным з іх сядзеў малады чалавек, у звычайным цывільным касцюме, з вусікамі, — і дзюбаў адным пальцам па клавішах пішучай машынкі. Зза гэтага, відаць, і не чутно было стуку ў дзверы. Не адрываючыся ад свайго занятку, вусаты падбародкам паказаў Трухану на табурэт з другога боку стала.

«Праходзь, прысаджвайся», — і зноў за сваё дзюбанне.

Трухан прысеў. Не забываць нічога, сарціраваць, раскладваць па шуфлядках памяці! Як вось гэтае «прысаджвайся» замест звычайнага чалавечага «сядай» — каб не сурочыць, бо сесці, паіхняму, можна толькі ў турму; нібыта боязь ці нежаданне пакрыўдзіць

словам, а на самой справе гэткая здзеклівая даніна «фені», вытанчанавычварнамянтоўская далікатнасць, арыя з той самай оперы, паводле якой, адабраўшы ў п’янага грошы (расказвалі людзі), зняўшы гадзіннік, вянчальны пярсцёнак і нацельны крыж, — словам, абчысціўшы дарэшты, — абавязкова пакінуць пару цыгарэт з запалкамі і драбязу на талончык…

Вусаты дзюбаў сабе і дзюбаў, манатонна, праз аднолькавыя паўзы, аж па мазгах біла. Трухан цярпліва чакаў. І ад няма чаго рабіць употайкі разглядваў памяшканне і гаспадара — разглядваў і дзівіўся: якая ж, аказваецца, небяспечная рэч літаратура! Не паспеў напісаць ён пра свайго Трухановіча — калі ласка, сам атрымоўвай, — і табурэтку, і казённы кабінет, і следчага, і магчымы скоры пратакол. Раптам ён убачыў на краю стала… сваю папку.

«Твая?» — спытаў вусаты, працягваючы дзюбаць.

«Мая… А адкуль…», — яна ў вас, ледзь не вырвалася ў Трухана, ды ў час апамятаўся. Хто, як не ён, па студэнцкай звычцы, як на канспектах, уласнай рукою запісаў на адвароце папкі ўсе свае дадзеныя: і прозвішча, і адрас, і нават нумар пакоя.

Вусаты меў талент рабіць дзве справы адразу, плюс яшчэ бачыць чалавека, зусім на яго не пазіраючы.

«І што ты там напісаў? Чаго выклікалі?»

«Не ведаю… У сэнсе, што напісаў, ведаю, а чаго выклікалі…»

«Супраць улады штось? Ці парнаграфія?» — нечакана спытаў вусаты.

Ну, канечне. Што ж яшчэ для іх можа лічыцца крамолаю? Трухан асмялеў.

«Можна і так сказаць…»

«Сур’ёзна? — вусаты аж на машынку, на дзюбанне сваё важнае забыўся. І ўпершыню падняў на Трухана вочы. У

іх была цікавасць. — Не, праўда парнаграфія?»

«Хутчэй у пераносным сэнсе. Калі мастацкі твор няўдалы, дык можна яго і такім словам назваць…»

Тут расчыніліся дзверы і ў кабінет хуткім крокам увайшоў чалавек. На хаду ён расшпільваў гузікі чорнага паліта. Штось вельмі знаёмае падалося Трухану ў яго абліччы… Ды гэта ж той самы! Паголены, з сумнай вінаватай усмешкаю, які маўчком прасядзеў усю нядаўнюю сходку на Фрунзе, 5; той, у каго ўсё дапытваўся Ведрыч, чаго ён сюды цягаецца, і ці не празаік ён, ці не драматург. І цяпер паголенасць была самай характэрнай дэталлю ў яго твары. Настолькі розніліся голеная частка ад няголенай, што, здавалася, пад носам, на барадзе і на шчоках прыклеена ў чалавека сіняватая маска.

Вусаты пры яго з’яўленні ўстаў. Але паголены, павесіўшы паліто ў шафу, да першага падаўся Трухана.

«Гэта не я спазніўся — вы раней прыйшлі, — сказаў ён, за руку вітаючыся. — Выбачаюся, рука пасля двара халодная… Вас я ведаю, а мяне завуць Іван Паўлавіч. Ды вы сядзіце!»

Што да вусатага, дык з ім Іван Паўлавіч нават рукацца не стаў. Яны абмяняліся позіркамі, пасля чаго вусаты паляпаў сябе па кішэнях — у адказ звякнулі ключы і зашамацелі запалкі — і выйшаў на калідор.

Адзінае, што чамусьці прыходзіла Трухану ў галаву, гэта тое, што адбываецца «кантрастны» допыт: злы, хамаваты адзін следчы — і добры і ўсмешлівы другі; штучка старая, як свет, як сама паліцэйскажандарска-міліцэйская сістэма… Але пры чым тут што? Ніхто ж яго не дапытваў, і яны абодва, здаецца, добрыя, вусаты і паголены… Да таго ж вусаты яўна ніжэй рангам у гэтай іхняй іерархіі. Галоўны тут, канечне, вось хто…

«Распрануцца не хочаце? — пытаў тым часам гэты «хто». — Не? Правільна, не Крым. Мой прынцып — абы чалавеку зручна было. А то навыдумляюць розных

умоўнасцей… Вось я, напрыклад, калі гарачую гарбату п’ю, дык сёрбаю, мне і смачней так, і губы не пячэ… Але што ты! Некультурна, непрынята, пальцамі паказваюць, — мякка, соладка гаварыў Іван Паўлавіч, як калыханку баяў. — Дарэчы, можа, гарбаты? Кавы? Тут ёсць электрачайнік, і ўсё іншае знойдзецца… Не? Тады і я не буду — за кампанію».

Іван Паўлавіч прысеў насупраць — нага на нагу, рукі складзеныя на жываце, на твары — тая самая, вінаватая і крыху сумная, усмешка. Калі вусаты за ўвесь час толькі раз зірнуў на Трухана, дык гэты наадварот — вачэй з яго не спускаў.

«Вам сказалі прычыну выкліку сюды? Не? Ну вось, такія ў нас парадкі! А чалавеку перажывай…»

«Я здагадаўся, — сказаў Трухан, ківаючы на папку. — Злавілі тых рабаўнікоў?»

«Ээ… чаму адразу рабаўнікі? — усклікнуў Іван Паўлавіч. — Усё цэлым засталося ў сумцы вашага сябра… Зрэшты, зменім тэму. На добры лад, не тут, — абвёў ён вакол сябе рукою, — не ў такіх умовах павінна было б адбывацца нашае знаёмства. Ды калі ўжо такая нагода з гэтай сумкай… Усё адно трэба было выклікаць вас, каб папку вярнуць, дык заадно ўжо, думаю, і пазнаёмлюся з чалавекам… Калі вы не супраць, канечне!»

«Ну што вы, — паддаўся на абмен ветлівай гэтай саладжавасцю Трухан. — Я вельмі ўдзячны за ўвагу, за павестку…»

«Размова наша будзе максімальна кароткая. Яшчэ раз выбачайце, што не па сваёй волі вы тут. Не здзіўляйцеся, — ён яшчэ больш памякчэў голасам, давёўшы інтанацыю амаль да кампанейскай, — але і не па маёй таксама».

Далей пачало адбывацца ўвогуле штосьці неверагоднае.

«Не будзем мы весці ніякіх пратаколаў — к чорту

афіцыёз. Не люблю, не прызнаю! Гэта ім там, — падняў угору ўказальны палец Іван Паўлавіч, —усё паперы падавай, канцылярыстам гэтым», — і Трухан у першы момант не зразумеў — нябесную канцылярыю ён мае на ўвазе, або сваю, зямную, што размешчана за які квартал адсюль. Калі апошняе, дык не проста смела з яго боку, а неяк... незвычайна, нават падазрона: хіба можна ім крытыкаваць начальства (хай сабе і ў «інтэрасах следства»), ды яшчэ пры сведку?!

«...Як дзеці малыя, яйБогу! Вечная падазронасць, усё ім мрояцца падкопы, загавары, дысідэнцтва... Прычым не столькі выкараняць усё гэта збіраюцца, колькі дзеля галачкі — паказаць, што і ў нас, як і ва ўсіх: свае незадаволеныя, свая апальная інтэлігенцыя», — не сунімаўся Іван Паўлавіч, казаў з нейкім вясёлым адчаем у голасе — маўляў, ведаю, хоць і ўляцець можа за гэта, але і маўчаць не магу: раз пайшла такая п’янка — рэж апошні агурок.

«...Хоць бы вас узяць. Збіраюцца маладыя, здольныя, задзірыстыя, пішуць сабе, выступаюць, агітуюць памаленьку... На здароўе! Дык што ты! Дзе ты бачыў!» — цяпер ужо да лёгкай горычы перайшоў Іван Паўлавіч, як бы палемізуючы, не згаджаючыся зараз з кімсьці — з тымі, хто яму, Івану Паўлавічу, гэты занятак прыдумаў, хто даручыў яму такую непапулярную місію; а так сам ён, Іван Паўлавіч, нібыта і ні пры чым, проста вымушаны цераз не хачу рабіць усё гэта для пустой справаздачы.

«...Кантроль ім трэба, адбор, селекцыя, назіранне ў дынаміцы... Не паспее праклюнуцца здольнасць у чалавеку, яшчэ невядома, што з яго атрымаецца, — а ўжо бягом апекаваць, бы тыя сем нянек: хаця каб правільнай дарогай пайшоў, каб не дай Бог шляху пакручастага, калдыбаністага, дэсідэнцкавыгнанніцкага не выбраў!..»

Трухан ужо надзею страціў зразумець хоць што-кольвечы. Так заблытаў, задурыў галаву гэты Паўлавіч. І чаго, з якой такой радасці на творчасць перакінуўся?.. І ўсё гэта з нязменнай іроніяй, нібы нечыя чужыя словы

вымушаны паўтарацць, а сам ён — усё разумее, свой у дошку, на баку менавіта дэсідэнтаў і толькі іхні шлях і прызнае як адзіна правільны.

Нейкія смутныя здгадкі ўспыхвалі, канечне. Што нездарма ўсё гэта, даверлівасць гэтая залішняя, развагі гэтыя салодкія — пра патэнцыяльныя здольнасці, пра апякунства… Трухан перавёў вочы на шэрую папку. І нават машынальна пальцам пакратаў шнуркізавязкі на ёй. Адразу ж на яго рух пасур’ёзнеў і Іван Паўлавіч.

«Мы прачыталі, — проста сказаў ён. — Вы не супраць? Хаця што гэта я: перш уваходжу, а тады дазволу пытаю…»

Шчокам Трухана раптам зрабілася горача, а спіне — холадна. У скронях застукала: чыталі… у множным ліку… вось вынік… ацанілі!..

«І што скажаце?» — нечакана для сябе хутка выпаліў ён.

«Скажам, што паказальны сам факт — гутарка нашая адбываецца. Раз на вас звярнулі ўвагу…», — тут Іван Паўлавіч перайшоў да самага цікавага, менавіта — разгарнуў папку. Знаёмыя старонкі замільгалі перад вачыма…

«Я тут пазнакі рабіў… Алоўкам, лёгка сцерці… Калі вы не супраць… Вось, і яшчэ, і вось…»

І Іван Паўлавіч, спяшаючыся, шукаючы патрэбныя месцы, пачаў перакідвацьперагортваць старонкі то туды, то сюды. Аднак Трухан паспяваў сёетое заўважыць. «Маразм бальшавіцкі» падкрэслена было хвалістай лініяй… Ленін, Сталін…

«Параўнанне Леніна з ідалам, — не вучыў, а ціха, пасяброўску раіў Іван Паўлавіч, — наўрад ці пажаданае: усё ж правадыр. Рызыкоўна нават для нашага часу, тым больш для нашай беларускай сціплай літаратуры, якой у прынцыпе чужое палітыканства… Вы заўважылі (згадваючы пасля, Трухан прыпомніць, што ні разу за

ўсю гутарку Іван Паўлавіч не назваў яго ні па імені, ні па прозвішчы) — дзіўная рэч: што для вялікай, развітай літаратуры дапушчальна, натуральна — скажу больш, у пэўнай ступені нават другасна, тое для літаратур малых народаў — адкрыццё, знаходка, крамола, анты і контра! Праўда, я магу памыляцца, бо не настолькі абазнаны ў прыгожым пісьменстве… Не хачу быць ханжою… Сам пісаць не магу — не даў Бог таленту, затое цешу сябе надзеяй, што ў літаратуры разбіраюся не горш, калі не лепш…», — казаў Іван Паўлавіч, і гучала гэта як «сам плаваць не ўмею, затое на сухім беразе навучу любога».

«…Дык вось — хацелася б пачытаць усё, калі вы не супраць зноўтакі… Цікава: як ваш герой, наш сучаснік, будзе паводзіцца там… далёка… Гэта ж цэлую гісторыю навярнуць можна!» — вочы ў Івана Паўлавіча раптам ажывіліся і заблішчэлі. У іх з’явіўся імпэт чалавека, якому, бадай, упершыню ў жыцці прыадчынілася наглуха да гэтага задрапіраваная заслона, за якой — патаемная, такая зваблівая магчымасць тварыць самому, хай нават і сутварыць.

Зрэшты, хуценька ён астыў, і спытаўся:

«Ці можа, тут усё прасцей? І вы такім ходам — пераносам у часе, сацыяльнай, так бы мовіць, фантастыкай спрабуеце элементарна зацікавіць чытача?»

«Хутчэй яго зацікавіш парнаграфіяй», — адказаў з усмешкаю Трухан. Аднак Іван Паўлавіч гумару не зразумеў — ён жа не мог ведаць пра эпізод з вусатым.

## 7

«Бог з ёй, з папкаю, — сказаў Іван Паўлавіч, папку закрыў, аборачкі акуратна, як шнуркі на чаравіках, завязаў і паклаў на папку далонь, тым паказваючы, што з першай часткай пакончана. — Давайце так дамовімся: калі вам непрыемна будзе, нетактоўнымі пададуцца

пытанні — без усялякіх кітайскіх цырымоній абрывайце, і… скончым на гэтым!»

Трухан, які быў размяк ад літаратурнага экскурсу, ізноў падцягнуўся.

«Мы ведаем, што жывяце вы няпроста — мякка кажучы… Праблемы і з вучобаю, і са здароўем, і ў матэрыяльным плане… На сельсаветаўскую стыпендыю дужа не разгуляешся», — Іван Паўлавіч змоўк у чаканні Труханавай рэакцыі.

Аднак вокліча тыпу «ах, вы і гэта ведаеце!» не дачакаўся. Ніяк не адрэагаваў на гэта Трухан. Не здзіўленне, а хутчэй абыякавасць была на яго твары. Падумаеш, заслуга: паднялі дакументы ў дэканаце, з накіраваннем ад калгаса і з даведкаю, што сельсавет абавязуецца штомесяц высылаць стыпендыю. Пра здароўе прагучала? — тут яшчэ прасцей, цэлы год Трухан быў у «акадэмічным» па хваробе, у той жа асабістай справе ўсе неабходныя паперы, а калі больш падрабязна даведацца захацелася — калі ласка, у паліклініцы медкартка, дзе ўсё, што хочаш — ад рэнтгентаўскіх здымкаў да аналізаў мачы, якія тут «урачэбныя тайны».

«Дзядзька з цёткаю, дзед з бабаю, канечне, таксама не памагаюць?»— ціха сказаў Іван Паўлавіч.

Зноў прамаўчаў Трухан. Калі ведаеце, дык навошта пытаць? Дзядзька з цёткаю, дзед з бабаю… Дапамога!.. Можа, і памагалі б, каб ён прасіў. Мала і без яго ў іх нахлебнікаў — і малых, і вялікіх, таму ў школу, той жэніцца, той співаецца, той дачу будуе… Адзінае і самае большае, што яны, сваякі, для яго маглі, яны ўжо зрабілі (і за што ён удзячны ім будзе да канца дзён сваіх): куток, ды кавалак хлеба давалі, ды дацярпелі, пакуль ён з горам папалам школу скончыць, а там скінуліся па капейчыне ды выправілі ў Мінск, не так з надзеяю, што вывучыцца ён і чалавекам стане, колькі параду дактароў выконваючы, — што пажадана быць яму паблізу сталічных бальніц, дзе, калі штоякое, як мінімум памерці не дадуць…

«А колькі ў грашовым эквіваленце ваша стыпендыя?»

«Вы ж ведаеце», — адказаў Трухан.

«Ведаем… Мізэр, канечне. Затое рэгулярна, жалезна. Як бы ні вучыўся, а зусім без капейкі не застанешся. У наш час паняцця не мелі аб ніякіх «мэтавых» стыпендыях. Запусціў, не здаў — адна дарога: вагоны разгружаць. Дык мы маладыя, дужыя былі… Але гэта так, да слова. Канечне, мала — мізэр, раз на дзень паесці, ды пачак цыгарэт. Я чаму і здзівіўся, што вы курыце. Не шкодзіць хіба здароўю? Як вы ўвогуле пачуваецеся?»

«Дзякую, добра. У сэнсе, добра, што не горш».

«Тады самае, можа, далікатнае… Што ў вас за хвароба? Калі не сакрэт. Зноўтакі смела можаце не адказваць!» — Вось жа ж — здаецца, так прамалінейна ідзе, — а свайго дабіваецца. Гэтыя перастраховачныя выбачэнні, ды перапрошванні, ды магчымасць не адказваць як малаток па цвіку б’юць і б’юць у адну кропку — і не хацеў бы, а адкажаш, ды яшчэ і паміма волі шчырым станеш, сабе насуперак, каб паказаць, што нічога саромнага ці крамольнага за душою і перад людзьмі няма, ніякай тайны з нічога рабіць не збіраюся.

«У паліклініцы не паглядзелі хіба? — усё ж не ўтрымаўся, каб не пад’южыць Трухан. Далей пачаў адказваць сур’ёзна. — Я і сам не ведаю».

Гэта была праўда. Дактары ніяк не маглі паставіць дыягназ. Чаму і падводзілі яго да непазбежнасці аперацыі, каб ускрыць яму чэрап і на практыцы як след пакалупацца ў змесіве яго. Яны не маглі нават вызначыць, спадчынная гэта хвароба, ці набытая. Хаця да сямі гадоў — да першага класа, калі жыла яшчэ ягоная мама, ён быў самым звычайным, такім як усе, хлапчуком. А потым, пасля смерці маці, усё і пачалося… Прычым задоўга да Чарнобыля, на які цяпер можна было б і зваліць усё. Але тады ніхто не ведаў, што ён існуе, дарма што амаль пад бокам ад яго жылі.

Так што не было каго ці чаго вінаваціць.[4]

«А якія сімптомы?»

«Штосьці тыпу рака крыві. Толькі без фізічнага болю. Слабасць, арытмія, галавакружэнне. У любы момант можна страціць прытомнасць».

«І што? — спытаў Іван Паўлавіч. — Няўжо нічога нельга зрабіць? А аперацыі? Цяпер жа ўсё лечыцца! Тым больш у вашыя маладыя гады!..»

«Да аперацыі і рыхтуюся», — коратка адказаў Трухан.

«Не можа быць, каб не было надзеі… Надзея памірае апошняй… Трэба верыць у лепшае, спадзявацца, так, спадзявацца, — разгублена паўтарыў Іван Паўлавіч гэтыя пустыя і пошлыя, калі не сказаць подлыя словы, якія ў дзевяноста дзевяці адсотках здаровыя людзі гавораць хворым. Хаця і шкадавання доля была ў яго голасе. — Ну вось, абяцаў вам галавы не марочыць, а сам! Хаця, калі шчыра, я і не чакаў, што тут усё так сур’ёзна… Якія вы бунтары! — сказаў ён раптам. — Так, у масе, у цэлым — дык можна падумаць, а вазьмі кожнага паасобку, ды разбяры індывідуальна — колькі зямных, сапраўдных праблем адкапаецца, важнейшых за ўсю вашую бурапеннасць, за ўвесь ваш «антыдзяржаўны» шурумбурум!»

Усталявалася паўза.

«Нават не ведаю, як пачаць, — Іван Паўлавіч глядзеў на Трухана, а калі той вочы ў вочы хацеў сустрэцца, Паўлавіч свае чамусьці адводзіў. — Скажыце, вам трэба дапамога?»

«Дапамога?» — перапытаў Трухан. Простае гэтае пытанне прымусіла яго задумацца. Не так і часта з ім у жыцці было, каб не ён прасіў, а чужыя людзі самі яму прапаноўвалі. Ад разгубленасці да яго не адразу дайшло, што нічога за так не бывае. «З дактарамі дапамагчы!» — адразу мільганула думка. Здуру ён так і спытаў — наіўна абнадзеяны (за што потым,

успамінаючы, язык сабе адкусіць быў гатовы):

«З аперацыяй… вы маеце на ўвазе?»

Іван Паўлавіч шырока расплюшчанымі вачыма глядзеў на яго. Затым нечакана рэзкім голасам прамовіў, амаль выкрыкнуў:

«Усё! Пазней! Не тут, не цяпер… Калінебудзь… Дзякую, спадзяюся на працяг — і твора, і нашага сяброўства». — Ён падыйшоў да дзвярэй, гукнуў вусатага, які зараз жа ўвайшоў. Трухан узяў сваю папку і падняўся.

«Павестку давай, — сказаў вусаты. — І распішыся вось тут. Што папку вярнулі і да нас прэтэнзій няма».

Апынуўшыся на вуліцы, Трухан першай справаю разарваў на дробныя шматкі, і па ветры пусціў, позву — чым такі апраўдальны дакумант, дык лепш прагул. Затым марудна пайшоў заснежаным тратуарам, удыхаючы водар маладога снегу, аўтамабільны дым і смурод уласнай цыгарэты… Такі ж кангламерат — каша з самых розных, палярных пачуццяў — быў у яго цяпер і ў галаве. Што? Чаму? Прачыталі… працяг… дапамога ці трэба? Ніякай магчымасці не было разабрацца. Ды і Бог з ім! Утрамбуецца з часам, высветліцца, растлумачыцца. Галоўнае — прачыталі, пахвалілі, прафілактыку — каб на няправільны шлях не збіўся — правялі… Дэбют, першае прызнанне! І няма ж у іх больш важных спраў, як у маёй біяграфіі, у маіх праблемах калупацца. Цэлы спектакль разыгрываць… Няўжо дзеля гэтых двух няшчасных аркушаў? Ці тут прасцей: трэба ім галачка, на ўлік кагосьці з ненадзейных дысідэнтаў маладых паставіць — вось выпадкова на яго і выпала гэтая латарэя. Хаця, па вялікім рахунку, любая выпадковасць — вынік заканамернасці. Каб не пайшоў ён тады на Фрунзэ, 5, каб не пазнаёміўся з Ведрычам, каб той не зацікавіўся рукапісам, каб не гэтае дзіўнае «абрабаванне» Ведрыча…

Якое глупства!

Ды на яго месцы іншы дэбютантпачатковец не ведаў бы,

куды падзецца ад радасці! Проста купаўся б у гэтых першых, хай сабе і нясмелых, промнях такой арыгінальнай папулярнасці! А што, калі… не спектакль гэта? А праўда? І памогуць яму нават надрукавацца… І на іншыя мовы перакладуць… І ці не ёсць гэты эпізод усяго толькі пачаткам — чагосьці вялікага, значнага, што крута пераменіць яго лёс, яго будучыню…

Панеслі, паперлі, закружылі фантазіі чалавека!.. Да таго, што нават перакусіць забыўся зайсці ў сталоўку. Апамятаўся толькі ў пакоі. Нічога страшнага. Пазней сходзіць. Усё адно дзень прагулены. А пакуль можна і гарбаткаю з чорным хлебам перабіцца. Замест вустрыцаў з шампанскім, якімі — на добры лад — відаць, і адзначаюцца ўдалыя дэбюты.

Ціха — усе на занятках. І на кухні ціха, пакуль рабіў гарбату, і ў пакоі. Любата! Нязвыкласць! Ён прысеў за стол і, дзьмухаючы на гарбату, скасіўшы вочы, прагна пачаў перачытваць адна за адной старонкі, нібы ўпершыню бачыў іх. Уласны тэкст раптам вырас, падняўся, як на дражджах; радкі зрабіліся не лінейныя, а аб’ёмныя, ўжо можна было разглядаць іх не толькі зверху, а і з бакоў, і нават знізу.

Ён чытаў то марудна, то ліхаманкава хутка, стараючыся падлавіць рытм Івана Паўлавіча і тых, іншых, невядомых. Падоўгу спыняўся на падкрэсленых словах... Як ён сказаў? «Абавязкова спадзяюся на працяг»? Гм — абавязкова… А працяг — вось ён. Вось яны, сшытачкі школьныя… Едзе конік, вязе ў невядомасць Трухановіча... Воз, як човен на вадзе, калываецца… Маладзіца побач… Дзядзька, які называе яго сваім сынам… Куды яны прыедуць? Што іх наперадзе чакае?..

## Частка трэцяя

### 1

«…Конь спакойна бег па сухой дарозе. Аднастайна, як човен на вадзе, калываўся воз. Сонца то свяціла, то закрывалася белымі воблакамі. Час ад часу набягаў восеньскі ветрык», — запісваў у памяці Труханавіч, пакуль не надакучыла гэта.

Ён разваліўся ўпоперак воза, ногі закінуў на драбіну, ад чаго яны апынуліся вышэй галавы — і так лёгка стала ў гэтай позе і спіне, і галаве, і шыі. Млявасць ад самагонкі, ад цеплыні лагоднага дня, ад грыбных пахаў — бо дарога скрозь вяла праз лес, ціхі ход воза, аднастайны тупат капытаў, сонным голасам дзядзькава панокванне…

Пазней Труханавіча доўга брала дзіва: як умудрыўся прадрамаць, прапусціць, нічога амаль не вынесці з такога шляху? Тым больш гэта быў шлях дамоў, на сваю мінулую малую радзіму! Яшчэ ў шпіталі, ведаючы, што прыедуць і забяруць яго, — як жа чакаў ён гэтага дня! Яму здавалася, цікавей за такую вандроўку нічога не можа быць, ніякія кругасветныя падарожжы з ёю не параўнаюцца. І што ён вачэй не самкне, скураю, сэрцам убярэ ў сябе і гэтае неба, і лес, і стракатанне конікаў малых, і памахванне хвастом каня вялікага, і дзядзьку з пугаю, і…

І вось яно, сутыкненне з рэальнасцю. У якой так будзённа ўсё, так гола. Не — можна, канечне, перамагчы сябе, прымусіць сілаю пазіраць навокал. І што? Ну, дзесяць, пятнаццаць хвілін выцерпіш… Уверсе ўсё тое ж неба, тое самае сонца, якое то блісне зырка, то схаваецца, па баках — той жа лес… Дрэвы — дэкарацыямі на тэатральным коле, нібыта не новыя ўвесь час мясціны яны прамінаюць, а тыя самыя бярозы ды сосны, счакаўшы, пакуль схаваецца воз, прыгнуўшыся, перабягаюць наперад і неўзабаве зноў сустракаюць іх.

Толькі за Мозырам, калі дарога з сухой пачала рабіцца чорнай, бы мазут, і стала спускацца ўсё ніжэй, і пайшоў замест хвойніка лес змешаны, больш ліставы, калі конік страпянуўся і, чуючы блізкую дамоўку, дадаў ходу, Труханавіч драмаць перастаў.

Ну, вітанне, роднае балота… А пахі! Як павастрэлі! — густыя пахі алешніку, арэшніку, лазняку, крушыны, ажынніку… Паявіліся і зазвінелі камары. Труханові́ч узрадваўся гэтаму звону, да таго расчуліўся, што падставіў далонь камару, даў яму добра напіцца, і калі той, падрыгваючы ў экстазе жывоцікам, паступова ператварыўся ў чырвоную ягадзіну, прыдушыў пальцам, і камар лопнуў, пырснуў крывёю — і так жыва нагадала гэтая кроў на пальцы ваенны шпіталь, і мінскія паліклінікі, і ўсе гэтыя аналізы, якія так прымітыўна, брыдка робяцца, якіх ён маладушна баяўся і цярпець не мог і ў тым жыцці, і ў гэтым!

Каб перабіць думкі, ён захацеў спытаць у дзюбаючага носам «бацькі», ці далёка яшчэ.

—Да… (Даў пеўня голас.) Хутка прыедзем?

— Як кажаш? — ачнуўшыся, няўцямна перапытаў «бацька». Пазірнуў на Трухана і адвёў вочы. Відаць, спадзяваўся ўсё ж, што гэтае бяспамяцтва ў «сына» толькі ў шпіталі будзе, у чатырох сценах, у чужым месцы, а тут, убачыўшы ўсё сваё, роднае — успомніць, акрыяе. — Блізка, — адказаў з уздыхам.

— Можна спыніцца?

«Бацька» тпрукнуў. Трухановіч нязграбна злез з воза і, калі той крануўся, пакульгікаў побач, здаровай рукой трымаючыся за драбіну. У задку на сене, скручаная абаранкам, накрытая з галавой хусткаю, спала Наста. Скрып воза, сонца праз галіны і лісты вольхаў, дарога, што пахла балотам, жабамі і ўюнамі… Так усё гэта было блізка, пасвойску — палюдску, як яго новы «бацька» кажа.

Трухановічу здалося, што і праўда пачынае ён нешта пазнаваць: хоць бы тую вунь пахіленую крывую прыдарожную вольху, са счасаным коламі камлём. Але не — не зрокавага, не канкрэтнага плану была пазнавальнасць, а нейкая агульнаабстрактная, у далёкім дзіцячым сне сто гадоў назад убачаная, ці, хутчэй, у сотнях кніг вычытаная. Падалося яму, што

вось нібыта вяртаюцца яны, сям'я, з гораду, куды ездзілі ў нядзельку на кірмаш, прадалі, што хацелі, купілі ўсё патрэбнае — словам, удалая атрымалася паездка; паабедалі, едуць назад, стары бацька кіруе канём, ён, сын, ідзе збоку, каб даць каню палёгку, жонка ягоная спіць соладка, бо ўстала рана, змарылася… І так усё добра у іх, так згодна, ладна. Наперадзе вечар — няспешны, з кармленнем скаціны, з сядзеннем потым на лаўцы, калі чуецца дзе кляпанне касы, дзе цырканне малака аб даёнку… Пад гэтыя гукі, пад дымкі самакрутак — мужчынская бяседа аб тым, аб сім; галоўнае, з непарушнай упэўненасцю, што хутка настане ноч, а заўтра абавязкова будзе раніца, і аніякай справы ім няма не тое што да таго, што дзесьці ў вялікім свеце робіцца, а нават у суседняй вёсцы… У іх сваё натуральнае замкнёнае кола: сям'я, праца, якая адначасова і адпачынак, прырода, якую нельга змяніць, якая вечная, як вечная гэтая зямля пад нагамі...

З нецярпеннем Труханавіч чакаў, калі ж нарэшце пакажацца вёска. Чагочаго, а вёску, вуліцу ён жа не зможа не пазнаць. Патаемна ён нават спадзяваўся ўбачыць сваю хату, на тым жа месцы, такую ж самую…

Але ніякай вуліцы ён не ўбачыў. Да яе проста не даехалі. Конь звярнуў да першага на ўездзе хутара. Сярод алешніку адкрыўся невялікі выган. За ім, абнесенае плотам, тулілася селішча — хата, нават дзве, здаецца, хаты, хлеў… У Труханавіча сціснулася сэрца. Усё было незнаёмае, чужое. Але вось з наступным крокам ён заўважыў па той бок выгана характэрныя зараснікі лазы, якія толькі каля вады бываюць. Так і ёсць — яшчэ праз пару крокаў і сама сіняя палоска роднай стыхіі між кустоўя паказалася… Рэчка! Адпусціла крыху ад душы. Калі ёсць вада — усё не так і кепска!..

Не паспеў воз уехаць на выган, як іх пачулі ужо. Два сабакі недзе ў двары заліваліся: адзін густа і злосна, другі — тонка і радасна... Куры сакаталі. Карова падала голас, падсвінак падключыўся… З часам кармлення скаціны іхні прыезд супаў, ці гэта замест духавога

аркестра?.. З двара выбегла і застыла каля варот жанчына, тулячы да грудзей рукі; следам — дзяцюк (і праўда, падобны крыху на Трухановіча, толькі што без барады, ды ростам ніжэйшы, але такое часта бывае, што меншыя перарастаюць старэйшых). Дзяцюк адразу ўхапіўся адсоўваць цяжкія вароты.

Трухановіч зразумеў, што жанчына і ёсць новая яго «маці», а дзяцюк, канечне, той самы «брат» — валрэўкамавец Міканор. Жанчына адарвалася ад шула і нясмела рушыла насустрач… Трухановіч, наадварот, адцягваючы сустрэчу, запавольваць пачаў крокі.

Ён ухапіў мімалётным позіркам твар яе — звычайнай беларускай гарапашнай сялянкі, твар, які яму, дарма што таксама вясковаму беларусу, не мог бы запомніцца ні з першага, ні з пятага разоў; тое самае, як паспрабуй вылучы кагосьці з фальклорнага калектыву, што выступае па тэлевізары: усе ў аднолькавых вышыванках, аднолькавага ўзросту, усе на адзін твар — як японкі…

Ён апусціў вочы, унурыўся ў сцежку пад нагамі, набліжаўся да жанчыны, разглядаючы пыл на сцежцы, лісткі трыпутніку паабапал яе, насы-мызы старых сваіх, паспеўшых ужо запыліцца — хоць у шпіталі ледзь не да дзірак начышчаў перамешанай з салам сажаю — ботаў…

Так, упарта ўніз пазіраючы, падыходзіў ён да жанчыны.

Ён не сумняваўся, што калі яна зблізку на яго гляне, дык ураз усё зразумее, і міжвольнае шарлатанства яго лёгка выкрыецца. Бо кагокаго, а маці ж не падманіш, хтохто, а яна ўжо не зможа памыліцца. І тады адступіць: хто гэта? каго вы мне прывезлі? гэта не мой сын! — прамовіць холадна, і адвернецца…

Але чужыя рукі ўжо ашчапервалі яго за шыю, і жанчына павісла на ім, выдыхнуўшы: «Сыночак!» Радасць яе была непадробная, і ад таго, што і яна не распазнала яго, яму прыкра зрабілася, і сорамна.

— Добры дзень, — вымучыў ён з сябе цераз сілу.

«Бацька» ўжо заехаў у двор, вокрыкамі і свістам пугі суцішыў сабак і, не распрагаючы нават каня, паспяшаўся на выган — глядзець, што будзе. А жанчыну хоць ты адляпляй было ад Трухановіча. Усё паўтарала надрыўна «сыночак» ды «сыночак»… Яе шчака церлася аб яго бараду, і мокрай ад слёз была шчака. Непрыемна было гэта, як і тое, што пахла ад жанчыны чужым. І ўсё адно ён не адважваўся адарваць яе ад сябе. Тады мякка разняў яе рукі і вызваліўся.

А збоку цярпліва чакаў Міканор. Трухановіч падрыхтаваўся і з ім абдымацца. Але Міканор толькі кануўся яго плячэй — і зноў адступіў, бы вачам сваім не верачы, бы ўпэўніцца жадаючы, ці не міраж гэта перад ім? І зноў дакрануўся — і зноў адступіў… Захапленне, проста шчасце было на яго твары.

— Ну вось! Салдат, герой, бальшавік! Усё пры усім! Галава на месце, рукі, ногі, — і Міканор аж прыцмокваў, так падабаўся яму братаў выгляд. — А то ўжо тут такога панарасказвалі! Смяюся. Ну, давай цалавацца, — нарэшце Міканор абняў яго. — Як тут праз тваю бараду прадрацца…

— Лягчэй, рука ж баліць яму! — уступілася «маці».

Міканор адразу ж аслабіў абдымкі. Іншым голасам, ужо без усмешкі, клапатліва спытаў:

— Сапраўды, што з рукою, братка?

— Баліць, — адказаў Трухановіч. Ён быў уражаны. Трэба ж, як свабодна валодае чалавек сабою, мімікай сваёй, голасам!.. Не было сумнення, што калі спатрэбілася б, дык гэты Міканор зарыдаў бы горка, няўцешна і шчыра, ці наадварот — зайшоўся б у заразлівым рогаце. А мо ніякае гэта не акторства? Проста чалавек такі: як умее, так і паказвае свае пачуцці? І можа гэта ён, Трухановіч, сам вінаваты, што зрабіўся такі падазроны, недаверлівы? Усё яму здаецца, што ўсе настроены супраць яго, усіх ён асцерагаецца, кожнаму чужому

ўчынку ці нават слову надае негатыўнае значэнне, у любы момант гатовы да адпору…

— Годзе абдымацца, ідзіце ўжо ў хату!

— Не ў хату — у двор спачатку! Памыцца з дарогі, асвяжыцца, пахмяліцца… Смяюся!

Міканор абагнаў Трухановіча, забег наперад, веснічкі перад ім прадбачліва расчыніў — як швейцарбрамнік, у струнку выцягнуўся, паперад сябе прапускаючы.

**2**

З гэтага моманту новаспечаны «брат» зрабіўся і рукамі Трухановіча, і языком яго, і яго вачыма, — стараючыся ўгадаць (самае цікавае, што часта і ўгадваючы) братавыя думкі і жаданні.

Нават ката, які выйшаў да веснічак паглядзець, што тут адбываецца, нагнуўся і замест Трухановіча пагладзіў.

Трухановіч тым часам аглядваўся, каб вызначыць для сябе хоць першапачатковую арыентацыю. Дзве хаты, старая і новая, стаялі ўпрытык адна да адной — дзве сям'і жылі ў адным двары… Двор быў вялікі, шырокі і, як пры двух мужчынах, даволітакі запушчаны. Усё здавалася не на сваім месцы, было складзена і звалена абыдзе і абыяк: бароны, плуг, абгоннікі, граблі, кола з возу, куча гною…

І раптам выбухнуў успамін — далёкаядалёкая будучая зіма, пісьменніцкі дом, прыступ яго перад люстрамі ў фае… Ну, канечне, гэта той самы двор, што прымроіўся яму тады, у тым сапраўдным жыцці! Вось тут, пад гэтай сцяною на складзеных бярвеннях Нэлі сядзела, і ён, Трухан, з нейкім дзіцём на руках…

— Што, успомніў трохі? — ад уважлівага Міканора не схавалася перамена на ягоным твары. — Смяюся.

— Трохі…

— А я што казаў? Патрошку, не ўсё адразу, пажывеш, агледзішся… Дамоўка, брат, усё напомніць. Зараз, я мігам, — Міканор кінуўся ў хату, на хаду паспеўшы выцерці падэшвы чаравікаў аб мурог ля ганка.

Труханові прысеў на бярвенні. Вось амаль і спраўдзіўся ягоны сонмроя… «Бацька» распрагаў каня. З хлява чулася цырканне — разумніца Наста, замест таго, каб бянтэжыць Трухановіча разглядваннем, займалася справаю. «Маці» пастаяла крыху воддаль, мабыць, спадзеючыся пачуць якое слоўка ад «меншага». Тады прамовіла — ці то яму, ці сама сабе: «Пайду памагу», і таксама схавалася за зачыненымі варотамі ў хляве. Нарэшце хоць на нейкі міг Трухановіч астаўся адзін.

Але Міканор ужо куляю ляцеў да студні — энтузіазм, прага дзейнасці, жаданне ўслужыць блізкаму свайму так і перлі з яго; звінеў ланцугом, стукаў акаваным абручамі вядромцэбрыкам, выцягваў ваду… Цераз плячо ў яго перакінуты быў чысты палатняны ручнік.

— Ану, хадзі, здымай гімнасцёрачку! — і гімнасцёрку памагаць пачаў сцягваць, чым толькі балесней рабіў ды перашкаджаў. — Зараз астудзімся!

Мітусня яго да таго дайшла, што нават, паліваючы, адначасова і намыльваць мкнуўся Трухановіча. А вада і праўда была ледзяная, пахла калодзезем, мылам і крыху зялёным мохам, які рос на асклізлых бярвеннях усярэдзіне студні.

Санлівасць як рукою зняло. Вымыты, і пасвяжэлы, і галодны, з адной думкаю: дзецца няма куды, трэба аглядвацца, запамінаць і прывыкаць, Трухановіч — ізноўтакі паперадзе далікатнага Міканора — зайшоў у хату. Тут было светла, прасторна і, у параўнанні з дваром, чыста і прыбрана. Вымытая, дзенідзе яшчэ мокрая падлога тхнула свежым аерам. Ад цёплай печы плылі пахі смажаніны. У дальнім кутку перад узятымі ў ручнікі абразамі стаяў «бацька», вусны яго варушыліся,

а пальцы складзеныя былі ў шчопаць.

— Апускайся! — Міканор далонню правёў па лаве. — Зараз матку з жонкаю, Настаю маёй, пачакаем. Прыдуць, усё арганізуюць… Смяюся! — знарок гучна гаварыў Міканор, падміргваючы Трухановічу і ківаючы на «бацьку». Затым зняў, павесіў на цвік шапку, прысеў на табурэтку і разам з ёю прысунуўся да «брата» блізка. Паклаў яму руку на плячо. Усміхаўся прыязна, адкрыта. Трухановічу нічога не заставалася, як усміхацца ў адказ. Так і сядзелі — моўчкі, адзін аднаму ўсміхаючыся, як бы любуючыся адзін адным.

На самой справе Трухановіч скарыстоўваў гэты тайм-аўт, каб больш пільна разгледзець новаспечанага братца. Спакойныя вочы. Паголены, чысты, правільны твар. Прычоска «пад гаршчок» — у прамым сэнсе: відаць, без лішніх мудросцяў адзелі чалавеку гаршчок на галаву і ўсё, што зпад яго вытыркалася, авечымі нажніцамі адхапілі, пакінуўшы капу валасоў зверху і вушылакатары па баках. Старэнькі, чорны, залатаны на локцях картовы пінжачок, такія ж — гарнітур! — штаны. На нагах дубовыя чыгуначніцкія чаравікі-«гады»… Зрэшты, як для таго часу і для таго дастатку чалавек, так адзеты, мог лічыцца, відаць, заможным.

Усё гэта было знешне. А вось што ў гэтай аббамберанай галаве? Што за душою? Трухановічу хацелася адшукаць якуюсь несімпатычную рысу ў Міканоры. Ён усміхаўся і ўсё разглядваў яго, вачыма, нібы рэнтгентам, стараючыся пранікнуць яму ў самую душу. Марна. Не было да чаго прыдрацца. Адэкватныя паводзіны, як трэба ўсё гаворыць, акрамя хіба злоўжывання гэтым «смяюся»… Нічога кепскага ў Міканоры не было. І ўсё ж Трухановіч гатовы быў паклясціся — не просты, не аднамерны гэта тып. Ёсць у яго і задняя думка, і другая душа, і двайное жыццё. Але паспрабуй вось так, адразу, разбярыся! Хіба пазней, з часам…

Пакуль ён аддаваўся такім роздумам, Міканор казаў:

— Значыць, кантузія? Ну, нічога. І не такое бывае… Знойдзецца, чым заняцца. Пісьменныя людзі во як

трэба. Паперы з сабою? Добра! А тое, што не помніш, дык яно, можа, яшчэ і лепей — пра тую жытку лепш не помніць… Жартую.

Жарты жартамі, аднак голас у Міканора з задушэўнага змяніўся на амаль афіцыйны, начальніцкія ноткі ў ім загучалі. Відаць было, што не так сабе чалавек распытвае, а па справе, з намерам памагчы.

— Ведаеш, я б хацеў аддыхнуць трохі, — сказаў Трухановіч. — Дзе гэта можна? — спытаў, позна спахапіўшыся, што не варта яму было б карыстацца тэрмінамі з далёкай сваёй будучыні, такімі як «ведаеш», ды «дарэчы», ды «зрэшты»…

Не схавалася гэта ад Міканора.

— Ты як бы папольску гаворыш… Смяюся.

— Дык на вайне ж чалавек пабыў, — пачулася з кутка; бацька маліўся і адначасова, аказваецца, усё чуў. — Сярод людзей, навучыўся.

— Гэта так. Хапіла беднаму… Ну, хадзем, пакажу штосьці!

Трухановіч падняўся і, накульгваючы, пайшоў следам за Міканорам. Яны выйшлі ў цёмныя сенцы, што злучалі дзве хаты. У сенцах Міканор звярнуў направа, правёў Трухановіча праз нейкія лабірыністыя катухі, потым навобмацак адшукаў клямку, піхнуў дзверцы і, адступіўшы, упусціў яго ў каморку. Памяшканне тры на тры метры. У сцяне нядаўна выразанае вакенца, свежая рама бялее дошкамі і пахне смалою. Драўляная падлога. Паліцы ўздоўж сцен. Ложак, сяннік на ім, коўдра. Самаробны мініятурны столік… Божа мой! Уласны стол, уласны ложак, дзверы, якія можна зачыніць за сабою… Аб усім гэтым Трухановіч і марыць не мог. Чакаў у лепшым выпадку лежака дзесь за печчу, абы хоць трохі адзіноты, абы ад чужых воч далей… А тут!

Міканор паляпваў па раме, казаў заклапочана:

— Мохам яшчэ падбіць трэба, заўтра давяду да толку…

— Дзякую… брат! — вырвалася ў Трухановіча.

—Ляжы, ляжы, аддыхай. Я пазаву, калі абед, — і выйшаў гэты незразумелы, дзіўны чалавек.

Трухановіч пасунуўся да вакна. Яно было зроблена нізка, знарок, ці што, з такім разлікам, каб можна было пазіраць у яго, нават на ложку лежачы. Нечаканы, да слёз мілы відарыс адкрыўся раптам за вакном. Скошаны поплаў, як вялізнае футбольнае поле, прасціраўся перад вачыма. Там і сям стажкі жоўтай атавы. Поплаў акурат пасярэдзіне пераразала сіняя рачулка з аброслымі лазою берагамі — да яе было якіх сто крокаў.

З трох бакоў паплоўчык заціснуты быў лесам, з чацвёртага — селішчам, якое на пагорачку, таму было адчуванне, што поплаў збягае ўніз, да рэчкі.

«Ды гэта ж проста… курорт! Гэта ж дом творчасці!» — паклаўшы руку на сэрца і тым яго супакойваючы, думаў Трухановіч.

## 3

Кожны дзень Трухан на кішэнным каляндарыку праколваў іголкаю — як робяць у арміі, ці пазначаў крыжыкам — як у турме, чарговую дату.

Усё менш заставалася непраколатых і неперакрыжаваных лічбаў. Усё бліжэй было да ў кружок узятага, чырвоным чарнілам абведзенага «часу пік» — даты апошняга абследавання, якое павінна было высветліць — класціся яму на аперацыю, што для яго даўно стала сінонімам смерці, або усё ж надарыцца адкладка, і атрымае ён дазвол ад лёсу яшчэ колькі часу праіснаваць на гэтым свеце — да новага абследавання.

І ў першым, і ў другім варыянтах вясёлага было мала.

«Калі праўда, — думаў ён, тупа гледзячы ў каляндарык, — што кожнаму адмераны свой век, у якім сканцэнтраваны галоўныя этапы, важнейшыя падзеі жыцця — дык тады і размяркоўвацца гэтыя падзеі павінны неяк разумна, з толкам, залежна ад даўжыні веку... Аднаму расцягвацца на дзесяцігоддзі, адпускацца невялікімі порцыямі, ашчадна; другому, як мне, напрыклад, каму не дадзена такой раскошы, як дзесяцігоддзі ў запасе, — на мяне гэтыя падзеі камняпадам павінны ляцець, спрэсавацца павінны да месяца, тыдня, гадзіны, да гэтага вось моманту!..»

Што за падзеі, якога плану яны павінны быць, Трухан слаба ўяўляў сабе. Гэта магло быць новае важнае знаёмства, якое пераверне яго лёс, ці раптоўная жаніцьба на прыгожай нявесце, ці незвычайнае багацце, што дастанецца яму ў спадчыну ад нейкага добрага заакіянскага сваяка... А магла быць іншая крайнасць: ізноў выклік у пракуратуру, і на гэты раз арышт, адзіночная камера, і «суровы прыгавор падпісываю першы»... Ну, не ведаю, штосьці такое. Але яны павінны быць, гэтыя падзеі, адна за адной на яго павінны сыпацца, набіраючы абароты, паскараючы тэмп, не даючы часу апамятацца, разабрацца, перадыхнуць, падаслаць саломкі...

Ды толькі нічога не здаралася з ім. Усе аднолькавыя былі дні — з паходамі на заняткі, з паўгалодным існаваннем, з інтэрнацкімі скразнякамі, і ўсе аднолькавыя ночы — з выпуклымі каляровымі фантастычнымі снамі, якія толькі паспявай запісваць!

Ён думаў, што, можа, у гэтым непачынанні, у адсутнасці падзеяў таксама ёсць свой сімвал: ці не значыць гэта, што ён выжыве? І зробіцца такім, як усе, і займее права на свае законныя, расцягнутыя на шэсцьдзесят, семдзесят, нават восемдзесят гадоў дазіраваныя маленькія шчасці, такія, як жонка, дзеці, пераход з інтэрната ў маласямейку, палучкі, «заначкі»...

Ён не змог бы адказаць, адкуль у яго гэта ўзялося, але гэта — такое «шчасце» — чамусьці ўяўлялася яму страшней за любыя аперацыі. Лепш быць хворым,

адзінокім, кім заўгодна, любым вырадкам у сям’і, чым быць «як усе», мяшчанскай бязлікаю масай, чым растварэнне ў натоўпе, зліццё з ім — небыццё… Аднойчы на лекцыі, малюючы ў сшытку купалы цэркваў, ён раптам падняў галаву і ўставіўся ў выкладчыка, — так, што той спатыкнуўся на паўслове і вымушаны быў хуценька агледзець сябе, ад чаравікаў да гальштука — мо што не так у адзенні?.. Але ніякага выкладчыка, хоць і перыўся ў яго, Трухан, канечне, у гэтую хвіліну не бачыў. Проста мільганула думка — а што, калі пачалося, вось гэты каскад падзей, а ён, непрывычны, не гатовы, проста празяваў яго, не заўважыў?

Што, не падзея хіба, не пераломны момант у жыцці — паход на Фрунзе, 5, знаёмства з тым жа Ведрычам, пасля якога і ён, Трухан, інакш пачаў глядзець на свет, многае заўважаць з таго, на што раней увагі не звяртаў? А да Нэлі ў госці паход? Так, і гэта таксама! А адчуванне яе цёплай, пругкай ножкі сваёй нагою, калі сядзелі яны побач, прыціснутыя — не падзея хіба?

А ягоныя сны, што пры дапамозе паперы і атраманту даюць яму такую цудоўную, многім і многім недаступную магчымасць перанесціся ў іншыя часы і пражыць паралельна яшчэ адно, дадатковае жыццё?!

А ў пракуратуру выклік, і гэтая нечаканая, павышаная да яго і да ягоных запісаў цікавасць?!

Мала? А чаго ж ён яшчэ хацеў? Значыць, такі малы, беднаваты запас пакладзены на яго рахунак у банку падзей, інакш — такая яго доля. Значыць, трэба цаніць і карыстацца тым, што ёсць. «Не ў хваробе, і не ў комплексах, і не ў беднасці твае праблемы, — сказаў яму неяк Ведрыч, — а ў тым, што ўсяго табе мала. Усё табе хочацца адразу, і адной купюрай». — «Ты ж Церашкову тое самае гаварыў!» — «І Церашкову мала. Але яму мала, дык ён бярэ. Мала жонкі — бярэ палюбоўніцу, мала аднаго дзіцяці — завядзе другое, мала ста грамаў — вып’е дзвесце… А ты і не бярэш, і мучаешся».

Так — у глыбіні душы Трухан вымушаны быў згадзіцца, што яму, сапраўды, трэба альбо ўвесь капітал, альбо нічога; у выніку заставалася адно нічога. Не ўмее ён цаніць «зарніцы шчасця», дарункі лёсу, маленькую жыццёвую драбязу, з якой, магчыма, калі б яе падкапіць, і склалася б штосьці большае, цэльнае…

Але з гэтага моманту ён стане іншым. Ён пастараецца менш плакаць па тым, чаго няма, і больш цаніць тое, што ёсць.

Таму калі на перапынку, адразу пасля лекцыі, сама падышла да яго Нэлі, ён амаль і не здзівіўся.

«Ведрыч казаў, цябе выклікалі некуды, і хвалілі… Я спадзяюся, ты мне падарыш якінебудзь свой твор на дзень нараджэння?» — так яна сказала.

«А… калі?»

«У гэтую суботу. Я цябе запрашаю».

Трухана даўно ўжо ніхто не запрашаў ні на якія дні нараджэння, ні ў якія госці, ні нават на хлапечыя інтэрнатаўскія п’янкіпагулянкі — папершае, усё адно не п’е, падругое, цяжкі ў кампаніях, мае своеасаблівы дар напускаць на людзей нуду, дзяліцца настроем кепскім — так, як іншыя, той жа Церашкоў, умеюць запальваць весялосцю і дзяліцца настроем добрым. Няўжо пачынаецца — гэты паскораны рытм жыцця? Няўжо гэта першыя каменьчыкі з таго камняпаду, што неўзабаве павінен на яго абрынуцца?

«А хто яшчэ будзе?» — спытаў ён.

«Свае ўсе: ты, Ведрыч, Церашкоў… Сястра стрыечная».

Вось так. У групе трыццаць чалавек, на патоку сто дваццаць, — зрабіў ён хуткі падлік, — а сваім толькі яго назвалі… Штосьці гэта ды значыла. А мо не пайсці? — не забыўся і такі варыянт пракруціць. Людзі будуць гуляць, весяліцца, а ён… Халодны пакой, мулкі ложак, кніжка «Ідыёт», нішчымная гарбата… І панеслася, і панеслася!

Але ў час спыніўся, не даў гэтаму разрасціся. Колькі можна! Ды проста ў нармальнай кватэры пабыць, з тым жа Ведрычам, па якім засумаваў ужо, лішні раз пабачыцца. Усё гэта было добра, канечне, — што яго запрасілі, і таму падобнае. Вось толькі Трухан нават не чакаў, колькі будзённага клопату гэтае запрашэнне за сабою пацягне. Элементарна: касцюм у хімчыстку здаць. Гальштук новы купіць. Цырульня — сябе ў парадак прывесці. Добра яшчэ, грошы былі, як ведаў, калі эканоміў. Потым, чаму гэта яна ў канцы сказала — падарункаў ніякіх не трэба? Што яна мела на ўвазе?

І зноў у час спыніўся Трухан. Спакойней, не трэба заглыбляцца. Падарунак! І хто толькі прыдумаў яго, гэты кашмар — сачыць за тварам чалавека, якому дорыш штосьці!

Увечары ў суботу прыйшоў да яго Ведрыч, каб забраць яшчэ і Церашкова і йсці ўсім разам. Падняў на Трухана вочы і аслупянеў.

Падстрыжаны, паголены, наадэкалонены, у адпрасаваным чысценькім касцюме з новым гальштукам, няўмелым вузлом завязаным, Трухан выглядаў на вясковага інтэлігентамаладажона, ці, па крайняй меры, на дружка — не хапала толькі кветкі ў пятліцы ды вышыванага ручніка цераз грудзі… Ад няёмкасці ён чырванеў плямамі і не ведаў, куды рукі падзець.

«Ну вось, — сказаў Ведрыч, — хоць на чалавека стаў падобны. А то я ўжо думаў, ты поўны квазіморда. («Квазімода», — механічна паправіў Трухан.) Можам жа, калі захочам! — І, не быў бы ён Ведрычам, каб не заўважыў, паморшчыўшы нос: — А чаго гэта тут так нябожчыкам тхне? — звычайным гэтым пытаннем скідваючы Трухана з аблокаў на грэшную зямлю. Пасля яшчэ неаднойчы будзе ўспамінацца яму гэтая згадка вяроўкі ў доме вісельніка…

Каб перабіць размову, Трухан у сваю чаргу папытаў, ці выклікалі Ведрыча таксама ў пракуратуру, і ці вярнулі яму вершы?

«Дарэчы, чаму ў пракуратуру?»

«Ты іх зразумееш? — адказаў Ведрыч. І, пакуль Трухан апранаўся, паведаў такое: — Я ім пра ВКЛ, пра Сапегу, а яны мне: «Як мы будзем трактары выпускаць, калі ў нас руды няма?» Я ім пра БНР, пра Ластоўкага, пра Слуцкае паўстанне — яны мне: «Хто ў нас будзе купляць трактары, калі выйдзем з Саюза?» Нарэшце ў мяне цярпенне лопнула: — «Якога... вы, кажу, прычапіліся да мяне з вашымі трактарамі?! Адкуль я ведаю?! Хай ў вас пра гэта галовы баляць!»

**4**

Церашкоў чакаў іх на лесвічнай пляцоўцы свайго паверха.

«Слухай, — кінуўся да Ведрыча, — да мяне гэта, ну, жонка з малым прыехалі... Прыдумай штонебудзь!»

«Дай я хоць пагляджу на яе», — сказаў Ведрыч. У словах яго Трухану пачулася не столькі цікавасць, колькі знаёмы ўжо азарт — моманту не ўпусціць; гэта ж такі прастор для імправізацыі, такая магчымасць лішні раз пасцябацца з чалавека. І вельмі проста ляпне зараз: —«Чуеш, адпусці свайго мужа на дзень нараджэння да палюбоўніцы!», — гэта ў яго стылі...

Трухан ужо бачыў тую жонку. Зашуганая, шэранькая сялянка (такіх чамусьці часцей за ўсё і бяруць за сябе зухі накшталт Церашкова), з добрымі адданымі вачыма, з маленькімі, але моцнымі рукамі. Увогуле незразумела было, навошта спатрэбілася Церашкову штосьці выдумляць. Ды ідзі сабе куды хочаш і да каго хочаш — такая жонка і слова не скажа, такая нават рэўнасцю баіцца пакрыўдзіць. Пахваліцца ён перад імі захацеў, ці што, паказаць, што і ў мяне вось як і ва ўсіх — пабойваюся, адпрошваюся...

На Труханава здзіўленне Ведрыч, пацалаваўшы дзяўчыне ручку, культурна папрасіў:

«Не адпусціце яго з намі? Ненадоўга. На важную літаратурную сустрэчу. Абяцаем вярнуць цэлым і здаровым».

Пачырванелая, да такога абыходжання непрывычная, яна, бедная, толькі паўтарала разгублена:

«Ды вы праходзьце!.. Будзьце як дома, — і ўжо зусім недарэчы: — Можа, паежце, каб галодныя не былі там? У нас усё сваё, вясковае...»

Тут зза шафы выглянула хлапчанё гадоў двух — маленькая копія маленькага Церашкова.

«Ой, а гэта што за такое?! А што гэта за беларусік? А як яго завуць?»

Шчаслівая маці назвала імя. Пакуль Церашкоў збіраўся, а Ведрыч з малым гулялёкаўся, Трухан усёназіраў за ёю, і падавалася яму, што не адно толькі гонар за сваё дзіця свеціцца ў яе вачах, а яшчэ і надзея, ці нават толькі цень надзеі — гэта каб і яе ўзяў Церашкоў з сабою. Сына знайшлі б на каго пакінуць, хіба мала тут знаёмых у мужа?.. А самой прайсціся ў кампаніі з такім далікатным, прыемным чалавекам, як Ведрыч, па вячэрняй сталіцы... Ды яна і днём гэтую сталіцу толкам ні разу не бачыла, не тое што вечарам... Потым пасядзець у светлай і, відаць, вельмі прыгожай залі, паглядзець і паслухаць сапраўдных, жывых пісьменнікаў... Як бы ўспаміналася ўсё гэта потым у глухім сваім мястэчку! Колькі было б пра гэты вечар расказаў: бацьку з маткаю, свякрусе, сяброўкам! Як бы яна пасля гэтага яшчэ больш свайго мужа палюбіла б!..

Мабыць, і Ведрыч штосьці падобнае адчуваў. Бо як толькі выйшлі яны на вуліцу, прамовіў без іроніі:

«Але ж ты і атлёт, Церашкоў...»

«Не вучы мяне жыць, лепш памажы грашыма, — адказаў Церашкоў папулярнай у тыя гады прымаўкай. — Дарэчы! Я ж без падарунка. Не мог жа я пры жонцы...»

Ведрыч пакалупаўся ў кішэні.

«На. І знай маю добрасць. Хоць кветку якую купі. Бо сорамна за цябе будзе… На і табе», — да Трухана.

«Ды што ты ўвесь час са сваімі грашыма!.. А аддаваць чым?»

«Аддавака такі. З ганарару некалі аддасі».

«Не трэба».

Нэлі ведала, каго запрашаць. Не мінскіх багатых сябровакаднакурсніц — чым іх здзівіш? Яшчэ падчас апошняга ў яе гасцявання не магла яна не заўважыць, як мала трэба яе інтэрнатаўскім «беспрытульнікам», наколькі непераборлівыя яны. Таму калі нашы героі, крыху прыпазніўшыся, уваліліся ў кватэру, усё было гатова да прыёму іх. У вялікім пакоі накрыты быў стол. Падлога — голая, без аніякіх дываноў, і гэта было асабліва дарэчы — не трэба разувацца, каб пасля тэпаць у студэнцкіх шкарпэтках ці ў чужых пантофлях па чужой хаце. Дываны, «дарожкі», паласы былі знесены ў пакой, дзе жыла сучкабультэр’ер са сваім сынам. У гэты «сабачы» пакой, як у патаемную каморку Сіняй Барады, госці не тое што не адважваліся заглядваць, а яшчэ і прыспешвалі крокі каля яго, каб хутчэй прамінуць.

Нэлі павяла сяброў знаёміцца з бацькамі і з гасцямі. Тым больш усе знаходзіліся пакуль у адным месцы, на кухні.

З «чужых» былі толькі Нэліна цётка з дачушкаю гадоў трох і яшчэ адзін нейкі далёкі сваяк, па імені Ілья Ільіч. Ён гуляў цяпер з Нэліным бацькам, Альбертам Казіміравічам, у шахматы. На століку замест гадзіннікаў стаяў каля кожнага фужэр з віном, побач былі попелка і цыгарэты. Цётка — тыповая караткевічаўская гераіня, такога шляхетнага выгляду, у чорнай з зіхоткамі сукні, сядзела, паклаўшы нага на нагу, на канапе і сустракала новых людзей цікаўнай усмешкаю. Беленькая, як пудзялёк завітая, дзяўчынка стаяла побач, прысланіўшыся да матчынай нагі, і

глядзела на чужых дзядзькаў ззяючымі нецярпеннем вочкамі.

Ведрыч як толькі ўбачыў яе, так, нікога больш не заўважаючы, прысеў на карачкі, працягнуў рукіаглоблі:

«Ой, а гэта хто? А што гэта за коцік? Ну, хадзі да дзядзькі».

Малая зараз жа адляпілася ад матчынай нагі і ахвотна падбегла да яго.

«Як цябе завуць?»

«Ясенія», — адказала за яе маці з некаторай насцярогаю. Але, пабачыўшы, як пяшчотна, умела падняў Ведрыч яе дачку на рукі, як даверліва туліцца да яго сама малая, супакоілася.

Ведрыч з дзяўчынкаю на руках пайшлі блукаць па кватэры, а на кухні з’явілася, на хаду развязваючы фартух, яшчэ жанчына.

«Знаёмцеся — мая маці», — сказала Нэлі. Каб не сказала яна гэтага, можна было б падумаць, што гэта яе крыху старэйшая сястра зайшла, да таго падобныя яны былі: і тварамі, і кароткімі хлапечымі прычоскамі, і манерамі — гэта калі маці, знаёмячыся:

«Таіса Іванаўна», — працягнула далонь лодачкай, так, як Нэлі любіць рабіць.

Падняліся зза століка, сваёй чаргі чакаючы, Альберт Казіміравіч і Ілья Ільіч.

«Илья… можно без отчества».

«Альберт Казіміравіч».

«Альберт… Алесь, я хацеў сказаць», — заблытаўся з уласным іменем Церашкоў. Так як Ведрыча да дзяцей, так яго да шахмат, бы магнітам, пацягнула. То паціраючы нос, то пашчыкваючы сябе за вуха, ён углядаўся ў пазіцыю на дошцы.

«Таксама Алесь», — сказаў Трухан.

Пачуўшы гэта, Ілья Ілыч раптам так расхваляваўся, што аж запыхцеў.

«А почему... побелорусски?! Или вы шутите?»

«А то ты не ведаў, што Нэлі, і сябры яе, беларусы? — сказаў Альберт Казіміравіч. — Правільна робіце, хлопцы. Я хоць сам і паляк напалавіну, але паважаю, падтрымліваю!»

«Паляк напалавіну... Паляк напалавіну, — мармытаў Церашкоў, які ўжо машынальна ўсеўся на Ільіноe месца, і фігуры паправіў, і ход зрабіў. — А гэта што?» — паказаў ён на корак згад віна на дошцы.

«Замест каня, — Альберт Казіміравіч таксама прысеў і ўставіўся ў дошку, закрыў рукамі вушы. — Каня Соня пагрызла... А калі мы так?»

«Так?! Трэба падумаць... Гм... Сабака пагрыз каня...»

Ілья Ілыч нават не заўважыў, што месца яго занялі так бесцырымонна і за яго партыю збіраюцца дагульваць.

«Нет, вы объясните!» — прычапіўся ён да Трухана. Той паціснуў плячыма і спытаў у гаспадыні:

«Можна закурыць?»

«Канечне, курыце. Так, жанчыны, — распарадзілася яна, — не ўсё ж гатова яшчэ», — і жанчыны пайшлі з кухні, а Нэлі, выходзячы, азірнулася і падміргнула Трухану — трымайся, маўляў. Ілья тым часам хапаў яго за рукаво і не даваў прыкурыць.

«Я понимаю — Нэли иногда может словечко ввернуть... Но она же стихи пишет! А вы? У вас, я смотрю, серьёзно это! Так объясните мне!»

«Не ведаю я», — Трухан папраўдзе разгубіўся, не ведаючы, як паводзіцца ў падобных ідыёцкіх сітуацыях, калі пачынаюцца ўсё гэтыя дэбаты тыпу: чаму беларус у

Беларусі гаворыць пабеларуску? Вось паспрабуй адкажы на такое. Ды яшчэ і гэты Ільля яўна быў з тых настырных назолаў, якому калі ўжо чаго заманецца, дык не злезе з цябе. І памагчы не было каму.

«На так — шах, — гаварыў Церашкоў, — а калі так — ферзь пад боем...»

«Объясните!..»

Тут вярнуліся Ведрыч з малою. Ведрыч паднёс дзяўчынку да Трухана:

«Паглядзі, Ясечка, які дзядзька! А ўрэдныўрэдны! А хітры — не глядзі, што такі таўкач... А зараз вып’е — пабачыш, што будзе!»

Малая спадылба зіркала на Трухана, а той хаваў руку з цыгарэтаю за спіну, а другой адмахваў дым.

«Ничего не понял, — зусім ашалелы Ільля Ільіч зняў акуляры, выпусціў знад рэменя крысо белай кашулі і працёр шкельцы. Потым азірнуўся разгублена. — Вы что... все?!»

«Бяжы адсюль, дзіцятка, дымна тут... Бяжы да мамы, — Ведрыч правёў малую да дзвярэй і вярнуўся. Яму не трэба было тлумачыць, аб чым спрэчка, ён на такіх дэбатах сабаку з’еў (як тая Соня шахматнага каня). — Дзядзька, хто ты па прафесіі?»

«Я? Юрист. А что?»

«А тое, што мы ж не лезем у тваю юрыспрудэнцыю. І ты да нас не лезь».

Ды не на таго наехаў — адносна Ільіча хамства не спрацоўвала.

«Нет, вы просто объясните!.. Зачем вам это?!»

«Добра, для самых тупых. Тлумачу на прыкладзе. Колькі ты моваў ведаеш?»

«Я? В смысле, языков? Мне пока одного русского хватает...»

«А я — дзве! Трухан — тры, — хлусіў і не моршчыўся Ведрыч. — Церашкоў вунь — чатыры. Яшчэ ёсць пытанні?»

«Да зачем её знать?! Разговаривай неправильно по-русски — и вся мова! Было бы различие большое, а то в однойединственной букве разница! Поехали — а по-вашему — пАехалі!»

«Парень, супакойся! — сам Ведрыч пачынаў заводзіцца. — Хай у нас мова блізкая да расейскай, але яна як мінімум ёсць. А што швейцарцам, аўстрыйцам рабіць? Бельгійцам? У якіх роднай мовы зусім няма?»

«Ээ, нет! Это другая опера...»

У вушах у Трухана пачало шумець, мяшацца, накладвацца адно на адно...

«Дзядзька, выбачай за выраз, але...»

«А на так?»

«Так конь ляціць...»

«Мова — гэта табе не язык!»...

«...Они вам бросят эту кость! Хорошо, согласен: пусть мова —первая ступенька на лестнице перестройки...»

«Сюды...»

«А мы — сюды...»

«Не ведаю, які з цябе юрыст, але нясеш ты ахінею...»

"Ну, зачем вы так сразу...»

Ілья то надзяваў, то здымаў акуляры, размахваў імі ў Ведрыча перад носам — увесь у экстазе спрэчкі; на ніжняй губе ў яго выступіла белая пена, разам са словамі з рота ляцелі пырскі... Ведрыч дэманстратыўна

прыкрываўся далоняю і нават прыплюшчваў вочы, нібы пазіраў на лямпу без абажура. Ілья нічога не заўважаў.

«Вы добьётесь этого... Но это тот же фашизм! Получается, Беларусь превыше всего?»

«... А так?»

«... Так — пешка праходзіць...»

«Дзядзька, мы такое семдзесят гадоў слухалі, і досыць; цяпер вы будзеце слухаць нас...»

«... І яшчэ слонікам!»

«... Это же сознательное обеднение! Неужели два великих языка, русский и английский...»

«Ды ў тым і справа, што родная мова толькі памагае засвойваць чужыя...»

«Не знаю, не думаю... Мне, например, не помогла...»

«Табе паможа толькі клініка...»

«... Я же не оскорбляю вас, не кривжу, то есть...»

Трухан, асцярожна прычыніўшы дзверы, выйшаў у прыбіральню.

Каля «сабачага» пакоя спыніўся, прыслухаўся. Адказам яму было перш бурчэнне, а потым і нейкі шып, быццам каты ці гадзюкі там жылі, а не сучка са шчанюком.

Калі ён вярнуўся на кухню, Цярашкоў з Альбертам Казіміравічам пачалі новую партыю. Цярашкоў папіваў з юрыставага бакала віно. А юрыст бы той клешч прысмактаўся да Ведрыча.

Цяпер ужо і Трухану было што сказаць... Вось толькі, на жаль, ніхто ў яго нічога не пытаў. А сказаў бы ён так: ну, навошта такая цвердалобая прынцыповасць? Навошта нам гэты юрыст? Перад кім мы сыплем бісер, на што трацім энергію, чаму самі сябе не беражэм? Навошта самахоць узвалілі на сябе гэтую няўдзячную

місію — агулам, паўсюдна, без разбору агітаваць за беларушчыну абыкаго? Да беларускай мовы трэба яшчэ права допуску мець, трэба заслужыць гонар быць да яе далучаным.

Вось што сказаў бы Трухан, калі б кагосьці цікавілі яго думкі.

«…Ладно! Назовите мне хотя бы десяток бестселлеров на белорусском языке, типа «Трёх мушкетеров»… Ну хорошо, Караткевич, и то с натяжкой, ну «Полесские робинзоны»… А кроме?!»

«Стоп — я перахаджу…»

«А тады — вілка!»

«… Чаго ты прычапіўся да мяне?! Задралі вы ўжо! То ў пракуратуры з трактарамі, то якісь самашэчы з «Палескімі рабінзонамі»…»

«За стол, калі ласка!» — не запрасіла, а загадала, у самы час на кухню заходзячы, Нэлі. Яна паспела пераапрануцца. На ёй была сціплая цёмнавішнёвая з белымі карункамі сукенка, што рабіла яе падобнай на маладзенькую разбітную манашку, якая збегла ў манастыр па дурасці, ад нераздзеленага дзіцячага кахання, а цяпер каецца.

**5**

Толькі напоўнілі чаркі і фужэры, толькі Альберт Казіміравіч падняўся, каб сказаць тост, — не паспеў рота раскрыць, як грымнуў стрэл, умазаў у столь корак, трайным рыкашэтам адбіўся ад сцен, заскакаў па падлозе… Ведрыч знайшоў самы час адчыняць другую пляшку шампанскага! Нэліна цётка аж малую да сябе прыціснула, а потым, калі адпусціў спалох, рассмяялася з палёгкаю. І ўсе разам з ёю. Ну, меў гэты Ведрыч за душою штосьці такое, што крыўдзіцца на яго не можна было.

«Правільна, Толя, — сказаў Альберт Казіміравіч. — І без слоў бачна, як усе мы тут маю адзіную дачушку любім. І за яе п’ем! — Ён пацалаваўся з Нэлі і сеў, крыху збянтэжаны.

«Ты таксама будзеш піць?» — спытаў Ведрыч у Трухана.

«Буду...»

«Глядзі. Калі што, я цябе адкачваць не збіраюся. Ды вы ж не наядайцеся многа, — гучна папярэдзіў сваіх, — гарачае яшчэ будзе!»

Выпілі, закусілі, папрыцерліся адзін да аднаго, як яно заўсёды за сталом бывае... Поўным ходам пайшло святкаванне. Бразгат відэльцаў, нажоў, звон чарак, тэлевізар, які трэба было перакрыкваць... Добра, хутка Нэлі выключыла яго. На стале ўсяго хапала. Ведрыч налягаў на адбіўную з бульбай і з зялёным гарошкам. Імянінніца жавала бутэрброд з маслам і чырвонай ікрою. Церашкоў аддаваў перавагу салёным грыбам і марынаваным памідорчыкам... Як толькі на ім спыняліся вочы, так Трухану ўяўлялася ягоная жонка з сынам: што яны цяпер робяць у інтэрнаце? Ілья Ільіч калупаўся відэльцам у гуляшы, увогуле еў і піў мала і неахвотна — відаць, у думках усё яшчэ знаходзіўся там, на кухні, сярод няскончанай мовазнаўчай дыскусіі...

Ведрыч, як бы ў кампенсацыю за сарваны тост, артыстычна і без ламаніны прачытаў дзяжурны свой для такіх выпадкаў верш, той самы, дзе:

*Паэт сказаў: п’ем за Айчыну!*
*І кожны выпіў — за сябе...*

Усім так спадабалася! Прыцішэлы юрыст прамовіў:

«В поэзии — да, возможно... Какието скрытые рэзервы есть...»

«А вы, — звярнуўся раздабрэлы ад выпіўкі і закускі Альберт Казіміравіч да Трухана, — таксама пішаце?»

«Піша, яшчэ і як, — адказаў за яго Ведрыч. — Сны

запісвае. Пачытай штонебудзь, пасмяшы нас! Добра, добра, не чапаю... Ён у нас сарамлівы. Яшчэ ў вобмарак грымнецца. Ну, хоць пару слоў скажы — ты ж у гасцях!»

Змоўклі ўсе. Страшна пачырванеўшы, Трухан падняўся.

«Нэлі, — сказаў ён. — Калі я заходжу ў аўдыторыю... Не, лепш не так. Чамусьці заўсёды ведаеш, што ты ёсць, прысутнічаеш у аўдыторыі, нават калі не бачыш цябе — як сонца, якое мы бачым, нават не пазіраючы на яго. Такой жа прыгожай, светлай і патрэбнай людзям, як сонца, жадаю табе заўсёды заставацца. Усё».

І яго словы, як і Ведрычаў верш, спадабаліся гэтым добрым, з размяклымі ад алкаголю душамі, людзям.

Трухану нават папляскалі.

«Гэтыя маладыя празаікі панавучваліся гаварыць, як старыя дзяды! — пракаменціраваў Ведрыч. — Трухан у нас вораг усялякіх умоўнасцей, гаворыць толькі тое, што думае, і як правіла — чужымі цытатамі...»

А Нэлі сказала:

«Дзякую, Алесь», — упершыню назваўшы яго па імені.

Настаў самы час размяцца, ды пакурыць, ды, можа, паспяваць ці патанчыць...

«Ды курыце за сталом! — прапанавала Нэліна маці. — Столь высокая, не пажаўцее. Мой не любіць, але я і сама тут калінікалі з цыгарэткаю...»

Трухан раптам заўважыў, што Нэлі падае яму знак — каб выйшаў з ёю. Ён яшчэ і азірнуўся: мо хто іншы стаіць за спінаю, і таму адрасавана гэтае запрашэнне? Потым выбраўся зза стала і пайшоў за Нэлі на кухню. Па дарозе бакавым зрокам паспеў заўважыць, як Таіса Іванаўна правяла іх абоіх незадаволеным паглядам, нават зрабіла рух, як бы збіраючыся ўстаць і самой ісці за імі. Але ўмяшаўся Церашкоў:

«Такую цешчу, дык і жонкі не трэба», — пажартаваў ён.

І яна заўсміхалася і вымушана была застацца і адказваць на гэты фрывольны, пашлаваты камплімент.

На кухні Нэлі няўмела выцягнула з пачка цыгарэту. Трухан паднёс запалку. Ростам Нэлі была яму па плячо, таму ён нагнуўся, а дзяўчына, наадварот, вытрунілася, прыкурваючы, да яго падалася — блізка, амаль на адлегласць пацалунка… Трухан паспеў удыхнуць пах яе валасоў. Потым яна выпусціла з рота цыгарэтны дым, які перабіў іншыя пахі.

Сваё таннае курыва Трухан даставаць не асмеліўся, а яна сваё дарагое не прапаноўвала.

«Дзіўна. Мы ўжо два гады амаль у адной групе, — ціха, і ад таго, яму падалося, неяк ласкава сказала яна, — а вось так, самнасам — упершыню».

«Ты ж больш з Церашковым», — не падумаўшы, сказаў ён. Проста курыць вельмі хацелася.

«Сапраўды», — прамовіла яна. Уся ласкавасць знікла без следу.

Ну, і што рабіць? Аб чым гаварыць? Як таго пачаткоўца-веласіпедыста цягне ўвесь час у канаву, так неабазнанага ў палюбоўных справах Трухана ўпарта сцягвала на адну тэму, акурат на тую, што ўвачавідкі была непрыемнай Нэлі: пра Церашкова. Яму ўсё карцела сказаць, што зараз яго, Церашкова, чакаюць у інтэрнаце жонка з дзіцём. Падлавата, канечне, было б гэта.

Нэлі маўчала. І Трухан крыху памаўчаў. А затым — усё ж не вытрымаў:

«А ў інтэрнаце Церашкова жонка чакае… З малым сынам», — сказаў ён, у другі раз наступаючы на знаёмыя граблі.

«Ні ён, ні яго жонка мяне абсалютна не цікавяць!» — яшчэ больш суха прамовіла яна.

«Тады хто цябе цікавіць?»

«Можа нават і ты».

Яна глядзела не на яго, а ў цёмнае акно. У руцэ яе зусім не грацыёзна, заціснутая паміж указальным і вялікім пальцамі, дымілася цыгарэта. Трухан таксама за кампанію паглядзеў у акно. І ўбачыў, як у люстэрку: дзяўчына сядзіць, ён стаіць, медзведзявата над ёю нагнуўшыся, абапіраючыся кулакамі на стол … Але ў цэлым — нічога, сімпатычная карцінка. Такое адчуванне, што нібыта не на кухні яны зараз, а ў купэ цягніка, пазіраюць разам у цёмнае люстра акна, і ехаць ім яшчэ доўгадоўга, аб усім хопіць часу нагаварыца…

«Перастань, — няўпэўнена сказаў ён, чамусьці не да жывой Нэлі звяртаючыся, а да адбітку яе ў акне. — Я ж усё разумею, ведаю сваё месца».

«Адкуль ты яго ведаеш? Хто табе на яго паказаў пальцам? Ці табе прадалі на яго білет?» — у яе, відаць, таксама ўзнікла асацыяцыя з чыгункаю, цягніком, купэ.

«Ты ж ведаеш, пра што я».

«Нічога не ведаю. Хіба ты мне расказваў калінебудзь? Ці хоць бы спрабаваў? Ты ж якімісьці сваімі, нам, звычайным, недаступнымі праблемамі заняты…»

«Дык і ты нібыта не дужа цікавілася. Раскажу якнебудзь… Можна мне цыгарэту?» — не вытрымаў ён.

«Калі ласка, — яна пасунула да яго пачак. — Толькі навошта чакаць?»

«У сэнсе?»

«Каб пагаварыць нам нармальна. Запрасі мяне ў кіно, у кавярню, у парк пагуляць…»

Якая салодкаліпкая павуціна слоў, як лёгка ў яе ўблытацца!.. У яго зноў зашумела ў галаве.

«Моцная цыгарэта, — сказаў ён, — а я думаў, так — дамская…»

«Цыгарэта як цыгарэта. Дык запросіш? Ці ўсе вы аднолькавыя — толькі на словах малайцы?»

З выклікам, нібы пацьвельваючы яго, яна гаварыла. Але ён быў удзячны ёй і згодны нават на такое: хай розыгрыш, хай проста пасмяецца яна з яго. Абы яшчэ крыху працягнуць гэты момант — яны ўдвух, ціхія галасы, іхнія адбіткі у ваконным шкле…

«У мяне ёсць іншы варыянт. Паехалі да мяне ў вёску? На наступныя выхадныя. Цягнік цэлую ноч едзе. Нагаворымся… Дзень там пабудзем, а ўвечары назад. Ад цябе нічога не патрабуецца, толькі ты сама. Ну, як?» — Нарэшце ўдалося яму перахапіць ініцыятыву. У яго словах быў выклік.

«А што, — сказала яна пасля паўзы. — Я згодная».

(«Выходзь за мяне замуж». — «Я згодная», — таксама зляціць некалі з гэтых жа вуснаў. Грудкі сукенку напінаюць, варушацца, як жывыя. Вочкішчочкі, эх, ты, Церашкоў!..)

«Цікава нават. Дарогу я люблю. Як і вёску… А хто там у цябе? Я думала, ты круглы сірата».

«Дзед з бабаю. І яшчэ… гэта крыху іншая вёска, — сказаў ён. — Не такая, як ты, відаць, уяўляеш. Не дачны пасёлак. Наша — цёмная, чарнобыльская, спітая, напаўразбураная, акрамя прыроды нічым больш не цікавая… У хаце — сажа, бруд, падлога не мытая. Прыбіральня, выбачай, на дварэ».

«Напалохаў. На бульбе я не была, ці што? І дождж, і холад… Асабліва нам, дзеўкам: ні памыцца, ні, пардон, падмыцца… Амаль два месяцы так. І нічога страшнага. А ў цябе ўсяго адзін дзень. Дарэчы, што мы там рабіць будзем?»

«Ды ёсць адна справа…»

Трухану патрэбна была гэтая паездка яшчэ і вось для чаго: нарэшце ўпэўніцца, што ён сапраўды быў некалі Трухановічам і жыў у тым часе. Трэба было праверыць

знак, які зрабіў ён некалі, будучы Трухановічам: менавіта — у снараднай гільзе ён прыхаваў частку сваіх запісаў. Цяпер ён хацеў адшукаць гільзу, і тады ўсё стала б ясна.

Ён узяўся другую цыгарэту ад першай прыкурваць. Але Нэлі адабрала яе і зламала ў попелцы.

«Хадзем, — сказала пазмоўніцку, паказваючы тым, што ўжо ўзнікла нешта паміж імі, што з’явіліся ўжо ў іх сакрэты, якія звязваюць іх і якія іншым ведаць зусім неабавязкова. — А то ўдваіх столькі часу… Падумаюць, чым мы тут займаемся?»

Далей ўсё было як у тумане.

Трухан еў штосьці, піў штосьці. І звінела ў галаве, і шумела ў вушах — але зусім не сімптомамі хваробы… У яго нешта пыталіся: Ведрыч з аднаго боку, Церашкоў — з другога, Ілья Ілыч — цераз стол… Ён нешта адказваў. А на Нэлі і глядзець баяўся. Яму здавалася, што яна зараз пачне ўсіх па чарзе выклікаць на кухню. Ведрыча, Церашкова, нават пажылога юрыста — і ўсім ім у сімпатыях прызнавацца. Але яна ні разу больш не выйшла.

Пазней — у бальніцы, а потым у турме, часта згадваўся яму гэты вечар. Многае ўспаміналася: смак ежы, пахі, шахматы, твары гасцей, падобная на манашку Нэлі, «сабачы» пакой… Успамінаўся шум у вушах і ружовы туман у вачах… Словам, шмат чаго.

Але назву кнігі, якую падараваў тады Нэлі, ён не мог успомніць, хоць забі. Ні назвы, ні аўтара, ні вокладкі. Правал памяці. Карнэгі? Дзюма? Марыс Друон?

Ён апамятаўся, стоячы ў пярэдняй. Знаёмы ўжо шчанючок, падраслы крыху, неяк выграбся са свайго пакоя і цяпер церабіў Трухана за шнурок чаравіка. Альберт Казіміравіч памагаў Трухану апрануць куртку. Церашкоў і Ведрыч адзетыя ўжо былі і чакалі яго. Моцна падпіты Ілья Ілыч чапляўся да Ведрыча, той адпіхваў яго, і юрыста насіла ад сцяны да сцяны па ўсёй

пярэдняй. Нарэшце развіталіся, падзякавалі, выйшлі на вуліцу.

«Загляну ў яшчэ адну блатхату, тут паблізу», — сказаў Ведрыч (вось каму, а не Трухану, заўсёды ўсяго было мала!).

Церашкоў спяшаўся на метро, каб ехаць у інтэрнат да жонкі з сынам.

А адзінокі Трухан вырашыў пяшочкам прайсці па вячэрнім праспекце.

**6**

*«... Не паеду сёння на трамваі —*
*Лепш вячэрнім горадам прайду»*

Ён крочыў сабе памалу, і ўяўлялася яму, што не адзін ён ідзе, а з дзяўчынаю. Яму хацелася, каб была гэта Нэлі, але гэта была іншая, незнаёмая, крыху толькі на Нэлі падобная — так: зборны тып.

Ва ўсім, на што б ён ні пазіраў, яна прысутнічала. Яна была і гэтым скрыпучым снегам пад нагамі, і зорамі над галавою, і святлом ліхтароў, і асветленымі вітрынамі магазінаў... Паступова яна матэрыялізавалася, і вось яны ўжо ідуць побач, і ён нібыта размаўляе з ёю...

Чорт вазьмі. Ды чаму не можа быць так? Чаму ўсё, што для іншых звычайнае, нармальнае, даступнае, для яго — недасяжнае? Выйшла дзяўчына пакурыць на кухню, і зацікавілася табою, і з таго моманту трывала «прапісалася» ў тваёй душы і ў думках — ну і радуйся. Чаму б, на добры лад, не даць гэтаму працяг? Не запрасіць яе ў рэстаран на дзень нараджэння? У машыне да універсітэта не падвезці? Брыльянтавыя каралі не падараваць?

І што ж мне за лёс такі! Хто, калі і за чые грахі на мяне гэтае пракляцце накінуў? Як толькі блісне праменьчык

надзеі — так чакай неўзабаве перыяду слепаты; як толькі грам радасці — так атрымоўвай наўздагон стопудовае расчараванне…

Любому нармальнаму хлопцу якія б на яго месцы адкрываліся перспектывы! Хоць бы ў меркантыльным плане: мінская кватэра, добрыя і багатыя цесць з цешчаю, разумная і прыгожая дзяўчына, а тое, што без цара ў галаве, дык зусім маладая ж яшчэ…

«Нармальнага»! У тым і справа, што трэба ж было Нэлі наляцець акурат на яго — ненармальнага, незвычайнага. Нават тое маленькае, просценькае, што ў мяне зараз ёсць, гэтыя бяскрыўдныя мары, гэтае староннняе сузіранне чужых жыццяў — нават гэта для мяне раскоша, бо можа скончыцца ў адзін міг, бо захінута ценем дамоклавага мяча аперацыі, атручана ўвесьчаснай, жудаснатупой падрыхтоўкай да канца ўсяго…

Тут яму раптам крыўдна стала. Не на сябе, не на лёс свой пакручасты, а… на жанчын. Добра, усё так: хваробы, беднасць, панурасць, некамунікабельнасць… Але ж гэта знешняе. Дык угадайце ўнутранае! Ацаніце яго, узнагародзьце за яго. Вас жа тысячагоддзямі паэтызуюць паэты, малююць мастакі, апяваюць кампазітары; дзе хвалёная спагада ваша, дзе інтуіцыя ваша? Чаму вы не адчуваеце, што такіх як я, — незвычайных, асаблівых — можа быць, два з паловаю чалавекі на ўвесь гэты горад?

У вас пытаю.

«Усё жыццё заву іх і заву, а яны, сволачы, не ідуць і не ідуць». (Ю. Алеша.) Тут яшчэ вось што: Ігара з Церашковым, ці таго ж Ведрыча, пакахаць справа не хітрая. А вось яго — «палюбіце мяне чорнага, а белага я і сам сябе палюблю». (Народная прымаўка.) Дзе, да пляча якой Мармеладавай прытуліцца, да чыіх каленяў прыхінуць буйну галаву, каму — не, не паплакацца, не паскардзіцца — апошняя гэта справа, а з кім скупымі двуматрыма сказамі проста падзяліцца?..

Чаму ж тады здзіўляемся нарастаючай хвалі «блакітнізму», гэтай своеасаблівай мужчынскай помсты ім — ад імя ўсіх іхніх незлічоных ахвяраў, ад імя ўсіх тых, каго яны, гэтыя нагастыя і грудастыя, без часу звялі ў магілы, загубілі ў войнах, распачатых зза іхніх дурных капрызаў, пазнішчалі на дуэлях, згнаілі па турмах і дурдомах; помсты ад імя мільярдаў і мільярдаў тых, хто так і не нарадзіўся, забіты іхнімі абортамі…

Во занесла. «Не мне б гаварыць пра іх з такой злобаю, — мне, які акрамя іх нічога на свеце не любіў». (М. Лермантаў.)

Тады можа ўспомніць і тое, колькі войнаў зза іх не адбылося? І тое, колькіх ўратавалі яны, павыцягвалі з петляў і з дурдомаў?.. Ды і з чаго ты ўзяў, што Нэлі… Можа, не так і безнадзейна ўсё. «Ты мяне цікавіш…» Здараюцца ж цуды на свеце. Можа, Нэлі якраз і ёсць тое самае выключэнне, якому можна схаваць галаву між каленяў? Прадвесніца якогасьці пералому? Так бы мовіць, плата — ганарар яму за ўсе нягоды. І з гэтага часу наладзіцца ўсё, і аперацыя пройдзе ўдала, і паправіцца ён, і пісьменнікам стане, або юрыстам, як Ілья Ільіч, і разбагацее бязмежна, і ў машынах раз’язджаць будзе, і па рэстаранах Нэлі вадзіць…

А раптам? Проста дапусцім. Смехам, не ўсур’ёз, не надоўга. Што вось неўзабаве будзе ў іх купэ адно на дваіх, цэлая ноч, без святла… І што ён ёй скажа? У такіх выпадках нармальныя людзі звычайна будуюць светлыя планы: як жыць, як разбагацець, як выгадаваць дзяцей… А ён — якую шчаслівую перспектыву зможа ён намаляваць перад ёю? Паведаміць пра сваю аперацыю? Пахныкаць, што няма грошай на лячэнне? Паныць, як цяжка яму ўсё жыццё, без будучыні…

Здарава. Вось з гэтага давай і пачынаць. Дык жанчыны вінаватыя, ці мы, такія, як я — слабыя, істэрычныя стварэнні, што нясуць да іх замест сілы, упэўненасці, кахання свае смаркачы ў насовачках?..

## 7

Назаўтра пасля дня нараджэння, у панядзелак, на першым жа ўроку першай лекцыі Трухан апынуўся з Нэлі за адной партаю. Гэта было ўпершыню за ўсю іхнюю сумесную вучобу. І сёння, вось цяпер, Трухан паклясціся быў гатовы, што ні ён, ні Нэлі спецыяльна не падгадвалі, каб так сесці. Проста лёс нарэшце вырашыў звярнуць на іх увагу і ўмяшаўся: узяў за каўнер аднаго і другую і звёў іх разам.

Што б ёй сказаць? — прыкідваў Трухан, скоса на яе пазіраючы. Проста падзякаваць за дзень нараджэння? У яго і ў думках не было даваць працяг учарашняй гутарцы на кухні.

Ён паўздыхаў, паварочаўся і, так і не прыдумаўшы нічога (водар духоў яе перашкаджаў, і яе нага каля сваёй, і «што за партаю адной ты сядзела не са мной…»), абы даць пальцам размінку, узяўся канспектаваць лекцыю, аўтаматычна, ад суму перакладаючы гэтую нудняціну на беларускую.

«Ну, не перадумаў? — Нэлі кранула яго за локаць. — Ты запрашаеш мяне?»

Лёгкая прыкрасць была ў яе голасе — ад таго, што не ён, а яна вымушана пачынаць. Яна не разумела яго маўчання. Адкуль ёй было ведаць, што яшчэ падчас учарашняга шпацыру па вячэрнім горадзе, і пазней, уначы, ён ужо напярод усё з ёю здзейсніў: ужо з’ездзілі яны з ёю да яго ў вёску, вярнуліся, ён ёй выгаварыўся, і прызнаўся ў каханні, і прапанаваў выйсці замуж, і атрымаў насмешлівы, строгі адказ… Таму і быў ён цяпер амаль сярдзіты на яе — як нібыта ўсё гэта адбылося на самой справе.

«Я якраз сягоння збіраўся ехаць па білет. Дык што — па білеты? Калі ты не…»

«Нічога не я. Сказала ж. Проста не думала, што так хутка».

«Нэлі, можа, ты мне проста паслугу робіш? Глядзі. У цябе сваіх справаў хапае».

«Сказала ж!»

Ён чытаў па ёй, як па разгорнутай кнізе: па твары, па сярдзіта падціснутых губках, па наіўным прыжмуры вачэй; стараўся ўгадаць ход, паслядоўнасць, чаргаванне яе думак і, здавалася яму, не без поспеху —угадваў, «уваходзіў» ў яе хоць такім чынам…

Ёй, да сцяны прыпёртай, цяпер не было як адступаць. Ад жадання зрабіць наперакор — ён не сумняваўся ў гэтым — яна паедзе. Білеты. Можа, кветкі. Вагон-рэстаран, пятаедзесятае… Каб можна было на дзень назад перанесціся! Табе ж давалі ўчора грошы.

Увечары ён паехаў да Ведрыча.

Паехаў на авось, не ведаючы адраса, памятаючы толькі назву вуліцы. Аднак пачварную аблупленую будыніну інтэрната нельга было не знайсці і без адраса. Толькі цяпер, да ганка падыходзячы, Трухан апамятаўся, што студэнцкі білет не ўзяў, і могуць не пусціць, а нумару пакоя ён таксама не ведае. Як і не ведае, дзе можа быць сам Ведрыч. Тактакі зараз сядзіць ён на месцы, са сваім характарам, і чакае яго...

Ды калі ўжо лёс возьме пад сваю апеку, то ўсур’ёз і надоўга. Не давялося ні ў кога прасіцца, нікому нічога тлумачыць, нават ў вестыбюль Трухан не зайшоў, бо сутыкнуўся з Ведрычам нос у нос на ганку, у дзвярах, над якімі цьмяна свяцілася ўзятая ў сетку лямпачка. Ведрыч быў з сумкаю ў руцэ. Пабачыўшы Трухана, ён не ўзрадваўся, а як бы засаромеўся нечага. Перакінуў сумку ў левую руку, каб павітацца. Паздрадніцку звякнулі парожнія пляшкі.

«Трохі парадак вырашыў навесці, — знайшоўся, што патлумачыць, Ведрыч.— А ты чаго тут? Па грошы прыйшоў?»

«Ды не — так…»

«Не хлусі. Бачу, што па грошы. Спахапіўся. Табе ўчора давалі? Дык трэба было браць… Добра, насупіўся ўжо. Знайду я. На, сумку патрымай», — і пайшоў, не запрасіўшы Трухана нават у вестыбюль, не тое што да сябе.

Пакуль чакаў, Трухан тупаў на ганку, каб ногі не замёрзлі.

«На, — сказаў, з'яўляючыся, Ведрыч. Трухан запіхнуў скручаныя трубачкай купюры ва ўнутраную кішэню курткі. — Бяда мне з вашым каханнем. Па вачах бачу, навошта яны табе спатрэбіліся. Трухан, хочаш параду? Не разлічвай на Нэлі. Гэта дохлы нумар. Яна не па табе дзеўка. Не строй планаў, бо пасля толькі горш будзе. Як сябар табе кажу!»

«Ды мне… доўг аддаць…»

«Ведаю я! Пасля ўчарашняй кухні табе гэты доўг спатрэбіўся».

Такім чынам праблема з грашыма была вырашана.

У суботу ўвечары Трухан таксама, як на ганку Ведрычавага інтэрната, прытанцоўваў на пероне каля цягніка, які восьвось павінен адправіцца. Смех смехам, але гэта было яго першае ў жыцці спатканне, з усімі атрыбутамі: хваляваннем, непакоем, гаданнем: прыдзе — не прыдзе, зіркамі на гадзіннік то на руцэ, то на вялікі вакзальны… З букетам кветак і са смутнай здагадкаю, што неўзабаве можа адпомсціцца яму гэтая фармальнасць, гэтае жаданне «быць як усе»: дзе і ў чым зімою ў цягніку іх паставіць, гэтыя кветкі, і як у цесным купэ будуць яны лезці ўвесь час пад рукі — замінаючы, перашкаджаючы…

Час бег. На пероне дакурвалі цыгарэты апошнія пасажыры. Правадніца прасіла лішніх «пакінуць вагон». Трухан убачыў Яе, калі вяртаўся ад сметніцы, куды хадзіў выкідваць букет.

Румяная, задыханая… Мілая — яна спяшалася да яго. У

спартыўным касцюме. Дзіўна, як гэта ён раней не заўважаў, што пры мініяцюрнай постаці ў яе такія доўгія, роўныя ногі. Дык вось яно як бывае. Вось ты якое, каханне, эпізоды твае, дэталькі — такія значныя… Пераходыперагрузкі твае — то ў жар, то ў холад, то ў сум, то ў радасць…

«Малайчына, што здагадалася так апрануцца, — яшчэ нічога не разумеючы, шчаслівы, сказаў ён. — І пасуе табе, і для дарогі…»

«Алесь, я не змагу, — хутка перабіла яна. — Не крыўдуй».

«… практычны», — па інерцыі працягваў ён, і пакуль дагаворваў канец сказа, тады толькі да яго дайшло, што ніхто ні з кім нікуды не едзе.

«Білета шкада — прападзе…»

«А ты гаспадарлівая, — сказаў ён, крыва пасміхнуўшыся. — Эканомная».

«Шчасліва з’ездзіць».

Цягнік ужо кранаўся. Правадніца саступіла з падножкі і ўпусціла Трухана. У тамбуры ён азірнуўся. Нэлі прыклала да вуснаў палец, усміхнулася яму і памахала рукою. Правадніца гэта бачыла, яшчэ іншыя людзі на пероне… Дзяўчына сама паехаць не можа. Але прыйшла на вакзал, каб правесці хлопца. Усё так проста.

Ён прайшоў у купэ. Тры месцы былі вольныя. Прайшла правадніца, забрала білет. Ён пасядзеў крыху, затым узяў сумку і — праз тамбур, праз хісткі пераходны масток, на якім кідала, як на караблі падчас шторму, праз гэты вецер, свіст, лязгат —прайшоў у агульны вагон. Хвілін праз пятнаццаць, у Мачулішчах, ён выйшаў на куды больш людны, чым у Мінску, перон. Людзі чакалі электрычку. Зрэшты, ў гэты час бегалі яны адна за адной. Трухан прапусціў адну, бо не захацеў выкідваць недапаленую цыгарэту. Другая падышла… І вось ізноў мінскі вакзал плыве за вакном.

Інтэрнат. Пакой. Ігара няма, не трэба нічога тлумачыць. Хаця слабенькае апраўданне было ім падрыхтавана: спазніўся на цягнік.

Ён уключыў святло. Сеў на ложак. Добра, круцілася ў галаве, хоць кветкі выкінуў. Варта было пазычаць грошы, рыхтавацца, турбавацца, каб праз якую гадзіну сядзець тут, на гэтым ложку, дзе мог бы і нікуды не збіраючыся сядзець… Вялікая дурасць з яго боку!

Гарэла святло, а ён усё сядзеў: ці то спаў з расплюшчанымі вачыма, ці проста задумаўся… Сціхла за сцяною музыка, адно патрэсквала, шамала штосьці — ціха, бы іголка па краі плацінкі. Ён падняў галаву і ўбачыў, што гэта… прусак шастае пад газетаю. Не пад газетаю нават, а пад стосікам жоўтай паперы. І не свяцільнік гарыць, а газовачка — гільза з кнотам, патрэсквае сабе, амаль не даючы святла… І не ў інтэрнацкім пакоі ён сядзіць, а — у сваёй каморцы, і на ім не касцюм, а гімнасцёрка і старое галіфэ, а на нагах — зручныя, хоць і дзіравыя, кірзавыя боты. Вакенца расчыненае насцеж. На дварэ — не зімняя ноч, а хутчэй летняя: такая цёплая, густачорная, і ціхаяціхая… Нядзіва, што чуваць шкробат прусака і трэск кнота.

## Частка чацвёртая

### 1

Трухановіч зусім не здзівіўся гэтаму перамяшчэнню. Плаваючы паміж эпохамі, жывучы адначасова двума жыццямі, ён спакваля — сон за сном, запіс за запісам — падрыхтаваў сябе да таго, што два гэтыя жыцці, як дзве няроўныя, непаралельныя прамыя паступова будуць усё больш выраўнівацца, рабіцца паралельнымі, збліжацца — пакуль не сальюцца, не злучацца нарэшце ў адну…

Іншае было цікава: і ў тым, і ў гэтым часах ён помніў толькі да нейкай пэўнай мяжы — у тым, «будучым», успаміны абрываліся на вяртанні свайго двайніка з

Мачулішчаў у Мінск, у гэтым, «мінулым» — на прыбыцці ў вёску, на знаёмстве з сямейнікамі і ў камору ўладкаванні.

Ён пстрычкаю і цытатаю з ранняга Коласа:

— Куды сабраўся? А пачпарт у цябе ёсць? — прагнаў прусака (той схаваўся ў шчыліне стала), прабег вачыма, як бы пераправерыў яшчэ раз асноўныя этапы прыгодаў свайго мінскага цёзкі з прозвішчам без «іч»... Потым запіхнуў пажоўклыя аркушыкі пад сяннік тапчана, патушыў газоўку і ў поўнай цемры, памалу, звыкла выставіўшы наперад руку, выбраўся ў сенцы, а адтуль — у двор. Было позна. Усё жывое і нежывое спала даўно. Толькі адзін з сабак ціха бразнуў ланцугом недзе блізка, але нават з будкі не вылез, — за гэтыя тры дні, што прайшлі ад часу яго прыезда сюды, сабакі паспелі прывыкнуць да яго.

Ён хацеў выйсці з двара, пайсці далей, на тое месца, якое днём відаць было з акенца каморы — дзе поплаў, і каля рэчкі алешнік. Але пабаяўся заблудзіцца ў цемры.

Прысеў на калоду каля сцяны. З усіх бакоў яго атуляла ноч. Цемра, густата яе, парная цеплыня яе адчуваліся ім фізічна, здаваліся ватнымі, вязкімі, вадкімі — нібы ён, як рыбіна, нарэшце апынуўся ў роднай воднай сваёй стыхіі, у цёплым начным акіяне.

Ён глядзеў перад сабой, амаль нічога не бачачы, прыслухоўваўся, амаль нічога не чуючы, усміхаўся сам сабе і думаў, што вось ужо тры дні пражыў ён тут, і гэтага часу было дастаткова, каб агледзецца, абнюхацца, асвойтацца, каб утрамбавалася ўсё ў галаве і каб можна было пачынаць рабіць нейкія высновы. Першая з якіх — усё зусім не так і кепска, як уяўлялася ў шпіталі.

Цяпер можна было з усмешкаю ўспамінаць нядаўнія свае «страхі», напрыклад, хоць бы тую ж сустрэчу з так званымі «родзічамісваякамі», тое, што калі выкрыецца яго, хай сабе і ненаўмыснае, шарлатанства і высветліцца, што ён ніхто гэтым людзям — наляцяць,

аблаюць, абражаць пачнуць, насміхацца... Прагоняць. Дык гэта яшчэ паўбяды. А то (чаму б і не? Мо гэта толькі на людзях ягоны «бацька» такі добранькі, усё Бога згадвае, а дома — самы звычайны тыран, самадур) — накінуцца разам са сваім Міканорам, аддубасяць дрынамі да паўсмерці. Можа, і ў шпіталь да яго ездзілі так, для чужых вачэй адводу, і забралі адтуль таму толькі, каб потым на ім злосць спаганяць, крайняга ва ўсім рабіць, бо і такія ж у сем'ях патрэбны, асабліва ў сем'ях старадаўніх, цемрашальскіх...

Пры ўсёй несур’ёзнасці, дзіцячасці такіх апасак была тут пэўная логіка. А што ж, нянькацца з ім? Дзякаваць лёсу, што вось зваліўся на галаву калека, з якога ў вёсцы ніякага толку, які да сялянскай працы непрыгодны, адно карміі самога, дык яшчэ і «без памяці» — як з такім малахольным жыць у адных сценах, яшчэ невядома, што ён адмачыць можа!..

А то на 180 градусаў думкі яго мяняліся. Калі не гэтае — не абразы, не здзек з яго калецтва, дык іншая крайнасць можа ж быць: розныя «ўрачыстыя» сустрэчы, якія пачнуцца, здавалася яму, адразу ж, як толькі ваколіцы абляціць чутка, што Трухановічаў «дурненькі» з вайны вярнуўся. І аб'явіцца рознай радні, пацягнуцца чарадою, не паспее ён парог пераступіць, і будуць так бясконца швэндацца — то ў хату, то з хаты, як у маўзалей ці ў звярынец, усе гэтыя суседзізнаёмыя, з якімі яго ніхто не знаёміў, кумысваты ды хросныя-хроснікі, з якімі ён нікога не сватаў і не хрысціў, ды «сябры маленства», аб якіх ён паняцця не мае і якіх першы раз у жыцці бачыць. І пад кожнага трэба будзе падладжвацца, кожнаму даваць увагу, вітацца, усміхацца, ківаць, падтакваць, гвалтаваць сябе, ламаць камедыю, тупую ўсмешлівую маску на твар насунуўшы!..

Аднак на яго вялікае, і прыемнае, здзіўленне нічога падобнага пакуль не адбывалася. Не спраўджваліся шпітальныя страхі. Ніхто ў гэтыя першыя дні яго не турбаваў. Ніякіх нават адведак не было, калі не лічыць Міканоравага сябра, таксама валрэўкамаўца — Якава,

які, з яго слоў, нібыта помніў Труханові́ча яшчэ «воось такога!» (рука ніжэй калена), дык і гэты Яшка паводзіўся стрымана, у душу з роспытамі не лез, — наадварот, падбадзёрваў надзеяю, што ўсё наладзіцца, абы час, выздаравееш, паправішся, «і ўспомніш усё, дарагі ты мой таварыш, і паваюем мы з табою, хоць і не на ваенных хрантах, але на не менш трудных — мірных!» І больш ніводнага чалавечка. Ці то сама пара такая гарачая была, калі людзям больш светлага дня трэба ўрваць, ці проста да ўсяго яны ўжо прывыклі такім ліхалеццем, усяго набачыліся — мала хіба калек з войнаў павярталася, і ў сваёй вёсцы, і ў суседніх; ну, будзе жыць яшчэ і такі — «няпомняшчы»... А мо самі тагачасныя людзі былі не такія, якімі больш чым праз паўвека зробяцца, можа, гэтыя, саветчынай пакуль яшчэ не перакручаныя, сацыялізмам не пераламаныя, канцлагераў, жабрацтва, вялікіх голаду і холаду не ведаючыя — па самой прыродзе сваёй больш тактоўныя, разумнейшыя, спагадлівейшыя?..

Тое ж самае атрымалася і з новай яго сям’ёю. Прынамсі, у гэтыя першыя дні ён зусім не адчуваў сябе лішнім, непатрэбным. Працаю яго не нагружалі; увогуле, ён неяк адразу пастаўлены быў у такія ўмовы, каб непаўнавартасць яго не адчувалася. Паступова пачало да яго даходзіць, што не раз, не два гэтыя людзі раілісярадзіліся, перш чым забраць яго, і раз ужо вырашылі гэта, дык і ўсё астаняе было імі да драбніц прадумана. Само сабою разумелася, што разам з ім самім цяпер яны ўзвальваюць на свае плечы і ўсе яго клопаты: і дзе жыць яму — выпадак з каморaю найлепшы таму доказ, і што есці, і чым займацца... Знойдзецца работа. Лучыны нашчапаць... Грыбыягады — гэта ж такі ў сям’ю прыбытак, бо ў каго здаровага шмат вольнага часу на гэта?.. Рыбная лоўля... Сячкарню, тачыла можна і адной рукою круціць... Вады прынесці, бурака, бульбіну выкапаць, кош паднесці, бацвіння нарваць... Ды абы захацеў — занятак знойдзецца!

## 2

Але людзі ёсць людзі, яны былі жывыя, а значыць, прадказальныя. Да таго ж у стасунках з людзьмі ў Трухановіча меўся ўжо сякітакі вопыт: прыкідвайся «бяспомным», «кантужаным», і прывыкнуць і рана ці позна адчэпяцца.

Куды больш палохала яго сустрэча з нежывым — тое, што прыедзе ён у вёску, хай змененую, хай васьмідзесяцігадовай даўнасці, але сваю, родную; і якою ж паўстане яна перад ім? Быў у іх у шпіталі адзін, якому рабілі аперацыю на вочы, дык ён не так чакаў дня зняцця з вачэй павязкі, колькі страшыўся гэтага. Яшчэ б — пакуль ёсць спадзеў, датуль ёсць жыццё. А раптам крах? Раптам замест такога цуду, як нанова вернуты зрок — цемра поўная, цемра вечная, і няма больш чакання, няма жыцця… Штосьці падобнае, хоць і не так глыбока, канечне, адчуваў Трухановіч, уяўляючы свой прыезд сюды і агляд вёскі. Як ні соладка было марыць-думаць пра вырыванне са шпітальнай няволі, як ні жадалася перамен, але боязь знятай з вачэй павязкі прысутнічала, астуджала душу. Гэта ж колькі будзе новага ўсяго! Кожную хвіліну — новае ўражанне, і кожнае — як міністрэс! Ён і без таго сам з сябе дзівіўся, як удаецца яму столькі часу ўтрымлівацца на мяжы явы і вар’яцтва, на такой тонкай павуцінцы балансаваць паміж імі.

Ён баяўся ўбачыць якіясь блізкія, з маленства знаёмыя малюнкі, першароднасці іх баяўся, іншага іхняга ракурсу — і ўсё гэта трэба будзе ўсвядоміць, змірыцца з ім і жыць сярод яго, пастаянна робячы скідку на фізічны час, трымаючы на розуме зменлівасць яго, ды яшчэ і ў такім перакручаным варыянце! Прыблізна тое самае, як бы, жывучы, не старэць, а маладзець, не расці з гадамі, а драбнець, памяншацца, дабіраючыся ў рэшце рэшт да моманту зачацця…

І вось прайшлі тры дні. І аказалася, што не ў далёкае сваё мінулае ён увайшоў, ці, больш дакладана, на скрыпучым возе ўехаў, а ў чужое і новае. Была не

сустрэча, а знаёмства. Не гаспадаром ён тут быў, а госцем. Паўтарыўся варыянт з дарогаю. Замест шчымлівасалодкай вастрыні ўражанняў была звычайная цікавасць, больш таго — нават лёгкае расчараванне, калі не сказаць, раздражненне, бо ўвесь час хацелася ўмешвацца і перастаўляць усё тут на свой лад, так, як у яго дзяцінстве было.

Ён чыкільгікаў сваёй новайстарой вуліцай, не пазнаючы амаль нічога і, вядома ж, нікога — нікога з людзей, гэтых лапцюжнасярмяжных, этнаграфічнакаларытных дзяцей лясоў і балот, што шумным гуртам нібыта высыпалі зараз са старонак кніг і з экранаў і паразбрыліся па дварах, пад чаратовыя дахі сваіх маленькіх, смешных, дэкаратыўных хатак… Некаторыя, абапёршыся на плот, віталіся з ім, а тойсёй яшчэ і да шапкі цягнуўся. Ды толькі што яму было да іх? Калі яшчэ не нарадзіўся нават той, хто яго народзіць?

Ён падоўгу ўглядаўся ў павароты вуліц, хаты, дрэвы, платы, студні… І толькі тады яму пачынала здавацца, што ўсё ж нешта ён пазнае. Студня была амаль такая, як і ў ягоным будучым часе, з дубовым развілістым крукам«жураўлём», і стаяла на тым самым месцы — на перапутцы дарог у цэнтры вёскі… Маладая ліпа побач — ну, гэтая дажыве да яго часу… Непадалёку крыж, атрыбут кожнай палескай вёскі — таксама стары знаёмец, абвязаны вышыванымі ручнікамі, у загародак з усіх чатырох бакоў узяты… Зараснікі юных акацый, каля якіх, ці пад якімі праз дзесяцігоддзі пабудуецца школа, дзе ён будзе набірацца розуму…

Вуліца была амаль такая ж — жоўтым вераснёвым сонцам залітая, з курамі ў цёплым пяску, рабая ад плямаў святла і ценю; праўда, была яна нізкая, як лагчына, і ўвесну і ўвосень забірала з падворкаў дажджавую і талую ваду, ператваралася ў цэлы ручай, які ўліваўся ва ўжо сапраўдную рэчку. А ягоная вуліца — пазнейшая, насыпная і асфальтаваная, была ледзь не да вокнаў хат — такую вось радасць зрабілі людзям пасля Чарнобыля, і калі ў першым выпадку вада сцякала на вуліцу, дык у другім — у двары, мала таго —

сама тая, на скорую руку насыпаная, вуліца падчас добрага дажджу прасядала, распаўзалася, як аладка, дарожны баласт навальваўся на платы, ламаў іх…

Здавалася, нават хаты некаторыя можна пазнаць было… Хаця не — падман зроку, ілюзія паўтору. Якразтакі хаты ўсе былі чужыя. І стаялі ў іншым парадку, чым у яго часе. Гэтыя як бы ад чужога вока хаваліся, да зямлі прыпадалі, падалей ад вуліцы ўцякалі… Дык і не дзіва: пажары, войны, пярэбары… Не раз, не два ўсё тут мянялася, перабудоўвалася, калі тыя ж хаты па звёнах разбіраліся, на іншае месца пераносіліся… Потым, з часам, патроху багацеючы, гаспадары будаваліся ўжо бліжэй да вуліцы, каб чужаку бачны быў дастатак, а старая хацінка так і заставалася — пад сцёбку, пад хлеўчык, трухлець і дагніваць на далёкім задворку, і часта толькі пагорак, зарослы маліннікам, бур’янам ды ваўчкамі, абазначаў след яе…

Не без цяжкасці Труханові адшукаў месца будучай сваёй хаты. Бацькі перабраліся ў гэтую мясцовасць і пачалі будавацца тут позна, пасля вайны. Прыблізна вось тут, на гэтым дзікім дзірване каля рэчкі, — вунь і мост, вунь і граб (ад якога ў будучым жыцці Трухановіч застане толькі вялікі, гладкі і цвёрды, як жалеза, пень, на якім добра будзе гуляць у карты і ў капейкі)…

Так дабраўся ён да рачулкі. Радасць мая, каханне маё, толькі цябе я заўсёды ўспамінаю і ўспамінаць буду. Колькі разоў, калі жыць не хацелася, вечарамі і «начамі, чорнымі ад роспачы, лавіў у яве, ці то ў сне» — цябе, ты стаяла ў мяне ў вачах, я праходзіў тваімі берагамі, праплываў тваімі водамі ў чоўне; раскінуўшы рукі, буслам завісаў над табою… Бульканне перакатаў тваіх было мне музыкай, шэпат сухой асакі і чаратоў тваіх — калыханкаю, і лягчэй станавілася, як ад рукі матчынай, і сэрца балець пераставала, і слязьмі выганяўся страх, і жыць хацелася, і цябе бачыць… Недзе вычытаў Трухановіч, што колькі ні спрамляй раку, яна, як вена на жывым целе, упарта будзе старацца паўтарыць натуральнае сваё рэчышча, свой шлях, свае ўсе павароты і звіліны. Так што рэчка —

рачулка яго маленства і юнацтва — была, бадай, адзіным, што практычна не змянілася. У сэнсе, месца знаходжання яе не змянілася. А так — канечне: тут яна была жвавая, з прыткай плынню, з вольхамі, вербамі па берагах… У ягоным часе ўжо не тое: амаль стаячая, мелкая, з мазутнымі плямамі на вадзе, дзе з лысымі, нават без травы берагамі, дзе зарослая лазняком настолькі, што да вады і не падступіцца.

Тут замілоўваў мосцік — такі слаўны, з круглых бярвенцаў, гарбатавыпуклы пасярэдзіне і ніжэйшы на канцах, — куды да яго іхняму пазнейшаму, калі зноўтакі ў сувязі з Чарнобылем, будуючы дарогу, узяліся і за мост — перапнулі рэчку двума бэлькамі, на іх цяпляп накідалі бетонных пліт, усё гэта нязграбна, непрыгожа, крыва, коса, і паехалі, пакінуўшы за сабой, як пасля баявых дзеянняў, пад адхонам насыпу і ў самой рэчцы кучы бетону, кавалкі пліт, шчацінне арматуры…

І ўсё адно гэта была ягоная рэчка! А ўсё астатняе — усё, што змагло дацягнуць да ягонага будучага часу, чамусьці не ўзрушала, не радавала, нічога ў душы не краналася. Струны настальгіі маўчалі. Больш логікі, чым душы, больш халоднага цікаўнага розуму, чым шчымлівага трапяткога сэрца… Замест захаплення ад сустрэчы з усім гэтым — як з першым каханнем, як з маладою маці, як з самім сабою малым (а Трухановіча неаднойчы спакушаў варыянт, не раз яму марылася, што пры такіх тэмпах, калі ўдасца яму ацалець і дажыць да сваіх семідзесятых, гэта значыць, да даты свайго ўласнага нараджэння, і да больш позніх часоў, калі будучы двайнік яго пачне гаварыць, і ў школу пойдзе, — дык цалкам магчымая сітуацыя, што ім удасца ўбачыцца; сустрэча самога з сабою — вось было б здорава! Гэта ж ад колькіх памылак можна было б застрахавацца, папярэдзіць іх, які харошы, надзейны закласці стартавы падмурак для далейшага жыцця!) — замест, словам, радасці спаткання з мілым, дарагім мінулым было будзёнае бясколернае статычнае адчуванне, што проста прыехаў ён у якуюсь цудам захаваную, цывілізацыяй амаль не кранутую, патрыярхальную чужую вёску. Усё было яму тут чужое,

і ён быў чужы ўсяму — жывому і нежывому, — прыезджы, часовы госць, заблукалы паміж стагоддзямі, кватарант, дачнік, студэнт «на бульбе»...

## 3

Яшчэ ў шпіталі, дзе вольнага часу было хоць адбаўляй, Трухановіч часта думаў, і ўсё даўмецца не мог: чаму лёс, ці нейкая іншая вышэйшая сіла, так пасмяяліся з яго? Чаму закінулі ў гэтую глушэчу, бядоцце, рэзрух, а не ў якісь спакойны, ціхі час, у якуюсьці багатую еўрапейскую краіну, дзе няма войнаў, дзе іншая прырода, іншая псіхалогія, дзе сытыя, шчаслівыя людзі не дбаюць пра вечную скарынку хлеба і таму перад імі не стаіць вечнага пытання, як бы шляхам рэвалюцыйнай калатнечы адабраць лішнюю скарынку ў багацейшага суседа?

Ды справа нават не ў гэтым. А ў тым, што якая — пры іншым раскладзе — магла б атрымацца цудоўная магчымасць «бясплатна» свету белага пабачыць! Зрэшты... А хто яго прывязаў тут? Не позна ж яшчэ. Мо і праўда — не сядзець тут сіднем? Дарогі яму адкрытыя, ён вольны... Дакументы нейкія ёсць. У крайнім выпадку Міканор паперу ў валрэўкаме выправіць... Станцыя чыгуначная блізка... Ну, а там? Далей куды? У Гомель эрэсэфэсэраўскі? У Менск — да Купалы? У Маскву — да Горкага? У Вільню — да Гарэцкага? І што ён ім скажа? Пры ўмове, калі яшчэ дабярэцца да іх, ды калі яны яго самі да сябе дапусцяць. Якія такія светлыя перспектывы перад імі намалюе?

Тады, можа, у супрацьлеглы бок? На захад? Праз Варшаву, якую акурат у гэты момант аблажылі войскі Тухачэўскага, — у Германію, Францыю, Англію? Да сваіх жа братоўбеларусцоўэмігрантаў, бо хто яшчэ, акрамя іх, прыме яго — не Керзан жа з Пуанкарэ ці дэ Голем (які, да таго ж, сам пакуль яшчэ дужа дробная фігура)... Ды і свае, эмігранты, — ці прымуць? Ці паціснуцца, ці вызваляць месца для яшчэ аднаго

няшчасніка? Які толькі тое і ўмее, што «каркаць» пра лёс іхні незайздросны, перакаціполеўскі… Дык яны гэта лепш за яго ведаюць, такіх аракулаў і без яго нямерана.

У Амерыку — з папярэджаннем пра «вялікую дэпрэсію»? А туды як патрапіць? І дзе знайсці там багатага «спонсара», што пагодзіцца арганізоўваць і аплачваць яму выступленні, на якіх ён будзе баяць заакіянскай, ад цвярозасці ашалелай публіцы пра Другую сусветную вайну, ды пры «Трэцюю — халодную», пра перападзел Еўропы, Сталінска-Гітлераўскі пакт, пра капіталістычны ды сацыялістычны лагеры…

А самае галоўнае, калі дапусціць дзіва, і раптам знойдзецца якісь, выбачайце, наіўны дурань, і захоча выслухаць яго, і «памагчы матэрыяльна», г.зн. укласці грошы ў яго — чым ён дакажа свае прароцтвы? Чым пацвердзіць, што ён — пасланец будучыні? Ён хоць што-небудзь можа? Акрамя слоў? Можа разбурыць савецкі лад у зародку? Не даць адбыцца калектывізацыі? Папярэдзіць гібель Купалы з Гарэцкім? Не дапусціць вайны, голаду, Чарнобыля? Ён можа намаляваць план канструкцыі касмічнай ракеты? Звышгукавога, ці любога іншага, самалёта? Кампутара, тэлевізара, халадзільніка, магнітафона?..

Ды ў тым і справа, што нічога гэтага ён не можа! Нават простай схемы аўтамата Калашнікава ён не ведае! Нічога ён не можа. Таму не варта пераацэньваць сябе. Не трэба быць вялікім мудрацом, каб зразумець, што нічога добрага не прынясуць яму ні вандроўніцтвы па свеце, ні спробы змяніць ход «гістарычнага воза», а тым больш старанні перакуліць яго, падсеўшы, як тая кандраткрапівінская жабка, пад яго кола…

І тут вось яшчэ што. Такая вымалёўваецца справа — а трэба яму яно? Гэтыя намаганні змяніць нешта, паўплываць на штосьці, умяшацца кудысьці, папярэдзіць кагосьці… Калі ясна, што любое, нават самае нязначнае ўмяшанне ў гістарычны працэс элементарна прывядзе да таго, што… бацькі яго некалі не сустрэнуцца, і ён проста не народзіцца! Во парадокс.

Зусім адваротны цяперашняму «хочаш жыць — умей круціцца»; тут, у ягоным выпадку — «хочаш жыць — не варушы нават пальцам!»

…А навокал буяў, адцвітаў сваім запозненым, апошнім ужо колерам ціхі верасень, і ніякай справы не было яму да метафізікі.

Раніцамі доўга трымалася на сівай, жорсткай травеціпцы раса, і акропленыя ёю карункі белага ліпкага павуціння пад раннімі сонечнымі промнямі блішчэлі, пераліваліся, а ў нізінах, дзе павуціння было найбольш, яно здавалася інеем. Неба яшчэ не страціла свайго летнеблакітнага колеру, але вада ў рэчцы, у якой яно адбівалася, была ўжо свінцовасіняя. На поплаве адрасталі па трэцім разе канюшына і дзятлаўнік — галоўкі іх набіваліся між пальцаў, калі ісці босым, а пяты калола нядаўняя пакоша… Бульба амаль уся была выкапана; цешылі вока, абяцаючы неблагі ўраджай, пустыя шэрыя загоны, толькі з дзенідзе чорнымі кругамі на месцах спаленага картапляніку, ды паўз разоры — рады буракоў са свежазялёным, а знізу фіялетавым бацвіннем, ды яшчэ гарбузы дабіраюць апошняе цяпло, валяюцца панамі на пляжы — калі перавярнуць такога нагою, дык адкрыецца белая, як сыр, незагарэлая скура, а ў зямлі застанецца ладная ўмяціна. Доўгія вяроўчыны гарбузніка з агароду запаўзалі на поплаў, блыталіся з травою, пускалі карэньчыкі, урасталі ў зямлю — паспрабуй выдзяры! — і цвілі, цвілі сабе як ні ў чым не бывала буйнымі жоўтымі кветкамі, а потым, дзякуючы познім руплівым пчолам, усяго за якіх пару дзён стваралася завязь — маленькія, з яйка, гарбузікі, якім, канечне, так і не наканавана вырасці.

Недалёкі лес уяўляў сабою жоўтабарвовазялёнае пано. Клыпаючы туды з лазовым, лёгкім пакуль кошыкам, дзе толькі сцізорык, два яблыкі, рэпа і загорнуты ў анучку кавалачак сала, Трухановіч прамінаў скапаныя загоны, у канцы іх прадзіраўся праз сцяну сланечнікаў уперамешку з кукурузаю, затым праз поплаў, пакідаючы на мокрай расе розныя сляды — адзін, як і

трэба, пункцірам, другі — суцэльнай паласою, дабіраўся да вузкай, у карчоўі схаванай кладкі праз рэчку.

Ён крочыў гэтай адвечнай сваёй дарогай, звыкла рабіў простыя рухі — такія, як адхінуць галінку, каб не сцёбнула, спружыніўшы, па твары, услухоўваўся ў ранішнія гукі і адчуваў, як кружыцца ў яго галава — ад ціхай радасці жыцця, ад магчымасці існавання, ад таго, што вушы могуць чуць свіст крылаў нейкай птушкі над галавою, нос — удыхаць ядранае вераснёвае паветра, вочы — бачыць барвовае золата бярэзніку і асінніку ўперадзе, скура — адчуваць праз гімнасцёрку здаровую ранішнюю прахалоду… І яму здавалася, не толькі галава, а і сам ён марудна кружыцца ў гэтым коле быцця, як тая вунь сухая хваёвая шыпулька ў вертыкальна павешанай сетцы павуціння.

А калі пачынаўся лес і жоўтазалатая лістота ўзнікала не толькі перад вачыма, а і пад нагамі, і трэба яшчэ час быў, каб прывыклі, пераключыліся з агульнага, «панарамнага», на дэталі вочы, каб маглі пазіраць на гэтае лісце, мох, верас — і не заўважаць іх, бо мэта ж не яны, а запаветная, чырвоная ці карычневая, часта з прыліплым лісцікам, з праедзеным слімаковым следам грыбная шапка, гэты цуд зямны, вяршыня дасканаласці, гэты яшчэ адзін доказ існавання Творцы Найвышняга!..

Тут у лірычнае сузіранне ўмешваўся яго вялікасць прыктычны рэалізм: вось каб многа, вельмі многа баравікоў назбіраць, насушыць — і ў той, будучы час? Якомусь оптаваму скупшчыку… Абагаціцца можна было б… А з гэтага часу ў той — што?.. А зубец наступны ўжо чапляў чарговы выступ, прыводзячы ў рух больш складанае, хоць і больш знаёмае кола — самааналізу. Добра — хай не можа ён, ды і не павінен, умешвацца ў ход гісторыі. Тады якая ўсё ж мэта маёй засылкі сюды? Якая, высокім штылем мовячы, мая тут місія?!

Глушэча гэтая… Убаку ад ліхіх дарог, прыхаваная ад рэвалюцый і войнаў вёсачка — зацішнае, бяспечнае месца… Мора вольнага часу, лес, рэчка, уласнае жытло, заўсёдны кавалак хлеба на стале… А паперы стос? А алоўкаў аж два? Потым: рука скалечаная якая? Левая…

Ці не таму, што правай пішуць? Кульгае зноўтакі… Ці не таму, каб не лётаў на злом галавы, а меў магчымасць спакойна пасядзець, агледзецца, падумаць? І тое, што да цяжкай сялянскай працы, якая б увесь вольны час забірала, непрыдатны… І што пабойваюцца яго, і не чапаюць… І што ні да чога і ні да кога ён тут асабліва не прывязаны, а значыць, мае свабоду, найперш духоўную…

Абставіны, фізічны стан, адзінота, чужацкасць усяму і ўсім, незанятасць па гаспадарцы — ці не дужа падазроныя ўсе супадзенні? Як падагадана кімсьці, як знарок створаны для яго гэтыя ідэальныя ўмовы, што не пакідаюць яму ніякіх іншых варыянтаў, а настойліва, адназначна падводзяць да аднагоадзінага і, што важна, даступнага яму занятку.

## 4

*«…Няважна, што робіцца навокал — важна,*
*што робіцца ў душы»*

Даўно, яшчэ ў тым будучым сваім жыцці колькі разоў усё збіраўся ТруханТрухановіч зрабіць такую справу: апісаць вёску сваю, літаральна кожную хату; мала таго — нават узяўся быў аднойчы за гэта, нават прыдумалася, як — ды проста: намаляваць план вёскі, квадрацікамі абазначыўшы хаты, пранумераваць іх… І пішы сабе: «№ 1, хаткахалупа на ўзлеску, жыла Лукер'я, уся ў бародаўках, з іх раслі валасы. Мела дзвюх дачок, Веру і Любу, сама не даядала і іх голадам марыла — усё карове (прымаўка «Лукер'іна карова гладка, як аладка».) Словаімя Лукер'я зробіцца потым агульным, абазначацьме неахайную, запушчаную, скваппую кабету. Лёс Веры з Любаю, калі Лукер'я памерла. Паверыўшы вярбоўцы (асабліва, здаецца, таму, што даюць кожнаму бясплатна тэлевізар) абедзьве паехалі на БАМ, Вера так недзе і згінула, Люба неўзабаве вярнулася з чалавекам, Алікам, — і гэтае імя стане агульным, мянушкаю: «алік» — алкашык, недапечаны,

незразумелы… Помніцца, дзівіў ён вёску, акрамя імені свайго, яшчэ тым, што суп сам сабе варыў прама на двары, расклаўшы агонь паміж цаглінак… Ды ці адно гэта! Бог мой, колькі гісторый звязана толькі з гэтай сям'ёю!..

№ 5, пад слівамі, насупраць могілак — глухі Аўрам жыў, адзінадзіны раз за ўсё жыццё выбраўся ў раённы цэнтр і адразу ж, ледзь не на вакзале, трапіў пад машыну — «машына зарэзала», як пасля казалі…

№ 8 — хата «Сярбейца», інакш — серба. Адкуль тут узяўся серб, што ён тут рабіў, куды затым падзеўся? А мо гэта і не серб ніякі, а проста служыў недзе на Балканах чалавек, вось табе і бірка налеплена, вусны пашпарт, гэткая праз усё астатняе жыццё суправаджальная «рэкамендацыйная характарыстыка», і яму, і нашчадкам яго…

Кожная хата — клубок лёсаў, процьма гісторый, цэлыя сагі — з нараджэннямі, смерцямі, радасцямі і бедамі, геаграфічнымі перамяшчэннямі і вяртаннямі… Дык гэта ж усяго толькі макаўка, вяршок, тое, што ён ведае павярхоўна. А каб хоць трохі капнуць глыбей, каб распытаць старэйшых каго?..

Ці ўзяць нежывое, ваколіцы — тут увогуле скарб пад нагамі!

Выкраслі плансхему, сінім фламайстрам пакажы на ёй рэчачкірачулкі, якія на ніводнай, нават буйнога маштабу, тапаграфічнай карце не пазначаны (а між тым існуюць жа яны, гэтыя рачулкі, і назвы маюць!), зялёным — лясы, жоўтым — палі і палянкі, чорным — тарфянікі, і г.д. Пападпісвай: Майстры, Печкі — іх мо штук пяць і ўсе ў розных месцах, Фальварак, Лапленіца, Вудзелкі, Сухі Лясок, Доўгі Лес, Падляскі, Гарэлае, Асіннікі (тыя самыя, дзе і знаходзіўся ў гэтую хвіліну Труханові‌ч, дзе акурат пад асінаю ў верасе і ўбачыў шапку першага грыба і цяпер прысеў перад ім і, прымінаючы пальцамі верас, вызваляў крэпкую ножку, каб як мага ніжэй, пры самай зямлі зрэзаць яе, потым слімака скалупнуць з пяшчотнабелага нізу, счысціць

сцізорыкам жоўтую кроплю следу яго і асцярожна — не злупіць бы заадно і скурку! — адарваць сухі бярозавы лісток з шапкі, і тады — з гэтым белым знакам — грыб робіцца копіяй тых, штучных, шакаладнапернікавых грыбкоў, што прадаюцца ў каробцы наборам па пяць штук у кожным мінскім універсаме)…

Крыніца, Копанка, Гравельныя Ямы… Шупікава Кладка, Мікітава Паляна, Ігнатава Пеля… Што за імя такое — Шупік? Чаму ў гонар яго ўвекавечана звычайная кладка?…

Кожная палянка, кожная лясная прасека, кожная вузкая, як стаць, сцяжынка, крынічка, пеля, балотца, брод, кладка — усё мае свае назвы, свае гісторыі, усё да чагосьці ці да кагосьці прывязана, усё гэта — на добры лад — варта было б запісаць, зафіксаваць, па магчымасці расшыфраваць… Не можа быць, каб не прыгадзілася яно, каб прапала нізавошта, — не кажучы ўжо, што гэта такі ж паўнацэнны элемент вуснай творчасці, як і песня, показка, паданне…

І вось цяпер, на восемдзесят гадоў назад сягнуўшы, якую цудоўную магчымасць здзейсніць такую задумку атрымаў Труханавіч! Ды больш ідэальных умоваў, большай нагоды сто год думай — не прыдумаеш. Прасачыць зараджэнне гэтых назваў, зразумець, адкуль што ўзялося… Альбо добра, не будзем перабольшваць — хоць бы наблізіцца да іх разгадкі, пагаварыць з людзьмі, якія маглі ведаць гэтага таямнічага Шупіка, ці Сярбейца, прадзеды якіх маглі жыць на старадаўніх Майстрах… Ды проста больш пільна паўглядацца ў гэтых мурзатых, галапузых дзяцей, што гойсаюць зараз па вёсцы (дзяды яго будучых аднагодкаў!), супаставіць насенне з плодам, пастарацца ўбачыць у іх, на прыкладзе іх «ланцуговую повязь пакаленяў»…

Не толькі людзі, лёсы іхнія, не толькі тапаграфія ваколіцаў — усё іншае таксама ж не менш цікавае. І гаспадарка, і побыт, і прылады працы, якія ён можа памацаць рукамі, на ўласныя вочы ўбачыць, — усё тое, што да ягонага часу не даехала, растрэслася па дарозе, пагублялася, стала экзотыкай і, у лепшым выпадку,

пыліцца недзе на гарышчах, ці схавана ў музеях, ці падносіцца нам у выглядзе ілюстрацый на старонках энцыклапедычных выданняў…

…І вось кош ужо адцягвае руку, а грыбоў чым далей у лес, тым болей — яны ж такія стварэнні, што так і лезуць на вочы, калі не шукаеш іх. Знойдзена палянка. Самы час паабедаць. Беларускім шашлыком (вынаходніцтва Трухана). Так гэта робіцца: не баравікі, не іншыя якіясь «высокародныя» грыбы, а звычайныя маладзенькія сыраежкі лупіш, на ражэнчык нанізваеш: сыраежка, кольца цыбулі, скрыдлік сала — і далей у такой жа паслядоўнасці. Тонкія хваёвыя лапкі пад ніз. Таўсцейшыя галіны «піянерскай» пірамідкаю…

І толькі калі падносіў у жмені да сухога нізу трапяткі агеньчык, усё не могучы прывыкнуць, што сернікі, як і соль, і мыла — раскоша, і трэба эканоміць іх, Трухановіч раптам зразумеў, чаму не зрабіў дагэтуль, і хутчэй за ўсё ніколі ўжо не зробіць, не давядзе да толку свайго плану — скласці своеасаблівую кнігу кшталту «Памяці», прысвечаную роднай вёсцы і яе ваколіцам. Да яго дайшло нарэшце, чаму ён усё адкладвае, апраўданняў шукае, усё не бярэцца за гэтую, на чужы розум несумненна карысную справу.

А не робіць ён яе, бо, як і ў выпадку з умяшаннем у гістарычны працэс, яму і не трэба яе рабіць. Бо няма нерушу. Бо і без яго на гэтай дзялянцы ўсё ўжо да такой ступені вытаптана, выкашана, выбіта, што вольнага лапіка не засталося, што проста ступіць няма куды: усе Мікіцішыны Паляны і Дальнія Логі (з дакладнасцю Ведрычавай пародыі) занятыя дзядамі і бабамі, катамі Барсікамі і баранамі Колямі, каровамі Лысухамі і Барсухамі, што ўся гэтая голая факта-біяграфічнасць, мянушкавая абазначальнасць, літаратурная фатаграфія, фальклорнаэтнаграфічна-лубковая натура даўнымдаўно ператворана ў сумную самамэту, таму і адваджвае запамінаць, выкарыстоўваць, ужываць — злуючы і раздражняючы з аднаго боку, а з другога — закалыхваючы, падманваючы, прымушаючы забываць, што самая

незвычайная, самая цікавая, самая рэальнапраўдзівая гісторыя, чалавечая мянушка, тапаграфічная назва, любая іншая самабытная рэдкасць нічога не вартыя самі па сабе. Не тым цікавая палянка, што яна Данілава ці Мікіцішына, а тым, хто на яе ў дадзены момант пазірае, праз чые вочы, розум і душу яна перадаецца.

Гэта на адной шалі вагаў. А на другой — «Палескія хронікі» ды «Камароўскія кронікі», якія пасправбуй пераплюнь, паміж якімі як уплішчыцца?.. Асабліва яму, ТрухануТрухановічу, начытанаму, напіханаму мастацкімі творамі, набранаму, як грыб дажджавой вадою, чужымі думкамі, цытатамі, вобразамі — да таго, што толькі праз іх, бы праз шкельцы чужых акуляраў, і можа ўспрымаць усё, і ім, гэтым кніжнавыдуманым фантомам, аддае перавагу перад жыццём жывым, перад сапраўднай рэальнасцю!..

Добра. Добра! Калі гэта — побыт, этнаграфія, розныя сакавітыя каларытныя выразы, дыялогі кшталту: «Куды ты зараз?» —«Касіць у Баранні Лог», — калі гэта падаецца табе даўно адпрацаваным матэрыялам, слоўным баластам, нявартым твайго пяра, дык тады што? — пытаў сам у сябе Трухановіч. Ён ляжаў на баку, сухая ігліца калола праз гімнасцёрку, і, як зачараваны, пазіраў на агонь. «Шашлык беларускі» быў з'едзены, ражэньчыкі з астаткамі тлушчу дзелавіта, весела дагаралі цяпер у вагні.

Тады што? — пытаў ў сябе, і адказваў: усё тое ж — уласная душа. Душа, устаўленая ў рамку цела. Адпаведна, літаратура — эгаізм, узяты ў рамку стылю. Толькі такая і выжыве. Бо зменіцца сацыяльны лад, зменіцца ўсё матэрыяльнае, зменіцца клімат і ўся гэтая «пагода з прыродаю і маладзёвай модаю», але чалавек як быў некалі створаны, з усімі недахопамі і вартасцямі, так і застанецца нязменны. Як нязменны і ён, Трухан-Трухановіч, і ў тым, і ў гэтым часах.

Там яму трэба пісаць пра мінулае, а тут — пра будучыню. Што ён, уласна кажучы, даўно і робіць. І, можа, акурат у гэтым і ёсць яму паратунак? Чым больш ён будзе сам у сабе калупацца, тым хутчэй сам сабе

паможа, тым лягчэй яму будзе і тут, і там пражыць, ці, можа, нават так — увогуле выжыць. Улічваючы яшчэ і тое, як ашчадна, дазіравана, «па порцыях» само жыццё адпускае яму гэтыя падвойныя ўспаміны: варта толькі заблытацца яму ў адным часе, як жыццё пераносіць яго ў другі і там прымушае шукаць (і часта знаходзіць!) выйсце.

Калі раней для яго існаваў выразны падзел на сапраўднае — «мінскае» — жыццё, і ўмоўна несапраўднае, прыснёнае — тут, у дваццатых гадах, дык чым далей, тым больш усё блыталася, перамешвалася; тым цяжэй было вызначыць, што з'яўляецца целам, а што — ценем, дзе ж ён сапраўдны, якое з гэтых двух жыццяў ёсць хваравіты сон, а якое — рэальнасць? Можа, акурат тое — будучыя васьмідзесятыя, і Мінск, і Ведрыч, і Нэлі, і ён сам, — яму проста сніцца?..

**5**

«Вось каб які знак зрабіць, зарубку пакінуць — з гэтага часу ў той!» — думаў Трухановіч, цэлы дзень у лесе праблукаўшы і дамоў вяртаючыся.

Сухія грыбы былі глупствам, канечне. Гэта каб скарб які... Гаршэчак з золатам... І закапаць яго. А адкапаць у часе сваім — у васьмідзесятых... Адно кепска: дзе яго ўзяць, гэты гаршэчак? Нешта не дужа шэнціла яму на золата — ні тут, ні там.

Вечарэла. Кульгаючы, ён крочыў вузкай, праз мокры ад расы ажыннік, сцежачкай. Плечы пашчыквала прахалода. Сонца садзілася, неба ў тым баку было пунсовым. Ахутаны сінім вэлюмам туману і сутоння лес губляў свае контурныя, кантрастныя адценні, дэталі сціраліся, згладжваліся, прападалі і, як на карцінах імпрэсіяністаў, адно толькі агульнае выступала на першы план.

Але як толькі лес скончыўся і Трухановіч выйшаў да

кладкі, так адразу пасвятлела, прыцемкі не пайшлі за ім — зачапіліся за галіны апошніх дрэў, засталіся ззаду, нібы вартавыя на мяжы сваіх уладанняў. На кладцы яшчэ сядзелі дзве жабы, з вільготнай і халоднай нават на выгляд скураю. Патрывожаныя чалавекам, сярдзітыя, што не даў набраць ім апошніх рэшткаў цяпла, гучна боўтнулі ў ваду. Пырскі паляцелі на Трухановіча, ён са сваім цяжкім кашом, ды з немагчымасцю балансаваць, ды з кульгавай нагою ледзь сам не сарваўся са слізкай кладкі. Падумалася, што і гэта трэба запомніць, як сімвал: брыдкія жабы, слізкая кладка, рачная твань…

Пасля кладкі, выбраўшыся на росцераб, сцяжынка адразу пашырэла, папрамела і ўжо куды весялей павяла чалавека — паміж з аднаго боку нарытых землянымі мурашкамі купінаў, зарослых верасам, бруснічнікам і буякамі (адразу ж моцна і п’янка запахла адтуль багунам), з другога боку ўздоўж яе пацягнуліся слупкі і жэрдкі агароджы. Трохі дзіўна было бачыць уробленыя загоны, гэты ладны акультураны кавалак зямлі тут, далекавата ад вёскі, пад самым, лічы, лесам. Дарэчы, звалася ўрочышча проста Палянка, без удакладнення, чыя яна, хто яе адкрыў, рацерабіў, акультурыў.

«Ну вось, дзякаваць Богу, што даў пражыць яшчэ адзін дзень», — упомніліся словы з нейкага слабенькага амерыканскага фільміка; аднак запомнілася ж, уразіла — не раніцы дзякуюць, а вечару, не пачатку — а канцу… І зусім звязна, суладна, як бывае толькі ўвосень і толькі тады, калі вяртаешся з грыбоў, Трухановічу ізноў падумалася: дык дзе, у якім часе ён усё ж сапраўдны? Бо такім далёкім, нерэальным паўстала перад ім тое яго будучае — тыя фільмы, кнігі, цывілізацыя, Мінск і метро, палітыка і лекцыі… Больш таго — каб меў ён вось зараз магчымасць выбару, якому часу аддаць перавагу, у якім жыцці пагадзіўся б ён існаваць пастаянна — дык хто ведае, хто ведае!..

Раптам наперадзе ўбачыў ён жаночую постаць. Жанчына таксама ішла ў вёску — ад Палянкі. Крыху прыгорбленая, з вялікім кашалём бульбы за плячыма,

нібы жывы дакор яму, што займаецца такім глупствам, калі людзі сама шчыруюць.

Ён запаволіў і без таго няхуткі крок, каб не даганяць яе. Але жанчына азірнулася, пачуўшы ці ўгадаўшы, што ззаду ідзе нехта, азірнулася — і пазнала яго. А ён яе — Насту. Яна спынілася.

— Я і не ведаў, што тут надзел... ну, участак, — сказаў ён, падыходзячы, — ну, палоска ваша, — заблытаўся, запаздала хацеў выправіць ваша на наша, ды не стаў: тут лепш быць самім сабою, гаварыць, як умее, бо язык забаліць кожны раз папраўляцца.

Наста і не дала ўвагі. Яны пайшлі побач. Хоць і нязручна было, і яму, і ёй даводзілася ступаць не так па сцежцы, як па траве ўзбоч. Да таго ж ён фізічна не мог ісці хутка, яна бачыла гэта і пад яго хаду падлаждвалася.

— Зноў грыбоў набраў... Цягаеш ты іх кожны дзень!

— Ды поўна ж іх. Дзіця малое набярэ.

— Як жа! Мяне пусці ў гэты лес, дык толькі патапчу. Як варона сляпая. Ды і страшна адной у лесе.

Ну як было не адзначыць пад гэтымі грубаватымі, вясковымі словамі пэўнага такту, далікатнасці, магчыма нават спагады да яго, скалечанага чалавека? Трухановіч даўно ўжо заўважыў, што яна, гэтая Наста, пры рэдкіх іхніх сустрэчах заўсёды стараецца падкрэсліць, што ён — звычайны, нармальны хлопец, роўня ёй, Мікanору і ўсім астатнім людзям. Як і цяпер — хваліць яго за самую абвыклую рэч, за грыбы гэтыя, нібы нейкі асаблівы спрыт трэба, каб набраць іх цяперашняй парою, калі іх поўны лес...

Далей пайшлі яны моўчкі.

Сцежка вілася сярод лазовых кустоў, высокага, мокрага купіння сітняку. Вераснёвы дзень астываў. Шоргалі крокі. Пахла расой, травой, туманам і грыбамі, і аддалёку — ад вёскі — цягнула, так натуральна дапаўняючы гэты водар восені, дымком ад спаленага

картаплішча... Ці мо то ўжо запальвалі ў печах? Як бы яшчэ раз перажыць усё гэта, вярніце мне яго... Бо толькі і ёсць у жыцці сапраўднага, што адзін гэты момант, тое, што перад вачыма, — а потым скончыцца сцежка — яна заўсёды канчаецца, прычым там, дзе ёй, а не нам, трэба, і не паўторыцца больш ніколі, ні з кім і нідзе менавіта такога вось вечара, такіх малюнкаў і такіх пахаў, — хаця будзе, будзе, магчыма, яшчэ і лепшая сцежка, у іншым месцы, дзенебудзь у Францыі, у Германіі або ў Лунінецкім раёне, і яшчэ маладзейшая і прыгажэйшая жанчына будзе ступаць побач, і ўмовы, і абставіны, і наваколле — усё, словам, будзе лепшае; ды толькі вось такія, як цяпер — нідзе і ніколі!..

Але пакуль рана было думаць аб гэтым. Пакуль не канчалася сцежачка. Нямала яе яшчэ наперадзе, а значыць, быў час і ў Трухановіча з Настаю.

Абое ісці стараліся марудна, нібы змовіліся як мага расцягнуць гэты шлях, падоўжыць гэтую магчымасць удваіх астацца. За чатыры дні ўпершыню выпала такая нагода. А пабыць ім адным даўно трэба было б, штосьці звязвала іх... А што? Адзінае, вынесенае Трухановічам яшчэ са шпіталю, было такое ўяўленне іхніх ранейшых нібыта адносін: жыла гэтая Наста, і жыў папярэднік яго, нейкі Трухановіч, разам яны раслі, гадаваліся, потым сябраваць пачалі, потым — пагульваць, потым ён служыць пайшоў, а яна пабралася з Міканорам... Вось і ўся няхітрая гісторыйка. Не рэдкасць — хутчэй правіла, чым выключэнне, калі дзяўчына выходзіць замуж за твайго брата, ці ты жэнішся з сястрою сваёй каханкі — у многім толькі зза іх фізічнага падабенства; а ён тварам якразтакі падобны на Міканора, бачыў гэта і на фотаздымках, і ў люстэрку, калі ўяўляў сябе без барады...

Цяпер самы час быў высветліць, ці так гэта, ці правільныя яго здагадкі. Толькі Трухановіч не ведаў, як пачаць. Наста выручыла яго.

— Добра восенню, — сказала яна.

— Чым?

— Камароў няма. Я іх так цярпець не магу…

— А па мне дык кожная пара добрая. Восенню грыбы, бульба… Ёсць, дарэчы?

— Няма ні халеры. Убілася, пакуль гэты кашэль накапала…

— Цяжка нясці? А я і памагчы не магу…

— От ідзі сабе! Ты ж грыбы нясеш.

І то праўда: што ёй гэтая ноша — так, забаўка. Маладзіца ў самай сіле, пародзістая, рослая — за Міканора, прынамсі, вышэйшая… Такія сем’і, дзе чалавек меншы за жонку, звычайна шчаслівыя, і яшчэ ў такіх (заўважыў Труханові) чамусьці часцей нараджаюцца дзяўчынкі.

Гуляючы, несла яна свой цяжкі кашэль. І прытрымліваць не трэба — высокія выпнутыя грудзі не давалі апусціцца шлейцы, рукі вольныя былі; відаць, па сялянскай звычцы, каб не гулялі яны, на хаду адламала яна галінку і абмахвалася, нібы тыя ж ненавісныя камары дакучалі ёй. Пазіркваючы на яе збоку, такую ладную, дужую, Трухановіч упершыню за гэтыя дні адчуў зайздрасць да Міканора. І яшчэ — зразумеў, што зусім не прырода, не цёплы і пахкі вераснёвы вечар і не абставіны ствараюць гэты ягоны лірычны, нейкі ўзнёслы настрой — а яна, Наста, блізкая, амаль інтымная прысутнасць яе.

Усплыла ў памяці Нэлі, тое, як яго мінскаму двайніку-Трухану заўсёды было неспакойна, трывожна з ёю, які ён быў з ёю напяты, увесь час у чаканні нейкай каверзы, падману, непрыемнасцяў… І як — у параўнанні з Нэлі — проста, лёгка, спакойна было цяпер Трухановічу з Настаю.

Яму раптам захацелася вось зараз, бо іншага такога моманту магло і не быць, адкрыцца ёй, адзінаму і ў тым, і ў гэтым яго жыццях чалавеку, якога можна не баяцца, з якім можна адчуваць сябе самім сабою. Расказаць ёй

усёусё, як на споведзі, проста і шчыра, без заўсёдных сваіх хітрыкаў і перастраховачнай вечнай асцярогі. Бо так ужо надакучыла насіць усё ў сабе, так жывой, спагадлівай душы захацелася!

— Дык мы даўно знаёмыя з табою, Наста? — без падрыхтоўкі, без дальніх падыходаў адразу пачаў ён.

— А то ты не ведаеш…

— Каб ведаў, не пытаў бы. Ты адно нагадай, дапамажы мне ўспомніць. Мы гулялі з табою — перад тым, як у войска я пайшоў? Між намі было штонебудзь? Мы хоць цалаваліся з табою?

Яна толькі хмыкнула. Знайшоў пра што пытацца. І як адказваць на такое?! Калі сам не можаш успомніць, дык толку табе з таго, было штосьці, або не?

— Наста, зразумей. Я з вялікай ахвотай і радасцю ўспомніў бы, каб мог! А тым больш такую прыемную рэч, як нашыя… нібыта нашыя! — бо на самой справе то ж быў не я, — адносіны. Прыкрага, саромнага не хочацца ўспамінаць, а тут — цябе, дзяўчыну! Ты стань на маё месца. Нейкі, выбачай, гад, пра якога нават згадваць не хочацца, гэты нібыта Я, ад майго імені ціскаў цябе да плота, шаптаў розныя словы, да вуснаў тваіх прысмоктваўся…

Адказам яму быў смех — нягучны, дзявочы, той самы, які так многа ў сабе тоіць. Яна паказвала гэтым смехам, што разумее яго, нават апраўдвае яго, што ёй цікавы яго маналог.

Падахвочаны, Труханові́ч працягваў:

— А можа ён, гэты нібыта Я, карыстаўся табою, тваім целам, вабнотамі тваімі, распранаў цябе, мацаў, дзе хацеў — такую голенькую, белую, цёплую, падатлівую…

Яна ўсё смяялася.

— А мне, у каго нават успамінаў, якія саграваль б, няма — мне цяпер за кагосьці адказваць!

Дасюль Трухановіч гаварыў як бы жартуючы, з іроніяй. А тут пачаў сур'ёзна:

— Хаця ўсё адно ж ты мне не верыш. І я б на тваім месцы не верыў…

— Я даўно гэта ведаю ведаю, — сказала яна раптам. Спакойна ў яе гэта атрымалася, нават абыякава. — Ты не той. Ты — іншы.

Ён спатыкнуўся, ледзь грыбы не рассыпаў. Вось табе маеш! Варта было ў адчыненыя дзверы ламацца, даказваць штосьці… «Бацька» з «маткаю» не пазналі, і «брат родны» Міканор, а яна — Настачка, першае каханне… Не маё нават, чыёсьці, чужое, а адразу ўгадала, сэрцам адчула… Ён быў і ўзрадваны, і ўзрушаны, і азадачаны.

— Дык… а чым іншы? Чым мы рознімся?

— Проста інакшы ты. Тварамі аднолькавыя, а так… Не ведаю!

— Ну, добра. Тады — а з кім табе лепш?

Наста пазірнула на яго. Неахвотна сказала:

— З тым прасцей неяк было…

— Дзякую.

— А з табою — цікавей.

— Чаму мы раней не пагаварылі так? — шчыра пашкадаваў ён. — Ці ты не хацела?

— Я баялася, — адказала яна проста. — Вінаватая ўсё ж… Не дачакалася, за Міканора выйшла…

— Дарэчы, а чаму не дачакалася? Зацяжарыла? Ці мо Міканор шантажыраваў (выбірай ты словы!)… ну, пагражаў табе? Можа, казаў — не пойдзеш, дык…

І Трухановіч пачаў пералічвацьперасыпаць вядомыя шаблонныя «вечныя» матывы, не заўважаючы, што

заносіць яго, што пара спыніцца ўжо, бо не дзяўчынка-аднакласніца перад ім, а чужая замужняя жанчына, маці.

— Пайшла чутка, што ён… ну, я — загінуў? Ці што кантузіла, і ты з калекам звязвацца пабаялася?

Ён зразумеў, што яна пачырванела, хоць у прыцемках і не бачыў гэтага.

— Каб быў дзеўкаю, дык сам пабачыў бы! Паказаў жа, як гэта робіцца… Паспрабуй пасля такога, вытрымай, пажыві без мужчыны! — адказала яна ўсё з тою ж вясковай грубаватай шчырасцю. Відаць, і сорамна ёй было прызнавацца, і сердавала яна на сябе самую, што інакш не ўмее. Але ёй і ў галаву не прыходзіла, што можна быць хітраю, жыць, як Трухановіч жыве, заднімі думкамі, хлусіць, акторстваваць…

— Таму і не дачакалася, і выйшла за першага, хто ўзяў!..

Прастата гэтага прызнання і аглушыла Трухановіча, і, як ні дзіўна — супакоіла. Згадаліся развагі свае, запісаныя пазаўчора ў каморцы, пра жанчын, пасля Нэлінага дня нараджэння… Мала ж ён памыляўся. Уся розніца паміж імі, што адна — мінская, дагледжаная, з цыгарэтай у пальчыках, другая — дужая, рослая і з кашалём за плячыма. Ды яшчэ адна больш ламаецца, а другая — менш.

Узнікла была спакуса (пісьменніцкая) «падглядвання ў дзвярную шчыліну»: скарыстаць момант, пралезці гэтай Насце глыбей у душу, паўней, падрабязней распытаць — як гэта дзеўцы без мужчыны? І, магчыма, удасца вывудзіць якіясь пікантныя дэталькі — можа, пад шумок, па інерцыі, яна такога нагаворыць… Але астыў. Наста была не Нэлі. Яна адкрывалася, яна давярала яму — і поўнай подласцю, і здрадай было нават у думках развіваць гэта.

— А я табе магу расказаць нештачкі, — сказала Наста, угадаўшы яго намер змяніць тэму і апярэджваючы яго.

# 6

— Яшка гэты ўсё ходзіць ды распытвае… Пра цябе, — сказала Наста — тым самым голасам, якім прызнавалася ў нецярпячцы жанчыны, што паспытала мужчыны. А мо яна проста хацела, каб Трухановічу было цікава з ёю, і таму гаворку на яго перакінула?

— У каго, у Міканора распытвае?

—У мяне. Мой (так яна звала Міканора) дык наадварот, усё бароніць цябе.

— А ты яго… Малайчына, добрая жонка, — зрэшты, Трухановічу і праўда цікава стала. — Ну, і што гэты Яшка казаў?

— Што жывеш, як барчук…

— Там — барсук, тут — барчук, — прамармытаў Трухановіч. — Дык а чым я каму замінаю? Каму паспеў дарогу перайсці?

— Кажа, прыдурваешся ты ўсё.

— З чаго ён узяў?

— Бо граматы ж не забыўся… Пытаў, што ты ўсё запісваеш там, у каморцы?

— А яшчэ?

— Казаў, што не такі, як усе. Не робіш нічога…

— А што яны хочуць, каб я рабіў? І што я зраблю — адной рукою? — крыху разгублена, не столькі ў Насты папытаў, колькі проста так, у паветра вымавіў Трухановіч. А то ён сам не ведае, чаго ад яго хочуць. У адзіноце каб не быў — вось самая страшная правіннасць, яна ж адначасова і небяспека, бо ніяк няможна чалавеку без калектыву!

— ... І што да дзевак не ходзіш, і самагонку не п’еш... Матамі не лаешся... І шчэ...

— Ну, ну.

— Ці не чапляешся ты да мяне...

— А можна, Наста? — пацягнула яго раптам на жарты. —Ты не супраць была б? Не дужа адбівалася б?...

— Ды ну цябе! Я ж не маню. Гэты Яшка ведаеш які малахольны? Як у бальшавікі запісаўся, дык здурнеў зусім, бацьку роднага неяк папабіў сярод вуліцы, і нагамі, і ў галаву...

— Не можа быць, — дурачыўся Трухановіч. Яго і кранала, і забаўляла чамусьці тое, што ў яе голасе была непадробная шкадоба да таго збітага родным сынам дзядзькі, і страх перад самім сынам — бальшавіком Яшкам.

У двор Трухановіч з Настаю ўваходзілі разам. Хоць і ў прыцемках, але двор яшчэ жыў сваім, поўным сялянскага клопату, жыццём. Каля хлява Маці (Трухановіч у думках так і пісаў з вялікай літары — Маці і Бацька, як імёны ўласныя) адцэджвала малако. Побач рабымі і белымі ценямі матляліся, каўкалі і лезлі ёй пад рукі два ці тры каты. Бацька, прымасціўшыся на ганку, асцярожным прыстукваннем драўлянага малатка насаджваў на цэбрык лазовы абруч. Пад хатаю на прызбе раз-пораз пабліскваў агеньчык. Гэта сядзеў і дыміў цыгаркаю Міканор.

Пабачыўшы жонку з братам, падхапіўся, скора падыйшоў — але не каб у жонкі з плячэй кашаля зняць, а каб Трухановічу памагчы, адзіную руку ад кошыка аслабаніць.

— І дзе гэта вы так доўга, ды позна, ды разам? — спытаў весела, гучна, паказваючы, што ўсё разумее і ані не раўнуе. — Глядзіце мне... Смяюся!

— От не плявузгай абычаго, — насцярожылася Маці.

— А што? Па мне дык не шкада. Абы людзі не бачылі.

Трухановічу б зараз таксама — у тон Міканору, знайсці які жарт, каб змякчыць няёмкасць сітуацыі. Ды нешта не прыдумвалася нічога.

— Вось, сустрэліся на дарозе, — толькі і сказаў ён.

— Дай ты паесці яму, — азваўся Бацька, прыстукваючы далоняю па новым, звонкім цэбры. — Дзеньдзяньскі ў тым лесе.

Так як Трухановіч упарта пазбягаў зваротаў «тата», «маці», так і ў адносінах да яго трымалася ўсё ж пэўная насцярога: і Бацька, і Маці звычайна не да яго напрамую звярталіся, а, як да перакладчыка, да кагось трэцяга, нейтральнага, часцей да Міканора: «Хай мо паспіць чалавек», «Мо ён есці хоча»… Гэта было, вядома не дужа тактоўна — і з іхняга, і яго боку, але Трухановіча задавальняла, бо трымалася дыстанцыя. Можна было слухаць, прымаць да ведама, а рабіць па-свойму. Як і цяпер. Калі б у яго спытаў Бацька: «Есці хочаш, сынок, ці Алесь?», дык давялося б адказваць, ды прысесці побач, ды ізноў выдумляць, акторстваваць, ламацца… А так — цішком кульгай сабе кудыхочаш і рабі штохочаш. Хоць бы і вячэрай.

Дарэчы, яшчэ праблема — гэтая вячэра. Ураніцы, ці ў абед добра — бульбы напячэш, «шашлыка» як сёння, калі ёсць сала кавалачак, пакаштуеш, рэпу якую на агародзе вырвеш, сланечнік скруціш, гуркі яшчэ не ўсе выбраны… Малако кіслае і салодкае заўсёды стаіць у гладышках. Поліўка грыбная, са шчаўем, хоць і халодная, але кісляком забяліць, дык лепш і не трэба… Так што галодным, ды яшчэ маючы шпітальны вопыт, Трухановіч не хадзіў — і за сталом не седзячы.

А вось вечарамі! Дзве сям'і хоць і жылі ў розных хатах, але ў адным двары, і ўзялі за правіла вячэраць разам. Для Трухановіча гэтыя сумесныя пасядзелкі былі суцэльнай пакутаю. Аніяк не мог ён да іх прывыкнуць і знаходзіў любыя адгаворкі, каб аднекнуцца. Не падабаўся яму, сіраце, бязбацькавічу, сам працэс, гэтая

дэкаратыўная зададзенасць: калі Бацька, перад тым, як пачынаць есці, крыжуе лоб, тады першы цягнецца лыжкаю да агульнага чыгуна, за ім — па ранжыру — дамачадцысямейнікі… Лішнім усё гэта здавалася, фальшывым, пародыяй на старадаўнюю патрыярхальнасць.

Другое — сам ён не мог пазбавіцца адчування, што прысутнасцю сваёй скоўвае людзей, замінае ім, і яны вымушаны падладжвацца пад яго — як бывае, калі за сталом чужы чалавек. А самае галоўнае, за што не любіў ён гэтыя вячоркі, дык гэта за тое, што звычайна як яны пачыналіся, так і заканчваліся — адным і тым жа. Ікнуўшы і перахрысціўшы рот, Бацька — не да яго, Труханавіча, а да Міканора, ці да Мацi звяртаючыся, заводзіў пра тое, як людзі ў жыцці ўладкоўваюцца: той у камуне, гэты — учотчыкам на млыне, іншы — на чыгунцы, і што някепска было б «і нам у людзей павучыцца», з іх прыклад браць…

Труханавіч тады апускаў галаву, і кавалак не лез яму ў горла.

Таму і перастрахоўваўся. Лепш за ўсё яшчэ да вячэры прыхапіць са стала што пад руку, і, стараючыся менш на вочы не трапляцца, — да сябе, у любімую камору. А там боты зняць… Прахалода… Насалода!.. І есці няспешна, у сваё задавальненне, у акно пазіраючы… Каб ні яго не бачылі, ні яму нікога не бачыць.

**7**

І вось адпачылі ногі, перастала ныць спіна, жывот поўны…У каморцы ціха патрэсквае свечка і асвятляе стол, на якім — стосік паперы і ашчадна, «на іголку» падвойстраны алавік…

Тут затупалі, загрукалі ў сенцах, і ў камору — без дазволу, само сабою, уваліліся Міканор з Якавам.

— Можна? — спытаў Яшка, калі зайшлі ўжо. — Не

памяшаем, можа?

«Свінням мяшаюць, — хацеў адказаць Труханов́іч, — а ў нас — турбуюць...». Ён перавярнуў аркушыкі спісаным уніз. Пачынаецца. Як тыя палкаводцы, плануючы ваенную аперацыю, бачаць, што прамаруджванне смерці падобна, так і гэтым прыспічыла, няма больш рады цягнуць, трэба нарэшце браць гэтага барчука за жабры.

— Мо на двор лепш выйдзем? — прапанаваў Труханов́іч, устаючы. Так не хацелася, каб тырчэлі чужакі ў ягоным жытле. — І сесці няма дзе...

— А нам хоць дзе. Хоць тут, на тапчане, радкомладком.

І прымасціліся адзін да аднаго, цесненька, плячо да пляча. Такія смірныя, далікатныя. Талент яшчэ трэба, каб уявіць, як у любы момант заміранасць гэтая, гэтае ў рот глядзенне вельмі проста можа змяніцца на аскал, мацюкі і жалезную хватку.

— Цёмна тут, — Труханов́іч яшчэ не губляў надзеі выправадзіць іх.

— Га? — перапытаў Яшка. Труханов́іч ужо ведаў за ім гэтую звычку — «гакаць», перапытваючы на кожным слове, такую ж, як Міканорава «смяюся!» Слых у Якава быў, як у савы, а перапытваў ён, каб выгадаць час і, пакуль чалавек паўтарае, падрыхтавацца да адказу.

— А на дварэ яшчэ цямней, — дабрадушна прамовіў Міканор. У роце ў яго тырчэла цыгарка. Ён курыў і асцярожна памахваў перад носам, разганяючы дым, які мог нашкодзіць «хвораму на атручаныя лёгкія» брату. Калі попел падаў на падлогу, нагінаўся і здзьмухваў пад тапчан, у шчыліны падлогі.

— Хіба каб гаварыць, святло трэба? — падтрымаў Яшка. — Мы ж не ў сваты, не на агледзіны прыйшлі, не дзеўку выбіраць.

Пасля чаго стала ціха. Матыляўся ад дыхання трох мужчын агеньчык свечкі. У яго дрогкім, ненадзейным

святле Трухановіч разпораз пазірквaў на Якава, лішні раз пераконваючыся, што Бог шэльмаў меціць. Не такая ўжо, выходзіць, і заганная практыка, што так раздражняла яго ў многіх мастацкіх творах — гэтая прымітыўная, без варыянтаў, закасцянелая кваліфікацыя адмоўных (зрэшты, як і станоўчых) герояў, усіх гэтых контрыкаўпаліцаяўздраднікаў, абавязкова васпаватых, прышчаватых, гнілазубых, няголеных, якія не гавораць, а сіпяць, шыкаюць, гаркаюць, не глядзяць, а косяцца, кідаюць позіркі; прозвішчы якіх, ці мянушкі, або кароткія: Гуз, Шышка, Коршак, Корчык, Клопік, Сіпун, або чамусьці заканчваюцца на «онак», «ёнак», — нібы аўтары заключылі паміж сабою нейкую змову супраць гэтых бязвінных і бяскрыўдных канчаткаў.

Дарэчы, прозвішча ў Якава было — Калашонак, а мянушка — Гакала. Адслужыўшы і паваяваўшы на флоце, хадзіў ён касалапа, ці, памясцоваму — кашалапа; каранасты, дужы, у нязменнай, падобна, ні разу ад таго, як з вайны вярнуўся, не мытай цяльняшцы, якая і цяпер на ім — выглядвае зпад такога ж заношанага, расхлістанага, без гузікаў бушлата. На галаве — бесказырка, круглая, як феска, з абарванымі ў нейкіх прыгодах істужкамі. Шырокі твар, бязбровыя калючыя вочы, учэпістыя рукі…

І паходкаю, і паводзінамі, і нават адсутнасцю двух пярэдніх зубоў Яшка Калашонак апярэджваў да болю знаёмы вобраз шолахаўскага марачка-«дваццаціпяцітысячніка», толькі ў беларускай абгортцы, лепш сказаць — беларускага разліву. Хаця ўсе яны, па вялікім рахунку, былі на адзін капыл, як аднаклеткавыя блізняты, гэтыя хадзячыя спараджэнні свайго часу, усе гэтыя салдацкарабочаматроскія бедакі, «змагары за праўду», — у аднолькавай вопратцы, з аднолькавай лексікай, з дурной сваёй энергіяй, з плакатнай бесталковай адвагаю, з нігілістычным наплявацельствам на ўсё і ўсіх, са сваёй разбуральнай цёмнай жорсткасцю…

Яшка неяк так сядзеў, што толькі авал твару з палоскай

рота відаць быў, а вочы, звычайна такія вострыя, калючыя, падазроныя, апынуўшыся цяпер паза кругам святла, былі як бы асобна, самі па сабе — чорныя пустыя вачніцы, над якімі на аколышы бесказыркі, сярод выцвілых слоў «Балтийский» і «Флот», нечакана ярка пунсавела зорачка — гэты «в пустоте зловещий символ: сгусток крови, пять концов, и бездонные могилы наших дедов и отцов!..»

Але вось паварушыўся Якаў — і знік аптычны фокус. Усё аказалася на месцы — і вочы, і насцярожаная пільнасць у іх.

— Абжываешся патроху?

— Патроху абжываюся, — адказаў Трухановіч. — Прывыкаю, а там відно будзе.

— Усё пішаш нешта... Га? — перапытаў Яшка, хоць Трухановіч яшчэ і адказаць не паспеў.

— Трэніруюся. Знаёмыя літары ўспамінаю, каб граматы не забыць.

— Не, я сур’ёзна.

— Я таксама. Дактары наказалі пальцы распрацоўваць.

Акрамя спекуляцыі на хваробе, якая столькі ўжо выручала, раптам прыйшло і адчуванне нейкай дужасці сваёй, перавагі над імі — як у дарослага над дзецьмі, як у вопытнага гульца над зялёнымі дэбютантамі, і захацелася пацвяліцца з іх хоць трохі. Ну, пачынайце, згуляем!..

Хоць і разумеў ён, што адбываецца ўсяго толькі звычайная праверка яго, знаёмая па шпіталі.

— Пальцы пальцамі, а пара і на людзі часцей паказвацца. А то як бы грэбуеш калектывам, ці што.

— Ды не, прывыкаю проста, — паўтарыў Трухановіч.

— Здароўе як? Папраўляешся?

— Папраўляюся…

Міканор напусціў сліны ў далонь і затушыў цыгарку. Засмярдзела тытунём яшчэ больш, чым калі ён пускаў дым.

— Мы чаму прыйшлі… Сходка заўтра. Вялікая, усіх вёсак вакольных. Дык, можа, выступіш?

— А што за сходка? Чаму прысвечаная? Часам не грэблю будаваць? — іранічна спытаў Труханавіч, маючы на ўвазе мастацкія творы пра дваццатыятрыццатыя гады. Усе без выключэння раманы і аповесці заканчваліся там сходамі, пасля якіх шляхам сумеснай працы адбывалася зліццё індывідуумаў у адзіны арганізм. З пятнаццаці прачытаных ім кніг у дзесяці разам будавалі дарогу, мост і гацілі грэблю (дарога як сімвал пераходу ад цёмнага да светлага, мост — далучэнне да прагрэсіўнага чалавецтва, грэбля — выграбанне з твані жыцця на шырокі прастор), у чатырох калектыўна асушалі балота, а ў апошнім (раман А. Чарнышэвіча «Світанне») — усё гэта разам плюс будаўніцтва торфазавода.

— Якую грэблю? — няўцямна спытаў Яшка. — Га? У нас брод жа ёсць!

— Звычайна грэблю будаваць вырашаюць на сходах…

— Не грэблю, — сказаў Міканор і радасна засмяяўся, — а агульны Сялянскі дом! Як клуб, толькі большы!

— Дык фальварак жа ёсць. Гатовы ўжо. Цагляны. Пачысціць, паднавіць…

— Месца паганае, — патлумачыў Якаў. — Ад дарог убаку. Ды і дух там яшчэ панскі…

«Не так панскі, як ваш». Труханавіч нядаўна ў грыбах наблукаў на той фальварак, лепш сказаць, на тое, што пасля яго засталося. Але нават па фрагментах яшчэ можна было рэстаўраваць, хоць бы ва ўяўленні ўзнавіць гэтае маленькае архітэктурнае цуда ў яго першапачатковай некранутасці, гэты двухпавярховы

будыначак са шпілем, з флігелем, з мосцікам праз канаўку, з сажалкай, з прысадамі акацыяў, з клумбамі ў дворыку… Усё гэта было, канечне, яшчэ ад семнаццатага годаператворана ў адну вялікую грамадскую прыбіральню.

— Ну, так, — сумна прамовіў ён, — новае прасцей пабудаваць.

— Аграмадная такая, прыгожая будыніна! — захапіўся Міканор. — І каб месца зручнае, на роўнай адлегласці ад усіх вёсак, і каб хатачытальня там, і школа, і пошта… І, можа, нават крама, і міліцыя, і камбед…

(І кансерваторыя — як у тым анекдоце: «вось скончыцца вайна, кансерваторыяў набудуем, і на кожнай — па кулямёту, каб кансервы не кралі!»)

— Справа добрая, — сказаў Трухановіч. — Усё ў адным месцы, усё навідавоку, пад кантролем — хто што чытае, хто што ў краме купляе, каму лісты прыходзяць… Але чым я вам памагу? Хіба мохам шчыліны канапаціць…

— Я ж кажу — выступі заўтра! І раскажы, патлумач людзям, чаму гэта трэба.

— А яно трэба? — дабрадушна спытаў Трухановіч. — Чалавек жа не жывёла, каб усіх у адзін хлеў, дык нават і жывёла не хоча жыць разам…

— Штошто? — насцярожыўся Якаў.

— Кажу, нават жывёла кожная хоча свой катух мець.

— Гэтак? У цябе, выходзіць, прапазіцыя такая: мая хата з краю?

— Пазіцыя, а не прапазіцыя, — з мяккай усмешкаю паправіў Трухановіч.

— Хай пра шпіталь, можа, раскажа, дый усё, — уступіўся добры Міканор за брата. — Якія там настроі…

— Ды якія там настроі? Ніякіх, можна сказаць, —

Трухановіч успомніў Антонава. — Аднаму нагі ўсё рэзалі, ад гангрэны… Другі, сляпы, дык той усё казаў, што калі зноў пачне бачыць, з бальшавікоў выпішацца, на хутары дзікуном жыць стане, частаколам ад усіх абгародзіцца…

— А ты не пра такіх, ты пра іншых раскажы. Хіба адны такія былі?

— Можа, былі і іншыя. Мне не трапіліся.

Канечне, бачаць, ужо зразумелі яны, асабліва Міканор, які больш Трухановіча ведае, што цвеліцца ён з іх, усур'ёз іх не ўспрымае. Міканору ўвачавідкі было няёмка, але Якаў валодаць сабою ўмеў, выгляду не паказваў, што слухае зараз такое, чаго ў гэтых мясцінах на дзесяткі вёрстаў кругом не пачуеш. Ды і марку трымаць трэба было — усё ж такі прадстаўнік улады ён, а не якісьці кантужаны калека без памяці.

— А ты падумай добра, — ледзь не з пагрозаю параіў ён. — Можа, успомніцца. А не ўспомніш, дык прыдумай. У цябе ж галава на плячах.

— Ды прыдумаць справа няхітрая… І выступіць можна, і бальшавікоў пахваліць… А вось калі раптам не вечная іхняя ўлада? — няхочучы, пачаў уцягвацца Трухановіч. — Гурты, агулы, таварыствы, калектыўнае гаспадаранне… А раптам спяшаемся? Свае ж потым не пахваляць… Рэпрэсіі, чаго добрага, пачнуцца — за перагіб… А то — не прывядзі Бог, канечне, яшчэ і саджаць, і расстрэльваць возьмуцца — свае сваіх… Тады што?

— Гэта я чуў, — сказаў Яшка, — што ты, як той цыган, варажыць навучыўся. Скора грошы на гэтым зарабляць будзеш.

— Добра гадаецца, калі добрае спераду. А калі на бяду паварочваецца, дык варажбіты і грошы за такое не бяруць.

— Змяніўся ты, — прамовіў, устаючы, Яшка, і Міканор з

ім разам. — Вайна, кантузія, хвароба... Змянілі цябе моцна!

Які ні быў рады Труханові́ч, што скончылася гутарка і сыходзяць яны, усё ж не ўтрымаўся, каб не адказаць:

— Як і цябе, Якаў, як і цябе, — сказаў, не надта спадзеючыся, што намёк яго будзе зразумелы.

## Частка пятая

### 1

Адзін філосаф у рэдкія хвіліны адпачынку ад спраў разумовых любіў аддацца марам: вось каб, напрыклад, захварэць невылечнай хваробаю і ведаць — з дакладнасцю да аднаго дня, што абавязкова памрэш? Гэта ж можна рабіць усё, што зажадаецца, рэзаць у кожныя вочы праўдуматку, ды, нарэшце, проста жыць — так, як заўсёды хацелася!

Другі філосаф, беларускага паходжання і сучасны, развіваючы гэтую ж тэму — ведання даты заўчаснай смерці і таго, як найлепш астаткамі жыцця распарадзіцца, выказаўся ў тым сэнсе, што раз ужо ўсё адно паміраць, дык у знак пратэсту няблага было б здзейсніць публічны акт самаспалення. Гэткая перадача эстафетнай палачкі ад панчанкаўскага героя, які калісь «лёг на калючыя скруткі дроту, і тысячы пыльных салдацкіх ботаў прайшлі па яго спіне»...

ККД — каэфіцыент карыснага дзеяння.

У апошні перад бальніцаю тыдзень Трухан напісаў чарговую заяву на чарговы «акадэмічны», здаў у бібліятэку кнігі, дамовіўся з кастэляншаю наконт пасцелі, падлатаў свае старыя, распоўзлыя па швах спартыўныя штаны, купіў пантофлі — не белыя, а сіняга колеру, пляжныя, з тоўстымі падэшвамі. Здарова ў такіх было б выбегчы досвіткам, з ручніком на плячы, з

якогась кактэбельскага катэджу — пад цень магноліяў і водар кіпарысаў, а потым няспешна і доўга крочыць берагам мора па мяккай, прыемнай пад тоўстымі каўчукавымі падэшвамі гальцы…

Так, патроху ад гэтых мітрэнгаў вызваляючыся, з гэтага павуціння, што звязвала яго з жыццём, выбіраючыся, Трухан і бавіў апошнія дні.

І чым менш іх заставалася, тым часцей, і падоўгу, гасцявалі ў яго старыя надзейныя сябры: сны і адзінота. «Сны аб тым, як выйду, як павязкі здымуць, як мае паперы аддадуць, як мяне сустрэнуць, як мяне абдымуць, і якія песні мне спяюць», —ловячы сябе на тым, што кроплю надзеі ўсё ж пакідае.

Не сказаць, каб ён, ці думкі яго, так ужо моцна змяніліся, каб так ужо на іх гэтыя апошнія дні паўплывалі. Была нават ілюзія, што і вакол усё застыла, такое ж самае, ані не змяняецца. Каб не час. Каб не гэтыя лісткі календара, што з такой няўмольнай абавязковасцю адрываюцца, адлятаюць, набліжаюць… На якіх яшчэ ўчора была пятніца, а сёння ўжо — нядзеля.

Можна пісаць, есці, спаць, можна біцца галавою аб сцяну, можна фантазіраваць, як лепш сабою, целам сваім распарадзіцца: выйсці на плошчу і спаліць сябе, або ўзяць сякеру і засекчы якуюсь багатую бабульку з прыватнага сектара. А час, ні на што не зважаючы, цік-так, ды ціктак — і не зменіш яго, не спыніш, не падгоніш… Час, да якога так ідэальна падыходзіць прыметнік «няўмольны» — ці не адзіная аб’ектыўная рэальнасць, дадзеная нам у адчуваннях, нешта незалежнае, само ў сабе і само па сабе, нешта такое, з чым варта лічыцца, чаго нельга не паважаць, на што варта звярнуць больш пільную ўвагу.

Хоць ты ўкленчы перад гадзіннікам, як паганец перад ідалам ці вернік перад абразам.

Замест таго, каб самаспаліцца, ці забіць бабульку, ці выкінуць якісь іншы форцель, Трухан, падрыхтаваўшыся

да бальніцы, памногу цяпер чытаў і пісаў. Расла, таўсцела шэрая папка… Неяк пастукалі ў дзверы і зайшоў Іван Паўлавіч — Паголены, папрасіў, як ён выказаўся, «новенькага».

«Калі вярнуць? Я хутка чытаю».

У адказ Трухан толькі рукою махнуў. Усё адно, хоць ніколі не вяртайце — так гэта можна разумець было. Іншае ў сувязі са сваім творам яго зараз цікавіла. Ён бачыў, што па меры таго, як набліжаецца да развязкі гісторыя Трухановіча ў тым часе, а яго, Трухана, у гэтым, дзве гэтыя лініі рухаюцца не да фіналу, а да — пачатку. Ды і лініямі назваць іх можна з вялікай нацяжкаю. Яго героі нікуды не йшлі, не паўзлі, не прадзіраліся і не грэбліся, а сядзелі на адным месцы, тады як падзеі круціліся вакол іх. Падзеі — кругі на вадзе; замест таго, каб большаць, разыходзіцца, яны надумалі раптам меншаць, звужацца, пакуль не сышліся ўрэшце ў адзін «бульк» ад хвіліны назад кінутага каменя.

На першы погляд, было ж у яго вельмі простае выйсце — з’ездзіць у вёску, пакуль час яшчэ ёсць, ды пашукаць закапанай некалі гільзы з запіскамі двайніка-Трухановіча. Усё стане ясна. А калі не акажацца яе там? Чым жыць? Разбурэнне фантазіі, і тады пустата поўная… Гэта было страшней за цікавасць, за прагу ведання праўды. Тым больш што неўзабаве надыйшоў апошні дзень, лепш сказаць, раніца — бо яшчэ не развіднела, калі трэба было ехаць класціся ў бальніцу, і стала не да вёскі, не да гільзы і не да Трухановіча.

Ігар яшчэ спаў сабе соладка. Трухан акуратна, квадрацікамі, склаў коўдру, капу, прасціны — усё было жывое, кожная драбяза набывала сваё значэнне. Пакуль хадзіў у прыбіральню, затым мыўся — аднаму дзякаваў, другому наракаў, трэцяе — ушчуваў, напрыклад, дзверы — за тое, што палец некалі прыціснулі… Кухні, на якую прыйшоў гарбату грэць, падзякаваў за тую даўнюю размову з Ведрычам.

Тое самае было і на вуліцы, куды выйшаў з торбачкай,

дзе ляжала ўсё неабходнае, бальнічнае. І тут усё ўспрымалася ім пад рэфрэн нейкай мелодыі развітання — з шэрай пахмурнай раніцай, з кіёскам на рагу, дзе купляў газеты і часопісы, нават з нячыстым пахам падземнага пераходу... З любой драбязою хоць штосьці, добрае ці дрэннае, было звязана. (На справе ён развітваўся з самім сабою цяперашнім.)

І калі ехаў трамваем, сузіраючы праз мутнае шкло горад, дамы, вуліцы, машыны, людзей, — на чым бы ні спыняліся вочы, усё на сябе пераводзілася: вось яны — жывуць, яны ў гэты горад упісваюцца... А я ў бальніцу класціся еду.

Калі ж нарэшце прыехаў, і ў прыёмны пакой зайшоў, і апынуўся сярод дзесяткаў двух такіх, як сам, — «сваіх», у гэтай атмасферы чакання, панурасці і паныласці стала яшчэ цяжэй, яшчэ гарчэй. Здаровыя людзі былі як мінімум розныя, кожны — індывідуальнасць, а гэтыя — усе аднолькавыя, усе адным і тым жылі, пра адно і тое думалі, нават торбачкі ў многіх былі аднолькавыя, і, канечне, змесціва ў іх — таксама.

Вельмі доўга то сядзелі, то з кутка ў куток туляліся, і чакалі, як навабранцы на прызыўным пункце, пакуль не прыходзіла і не забірала чарговую партыю з трох-чатырох чалавек санітарка.

Прыйшлі і па Трухана.

**2**

Пачалося тое, чаго ён баяўся, хоць і ведаў, што яно абавязкова пачнецца. Менавіта: усе папярэднія аналізы ягоныя, тыя самыя, што ў чэргах выседзеўшы-выстаяўшы, з такімі нервамі і праблемамі столькі разоў здаваў у студэнцкай паліклініцы, усе рэнтгенаўскія здымкі, заключэнні, кардыяграмы і гэтак далей — усё, што наказвалі яму берагчы, як зрэнку вока, цяпер прызнавалася нікуды не годным. На іх нават не зірнулі

як след. Усё трэба было рабіць пановаму.

Што ж. Гэта ж не электрачайнік, а чалавечы механізм — тут маглі і састарэць аналізы... Ды і куды яму было спяшацца?

Прыйшоў доктар. Малады, дзелавы, строгі.

«Як адчуванне?»

«Доктар, скажыце, аперацыя... вельмі небяспечная?» — нясмела спытаў Трухан тое, што да гэтага сотню разоў пытаў. У самым пытанні з дзіцячай хітрасцю закладзена была падказка: каб доктар зачапіўся за гэтае вельмі і абвяргаць пачаў.

Але доктар не клюнуў на наіўную прыманку.

«Колькі вам поўных гадоў? Ці жанаты? Хто ў вас з радні? Чым хварэлі? Як пераносіце наркоз?»

А Трухан расшыфроўваў: мы рыхтуемся да самага горшага, і табе і тваім родным тое ж раім. І гэты доктар быў цюцелька ў цюцельку такі самы, як і паліклінічныя. Шэнціла ж на такіх Трухану. Ці то мода пайшла сярод медыкаў — быць максімальна жорсткімі да хворых, не спакушаць іх надзеяю, каб не сурочыць, ці то новая нейкая парода іх узнікла за апошні час — перастраховачная парода, але ніводзін з тых, што яму трапляліся, не лічыў патрэбным суцяшаць яго, неяк абнадзейваць, слова ветлівага не сказаў. І ў дым разлятаўся стэрэатып рассеянага, з блізарукімі паверх акуляраў добрымі вачыма, з трубкай у нагруднай кішэні халата прафесара, які называе пацыента «галубок», які не шкадуе фразаў тыпу «усё будзе цудоўна, галоўнае крышачку пацярпець...»

А мо ён проста многага патрабуе ад савецкіх дактароў? Ды не, элементарнага — чалавечнасці. Бо сваёй залішняй строгасцю, грубасцю, сваім нагнятаннем варыянта толькі негатыўнага, падрыхтоўкай толькі да горшага — аж да таго, што «пакінь надзею!», яны перабаршчвалі ўжо занадта. Здавалася б, ім працей,

лягчэй, выгадней, урэшце больш гуманна было б падмануць хворага, наабяцаць яму залатыя горы здароўя… А не!

А раз яны робяць наадварот, сумна разважаў Трухан, дык шукай прычыну ў практычным: даць трэба «ў лапу». Інакш, заплаціць.

Ён уяўляў сябе тады на месца доктара, і жахліва яму рабілася. Няўжо можна да аднаго хворага ставіцца інакш — дабрэй, прыязней, а да другога — як да паддоследнага сабакі — толькі таму, што заплацілі, ці папрасілі? Толькі па прычыне хабару, прэтэкцыі, блату? У любой іншай сферы, дзе хочаш такое дапускалася, толькі не ў медыцыне.

Былі б гэтыя развагі зусім моташныя, каб не контр-аргумент, каб не выдатны доказ, што гэта — няпраўда. Вось акурат медыцына і ёсць тая штука, дзе малы толк і ад хабару, і ад пратэкцыі, бо хварэюць і паміраюць як любыя багатыры, так і самі, як гэта ні парадаксальна, медработнікі.

На дактароў, як на жонку Цэзара, не павінна было падаць падазрэнне. Затое як раздражняў, злаваў, з сябе выводзіў гэтак званы персанал малодшы і сярэдні — санітаркі і сёстры. Гэтыя ну ніяк не хацелі разумець, якія глабальныя пытанні стаяць перад хворым чалавекам, і пастаянна лезлі са сваім дробным, надакучлівым глупствам. Як бы адзінай іхняй задачай было — пазбавіць яго адзіноты, не даць яму пабыць аднаму. Яны пастаянна адрывалі Трухана ад думак пра галоўнае і атручвалі яму — цалкам магчыма — і гэтыя некалькі лішніх, падараваных лёсам дзён, якія ён хацеў патраціць на падвядзенне вынікаў і на развітанне…

Дзе там! Увесь час ён камусь трэба быў, яго шморгалі, клікалі, шукалі, пыталі — прычым адна пытае слова ў слова тое самае, што некалькі хвілін назад — другая. Ён цярпліва адказваў.

Сястрагаспадыня насварылася, чаму не ўзяў «з дому» свой ручнік, бо казённых мала, а хворыя, якім выдаюць,

выпісваюцца і забіраюць напамяць.

«Я далібог не краў, я ўпершыню ў вашай бальніцы», — паспрабаваў аджартавацца Трухан. Гэтыя словы чамусьці так расстроілі жанчыну, што яе «на пасту» адпойвалі кроплямі. Усё ж прынесла — як ад душы адарвала: мытуюперамытую, зжаўцелую ад старасці вафельную анучку, і пад распіску выдала.

Потым: «забор (у сэнсе, забіранне) крыві». Брыдкая працэдура! Прыцмокванне «грушы», шум у вушах… То руку не так паклаў, то вену не знайсці, то палец паганы… Ды ўсё з уздыхамі, нервамі, з паказваннем, што ў тым, што ў яе такая нелюбімая, абрыдлая праца, вінаватая не яна, а вы — падсобны матэрыял, такія вось бесталковыя хворыя…

І ў сталоўцы без крыку не абыйшлося: чаму не ўзяў зноўтакі «з дому» лыжку з кубкам?! І таксама, павойкаўшы, на службовае злачынства пайшлі, выдаўшы яму — пад клятву аддаць— шклянку з чайнай лыжачкай.

Дзе б ён ні паяўляўся, усюды выклікаў незадаволенасць, вохканні, айканні, усё рабіў не так і не тое. Працэдурная сястра бурчэла: дзе аднаразавыя шпрыцы? — я на вас не назапашуся… Санітарка насварылася, бо зза ягонай тумбачкі выграбла кучу бруду, скарынкі і крошкі, шалупінне, хаця выдатна ведала, што ён гадзіну назад як паступіў, і яшчэ нават тумбачкі адкрыць не паспеў. У рэнтгенкабінеце сустрэлі лаянкай — чаму пантофлі не зняў каля ўваходу?!

І паступова на яго навая хваля раздражнення накатвала. Ды чаго вы так перажываеце? Адкуль я ведаў? Хто мяне папярэджваў? Няўжо я знарок, за мэту сабе паставіў непрыемнасці вам чыніць?

Але нават не гэта крыўдна было. Што яму прывыкаць — савецкаму хвораму ў савецкай бальніцы? Горш было тое, што з усіх гэтых прыдзірак і прэтэнзій вынікала — калі б ён, дапусцім, захапіў уласны ручнік, і кубачак з лыжкаю для сталовай, і зняў пантофлі пры ўваходзе,

дык для яго не паўставала б пытання Смерці; інакш, ад гэтага магло б залежаць, будзе ён жыць, ці памрэ.

Альбо такая накладка. У палату ўкаціла сястра кропельніцу:

«Лягай».

Ён лёг пакорліва, у белую столь гледзячы. Тут праз пару хвілін другая сястра прыляцела, іголку вышмаргнула, толькі кроў на прасціну пырснула…

«Чаго ты маўчыш ляжыш?!»

А ў яго ніхто і не пытаў. Аказалася, у суседняй палаце ёсць хворы па прозвішчы Труман, таксама нядаўна паступіў, і іх паблыталі. І далей, канечне, пастаянна пачалі блытаць. То ўкол, то кропельніца, то таблеткі, прызначаныя Труману, патраплялі ў палату да Трухана. Але і Трухан ужо зрабіўся вучоны.

«Каму?» — пытаў ён. — «Табе, каму ж яшчэ!» — «Паглядзіце добра». — «Ну, паглядзела — табе, Труману!» — «Але я — Трухан».

Сусед па палаце жартаваў:

«Глядзі, каб Трумана замест цябе на аперацыю не забралі! Бо ў нас што хочаш бывае. Такі ўкольчык упякуць, што і аперацыі не спатрэбіцца…»

Гэты сусед быў копіяй Антонава з таго жыцця (а можа, і прамым яго нашчадкам); з такімі ж дурнымі жартамі, хамскімі зваротамі, і так многа ён гаварыў, што Трухан, часам забываючы, дзе знаходзіцца, лез у тумбачку па сухар, каб даць яму і каб ён заткнуўся.

«… А то неяк бальнічны далі на халяву, — вяла, манатонна распавядаў гэты «ўнук Антонава». — Тры дні гуляў на вяселлі. На работу ісці, а як ісці? Прыходзіць знаёмы. Кажа, давай у магазін, купі пляшку гарэлкі і пляшку шампанскага. Я збегаў. Цяпер — бінт і цёплая вада. Мочыць бінт, туга бінтуе мне да калена нагу… Цяпер — стаў нагу на табурэтачку. Я паставіў, ён

нечакана — як урэжа паназе бутэлькаю! Боль люты. Выпілі гарэлку, я разбінтаваў — нага чорная, распухлая, у вядро не ўлазіць. І пералому няма — і месяц бальнічнага!»

Слухаючы яго, — а не слухаць не можна было, Трухан пачынаў разумець, чаму так палохала яго заўсёды «звычайнае, простае чалавечае шчасце», чаму яно здавалася яму горай нават за тое, што ён на гэты момант мае.

Іншыя аднапалатнікі, чацвёра іх было, даймалі Трухана больш тонкім спосабам — параўноўвалі яго з нейкім Квяткевічам, які раней тут ляжаў. Як толькі звярталі ўвагу на Трухана, так аўтаматычна згадваўся Квяткевіч.

Пачалося з дыягназу, з таго, што Трухану аперацыю будуць рабіць.

«А вось Квяткевічу — тутачкі ён ляжаў, на тваім ложку, ніякай аперацыі не рабілі!»

Пры Квяткевічы ў палаце быў тэлевізар, «відак», магнітафон.

«А ў цябе ёсць?»

«Няма».

А як умеў Квяткевіч травіць анекдоцікі! А ў карты як гуляў!

«А ты гуляеш?»

«Не».

Пры Квяткевічы з палаты не вылазілі наведнікі, госці, дзеўкі... Спіртное прыносілі, прысмакі розныя.

«А да цябе чаму ніхто не прыходзіць?»

І гэтак далей, і таму падобнае, і ў кожным выпадку параўнанні былі не на карысць Трухана, — нібы ён стаў нейкім іншым полюсам, адваротным бокам, негатыўным

двайнікам таго невядомага Квяткевіча.

## 3

*«...Калі ў першым акце на сцяне вісіць стрэльба, дык у апошнім яна павінна... даць асечку»*

І раптам — у суботу падвечар гэта здарылася, нечакана для сябе і для аднапалатнікаў Трухан пачаў набіраць балы ў завочным паядынку з Квяткевічам.

Ні з таго ні з сяго пераводзяць яго ў другую палату. Не проста лепшую, а «люксавую», на два чалавекі разлічаную, а другога няма пакуль, толькі ложак, так што лічы — аднамесную. Тэлевізар, халадзільнік... Хоць і навошта яны Трухану? А самае цікавае і падазронае, што адносіны дактароў і медперсаналу рэзка змяняюцца — у бок паляпшэння і ветлівасці.

Значыць, зусім дрэнь справы, думаў Трухан, раз так насіцца пачалі са мною. І зусім быў упаў духам, каб не візіцёры да яго. Церашкоў з Ведрычам.

Ад іх пахла марозам і здароўем.

«Але ж і скрытны ты! — з парога пачаў Ведрыч. — Ні слова, ні пісьма, ні запіскі! Я ўвесь універмаг (так Ведрыч называў універсітэт) на вушы паставіў, пакуль даведаўся, дзе ты».

«Навошта?!»

«Яшчэ ганарыцца! Адной нагою ў магіле, а ўсё адно гонар паказуе. Саромеецца яшчэ. Сорам — гэта падохнуць раней часу. Нэлі была ўжо?»

Вось толькі калі дапяў Трухан. Як ён адразу не здагадаўся? Ну, канечне. Ад каго, як не ад цыніка, хама Ведрыча можна чакаць дабра ў гэтым свеце? Ну, вядома: усё разведаў, успомніў, хто ў Нэлі бацька... Дамовіўся. І вось вынік — гэтая палата, ветлівасць,

павага... Першы раз у жыцці Трухан пажынаў плады блату.

Ведрычу было сорамна за зробленае дабро. Цяпер ён хаваў яго пад панцырам грубасці і развязнасці.

«... Доктарнацыяналіст войстрыць бруском скальпель, — расказваў, разваліўшыся на незанятым ложку, ён (Церашкоў прымасціўся ў нагах). — Хворы ляжыць на аперацыйным стале і калоціцца. «Доктор, доктор, я умру?» — «А яак жа!»

Трухан засмяяўся, але не сказаць, каб весела.

«Умееце вы настрой падняць...»

«А то яшчэ, — сказаў Церашкоў. — Заходзіць адзін у белым халаце ў палату, з метрам, пачынае хворых абмерваць. «А навошта гэта, доктар?» — «Я не доктар, я сталяр...»

«Дзякую! Вас толькі ў адведкі пасылаць. І напалі ж на тэму!»

«Ці такі яшчэ анекдот...», — разыйшоўся Церашкоў.

«Ну, хопіць, — спыніў яго Ведрыч. — Бо сапраўды... — І адразу ж сам: — Сапёр падарваўся на міне, трэба камусьці тактоўна паведаміць жонцы. Прыходзіць камандзір узвода, пачынае: «У кожнага ў жыцці здараюцца памылкі...»

Трухан слухаў, пасміхаўся, і як ні дзіўна, лягчэй яму рабілася, меншаў страх ад гэтага чорнага, недарэчнага гумару.

Церашкоў з Ведрычам былі з раніцы, а пасля абеду, на «ціхай гадзіне», калі сцямнела, снег за вакном стаў сіні ад ліхтароў, і Трухан прылёг адпачнуць, з'явіўся яшчэ госць — Іван Паўлавіч.

«Ну, як мы тут? — весела пачаў, па сваёй звычцы паціраючы рукі перад тым, як павітацца. — Пагаворым? Толькі можна не ў палаце», — чамусьці адразу

прапанаваў ён.

Выйшлі на калідор. Размясціліся ў «светлавой кішэні» — там, дзе агульны тэлевізар, вазоны, фікусы, крэслы і часопісны столік. Каб захацеў, дык лепшага месца не знойдзеш. Ніхто не перашкаджае. Ціха. На «пасту» за асветленым сталом сястра штось піша. Прыцемкі, утульнасць...

Нешта падобнае аднойчы Трухан сабе ўяўляў ужо — на лекцыі, калі ў думках нібыта размаўляў з Ведрычам. І вось усё на самой справе. Хай з іншым субяседнікам, хай у іншых умовах... Але тут што цікава: ну, нічога ж немагчыма выдумаць, каб не спраўдзілася! Міжволі падумаеш — ды ці не плануе чалавек сам свой лёс? Ці не мосціць ён уласную сваю будучыню, раз за разам накіроўваючы святло ліхтарыка ў далёкую цемру? Вось і атрымоўваецца — кожнаму па жаданнях яго, як спланаваў, так і атрымай.

Між тым Іван Паўлавіч гаварыў ўжо. Трухан адарваўся ад сваіх думак і пачаў слухаць.

«... Я чытач старамодны, — ціха гаварыў Іван Паўлавіч. — Сачу больш за сюжэтам... У мастацкім творы мне заўсёды цікава, што будзе далей. А ў вас, выбачайце, яшчэ да канца не дачытаўшы, ужо бачу, што скончыцца арыштам і, хутчэй за ўсё, расстрэлам галоўнага героя... Проста таму, што нельга такога чалавека на свабодзе трымаць... Таксама няма тлумачэння, як ён увогуле ў тых гадах апынуўся? Чытачу цікава гэта. Я б на вашым месцы што зрабіў? Няхай ён памірае ў нашым часе, скажам, на аперацыйным стале (цьфуцьфуцьфу!)... Не, не памірае, канечне, а — засынае пад наркозам, а прачынаецца ў іншай палаце, напачатку стагоддзя, чалавекам з іншай біяграфіяй...»

Трухан слухаў і не слухаў адначасова. Няўжо яшчэ не так даўно падобная лухта магла яго цікавіць? І як цяпер усё гэта было далёка ад яго.

«... Я на вашым месцы што зрабіў бы... У будучае яго перанёс! Уяўляеце? Памойму, было б здорава. Тры

перыяды: мінулае — потым арышт, расстрэл — і ў нашым часе прачынаецца. Памі… засынае, я хацеў сказаць, пад наркозам — і ў будучыню пераносіцца. Матэрыял, ахоп падзей, прастор! Зрэшты, прабачце… Проста калінікалі крыху крыўдна, што сам не пішу. Цікава пачуць вашу думку. Што вы скажаце?»

«Я? — схамянуўся Трухан. — Справа ў тым, што будучыня мяне ніколі і ніколькі не цікавіла. І не цікавіць. Мне не хочацца нават у думках, нават у творчасці туды пераносіцца. Не ведаю, чаму. Мне здаецца, там усё тое ж будзе: нараджэнне і старэнне, радасці і пакуты, злучкі і здрады… І так да скону вякоў. Мінулае можна зафіксаваць, яго можна помніць, уцякаць у яго, жыць ім, ратавацца ім… А ў будучыню як уцячэш? Як яе зафіксуеш? Адтуль, як з таго свету, не вяртаюцца. Можна і так сказаць: будучыня — тое, чаго няма, гэта небыццё, гэта сінонім смерці. Альбо індывідуальнай — ад старасці, хваробы, няшчаснага выпадку, альбо масавай, агульнай — ад ядзернага выбуху, чарговага ледніка, цеплавога эффекту, астывання зямлі — ды ўсё, што заўгодна, і ўсё гэта будучыня, і ўсё гэта смерць!»

«Песімістычны ў вас настрой…»

«Канечне, будзе тэхнічны прагрэс, розныя побытавыя зручнасці — усё гэта будзе. Але гэтыя матэрыяльныя «заваёвы» бачацца мне чамусьці нечым саромным, нагадваюць школьныя ўбогія казкі з майго дзяцінства, калі настаўнікі тлумачылі нам, дзецям, што такое камунізм: гэта калі кожнаму будзе бясплатны трохкалёсны веласіпед. Тэхнічныя заваёвы будучага — той жа веласіпед!»

«Цяжка з вамі пагадзіцца», — ківаючы галавою, гаварыў Іван Паўлавіч.

«Ёсць прытча, як раней людзі ведалі сваю будучыню, ведалі і дату смерці, і аднойчы Ісус прыйшоў да такога ўсяведніка ў госці — прыйшоў і жахнуўся: бруд, смурод, запусценне, дах абвалены, гаспадар ляжыць на ложку і плюе ў столь. — «Што ж ты робіш, чалавеча?

Прыбярыся хоць трохі!» — Навошта, калі я ў чацвер памру?» З таго часу Бог і зрабіў, тое, што ёсць».

«Розум у вас лагічны, правільны, — пахваліў ні з таго ні з сяго Іван Паўлавіч, нібы гэта Трухан, а не Бог, прыдумаў, каб людзі не ведалі будучыні. — Але настрой, адносіны да жыцця… Між тым вы ўтрыруеце. Я гаварыў з вашым доктарам, усё не так безнадзейна, як нам часамі малюецца… Ды зменім тэму. У вас жа ёсць выдатныя лекі — творчасць, літаратура! Плюс збег абставінаў — калі славутае «не магу не пісаць» так натуральна да вас падыходзіць. Вы як чалавек на бязлюдным востраве, у якога, апроч паперы і атраманту, няма больш нічога, і якому нічога больш не застаецца, як тварыць. Ды мільёны звычайных людзей, — толку ім ад іхняга здароўя, калі яны не цэняць яго, калі жыццё іх падобна на жывёльнае ці расліннае існаванне! Калі ім няма часу спыніцца і паглядзець на неба, на аблокі і зоры, ці сабе пад ногі — на траву, на мурашку ў ёй… Вас павінна трымаць, як і дасюль трымала, адчуванне непадобнасці, абранасці, гонару, што менавіта вы ў ліку тых нямногіх, каго вышмаргнулі з гэтага бясконцага людскога ланцуга, па якім жывыя рухаюцца ў мёртвыя…»

«А мне які толк ад гэтай «абранасці»?! Якая аддача? Што я на тым свеце з цяперашняга свайго «абранага» жыцця ўспомню? Ні здароўя, ні грошай, ні жанчыны, ні сям'і, ні падарожжаў, ні дуэляў, ні геройства, ні подласці… Зусім нічога».

«Дык гэта ж, наадварот, вельмі добра для творцы! Сублімацыя. У вас няма нічога гэтага, дык вы затое можаце яго прыдумаць, і пеͅражыць яго, і карыстацца ім, як нібыта на самой справе…»

— Хай бы каму іншаму такое шчасце, — уголас прамармытаў Трухан — і прачнуўся.

Ён прачнуўся ў сваёй каморцы ад холаду. За вакном было цёмна. Шыбіна запацела, па шкле барабаніў дождж.

І, лежачы і прыслухоўваючыся да гэтых знадворных сонных гукаў, Труханові́ч зразумеў, што неўзабаве скончыцца ўсё, што гэтая рэзкая перамена ў надвор'і паказвае на хуткую пермену ў ягоным жыцці. Нездарма ж пісьменнікі прыдумалі такі спрытны прыём: перадаваць настрой чалавека праз надвор'е і з'явы прыроды. Добра і прыемна было не рабіць нічога, займацца пасіўным, лянівым сузіраннем, «святым гультайствам», калі і навокал, у прыродзепагодзе ўсё было суладна і сцішана. Тады і на душы быў супакой. А калі нудны, восеньскі, цягучы дождж на дварэ? Слота, холад… Нага баліць. Руку круціць, не раўнуючы, зубным болем. А ўставаць трэба. І ніяк не пазбавішся ад процьмы розных побытавых клопатаў, якія пчаліным роем, у гаспадара дазволу не пытаючы, самі лезуць у галаву. Анучы сырыя будуць… Боты восьвось разлезуцца… Гімнасцёрка потам смярдзіць… і як жа абрыдла ўвесь час мыцца адной рукою! І як, і дзе ўвогуле змыць гэты бруд з сябе? Пакуль цёпла было, дык рэчка пад бокам, хоць збольшага можна было паплёхацца — а цяпер? Дык гэта ж толькі пачатак, яшчэ ж уся восень наперадзе. А зіма? Што ён зімою рабіцьме? Калі ў каморы грубкі няма?

А тут, у дадатак да ўсяго, яшчэ ўспомнілася, што сёння яму ў Скрыгалаў на млын ехаць. Сам напрасіўся.

Рэч у тым, што Міканор з Бацькам хоць і жылі ў адным двары, але гаспадаркі ў іх лічыліся дзве — асобныя. Скончыўся абмалот, Міканор сваю норму харчнарыхтоўкі здаў усю, а Бацька пару мяхоў лішку прыхаваў, спадзеючыся — у выпадку чаго — прыкрыцца тым жа Міканорам… Якраз пайшла чутка, што ў недалёкім Скрыгалаве запрацаваў паравы млын. Вось толькі ці надоўга? Трэба было скарыстоўваць момант, везці ды малоць, пакуль хоць нейкае зацішша.

І тут Міканор праявіў нечаканую цвёрдасць — ніякіх паездак! Адна справа — жыта, і зусім іншае — мука.

Прыхаваць лішкі можна мала на што, хоць бы і на насенне, правіннасць у тым невялікая, а вось малоць… Малоць — гэта супраць закону, супраць савецкай улады. Ён, Міканор, і без таго шмат на што вочы закрывае, патураючы Бацьку, а на злачынства ісці не збіраецца.

— Сваё змалоць — злачынства? — прыкідваўся нявіннай авечкаю Бацька. — Калі такое сталася, што яно так звацца пачало?

Трухановіч, які быў міжвольным сведкам гэтай сцэны, перш хацеў ціхенька выграбацца з хаты. Але штосьці падказала яму, што гэта, можа, і ёсць той выпадак, калі ён хоць чым зможа быць карысным гэтым людзям. Ён застаўся.

— Ні сам не паеду, ні вы не паедзеце, — казаў Міканор. — Вас жа кожная дзірка ў плоце ў тым Скрыгалаве ведае! І ўчотчык, і млынар… Не трэба мне, каб пасля пальцамі тыкалі, што сын па хатах ходзіць, апошняе выграбае, а бацька…

— Хіба я цябе пасылаў на такую работу? Ты ж сам яе знайшоў, — упарціўся Бацька, але асцярожна гаварыў, бо грэх было наракаць на Міканора, за якім і так яму вялікая паслабка была. — Вунь Стахвей не хаваецца: звазіў учора, і змалоў, і вярнуўся…

— Кіньце гэта! Стахвею можна. А нам — не!

— Другія вунь і змалолі, — гнуў сваё Бацька, — і нічога ім. А ў нас усё не як у людзей…

— Так і скажыце! Не так вам тое жыта і тая гарэлка, як пазавідвалі, як бы ад людзей не адстаць. А на мяне і без таго косяцца, што іншых агітую, а бацьку роднага не чапаю. А як вас зачэпіш, калі ў вас такая кулацкая натура?

— Дык у цябе затое бальшавіцкая — вось і звазіў бы, і ніхто б табе слова не сказаў бы…

— Яшчэ чаго лепшага не маглі прыдумаць?! Мала вам, што я і так маўчу пра тыя лішкі? Ці вы хочаце, каб мяне

ў Мозыр пад канвоем павезлі?!

— Ды Бог з табою, сынку, — спалохаўся Бацька. — Не хочаш, не трэба, я ж цябе не пасылаю. Маўчыш — і на тым дзякуй, — пачаў падхалімнічаць ён, добра ведаючы сынаў характар: пазлуецца ды ўсё адно саступіць. — Прападзе ж жыта... І як гэта без гарэлкі? А яно ж горш і горш з кожным днём...

І далей, ужо не да Міканора, а да «меншага» — Труханевіча, звяртаючыся:

— Прапусцім час, шкода ж. Потым рады не дасі гэтаму жыту... Вунь задажджыла — хутка вуліцу не пярэйдзеш, не тое што ў Скрыгалаў... Ды і млын чакаць не будзе. Стахвей казаў учора, што...

— Давайце, я з'езджу, — прапанаваў Труханевіч — абыякава, нібы тым па цэлых днях і займаўся, што па млынах раз'язджаў.— Дакументы ў мяне ў парадку, ніхто мяне ў тым Скрыгалаве не ведае...

— А зможаш? — хутка спытаў Бацька. Гэтая хуткасць яго і выдала, паказаўшы, што такі варыянт абдумваўся ім адпачатку, як самы, можа быць, для ўсіх іх найлепшы.

— Ды куды яго адпускаць? Яшчэ дарогу забудзе! — вырвалася ў Міканора. Але не са злосцю, не з насмешкай вырвалася, было відаць, перажывае ён за брата. — Хіба і праўда мне з ім паехаць?.. А перад Скрыгалавам пераседзець дзе ў лесе, пачакаць, пакуль назад... Цьфу, чорт ведае што!

— Не дуры галавы, — стаў супакойваць яго ўраз падвесялелы Бацька. — Мо і праўду кажа... Што там ехаць? Дарога сама выведзе... І там, у Скрыгалаве, хто яго ведае? Труханевічаў поўная акруга. А тут, свае — дык дурны не ўбачыць, а разумны прамаўчыць...

— Вось няймецца вам з гэтым жытам! Едзь. Хай едзе. Мне то што? Глядзіце самі. Але радня раднёю, а мяне тут не было, і не чуў, не бачыў нічога!

Усё атрымалася па Бацькавых словах, а не па Міканоравых. І з'ездзіў удала, і вярнуўся жывыздаровы, і дарога сама вяла, а разумны конь сам вёз, і нават з дажджом як падгадалі — нікога знаёмага не стрэлася на шляху. Усю дарогу туды Трухановіч прасядзеў крукам пад брызентавай накідкаю, аб якую стракатаў дожджык. Добра так было, зацішна, нават думаць не хацелася…

У Скрыгалаве адразу знайшоў, ні ў кога не пытаючы, двухпавярховы цагляны будынак паравога млына. Каля яго ўжо стаяла цугам падводаў пяць. Трухановіч прыстроіўся ў канцы. Пакуль марудна рухалася чарга, пакарміў каня з рукі сенам, потым пахадзіў між падводаў… Хутка знайшліся памочнікі — мяхі на млын аднесці і муку на воз пагрузіць, самі вызваліся, і нават пляшку самагонкі, якіх Бацька дзве даў з сабою, спярша браць не хацелі: «Свой — братокхрантавік, што ж мы, няхрышчаныя хіба?..» Збыўшы з рук адзін клопат, Трухановіч вырашыў заглянуць на млын, каб хоць трохі разабрацца, што тут да чаго, каб потым, калі яго чарга падыдзе, не выглядаць поўным невукам.

Усярэдзіне, на першым паверсе, было сапраўднае пекла. Усё калоціцца, грукочуць камяні, за белым пылам амаль нічога не відаць, у гэтай завірусе мітусяцца, як чэрці, людзі, робячы якуюсь незразумелую работу… Па драўлянай, белай, нібы засыпанай крэйдаю, лесвіцы падняўся наверх. Тут было крыху спакайней. Пастаяў, агледзеўся. Ну што ж, збольшага механіка зразумелая. Калаўрот, якім знізу падымаюць мяхі, вялізны кош, куды высыпаюць жыта. Жорны круцяцца пры дапамозе пары, і ўніз па латку ў скрыню ссыпаецца мука…

Спусціўся ўніз, трохі прывыклымі ўжо вачыма ўбачыў, што і тут, аказваецца, зусім не хаос, а прадуманыя, зразумелыя дзеянні: людзі выграбаюць саўкамі муку са скрыні і напаўняць мяхі. У кутку каля акна, дзе святлей было, і крыху менш пылу, сядзеў на адной скрынцы чалавек, другая, вышэйшая, служыла, відаць пісьмовым сталом, бо на ёй ляжаў разгорнуты сшытак. Трухановіча

міжволі пацягнула туды — знаёмы занятак, папера, аловак… А калі яшчэ ўбачыў, што ў чалавека замест нагі — драўляная кульба, зусім растаў душою: «калега», такі ж, як і ён, знявечаны…

Ён падыйшоў і, сам не ведаючы, навошта робіць гэта, выцягнуў з кішэні паддзеўкі пляшку самагоні і моўчкі працягнуў чалавеку. Той не столькі ўзрадваўся, колькі здзівіўся, нават нібыта спалохаўся чагосьці. Аднак, азірнуўшыся, пляшку ўсёткі ўзяў і схаваў пад свой «стол»скрынку.

Затым змераў Трухановіча доўгім насцярожаным паглядам.

— Без чаргі трэба? — спытаўся нарэшце. — Арганізуем!

— Ды не. Спяшацца няма куды.

Чалавек памякчэў.

— А, ну тады дзякую. Змелем! Мы табе так змелем, што пірагі з тае мукі пячы можна будзе!..

Добрым сваім зрокам Трухановіч ухапіў на разгорнутай і разграфленай старонцы: учот… мяхі… пуды… мука — крупчатка… першы памол… другі гатунак…

— Вы ўчотчык? — ляпнуў ён, робячы другую пасля дачы хабару памылку. Чалавек ізноў насцярожыўся. Ты прыехаў на млын і не ведаеш, хто я? — нібы хацеў сказаць ён. Зрэшты, прыблізна так і сказаў:

— Я то ўчотчык… А вось ты хто? Нешта не згадваю. Ці не Трухановічаў меншы будзеш?

— Не… Трухановіч, але не меншы… Не той. Другі я, — адчуўшы, што заблытваецца, Трухановіч змоўк на паўслове і, поўны прыкрасці, павярнуўся і паклыпаў на двор. Навошта яму спатрэбілася хлусіць? І што за шчодрасць з гэтым самагонам?.. Як усё ж цяжка з людзьмі, як збіваешся з імі, не ведаеш, як трэба паводзіццца!

І толькі калі, змалоўшы, уладкаваўшыся, выехаў са Скрыгалава і апынуўся зноў у лесе, адзін, з канём, — палегчала трохі. Дождж перастаў. Спіну ўтульна грэў цёплы мех мукі. Толькі аднаму і можна існаваць. Гармонія… «ЛявонБушмараўшчына»…

Але на гэты раз думкі яго ўзбунтавалі. І прыкрасць, і злосць нечакана расхадзіліся ў душы. Ад таго, што такі ён непрыдатны сярод гэтых сялян — з іхнімі вечнымі праблемамі, з іхняй вечнай барацьбой за выжыванне… Чужы, усяму і ўсім чужы! І як жа абрыдла ўжо гэтае сваё «ўсёведанне»! Ад якога ні яму самому, нікому іншаму ніякае карысці!

І ён адчуў, як стаміўся ад гэтай чужацкасці, ад вечнага свайго акторства ў гэтай занадта ўжо зацягнутай п'есе.

І, як і сёння раніцай, толькі яшчэ больш востра, з яшчэ большым адчуваннем палёгкі ён зразумеў, што пара, што хутка скончыцца ўсё, што ён, сам таго не ўсведамляючы, набліжае развязку, прынамсі, хоць бы вось гэтым эпізодам на млыне… І яму хочацца, каб гэтая развязка хутчэй настала.

Чаму ім не цікавяцца?! Чаму не арыштоўваюць?! А можа — ужо? Вось пад'едзе ён зараз да хаты, а там чакаюць… Каб «узяць».

Да таго ён гэтай развязкі хацеў, да таго быў да яе падрыхтаваны, што амаль не сумняваўся — так яно і будзе.

## 5

Але «ўзялі» яго толькі праз тыдзень.

За гэты час паспеў Труханові розвітацца і з любімай рэчкаю, і з родным лесам, і з восеньскім сонцам, якое «шчодра аддавала сваё апошняе цяпло» пустым ужо, але ад таго не менш прывабным для вачэй і для душы палеткам… Самае галоўнае — паперы яго, успаміны яго

пра будучыню былі дапісаны, у снарадную гільзу ўкладзены, воскам заліты і ў надзейным месцы захаваны. Гэта было адзінае, што мог ён паслаць праз гады самому сабе — будучаму.

Больш нічога не звязвала яго з гэтым часам. Арышту ён не баяўся, не баяўся нават смерці — па вядомай прычыне; будучы допыт не так палохаў яго, колькі чакаўся ім. Яму здавалася, гэта будзе штосьці кшталту філасофскай, інтэлектуальнай гутаркі за шклянкаю гарбаты… Бо якая віна на ім? Што яму можна «прышыць»? Не прымітыўную ж контру! Мо таму і не арыштавалі дасюль, бо самі не ведаюць, за што? За бяспамяцтва, за бяскрыўдныя фантазіі — дык нібыта нават бальшавікі за такое не расстрэльваюць…

У такіх справах як ні гадай — не ўгадаеш, як ні чакай — атрымаецца нечакана. Прыехалі па яго днём, у самую рабочую пару, калі ён адзін быў дома. А мо гэта Якаў, які паказваў чэкістам дарогу, знарок такі час выбраў? Усё адбылося хутка, будзённа, без асаблівых збораў і слёзпровадаў. Нават вобыску не было. У каморку ўвайшлі двое, адзін стаў у дзвярах, другі акінуў вокам пустыя куткі, голыя сцены, падняў матрац, пад ложак зазірнуў… Трухановічу нічога не тлумачылі, а ён не пытаў нічога. Аднак паддзеўку на плечы накінуць здагадаўся.

Падвода стаяла каля варот. Сабакі брахалі, як шалёныя, — падобна, адзіныя істоты, якія не толькі шкадавалі свайго гаспадара, але і гатовы былі абараняць яго перад чужакамі. Хаця, калі падвода ўжо кранулася, і Трухановіч азірнуўся, падалося яму, што нехта ходзіць у двары, можа, тая ж Наста прыбегла з агароду на сабачы брэх…

Канваіры былі маўчуны. Абодва сядзелі спінамі да Трухановіча: адзін спераду кіраваў коньмі, другі ззаду спусціў ногі ледзь не да зямлі і курыў. Трухановічу была поўная воля. Ён глядзеў на сароку, якая трашчала іківала хвастом на бярозе. Калі ўехалі ў бярозавы лес, вочы машынальна пачалі шнырыць па доле, шукаючы сярод жоўтага лісця грыбную шапку. А калі пайшлі

пералескі, а потым абапал дарогі — палі, ён пачаў пазіраць на пустыя загоны, і знаходзіў, што яны, голыя, падзеленыя тольківаўчкамі на межах і схіленымі сланечнікамі, яшчэ прыгажэйшыя, чым улетку, калі ўсё на іх цвіло і буяла.

Горад набліжаўся. І чым бліжэй да яго заставалася, тым больш Трухановічу хацелася расцягнуць дарогу — у прамым сэнсе, на манер гумкі, каб даўжэй было ехаць. Паказаліся першыя мазырскія хаты — украінскія мазанкі, белыя ў зялёнай вішнёвай і абрыкосавай зацені. У сваім будучым далёкім дзяцінстве ён яшчэ застане іх...

Вечар надыходзіў з кожнай хвілінай. Аднак, нягледзячы на прыцемкі, і ў горадзе Трухановіч пазнаваў сёетое. Славутыя равы і пагоркі, пакрытыя бярозамі... «Я вам пакідаю на кручах высокіх ракіты, мазырскіх бяроз беластвольны тугі карагод, каб вы, дарагія, на прыпяцкіх хвалях блакітных, ка мне прыплылі і праз нейкую тысячу год!»

Спуск. Пад'ём. Цэнтральная вуліца. Прыпяць, якую хоць і не відаць адсюль, але яна адчувалася па рачной свежасці. Плошча, яшчэ без статуі з працягнутай рукою. Будынак, той самы, у адным з пакояў якога, на другім паверсе, некалі будуць прымаць яго ў камсамол...

Падвода завярнула ў цёмны ўнутраны двор. Спынілася каля ледзь прыкметных у сцяне дзвярэй. Трухановіч хацеў устаць, на яго цыкнулі, каб сядзеў і не варушыўся. Затым яго канваіры некуды зніклі, а каля падводы з'явіліся іншыя людзі. Турэмшчыкі? Перадача з «рук на рукі»? Нарэшце яму загадалі злазіць.

— Рукі за спіну. Не азірацца. Слухаць каманды.

Адзін уперадзе, другі ззаду. Пачалі спускацца ў падвал. Трухановіч чыкільгікаў, як верабей. Чамусьці ўяўлялася яму, што ягоная турма будзе без падвалаў, проста які-небудзь маленькі барак, хоць і без вокнаў, цёмны, але драўляны, з нагрэтымі за дзень бярвенчатымі сценамі.

А тут — сцены цагляныя, холад, вільгаць, цвіль… Святла не было зусім.

— Улева, — камандаваў задні. — Яшчэ ўлева… Стаяць! Тварам да сцяны!

Бразнулі дзверы. Пацягнула скразняком і адначасова — тым адмысловым смуродным пахам, па якім льга было здагадацца, што людзей тут, як селядцоў у бочцы. Трухановіч зрабіў крок, дзверы зачыніліся за ім. Цемрадзь была поўная… Хаця, здаецца, у процілеглым кутку камеры святлее прамакутнік акна. На яго арыентуючыся, Трухановіч паспрабаваў быў прайсці туды. Але спатыкнуўся аб нечае цела, як яму падалося, мёртвае… Не, лепш вярнуцца назад і ўладкоўвацца каля дзвярэй.

Так і зрабіў. Хоць і скразнячок зпад нізу, затое лягчэй будзе дыхаць. Паддзеўка на падлогу… Ногі абедзьве ў рукаво… Нос да скразняку… Аднак не паспеў ён зрабіць усяго гэтага, як зноў з ляскатам адчыніліся дзверы.

— Хто на «хэ»?!

Заварочаліся, закашлялі, заскрыпелі, застагналі…

— Хамцэвіч.

— Хамутоўскі!

— Хальчэня, — пачало адгукацца з розных куткоў.

— Апошні, на выхад!

Трухановіч падцягнуў пад жывот ногі, каб даць дарогу. Па вакенцы, ды па прыблізнай адлегласці паміж месцамі, адкуль чуліся галасы, можна было вызначыць памеры камеры — не менш як чалавек на пяцьдзесят, гэта калі ўсе ляжаць на падлозе, ўпокат, а калі тут яшчэ і нары, дык удвая больш…

Як пачалося, так і пайшло. Праз пэўныя прамежкі часу —крокі на калідоры (хутка яны пачалі замяняць Трухановічу гадзіннік), бразгат дзвярэй, «хто на…!» І з

кожным разам, чуючы гэтыя крокі за кіламетр, нават, здаецца, тады, калі яны яшчэ і не пачаліся, замірае ўвесь людзьмі забіты катух… Некалі вось так сама сядзелі і чакалі, пакуль іх кінуць на корм дзікім звярам, першыя хрысціяне… Ці прарокі, аракулы, «ведзьмакі» часоў інквізіцыі перад апошнім сваім вогнішчам… Як чорна і глуха. Нібы апусцілі на людзей вялізную квадратную скрыню — тры сцяны і столь, і адрэзалі ёю, адсеклі ўсё лішняе, непатрэбнае, няважнае… Усё засталося там, паза скрыняю, а тут толькі дзве рэальнасці: жыццё і смерць. Жыццё — гэты крохкі маленькі шкляны шарык, з рэдкім пералівам падманлівага бляску, —шарык на накавальні, а над ім смерць — цяжкі, усюдыісны, бязлітасны жалезны молат…

— Хто на «тэ»?!

«Я! Я, таварышы, на «тэ», і я гатовы супрацоўнічаць з вамі! Вы толькі не спяшайцеся забіваць мяне, і я вам усё растлумачу… Я — неацэнны грамадзянін для любой дзяржавы. Ад мяне карысці можа быць больш, чым ад цэлага войска, больш нават, чым ад вас, арміі чэкістаў… Не, што вы, гэта зусім не азначае, што вы застанецеся без працы! Як вы кажаце? Так, канечне, — віну сваю прызнаю, гатовы падпісаць любы пратакол. Вінаваты ў тым, што па слабасці, ці па дурасці, думаў адсядзецца ў каморцы, у грыбах, не хацеў дзяліцца сваім дарам з дзяржаваю… Выпусціўшы зпад увагі, што дар гэты не столькі мой, нават зусім не мой, а — калектыўная ўласнасць, дзяржаўная зброя; мне ж належыць толькі тленная абалонка, толькі маё скалечанае цела… Так што вельмі прашу вас пакінуць мяне жыць, а ўзамен вы атрымаеце самыя дакладныя гістарычныя прадказанні, якія памогуць вам за кароткі час авалодаць усім светам».

«Добра. Іншага мы ад вас і не чакалі. Ніхто, само сабою, не верыць, што вы жылі ў будучым, і таму падобнай лухце. Як камуністыматэрыялісты, мы не верым нават у дар як у штосьці індывідуальнае, ад нараджэння дадзенае — гэта буржуазныя хімеры, людзі будучага ўсе

будуць геніяльныя і ўзаемазамяняльныя… Але пакуль мы вымушаны лічыцца, што няроўнасць існуе не толькі ў эканамічным, але і ў духоўным плане. Часова талент як адзнаку выключнасці мы прызнаем, і верым у звышмагчымасць чалавечага мозгу, у неадкрытыя яго рэзервы. Дар прадбачання, прадчування, інтуіцыі — такі ж самы дар, як і пісаць музыку, карціны або ствараць мастацкія творы, пакуль не ўсе гэта могуць. Што да вас, дык хутчэй за ўсё пасля ранення і кантузіі розум ваш даў збой, і вы атрымалі магчымасць прыадкрыць заслону будучага, зазірнуць туды… Такія людзі нам патрэбны. Мы залічваем вас у штат малодшым супрацоўнікам. Паёк — мука, чай, цукар, як прэмія — веласіпед… Дрывамі будзеце забяспечаны. Але як толькі не спраўдзіцца хоць адно вашае прароцтва…»

— Хто на «гэ»?!

— Галёнка…

— Голуб!

— Гершвін…

— Апошні — на выхад!

Труханавіч у каторы раз сцяўся, прапускаючы няшчаснага Гершвіна, які прабіраўся да выхаду і плакаў уголас. Вось чаго ён не ўлічыў. Вось на што варта было настройваць сябе, вось чаго трэба было, урэшце, баяцца: не арышту, не смерці — апускання молата на шкляны шарык (у яго становішчы, калі ведаеш, што смерці няма, што зноў народзішся, гэта было б дурасцю), а ўсяго спадарожнага. Перыядычнасці крокаў на калідоры, ляскату засова, падбірання пад сябе ног, каб даваць камусьці дарогу, і дзікай палёгкі, што не табе яе даюць… Смуроду, мацюкаў, галасоў, плачу — усяго жывёльнапрымітыўнага, сярэднявечна-інквізітарскага… Допыту, грукання кулака па стале… І як упарта не йдзе з галавы Плейшнер з яго ядавітай ампулай у цыгарэце! Вось толькі не ў цыгарэту, а ў каўнер пінжака ці гімнасцёркі ўшываць трэба такія

рэчы…

Ніхто не выклікаў яго.

І пакрысе, чым бліжэй да раніцы, уся яго іронія наконт нібыта хуткага допыту, якая павінна была змяніцца распраўленнем плячэй і гордым пляўком у твар кату, на нішто сыходзіла, раставала, знікала, як і адчуванне сваёй нібыта важнасці — хоць бы і ў параўнанні з гэтымі вось сукамернікамі. Ясна было, што ён такі ж, як усё тут; ніхто не збіраецца яго вербаваць, нічога яму прапаноўваць… Не ён ім у твар, а ім было напляваць — і на курыцу, і на залатыя яйкі…

Невядома, колькі часу так прайшло. Як раптам штосьці змянілася ў камеры. Труханові не адразу зразумеў, што. Аказалася, пасвятлела ваконца. Зачынаўся ранак. І не паспеў Трухановіч разлыпіць вочы як след, не паспеў агледзецца — жудкая карціна толькітолькі пачынала вымалёўвацца перад ім, як на калідоры пачуліся крокі, бразнулі дзверы:

— Хто на тэ?! — над самым вухам.

— Тоўкач!

— Тарасевіч!

— Трухановіч! — хрыпла, уласнага голасу не пазнаючы, прамовіў ён, адрываючы ад падлогі зацеклае, непаслухмянае цела.

— Апошні — на выхад!

— Я? — перапытаў ён, хоць даўно, яшчэ аддалёк крокі пачуўшы, ужо ведаў, хто.

— Галоўка ад …уя! З рэчамі на выхад!

**6**

«Трухан, на ўкол! Ты не еў, я спадзяюся?»

З шасці раніцы пачынаючы, раз за разам гучала гэтае мілае папярэджаннае: хаця не ўздумай есці перад аперацыяй. Яму акурат да гэтага. Зараз — сядзе, раскладзецца і пачне ўпіхваць у сябе сала з хлебам, ці бальнічную кашу з вараным сінім яйкам.

«Што за ўкол?»

«Каб супакоіўся. Лягай, не бойся…»

«Не трэба. Нічога я не баюся. І абсалютна спакойны!»

Аднак паслухаўся, прылёг. Неўзабаве палягчэла цела, паплыў атуманены наркотыкам мозг. Туман, рэчка, поплаў… Нэлі, Наста… Ну, і што яму так ужо асабліва шкада будзе пакідаць у гэтым свеце? Хіба тую ж рэчку… Рабіну… Дзяўчыну…

Грыбныя туманы,

Мурог каля хаты,

Ды пару з пахмелля

нясканчаных вершаў.

У дзевяць трыццаць санітаркі ўкацілі ў палату ложак-«насілкі».

«Сам! — падхопліваючыся, сказаў Трухан. — Ногі ў мяне яшчэ ходзяць».

«А назад? Герой такі».

« Я сказаў — сам!»

«Добра, добра, толькі супакойся…»

«Я спакойны!»

Ліфт. Шкляны, доўгідоўгі калідорпераход. У белым інеі дрэвы на бальнічным двары. Падлога пад нагамі робіцца то бетоннай, то драўлянай… У вачах кругі плывуць. Табе ж прапаноўвалі ехаць на каталцы…

— Рукі за спіну! Варушы нагамі! — і Трухановіч паслухмяна заклыпаў хутчэй. Цёмная лесвіца вяла ўверх, да святла, як у рай. Пяць прыступак, шэсць…

Перад аперацыйнай быў вялікі пусты пакой, страшны тым, што зусім без вокан. Каля сцяны стаяла кушэтка.

«Распранайся… Усё скідвай».

Правільна, навошта каб дабро прападала?.. Трыко, піжама, гімнасцёрка… Боты вось толькі цяжка здымаць адной рукою…

Аперацыйная. Зялёныя дактары з белымі павязкамі на тварах.

«Вось сюды. І не бойцеся…»

«Сам!» — ён адвёў чужую руку, і голы, як маці нарадзіла, палез на аперацыйны ложак. Ну вось і ўсё — «маланка… не — скальпель ля скроні шугае. Перадайце наступніку: хай у народзе сваім праз стагоддзе зімы, на Свята, мой твар адшукае, і мы — вочы ў вочы, шчаслівыя — стрэнемся з ім!»

Зыркі да ненатуральнасці, святлейшы за сафіты прамень вераснёўскага сонца паласнуў па вачах. Каб не схапіць пасля такой цемры «зайчыка», як ад электразваркі, Трухановіч моцна заплюшчыўся, а паверх яшчэ і прыкрыў далоняю вочы (самае дзіўнае, што канваір дазволіў гэта). Затым марудна адняў ад вачэй руку.

Замест глухога падвальнага склепа, дзе, як ён думаў, яго павінны былі расстрэльваць, ён апынуўся на залітым святлом двары. Першае, што тахнула ў мазгах: відаць, іншым шляхам і нельга патрапіць да таго склепа, трэба прайсці і гэты двор — каб зрабіць апошні глыток паветра, злавіць апошні сонечны прамень і назаўсёды запомніць, і з сабою на той свет забраць, апошнім зіркам ухапіўшы, вунь тую зялёную латачку мурагу каля сцяны.

Прыжмурыўшыся, ён стаяў і чакаў далейшых камандаў.

Ці, можа, ужо прыйшлі? Мо гэтая сцяна і ёсць месца прызначэння?

Ззаду на плячо яму лягла рука. Думаючы, што гэта канваір збіраецца падвесці яго «да сценкі», ён з гідлівасцю тузануўся, вызваляючыся:

— Сам!

— Што сам? Жыта вазіў?!

Ён рэзка павярнуўся. І ўбачыў замест канваіраў... «брата» свайго, Міканора. Няголены, нявыспаны, пакамечаны, стомлены... Але вочы іскрыліся непадробнай радасцю.

— Я па цябе... Пайшлі дамоў. Адпускаюць,— казаў Міканор і азіраўся. Трухановіч зза яго пляча таксама паглядзеў туды. І ўбачыў яшчэ аднаго старога свайго знаёмага, з «кансіліума» па шпіталі помнага — Картавага. Ён стаяў на ганачку каля ўваходу ў падвал. Гэта яму належала рэпліка пра жыта.

Ён паволі спусціўся з ганка і падыйшоў да братоў.

— Ну што? — сказаў, не вітаючыся, строганасмешлівым голасам. — Вярнуў памяць? Абжыўся? Я гляджу, аж занадта. Падзякуй брату, каб не ён...

Ды ці не чарговы сон усё гэта? Трухановіч нічога не разумеў. Акрамя таго, што ён не патрэбен ім, яны адпускаюць яго — нават без допыту. Няўжо і ўзялі толькі зза яго паездкі на млын? Успомнілася крывая ўхмылачка ўчотчыка... Гэтага не магло быць. Няўжо два пуды жыта былі для іх важней за тую бясцэнную інфармацыю, што носіць ён у сабе?! Падобна, што так. У іх былі больш важныя справы, іх чакалі разборкі з вязнямі, якім не роўня быў Трухановіч.

— Абодвух папярэджваю: другі раз, калі лішкі будуць, каб не ў Скрыгалаў тарабанілі, а ў пункты ссыпкі здавалі. Давайце адсюль хутчэй, пакуль ніхто не бачыць.

— Пайшлі, пайшлі, — падштурхоўваў застылага Трухановіча Міканор. — Конь там стаіць, адзін, каб не адвязаўся…

І пакуль са двара выходзілі, і па вуліцы ішлі, усё тараторыў без супынку, такім чынам — словамі — ад перажытага пазбаўляючыся. Расказваў, які падняўся пярэпалах, калі «цябе забралі», і як ён, Міканор, спачатку не ведаў, што рабіць, а тады кінуўся да Якава Калашонка, і як доўга ўмольваў яго, пакуль не сышліся на тым, што Якаў выправіць «стрэчную» паперу, у якой адмовіцца ад даносу на Трухановіча, а Міканор зараз жа, на ноч гледзячы, павінен здаць усю да грама праклятую тую муку… Што ён, Міканор, і зрабіў. А затым адразу сюды, і дзе мальбою, дзе гразьбою, дзе хабарам, дзе самагонкаю, дзе сваім валрэўкамаўскім «дакумантам», дзе Яшкавай папераю — але такі ўлагодзіў, дзякаваць Богу!

Трухановіч слухаў, і думаў, што вось колькі падзей адбылося, людзі не спалі, перажывалі за яго, Міканор вунь ледзь не ссівеў, — і ўсё гэта ў той час, калі ён, скурчыўшыся ў абаранак на падлозе, абдумваў высокія матэрыі, праблемы «выратавання чалавецтва»!..

Конь стаяў у завулку, прывязаны лейцамі да плота. Пабачыўшы гаспадароў, заіржаў ціха. Свой, знаёмы конь… Свае, знаёмыя калёсы… На якіх яму зноў зараз трэба вяртацца да жыцця: да людзей, да хат, да лесу, поля і рэчкі, да пожняўзагонаў і золкаўсвітанкаў…

Тут, каля калёс, у бяспечным месцы Міканор сціснуў яго ў абдымках. Потым адвярнуўся. Хацеў закурыць, ды пальцы не слухаліся, падрыгвалі, табака высыпалася з паперчыны.

— Холадна было ўночы…

Так і не скурціўшы, плюнуў, ссыпаў рэшткі тытуню ў кісет, і туды ж — квадрацік газеціны.

— Прачынайся, — лёгенька штурхнуў Трухановіча. — Давай, памагу залезці… Ды не спі ты!

І сапраўды. Трэба было прачынацца. І жыць. Толькі не жыццём «выбранніка», не носьбітам нейкай «высокай» тайны ў душы, а звычайна — існаваць. Рабіцца як усе.

Не так смерць — прадчуванне яе, падрыхтоўка да яе, набліжэнне яе страшыла, як вось гэтае, раптоўна зваленае на галаву, жыццё. Столькі ўжо было патрачана сілы, энергіі, духоўнага запасу, што ён цяпер проста не ведаў, дзе браць дадатковыя рэзервы? Як гэтую дыстанцыю адужаць?!

І ўсё ж быў момант, згадка пра які сагравала. З двух бакоў спісаныя, у трубку скручаныя і ў гільзу «запаяныя» аркушыкі ляжалі, надзейна схаваныя, і, як тая Сцепанідзіна бомба, «чакалі свае пары»...

Ён разумеў, канечне, што карысці ад іх, як і ад той бомбы, можа атрымацца няшмат.

Але гэта было адзінае, што ён меў.

***1987, 1992, 2003 гг.***




# Андрэй Федарэнка

Беларускі празаік. Нападзіўся 17 студзеня 1964 г., в. Бярозаўка Мазырскі раён, Гомельская вобласць.

Скончыў Мазырскі політэхнічны тэхнікум і Бібліятэчны факультэт Мінскага інстытута культуры (1985—1990). Служыў у Савецкай Арміі. Працаваў мулярам у Мікашэвічах Лунінецкага раёна, на чыгунцы ў Калінкавічах Гомельскай вобласці, старшым бібліятэкарам Бярозаўскай бібліятэкі № 2 Мазырскага раёна, карэктарам штотыднёвіка «7 дней», загадчыкам аддзела навукі і мастацтва часопіса «Полымя», на кінастудыі «Беларусьфільм». У 2005—2011 гадах — загадчык аддзела прозы ў часопісе «Маладосць». У 2011—2012 гадах супрацоўнік аддзела прозы і паэзіі газеты «Літаратура і мастацтва».

Друкуецца з 1987 г. У аповесці «Гісторыя хваробы» (1989) сацыяльна-псіхалагічны партрэт сучаснай моладзі, у аповесці-фантасмагорыі «Смуга, альбо XII фантазій на адну тэму» (1994) жыццё сучаснага грамадства, якое страціла маральныя арыенціры, у аповесці «Вёска» (1995) філасофскі роздум над лёсам Беларусі і беларусаў. Аўтар аповесцей «Такое кароткае лета», «Ланцуг» (абедзве 1994), «Нічые» (2001), п'есы «Жаніх па перапісцы» (1993), публіцыстычных артыкулаў і інш. Дзецям і юнакам адрасаваны прыгодніцкія аповесці «Шчарбаты талер» (1999),

«Афганская шкатулка» (2002). Яго творчасці ўласцівы псіхалагічны аналіз, гуманістычны погляд на чалавека, драматызм, элементы фантастыкі, мастацкай ўмоўнасці, эмацыянальнасць, спавядальнасць. Перакладае з беларускай мовы на рускую.

1. Драўляныя крэслы

2. Трухановіч, канечне, не мог ведаць, што гадоў праз 60 брытанскі вучоны Стэнфард адкрые г.зв. «мікрабактэрыю гразі», на падставе якой створыць прафілактычную пры ракавых захворваннях «вакцыну гразі». «Стэрыльнае грамадства забівае сваіх грамадзянаў», — будзе сцвярджаць Стэнфард. Калі яму верыць, разам з брудам чалавек знішчае цэлую армію карысных бактэрыяўпамочнікаў, чым аслабляе арганізм

3. «…Нужно помнить, что враг в лице польской шляхты оставил своих агентов, кои будут играть на умах малосознательных и тем нарушать течение жизни…». З загада начальніка Мазырскага гарнізона В. Федарэнкі. (Філ. ДА Гом. вобл. г. Мазыр. Ф. 307. Воп. 1. Спр. 3. Л. 8)

4. Каб Трухан мог з такою ж лёгкасцю, як у мінулае, сягнуць у будучыню, у год, скажам, 2003, многае б стала яму зразумелым. Напрыклад, тое , што задоўга да асноўнай катастрофы на ЧАЭС адбылося 29 (дваццаць дзевяць клічнікаў!) мініаварый. А так як іхняя вёска знаходзілася ад Чарнобыля практычна праз Прыпяць…

Падрыхтаванае на падставе: Андрэй Федарэнка, Нічые; Беларуская проза XXI стагоддзя. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2009. — 430 с.

ISBN 978-985-02-1071-5

Аповесці "Нічые", "Вёска" і раман "Рэвізія", што складаюць чарговую кнігу лаўрэата Літаратурнай прэміі імя І. Мележа Андрэя Федарэнкі, яшчэ падчас часопісных публікацый атрымалі шырокі чытацкі розгалас, прычым ацэнкі былі неадназначныя, нават палярныя. Чытаюцца творы вельмі лёгка, яны насычаны дэтэктыўна-прыгодніцкімі элементамі, разам з тым аўтар прытрымліваецца строгай дакладнасці гістарычных фактаў.

**Copyright © 2015 by Kamunikat.org - ePub**